УДК 327(476)(075.8)
ББК 66.4(4Беи)я73 С53

Друкуецца па рашэнні Рэдакцыйна-выдавецкага савета Беларускага дзяржаўнага універсітэта
Рэцэнзенты: доктар гістарычных навук, прафесар Космач Г. А.; кандыдат гістарычных навук, дацэнт Ціхаміраў А. В.

Снапкоўскі, У. Е.

Знешняя палітыка Рэспублікі Беларусь: курс лекцый / У. Е. Снапкоўскі. — Мінск: БДУ, 2007. — 183 с.

ISBN 978-985-485-521-9.

У курсе лекцый па прадмеце «Актуальныя праблемы знешняй палітыкі Рэспублікі Беларусь» разглядаюцца пытанні станаўлення і развіцця знешнепалітычнай дзейнасці незалежнай Беларусі ў 1990- 2004 гг. Асвятляюцца праблемы выхаду Рэспублікі Беларусь на міжнародную арэну, агульныя пытанні знешняй палітыкі беларускай дзяржавы, беларуска-расійскія адносіны, дзейнасць Беларусі ў міжнародных арганізацыях.

Прызначаецца для студэнтаў факультэта міжнародных адносін БДУ.

УДК 327(476х075.8)
ББК 66.4(4Беи)я73

ISBN 978-985-485-521-9

# УВОДЗІНЫ

Навучальны дапаможнік складзены на падставе вучэбнай праграмы па курсе «Актуальныя праблемы знешняй палітыкі Рэспублікі Беларусь» для студэнтаў аддзялення міжнародных адносін факультэта міжнародных адносін БДУ.

Курс лекцый складаецца з трох раздзелаў. У першым раздзеле разглядаюцца знешнепалітычныя дыскусіі ў беларускім грамадстве ў 1990-1991 гг., праблемы выхаду Рэспублікі Беларусь на міжнародную арэну ў пачатку 1990-х гг., распрацоўкі канцэпцыі знешняй палітыкі Рэспублікі Беларусь, агульныя пытанні знешняй палітыкі беларускай дзяржавы.

У другім раздзеле асвятляюцца розныя аспекты і праблемы беларуска-расійскіх адносін, у тым ліку беларуска-расійскае супрацоўніцтва ў міжнародных арганізацыях, рэакцыя Захаду і суседніх краін на працэс беларуска-расійскай інтэграцыі, а таксама адносіны Беларусі з іншымі замежнымі дзяржавамі і рэгіёнамі свету. Асобная тэма прысвечана развіццю беларуска-польскіх адносін у 1990-2003 гг.

У трэцім раздзеле аналізуюцца адносіны Рэспублікі Беларусь з міжнароднымі арганізацыямі. Даецца агульная характарыстыка сучаснага стану шматбаковай дыпламатыі Беларусі, разглядаецца яе ўдзел у працы ААН і яе спецыялізаваных устаноў. Асобныя тэмы прысвечаны складаным узаемаадносінам Рэспублікі Беларусь і еўрапейскіх міжнародных арганізацый, у тым ліку Савета Еўропы, а таксама супрацоўніцтву Беларусі з ЮНЕСКА.

Значная частка матэрыялаў, якія ўвайшлі ў курс лекцый, была апублікавана аўтарам у беларускіх і замежных (Польшча і Расія) навуковых выданнях. У дадзеным выданні прапануюцца апрацаваныя для вучэбных мэт, адрэдагаваныя і актуалізаваныя матэрыялы. Некаторыя тэксты лекцый друкуюцца ўпершыню (тэмы 1, 3, 7, 12). Тэксты лекцый спалучаюць сістэматызаванае выкладанне матэрыялу з паглыбленым аналізам некаторых найбольш значных і актуальных праблем знешняй палітыкі Рэспублікі Беларусь.

Курс лекцый прызначаецца для студэнтаў факультэта міжнародных адносін БДУ, якія вывучаюць міжнародныя адносіны і знешнюю палітыку Рэспублікі Беларусь.

## РАЗДЗЕЛ I
## АГУЛЬНЫЯ ПРАБЛЕМЫ ЗНЕШНЯЙ ПАЛІТЫКІ СУВЕРЭННАЙ БЕЛАРУСІ

### Тэма I
### РУХ ДА НЕЗАЛЕЖНАСЦІ І ЗНЕШНЕПАЛІТЫЧНАЯ ДЫСКУСІЯ Ў БЕЛАРУСІ (1990-1991 гг.)

Больш за 70 гадоў — ад адраджэння беларускай дзяржаўнасці ў 1918-1919 гг. і да мяжы 1980-1990-х гг. — у Беларусі не было хоць якога-небудзь шырокага грамадскага абмеркавання праблем міжнародных адносін і знешняй палітыкі беларускай дзяржавы. Гэта тлумачылася шэрагам вядомых прычын, перш за ўсё адсутнасцю самастойнай знешняй палітыкі Беларусі. Таталітарны рэжым, адсутнасць свабоды слова, свабоды друку, жорсткая барацьба з іншадумствам рабілі немагчымым свабоднае абмеркаванне, тым больш крытыку, такога моцнага і ўплывовага інструмента ўлады, як знешняя палітыка і дыпламатыя.

На працягу 20-80-х гг. у палітычнай лексікалогіі і навуковай літаратуры, як агульнасаюзнай, так і рэспубліканскай, не існавала тэрмінаў «знешняя палітыка Беларускай ССР» ці «беларуская знешняя палітыка». У Канстытуцыях БССР 1919, 1927 і 1937 гг. нічога не гаварылася аб мэтах, задачах і прынцыпах, асноўных накірунках міжнароднай дзейнасці рэспублікі. Адзінае, на што адважылася рэспубліканскае кіраўніцтва, — гэта на ўключэнне ў Канстытуцыю БССР 1978 г. палажэння аб тым, што БССР «во внешнеполитической деятельности руководствуется целями, задачами и принципами внешней политики, определенными Конституцией СССР».

Знешнепалітычная інфармацыя абмяжоўвалася афіцыйнымі справаздачамі аб удзеле беларускіх дэлегацый у сесіі Генеральнай Асамблеі, іншых органаў і арганізацый сістэмы ААН, паведамленнямі аб візітах прадстаўнікоў БССР у замежныя краіны, наведваннях рэспублікі замежнымі дэлегацыямі. Па волі цэнтральнага савецкага кіраўніцтва і рэспубліканскай партыйна-дзяржаўнай наменклатуры, якая ўспрымала міжнародныя справы з пазіцый правінцыялізму, БССР — адна з заснавальніц ААН — апынулася на другасных ролях у еўрапейскай і сусветнай палітыцы.

Працэсы перабудовы, дэмакратызацыі, абнаўлення савецкай федэрацыі, новага палітычнага мыслення, што пачаліся ў 1985 г., разам з працэсамі нацыянальнага адраджэння ў Беларусі, паспрыялі абуджэнню інтарэсу розных колаў беларускага грамадства да праблем

міжнародных адносін і знешнепалітычнай дзейнасці рэспублікі. Па меры з'яўлення на палітычнай арэне новых партый і рухаў, гэтыя праблемы сталі прадметам публічных дыскусій і палітычнай барацьбы. Масавы грамадскі рух «Беларускі народны фронт (БНФ)», які ўзнік у канцы 1988 г., выступіў у сваёй праграме з патрабаваннем рэальнага суверэнітэту Беларусі, яе незалежнасці ў міжнародных адносінах, рэальнага выкарыстання знешнепалітычных магчымасцей рэспублікі, у тым ліку ў ААН.

Камуністычная партыя Беларусі на XXXI з'ездзе (лістапад-снежань 1990 г.) засталася на пазіцыях правінцыйнага мыслення ў пытаннях міжнароднай палітыкі. Падчас дыскусій, у шэрагу рэзалюцый, прынятых з'ездам, у тым ліку і паводле справаздачы ЦК КПБ, гэтыя пытанні, па сутнасці, не краналіся. Толькі невялікі абзац у справаздачы ЦК КПБ з'езду быў прысвечаны пазіцыі партыі адносна міжнародных праблем. У ім, у прыватнасці, было сказана, што КПБ будзе выступаць за тое, «каб рэспубліка ў поўнай меры ажыццяўляла свае правы ў галіне міжнародных адносін», актыўна брала ўдзел у дзейнасці ААН і іншых міжнародных арганізацый, развівала непасрэдныя сувязі з замежнымі дзяржавамі. Аднак у далейшай арганізацыйна-палітычнай рабоце кіраўніцтва КПБ — кіруючай партыі ў рэспубліцы — не прадпрымала канкрэтных намаганняў па рэалізацыі гэтай палітычнай устаноўкі, якая адпавядала інтарэсам беларускага народа.

Важнай падзеяй на шляху Беларусі да незалежнасці з'явілася Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце БССР, прынятая Вярхоўным Саветам БССР 27 ліпеня 1990 г. Дэкларацыя абвясціла поўны дзяржаўны суверэнітэт як самастойнасць і паўнату дзяржаўнай улады рэспублікі ў межах яе тэрыторыі, незалежнасць рэспублікі ў знешніх адносінах; заявіла аб тым, што мэтай БССР з'яўляецца ператварэнне сваёй тэрыторыі ў бяз'ядзерную зону, а рэспублікі ў нейтральную дзяржаву, што БССР будзе самастойна ажыццяўляць права на саюзы з іншымі краінамі і на свабодны выхад з гэтых саюзаў; мае права на ўласныя Узброеныя Сілы.

Аднак Дэкларацыя заставалася, па сутнасці, заявай аб намерах і ўрачыстым актам. Напаўненне яе канкрэтным зместам, матэрыялізацыя артыкулаў, якія адносіліся да знешнепалітычных і абаронных пытанняў, ажыццяўлялася марудна і непаслядоўна. Новым рашучым штуршком на шляху стварэння незалежнай беларускай дзяржавы з'явілася няўдалая спроба дзяржаўнага перавароту 19-21 жніўня 1991 г.

Пазачарговая V сесія Вярхоўнага Савета БССР 25 жніўня 1991 г. надала статус канстытуцыйнага закона Дэкларацыі аб дзяржаўным

суверэнітэце БССР і аб'явіла аб эканамічнай і палітычнай самастойнасці рэспублікі. 19 верасня 1991 г. Вярхоўны Савет БССР прыняў рашэнне аб перайменаванні дзяржавы, якая стала называцца Рэспубліка Беларусь (Беларусь), а таксама аб увядзенні новай дзяржаўнай сімволікі — бел-чырвона-белага сцяга і герба «Пагоня», за якімі стаяла шматвяковая гісторыя.

Жнівеньскія падзеі з'явіліся моцным каталізатарам дэзінтэграцыі Савецкага Саюза. У Беларусі, якая абвясціла 25 жніўня 1991 г. сваю эканамічную і палітычную незалежнасць, актывізавалася грамадска-палітычная дыскусія па кардынальных праблемах суверэнітэту і дзяржаўнасці, захавання Саюза ССР, знешняй і абароннай палітыкі, палітыкі саюзаў з іншымі дзяржавамі, іншым аспектам міжнароднай дзейнасці рэспублікі. Разгледзім пазіцыі асноўных палітычных сіл і грамадскіх колаў Беларусі па вышэйназваных пытаннях.

**Адносіны да будучыні Савецкага Саюза і Саюзнага дагавора**. Большасць насельніцтва рэспублікі (82 %) на рэферэндуме 17 сакавіка 1991 г. выказалася за захаванне Саюза, супраць — 16 % (каля 1 млн чал.). Парламенцкая апазіцыя БНФ заклікала не ўдзельнічаць у рэферэндуме ці сказаць «не» Саюзу; яе прадстаўнікі аб'явілі, што вынікі рэферэндуму «амаль поўнасцю сфальсіфікаваны камуністамі, асабліва ў сельскай мясцовасці». Аднак большасць Вярхоўнага Савета БССР, улічваючы вынікі рэферэндуму прыняла 12 чэрвеня 1991 г. рашэнне аб падпісанні Саюзнага дагавора. Напярэдадні яго падпісання, якое было прызначана на 20 жніўня 1991 г. і якое БССР мела намер падпісаць адной з першых саюзных рэспублік, апазіцыя БНФ рэзка раскрытыкавала запланаваны да падпісання дакумент. Было заяўлена, што праект новага Саюзнага дагавора «яшчэ больш імперыялістычны, чым дагавор 1922 г.; што ён мае на мэце знішчыць нават фармальны суверэнітэт рэспублік, плануе ператварыць СССР з саюза дзяржаў у федэратыўную дзяржаву, дзе, як вядома, суверэнітэт мае толькі Федэрацыя, а не яе суб'екты». Апазіцыя заклікала ўсіх свядомых жыхароў Беларусі падтрымаць рух за незалежнасць беларускай дзяржавы і супрацьдзейнічаць падпісанню Саюзнага дагавора — «чарговага палітыканства крамлёўскай наменклатуры».

14 жніўня 1991 г. з заявай выступіў Выканком Цэнтральнай Рады Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады (БСДГ) — адной з найбольш уплывовых палітычных партый. БСДГ, якая прынцыпова была не супраць Саюза суверэнных дзяржаў, адзначала, што ў выпадку падпісання Саюзнага дагавора Беларусь ізноў будзе нераўнапраўнай, падначаленай Цэнтру рэспублікай.

5 дэпутатаў Вярхоўнага Савета БССР ад апазіцыі на чале са старшынёй сойма БНФ З. С. Пазняком у адкрытым лісце да Старшыні Вярхоўнага Савета БССР М. І. Дземянцея ў сувязі з яго намерам падпісаць «новы каланіяльны дагавор для Беларусі» ўказалі на яго асабістую адказнасць за гэты крок перад беларускім народам. У той жа час група дэпутатаў Вярхоўнага Савета БССР у складзе 9 чалавек, у лік якіх уваходзілі некалькі старшынь камісій парламента, выказаліся ў падтрымку новага Саюзнага дагавора. Яны адзначылі, што БССР у выніку працэсаў суверэнізацыі «не толькі не губляе сваёй самастойнасці і незалежнасці, а наадварот .усё больш іх замацоўвае і тым самым набывае большы аўтарытэт і павагу ў Саюзе і свеце».

Пасля путчу ў Беларусі, як і ў іншых саюзных рэспубліках, пашырыліся цэнтрабежныя тэндэнцыі, справакаваныя, між іншым, і некаторымі непрадуманымі дзеяннямі расійскага кіраўніцтва, якое ўзяло на сябе непапулярныя функцыі Цэнтра. Лідэр БНФ З. Пазняк, які ў складзе беларускай дэлегацыі ўдзельнічаў у рабоце пазачарговага V з'езда народных дэпутатаў СССР, на прэс-канферэнцыі ў Мінску сказаў, што пасля жнівеньскіх падзей Расію захліснула хваля імперскіх амбіцый, валюнтарызму і нават сапраўднага фашызму. На яго думку, імперскія паводзіны РСФСР праявіліся і на з'ездзе, паколькі яна выступала супраць прызнання суверэнітэту рэспублік.

З. Пазняк расцаніў пераходны перыяд як апошні клапан, праз які выпускаюць пару з агульнасаюзнага «катла», які распаўзаецца па швах. Задача пераходнага перыяду — аблегчыць канчатковы развал савецкай імперыі і прадухіліць катаклізмы. На руінах Саюза павінны ўзнікнуць суверэнныя дзяржавы. Мэтай для Беларусі ў гэты пераходны перыяд з'яўляецца дасягненне ёю поўнай незалежнасці, лічыў лідэр БНФ.

Аднак афіцыйныя палітычныя прадстаўнікі рэспублікі прытрымліваліся іншага пункту гледжання на праблему «Беларусь і Саюз». Новы Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. С. Шушкевіч у выступленні пасля абрання на гэту пасаду (верасень 1991 г.) сказаў: «Тэндэнцыя да абасаблення ад Саюза мне проста не падабаецца. Я гэтага баюся. Мы за інтэлігентны Саюз. Інакш нам будзе цяжка».

На карысць новага Саюза суверэнных дзяржаў, за адзіную эканамічную прастору, разбурэнне якой прывяло б да зніжэння жыццёвага ўзроўню беларускага народа, выказаўся беларускі міністр замежных спраў П. К. Краўчанка ў сваёй прамове на агульнай дыскусіі 46-й сесіі Генеральнай Асамблеі ААН у кастрычніку 1991 г.

У заяве ўрада Рэспублікі Беларусь ад 18 лістапада 1991 г. было сказана, што ў сусветных цэнах імпарт прадукцыі ў рэспубліку толькі

з Расіі перавышае экспарт на 2,1 млрд інвалютных рублёў і канстатавалася, што адмежаванне ад суседзяў значыла б крах усяго эканамічнага жыцця. Вынікі сацыялагічнага апытання ў парламенце Беларусі паказвалі, што каля 73 % дэпутатаў з ліку апытаных выказваліся за захаванне Саюза ў той ці іншай форме. Зыходзячы з вышэйпрыведзеных аргументаў, беларускае кіраўніцтва пайшло на падпісанне ў лістападзе 1991 г. Дагавора аб эканамічнай супольнасці саюзных рэспублік; выступіла ў падтрымку стварэння Саюза суверэнных дзяржаў у форме канфедэрацыі.

Праблеме «Саюз і незалежная Беларусь» была прысвечана дыскусія на старонках «Народнай газеты» — органа Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, якая адбылася ў верасні-кастрычніку 1991 г. Аглядальнік газеты А. Майсеня ў артыкуле «Амінь Саюзу?» паставіў пад сумненне дасягненне поўнага суверэнітэту Беларусі і выказаўся на карысць прагматычнага падыходу да будучыні Саюза, які павінен быць карысным для грамадзян вольнай і незалежнай Беларусі. Аўтар прыйшоў да высновы, што не трэба спяшацца казаць «амінь» Саюзу.

Галоўным апанентам А. Майсені выступіў народны дэпутат, намеснік кіраўніка апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце А. Трусаў, які прывёў наступныя аргументы супраць Саюза, на карысць незалежнасці Беларусі: незалежнасць — самая высокая каштоўнасць для кожнага народа; у свеце ніколі не было «няпоўнага суверэнітэту». Суверэнітэт ці ёсць, ці яго няма, яго нельга замяняць ідэяй «адноўленага Саюза»; адзіную эканамічную прастору неабходна мець з тымі суседзямі, якія не маюць імперскіх амбіцый. Таму А. Трусаў прыйшоў да высновы, што незалежнасці не трэба баяцца.

Пазіцыя А. Трусава была падтрымана доктарам гістарычных навук А. Грыцкевічам, кандыдатам гістарычных навук А. Краўцэвічам, кінадзеячам У. Коласам. У прыватнасці, У. Колас адзначыў, што былы СССР з'яўляўся перыферыяй Еўропы, якая пачынаецца за Вязьмай і дасягае кульмінацыі каля Масквы; ён канстатаваў, што тыя, хто падтрымае Саюз, прапануюць Беларусі стаць перыферыяй перыферыі. А. Краўцэвіч лічыў, што бяспеку Беларусі трэба забяспечваць шляхам закрыцця мяжы ў сувязі з магчымасцю самых нечаканых працэсаў у Расіі.

У заканчэнне дыскусіі А. Трусаву і іншым сваім апанентам адказаў А. Майсеня. Ён паставіў пытанне пра тое, як лепш забяспечыць рэальную незалежнасць і суверэнітэт і сам адказаў на яго: не незалежнасці патрэбна баяцца, а авантурызму. У гэтым выпадку аўтар меў на ўвазе кіраўніцтва БНФ, якое ён абвінаваціў у русафобіі і ў імкненні ўстанавіць манаполію над самой ідэяй незалежнасці. «Не

нацыянальная незалежнасць робіць людзей вольнымі, а свабода і дэмакратыя робяць іх незалежнымі як нацыю і грамадзян» — казаў А. Майсеня. Ён таксама прызнаў, што ёсць розныя шляхі і сродкі для дасягнення нацыянальнага суверэнітэту.

**Ідэя Балтыйска-Чарнаморскага саюза (БЧС).** У якасці альтэрнатывы існаванню СССР БНФ прапанавала план стварэння Балтыйска-Чарнаморскага саюза. Канцэпцыя супрацоўніцтва краін Балтыйска-Чарнаморскага рэгіёна была распрацавана на міжпарламенцкай сустрэчы дэпутатаў апазіцыі ў Вярхоўных Саветах Беларусі (БНФ), Украіны (Народная Рада) і дэпутатаў большасці Вярхоўных Саветаў Латвіі і Літвы, якая адбылася ў лістападзе 1990 г. у Мінску. Як зазначалі прадстаўнікі БНФ, ідэя БЧС была заснавана на гістарычным падмурку (мелася на ўвазе існаванне Вялікага княства Літоўскага) і была выказана яшчэ ў 1916 г. адным з лідэраў беларускага нацыянальнага руху А. Луцкевічам.

У прынятай па выніках сустрэчы сумеснай заяве было сказана: «Адзначаючы бесперспектыўнасць далейшага існавання СССР і жыццёвую неабходнасць палітычнай стабільнасці ў Балтыйска-Чарнаморскім рэгіёне пры распадзе імперскіх структур, дэлегацыі заяўляюць аб неабходнасці садружнасці дзяржаў гэтага рэгіёна на аснове суверэнітэту кожнай з іх».

На сустрэчы былі разгледжаны перспектывы палітычнага, эканамічнага і гуманітарнага супрацоўніцтва паміж балтыйскімі краінамі, Беларуссю і Украінай, а таксама магчымасці доўгатэрміновага ўзаемадзеяння і каардынацыі сумесных намаганняў для дасягнення незалежнасці гэтых краін. У прыватнасці, былі абмеркаваны магчымасці міждзяржаўных дамоўленасцей аб умовах вываду савецкіх войскаў з Балтыйска-Чарнаморскага рэгіёна і стварэння ўласных узброеных сіл.

Ідэя БЧС, аднак, не сустрэла шырокай падтрымкі ў парламентарыяў і грамадскасці Беларусі. Народны дэпутат, другі сакратар ЦК КПБ А. С. Камай назваў сустрэчу ў Мінску «закулісным мерапрыемствам», «змовай вузкай групы дэпутатаў», накіраваным на развал Саюза, а саму ідэю БЧС — нерэальнай.

Прафесар Мінскага педагагічнага інстытута С. Польскі прывёў аргументы «за» і «супраць» БЧС. Яго карыснасць ён бачыў у тым, што такі саюз даў бы магчымасць абараніць Беларусь ад спроб Цэнтра абмежаваць яе інтарэсы. Свае сумненні С. Польскі канцэнтраваў у наступных пытаннях: ці дастаткова радыкальным будзе «Саюз пяці» (Украіны, Беларусі і прыбалтыйскіх рэспублік)? Як можна ажыццявіць палітычную ідэю БЧС, калі яго будучыя члены пачынаюць ужо зараз накіроўваць адзін аднаму тэрытарыяльна-нацыянальныя патрабаван-

ні? Наколькі рэальна ініцыятары БЧС разумеюць становішча спраў у рэгіёне, дзе жыве 70 млн чалавек? Зыходзячы з прыведзеных аргументаў, аўтар прыйшоў да высновы, што гэта можа быць хутчэй эканамічны альянс, чым палітычнае аб'яднанне.

Даволі скептычна да ідэі Балтыйска-Чарнаморскага саюза аднесліся прадстаўнікі дзяржаў Прыбалтыкі, у прыватнасці Літвы. Былы Старшыня Савета Міністраў Літвы К. Прунскене паставіла пад сумненне рэальнасць стварэння БЧС як супрацьвагі новаму Саюзу, заўважыўшы, што Літва, Латвія і Эстонія больш зацікаўлены ў супрацоўніцтве са скандынаўскімі краінамі, Польшчай і Германіяй, чым з Украінай і Беларуссю. Адзін з заснавальнікаў «Саюдзіса», старшыня камісіі Вярхоўнага Савета Літвы па паўднёва-ўсходніх тэрыторыях Р. Озалас сказаў: «Я не думаю, што такі саюз можа адпавядаць эканамічнаму і палітычнаму развіццю Еўропы. Гэта ідэя не з'яўляецца рацыянальнай».

У больш шырокім сэнсе за інтэграцыю краін Усходняй і Цэнтральнай Еўропы выказаўся Старшыня Вярхоўнага Савета С. С. Шушкевіч у прамове ў літоўскім парламенце 24 кастрычніка 1991 г. Ён зазначыў добрыя перспектывы інтэграцыі Цэнтральнай і Заходняй Еўропы з заходняй перыферыяй былога Саюза, што дало б магчымасць хутчэй ажыццяўляць тут палітычныя і эканамічныя пераўтварэнні.

Працэсы распаду СССР суправаджаліся ўзмацненнем палярызацыі палітычных сіл у рэспубліцы па праблеме саюзаў Беларусі. Апазіцыя БНФ усё больш настойліва выступала за незалежную міжнародную палітыку Беларусі, патрабавала пазбягаць любых саюзаў і супольнасцей, якія вядуць да адраджэння СССР, стварэння унітарнай дзяржавы, эканамічнай залежнасці, пазбаўляцца вынікаў бальшавіцкага імперыялізму і савецкага каланіялізму.

С. Шушкевіч і ўрад В. Кебіча заставаліся на пазіцыях захавання Саюза. А. Майсеня папярэджваў, што, адарваўшыся ад былой палітычнай прасторы, Беларусь можа яшчэ доўгі час, як вечны жыд, блукаць і не знаходзіць сабе месца ў сусветнай палітыцы. У сувязі з непамерным энтузіязмам наконт аб'яднання з усходнееўрапейскімі суседзямі, ён папярэджваў, што Беларусь можа апынуцца ў ролі буфера, ці «санітарнага кардона», якім жадаюць адмежавацца ад Расіі.

**Адносіны Беларусі з замежнымі краінамі.** Урад і апазіцыя сыходзіліся ў думцы, што за мяжой вельмі асцярожна адносіліся да абвяшчэння незалежнасці Беларусі. Большасць дзяржаў занялі пазіцыю чакання. Толькі сейм Польскай Рэспублікі 30-31 жніўня 1991 г. афіцыйна прызнаў незалежнасць Беларусі. Дэ-факта незалежнасць

Беларусі прызнала Чэшская і Славацкая Федэратыўная Рэспубліка, калі заявіла ў кастрычніку аб намеры ўстанавіць дыпламатычныя адносіны з Мінскам.

Як заявіў В. Кебіч, урад і парламент павінны зрабіць усё для таго, каб паскорыць прызнанне Беларусі тымі краінамі, якія яшчэ бачаць у ёй частку Саюза. У сувязі з гэтым характэрна пазіцыя ўрада Паўднёвай Карэі, які падчас візіту беларускай урадавай дэлегацыі ў Сеул (пачатак верасня 1991 г.) заявіў, што не збіраецца «прызнаваць незалежнасць гэтай саюзнай рэспубліцы, пакуль яе афіцыйна не прызнае Масква».

За мяжой стрымана аднесліся да просьбы беларускага МЗС прыняць дэпутацкія дэлегацыі з Беларусі. Толькі 10 краін адказалі на яе; Францыя, Чэшская і Славацкая Федэратыўная Рэспубліка, Швейцарыя і Югаславія ўвогуле не адказалі на запытанні з Мінска. Адказы таксама прыйшлі самыя розныя. Генеральныя картэсы Іспаніі адказалі адмовай і паведамілі, што не бачаць неабходнасці ва ўсталяванні міжпарламенцкіх сувязей з БССР, паколькі яны ўжо супрацоўнічаюць з Вярхоўным Саветам СССР. У той жа час парламенты Вялікабрытаніі, ЗША, Польшчы, Германіі, Фінляндыі, Японіі запрасілі дэлегацыі Вярхоўнага Савета БССР наведаць іх краіны да канца 1991 г.

Трэба зазначыць, што ўсё гэта было да жнівеньскіх падзей. Неадназначную рэакцыю ў рэспубліцы выклікалі першыя замежныя візіты главы ўрада В. Кебіча ў Рэспубліку Карэя, Японію, Рэспубліку Кітай (Тайвань), якія адбыліся ў верасні 1991 г. Парламентарыі і аглядальнікі крытыкавалі В. Кебіча, што ён пачаў знешнепалітычную дзейнасць з далёкіх азіяцкіх краін і трацiць на іх валюту, замест таго, каб тэрмінова заключыць дагаворы з Літвой, Латвіяй, Эстоніяй, Украінай, Расіяй і Польшчай. У сувязі з прапановай Сеула аб пастаўках калійных угнаенняў і хімічнай ніткі (экалагічна небяспечная прадукцыя) журналісты адзначалі, што гэта можа ператварыць Беларусь у сыравінны прыдатак Паўднёвай Карэі.

Старшыня ўрада адказаў сваім апанентам, што ўрад праяўляе асобную цікавасць да вопыту дзяржаў, якія не мелі буйных мінеральна-сыравінных рэсурсаў і змаглі ў кароткі час ператварыцца са слабаразвітых краін у індустрыяльныя дзяржавы. Таксама ён адзначыў, што Беларусь з'яўляецца для Паўднёвай Карэі добрым плацдармам для атакі на еўрапейскі рынак. Гаворачы аб знешнеэканамічных прыярытэтах рэспублікі, В. Кебіч назваў найбольш зацікаўленым партнёрам Германію, за якой ідуць Аўстрыя, Італія, Іспанія, Польшча і іншыя краіны Усходняй Еўропы.

Прадметам палемікі стаў і першы замежны візіт Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. Шушкевіча ў Германію, які адбыўся ў верасні 1991 г. На думку лідэра БНФ З. Пазняка, візіт кіраўніка беларускай дзяржавы ў Германію па запрашэнні прыватнай фірмы і перагаворы з бізнесменамі не першага рангу адбыліся з парушэннем элементарных дыпламатычных правіл для асоб такога ўзроўню і выклікалі іранічныя ўсмешкі ў замежным друку.

З поглядам З. Пазняка не пагадзіўся прадстаўнік ФРГ К. Мецгер, які суправаджаў С. Шушкевіча падчас візіту; ён даслаў ліст, які быў надрукаваны ў «Народнай газеце». Абвінаваціўшы З. Пазняка ў наўмысным скажэнні фактаў, ён звярнуў увагу на тое, што візіт у Германію меў вельмі важнае значэнне для развіцця адносін паміж Рэспублікай Беларусь і Германіяй; а яго аднабаковая трактоўка можа нанесці цяжкі ўрон іх далейшаму пашырэнню і паглыбленню. К. Мецгер адказаў, што станоўчы рэзананс і сімпатыі нямецкай грамадскасці, адносна візіту С. Шушкевіча, можна параўнаць толькі з рэакцыяй, якую выклікала наведванне ФРГ М. Гарбачовым у чэрвені 1989 г. Галоўнае значэнне візіту беларускага кіраўніка нямецкі прадстаўнік бачыў у тым, што «новая незалежная савецкая рэспубліка зрабіла свае першыя самастойныя крокі на такім узроўні, аб якім прэзідэнты іншых рэспублік могуць толькі марыць».

З. Пазняк адказаў на ліст К. Мецгера з'едлівай рэплікай. Ён адзначыў, што беларускі народ не парадуюць планы заходнегерманскай фірмы «Хенкель» арганізаваць у рэспубліцы буйнамаштабную экалагічна небяспечную вытворчасць мыйных сродкаў і касметычных тавараў. Указаўшы на сустрэчы і перагаворы Л. Краўчука з Дж. Бушам, Б. Малруні і Ф. Мітэранам, а Н. Назарбаева з Дж. Мейджэрам і М. Тэтчэр, З. Пазняк падкрэсліў, што нельга дапусціць, каб у гэтым сэнсе візіт кіраўніка краіны ў адну з федэральных зямель ФРГ — Паўночны Рэйн-Вестфалію, расцэньвалі як найвышэйшы ўзровень, «аб якім прэзідэнты іншых краін могуць толькі марыць».

Адносна пытання аб прыярытэтах супрацоўніцтва Беларусі з замежнымі краінамі большасць парламентарыяў і аглядальнікаў лічыла, што перш за ўсё неабходна развіваць адносіны з суседнімі краінамі — Германіяй, Польшчай, прыбалтыйскімі рэспублікамі. У прыватнасці, такога пункту гледжання прытрымліваўся старшыня камісіі па міжнародных справах і знешнеэканамічных сувязях Вярхоўнага Савета П. Садоўскі. Што тычылася больш далёкіх краін, то, на яго думку, Беларусі патрэбна ўсталяваць сувязі з Ізраілем, таму што ў гэтай краіне жывуць і працягваюць эмігрыраваць туды шмат выхадцаў з Беларусі. У сваёй прамове ў парламенце 2 кастрычніка

1991 г. ён сказаў, што Беларусь павінна заняць рэалістычную пазіцыю ў сувязі з прапановай шэрага краін адмяніць рэзалюцыю Генеральнай Асамблеі ААН, якая разглядала сіянізм як адну з форм расізму. Пазней гэта рэзалюцыя была адменена. П. Садоўскі таксама заклікаў урад з асцярожнасцю падыходзіць да развіцця адносін з Кубай, лічачы, што там магчыма хуткае падзенне рэжыму Ф. Кастра.

**Праблема меж Беларусі.** Дэзінтэграцыя Саюза і суверэнізацыя яго суб'ектаў узнялі такое складанае і балючае пытанне, як пытанне аб межах паміж рэспублікамі. Яно актыўна абмяркоўвалася і ў беларускім друку. Айчынныя і замежныя беларусазнаўцы падкрэслівалі, што Беларусь з'яўляецца адной з найбольш пакрыўджаных саюзных рэспублік адносна прыналежнасці ёй этнічных беларускіх зямель, адзначаючы, што палова з іх знаходзіцца па-за межамі Рэспублікі Беларусь. На падставе вывучэння працэсаў рассялення беларусаў і гістарычных карт, у прыватнасці карт акадэміка Я. Ф. Карскага ад 1917 г., даследчыкі канстатавалі, што беларускія землі ўваходзяць у склад Расіі — гэта значныя часткі Смаленскай, Бранскай і Пскоўскай абласцей; Украіны — Чарнігаўская вобласць; Літвы — Вільнюс (Вільна) і Вільнюскі край; Латвіі — г. Даўгаўпілс (Дзвінск) і Дзвінскі край; Польшчы — Беластоцкае ваяводства.

Разам з тым некаторыя колы суседніх з Беларуссю дзяржаў абгрунтоўвалі гістарычныя правы на беларускія землі, якія раней уваходзілі ў іх склад. Расійскія шавіністы і манархісты марылі аб адраджэнні Паўночна-заходняга краю ў складзе Расійскай імперыі, распаўсюджвалі карты, на якіх Беларусь была афарбавана колерам Расіі. Некаторыя ўкраінскія дзеячы прэтэндавалі на частку Брэсцкай вобласці (Берасцейскае Палессе), літоўскія — на частку Гродзенскай вобласці, польскія — на «ўсходнія крэсы» (Заходнюю Беларусь, уз'яднаную з БССР у выніку падзей 17 верасня 1939 г.).

На думку доктара гістарычных навук А. Залеснага, актыўным прапагандыстам «этнаграфічнай» (вялікай) Беларусі з'яўляецца Беларускі народны фронт, які вылучаў тэрытарыяльныя патрабаванні да Расіі, але не выстаўляў іх да Літвы і Украіны, таму што не жадаў псаваць адносіны з «Саюдзісам» і «Рухам». Спасылаючыся на працы Я. Ф. Карскага, А. Залескі нагадваў, што той адносіў да Украіны Брэст, Бярозу, Пінск, Тураў і іншыя паўднёвыя беларускія землі.

Больш вострая дыскусія разгарнулася адносна пытання беларуска-літоўскай мяжы. У значнай меры яна адбылася з ініцыятывы Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР, у заяве якога ад 29 сакавіка 1990 г. было сказана, што ў выпадку выхаду Літвы са складу СССР БССР будзе патрабаваць вярнуць ёй беларускія землі — г. Вільна і

Віленскую вобласць, Свянцянскі і часткі тэрыторыі яшчэ пяці раёнаў Літвы.

Гэту тэрыторыю ў 1939-1940 гг. Літве аддаў І. Сталін як дар за тое, што яна ўвайшла ў СССР. Заява Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР, зробленая па падказцы з Крамля, не сустрэла падтрымкі грамадска-палітычных колаў Беларусі. Тэрытарыяльныя патрабаванні да Літвы абверг БНФ. Памылковасць гэтага рашэння прызнаў старшыня камісіі па міжнацыянальных адносінах і нацыянальнай палітыцы Вярхоўнага Савета М. А. Слямнёў. Аднак заяву ад 29 сакавіка 1990 г. ускосна падтрымаў прэзідэнт СССР М. С. Гарбачоў, які на прэс-канферэнцыі ў Вашынгтоне 3 чэрвеня 1990 г. заявіў, што тэрыторыя Літвы ўключае 5 рэгіёнаў, якія раней належалі Беларусі. Заяву Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР падтрымаў і доктар юрыдычных навук, прафесар Беларускага дзяржаўнага універсітэта Я. Юхо, які адзначыў, што гэта «не толькі дакумент органа ўлады, а і думка, якую падтрымлівае большасць беларускага народа».

Адмоўную рэакцыю ў Беларусі выклікала заява кіраўніцтва Расіі, зробленая ў канцы жніўня 1991 г., аб тым, што яно будзе мець тэрытарыяльныя патрабаванні да тых рэспублік, якія не падпішуць Саюзны дагавор. Сур'ёзную занепакоенасць гэтай заявай выказаў савет Аб'яднанай дэмакратычнай партыі Беларусі (АДПБ), які адзначыў, што перагаворы аб пераглядзе граніц не прывядуць да іх змены, а толькі пашкодзяць адносінам паміж мясцовым і рускім насельніцтвам у памежных з Расіяй дзяржавах. Гэта дае падставы абвінавачваць урад РСФСР у шавіністкіх настроях і імперскіх амбіцыях.

«Народная газета» апублікавала матэрыялы, у якіх змяшчаліся контраргументы да Расіі па тэрытарыяльным пытанні. Адзін з лідэраў апазіцыі БНФ А. Трусаў адзначыў, што Беларусь у выпадку выхаду з СССР можа прапанаваць РСФСР правесці рэферэндум пры назіранні ААН на тэрыторыях Смаленскай, Пскоўскай і Бранскай аб далучэнні іх да Беларусі, што можа значна паменшыць тэрыторыю Расіі. Гісторык А. Цітоў, адказваючы на пытанне «Ці мае Расія падставы для тэрытарыяльных патрабаванняў да Беларусі?», налічыў за апошнія 70 гадоў 9 падзелаў Беларусі, якія ажыццяўляліся па ўказцы Крамля (1918, 1919, 1920 — два, 1921, 1939, 1940, 1944-1945 гг.). Тэрытарыяльнае пытанне, якое ўзняў расійскі прэзідэнт Б. М. Ельцын, ён назваў бумерангам.

У рэдакцыйным каментарыі «Народнай газеты» адзначалася, што сам факт узнікнення «тэрытарыяльнага пытання» і яго падтрымкі некаторымі афіцыйнымі асобамі можа вызваць толькі жаласць. Выказвалася надзея, што Дагавор паміж БССР і РСФСР ад 18 снежня

1990 г., які зафіксаваў тэрытарыяльную непадзельнасць рэспублік, ніколі не будзе парушаны.

Прынцыповае значэнне адносна пытання аб межах мела заява старшыні ўрада Беларусі В. Кебіча, апублікаваная 5 верасня 1991 г. У ёй гаварылася, што «мы не пойдзем ні на якія крокі па пераглядзе існуючых меж. У нас няма аніякіх тэрытарыяльных патрабаванняў да суседзяў». С. Шушкевіч на пазачарговым V з'ездзе народных дэпутатаў СССР заявіў ад імя Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР, што Беларусь выступае за «нулявы варыянт», які прадугледжвае захаванне існуючых меж. Пасля абрання на пасаду старшыні парламента ён адзначаў, што тэрытарыяльнае пытанне можа толькі пагаршаць адносіны з суседзямі.

У кастрычніку 1991 г. Беларусь падпісала важныя міждзяржаўныя дакументы — Дэкларацыю аб добрасуседстве, узаемадапамозе і супрацоўніцтве з Польшчай і Дэкларацыю аб прынцыпах добрасуседскіх адносін з Літвой, у якіх бакі заявілі, што непарушнасць меж з'яўляецца важным фактарам стабільнасці ў Еўропе. У дэкларацыі з Польшчай Беларусь прызнала непарушнасць меж, усталяваных 16 жніўня 1945 г., зняўшы пры гэтым пытанні, якія ўзніклі падчас візіту польскага міністра замежных спраў К. Скубішэўскага ў Мінск у кастрычніку 1990 г. У беларуска-літоўскай Дэкларацыі бакі дамовіліся разгледзець у найбліжэйшы час пытанні дэлімітацыі беларуска-літоўскай мяжы і яе наступнай дэмаркацыі.

Беларускія навукоўцы падчас абмеркавання на старонках друку праблем меж Беларусі лічылі неабходным давесці да шырокіх колаў насельніцтва аб'ектыўную інфармацыю аб гістарычных умовах фарміравання меж беларускага народа, падкрэсліваючы, што гэта важна для захавання яго гістарычнай памяці і нацыянальнага самавызначэння. Рэакцыяй на некаторыя непрадуманыя выказванні па пагранічных пытаннях сталі артыкулы аглядальніка «Народнай газеты» С. Крапівіна. Ён прапанаваў выдаць спецыяльны ўказ главы рэспублікі, згодна з якім кожны, хто асмеліцца выказвацца аб беларускіх землях у складзе суседніх дзяржаў, тэрмінова павінен быць абвешчаны ворагам беларускай дзяржавы.

**Ваеннае пытанне**. З ліку ўплывовых палітычных сіл першым па праблемах ваеннага будаўніцтва суверэннай Беларусі выказаўся ў сваёй праграме БНФ (1988). У ёй адзначалася, што БССР павінна захаваць права на ўласныя ўзброеныя фарміраванні, якія існавалі ў 1920-1930-я гг., а яе грамадзяне павінны мець права служыць на тэрыторыі сваёй рэспублікі; у перспектыве меркавалася адмовіцца ад абавязковай воінскай службы і замяніць яе прафесійным войскам.

Некаторыя з «ваенных» тэзісаў праграмы БНФ увайшлі ў Дэкларацыю аб дзяржаўным суверэнітэце БССР.

Пасля жнівеньскіх падзей абмеркаванне праблем арміі і ваеннага будаўніцтва ў Беларусі было пераарыентавана ў практычны бок. Генерал-маёр А. Уладзіміраў прапанаваў канцэпцыю ваеннай рэформы, якая зыходзіла з неабходнасці стварэння ўзброеных сіл былых саюзных рэспублік. Асноўнымі задачамі Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь ён лічыў: стрымліванне войнаў і ўзброеных канфліктаў, забеспячэнне тэрытарыяльнай цэласнасці і суверэнітэту рэспублікі, абарона яе насельніцтва і ліквідацыя наступстваў экалагічных, прамысловых катастроф і стыхійных бедстваў, выкананне мерапрыемстваў індывідуальнай і калектыўнай бяспекі, ахова меж, кантроль за дзейнасцю войскаў садружнасці былых саюзных рэспублік на тэрыторыі Беларусі, удасканаленне інфраструктуры тэатра ваенных дзеянняў.

А. Уладзіміраў лічыў, што Узброеныя Сілы Рэспублікі Беларусь павінны складацца з трох частак: беларускага войска (да 50 тыс. чалавек), рэспубліканскай гвардыі (2-3 брыгады) і пагранічнай аховы. Ён прапанаваў правесці ваенную рэформу ў тры этапы. На першым этапе (1991-1992) трэба было стварыць Міністэрства абароны і ўсе неабходныя ваенна-палітычныя структуры ў органах улады, сфарміраваць беларускае войска на базе Беларускай ваеннай акругі (БВА), заключыць дагаворы з суседнімі дзяржавамі па пытаннях нацыянальнай бяспекі. На другім этапе (1993-1995) прадугледжвалася закончыць пераход на новыя ўмовы камплектавання войска, перадыслакацыю і скарачэнне ўзброеных сіл СССР на тэрыторыі Беларусі, вызваленне яе ад ядзернай зброі; наладзіць узаемадзеянне паміж войскамі былых саюзных рэспублік. На трэцім этапе (1996-2000) планавалася завяршыць ваенную рэформу, ператварыўшы Рэспубліку Беларусь у бяз'ядзерную зону і нейтральную дзяржаву.

Камандуючы войскамі БВА генерал-палкоўнік А. Кастэнка прапанаваў іншую канцэпцыю ваеннай рэформы. Звярнуўшы ўвагу на тое, што стварэнне ўласнай арміі будзе цяжкай справай для Беларусі, ён выступіў за забеспячэнне бяспекі ў пераходны перыяд адзінымі ўзброенымі сіламі саюзных рэспублік, супраць распаўсюджвання ядзернай зброі. Яго варыянт арганізацыі новай сістэмы аб'яднаных узброеных сіл заключаўся ў тым, каб структуру адміністрацыйна-ваеннага падзелу наблізіць да формулы «адна рэспубліка — адна акруга» (беларускі варыянт).

А. Кастэнка таксама прапанаваў праводзіць ваенную рэформу ў тры этапы, але з іншым, чым у А. Уладзімірава, зместам. На першым этапе неабходна стварыць нацыянальную гвардыю, якая выконвала б

спецыфічныя задачы праваахоўнага, мытнага, народнагаспадарчага і іншага характару. Камплектаванне гвардзейскіх частак неабходна ажыццяўляць на кантрактнай аснове з ліку грамадзян Беларусі. На другім этапе павінна ажыццяўляцца ўдасканаленне нацыянальных ваенных структур і ператварэнне саюзных узброеных сіл у беларускае войска. Трэці этап павінен прывесці да стварэння нацыянальнай арміі пры адначасовым існаванні часткі агульнасаюзных узброеных сіл, неабходных для забеспячэння калектыўнай бяспекі.

Пазіцыю БНФ па ваенным пытанні выклаў З. Пазняк. Ён адзначыў, што Беларусь вельмі спазнілася са стварэннем уласнага войска і ўвогуле з вырашэннем ваеннага пытання, якое з'яўляецца першасным. «Суверэнітэт без войска — гэта утопія. Беларускі народ не можа цярпець замежныя войскі на сваёй тэрыторыі. Войска павінна быць сваё», — пісаў лідэр БНФ у кастрычніку 1991 г. Узброеныя сілы Рэспублікі Беларусь ён прапаноўваў стварыць на базе БВА з іх наступным скарачэннем на 1/3 (да 50 тыс. і нават менш). Войскі, якія размешчаны на тэрыторыі рэспублікі і не ўваходзяць у БВА, павінны быць выведзены з Беларусі. Падкрэсліўшы, што Беларусі не патрэбна ядзерная зброя, З. Пазняк адзначыў рызыкоўнасць перадачы яе каму-небудзь (маючы на ўвазе перш за ўсё Расію). Ён прапанаваў знішчыць усю атамную зброю ў Беларусі ў ходзе агульных міжнародных працэсаў раззбраення, прычым менавіта Беларусь павінна выступіць з ініцыятывай такой акцыі.

С. Шушкевіч падыходзіў да вырашэння ваеннага пытання ў кантэксце канстытуцыйных патрабаванняў аб ператварэнні Беларусі ў бяз'ядзерную зону і нейтральную краіну. На яго думку, Рэспубліка Беларусь мае права толькі часова заставацца ў блокавай сістэме і ўтрымліваць ядзерную зброю. Канчатковай мэтай Беларусі з'яўляецца інтэграцыя ў бяз'ядзерную Еўропу, нейтралітэт, удзел у сістэме калектыўнай бяспекі ў межах ААН.

VI пазачарговая сесія Вярхоўнага Савета, разгледзеўшы ў верасні 1991 г. пытанне аб мерах, звязаных з забеспячэннем бяспекі і абароназдольнасці рэспублікі, прыняла рашэнне аб неабходнасці стварэння Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь. Таксама было прынята рашэнне, згодна з якім беларускія грамадзяне маглі служыць за межамі Беларусі толькі па ўласным жаданні і толькі ва ўзброеных сілах СССР.

Прадметам абмеркавання розных палітычных сіл і колаў беларускай грамадскасці з'яўляліся і іншыя аспекты міжнародных адносін і знешняй палітыкі Беларусі: роля беларускай дыпламатыі ў ліквідаванні наступстваў Чарнобыля, праблемы нацыянальных меншасцей у Беларусі, адносіны да беларускай дыяспары і беларускай эміграцыі,

роля і месца МЗС у ажыццяўленні беларускай знешняй палітыкі. Падчас знешнепалітычнай дыскусіі некаторымі выданнямі і грамадскімі коламі часам абвяшчаліся неардынарныя прапановы, якія ніякім чынам не падыходзілі для Беларусі: выхад Беларусі з ААН, паколькі чарнобыльская рэспубліка не павінна траціць валюту на забеспячэнне гэтай арганізацыі; выхад Беларусі з ААН і яе ўступленне ў склад Расійскай Федэрацыі; спыненне дзяржаўнага забеспячэння Беларускага таварыства дружбы і культурных сувязей з замежнымі краінамі, якое нібыта займаецца непатрэбнай працай; адмова ад усталявання сувязей з беларускай эміграцыяй і г. д. Гэтыя ідэі з'яўляліся праявай правінцыялізму і дагматызму, нацыянальнага нігілізму сярод пэўных грамадскіх колаў.

## Тэма 2
## РАСПРАЦОЎКА КАНЦЭПЦЫІ ЗНЕШНЯЙ ПАЛІТЫКІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце БССР — прававая аснова знешняй палітыкі суверэннай Беларусі.** З набыццём Беларуссю дзяржаўнага суверэнітэту і незалежнасці, сапраўдным выхадам Рэспублікі Беларусь на міжнародную арэну ў якасці незалежнай дзяржавы ўзнікла патрэбнасць у распрацоўцы навукова абгрунтаванай і палітычна ўзважанай канцэпцыі знешняй палітыкі беларускай дзяржавы. Але гэтая патрэбнасць не была падмацавана к моманту абвяшчэння незалежнасці ні належным вопытам самастойнай знешнепалітычнай актыўнасці БССР, ні спелай навуковай думкай беларускіх вучоных у галіне даследаванняў міжнародных адносін, хаця пэўныя традыцыі як міжнародна-палітычнай дзейнасці, так і знешнепалітычнай думкі ў рэспубліцы склаліся ў савецкія часы.

У міжнародных рэаліях і палітычным лексіконе другой паловы 1920-1980-х гг. не існавала паняццяў «знешняя палітыка Беларусі» ці «беларуская знешняя палітыка». Пачаткі, набыткі і вопыт беларускай знешняй палітыкі і дыпламатыі складваліся ў першыя гады існавання БНР і БССР (1918 — першая палова 1920-х гг.). Але яны былі хутка загублены з уваходжаннем БССР у склад СССР (1922) і расфарміраваннем урада БНР паводле Берлінскай канферэнцыі (1925). Актыўнасць БССР на міжнароднай арэне ў 40-80-я гг. вызначаў афіцыйны тэрмін «знешнепалітычная дзейнасць» рэспублікі, які ўвайшоў у Канстытуцыю БССР 1978 г. Паняцці «знешнепалітычная дзейнасць» і «знешняя палітыка» адрозніваліся паміж сабой у такой жа самой ступені, як «суверэнітэт БССР» і «суверэнітэт СССР». Для «суверэннай

БССР» у складзе савецкай федэрацыі было наканавана праводзіць «знешнепалітычную дзейнасць», якая павінна была адпавядаць мэтам, задачам і прынцыпам савецкай знешняй палітыкі, вызначаным Канстытуцыяй СССР.

Распрацоўка канцэптуальных асноў знешняй палітыкі суверэннай беларускай дзяржавы пачалася ў канцы 1980-х гг. Гэтая інтэлектуальная праца з'яўлялася важнай і неад'емнай часткай шырокага працэсу так званай «суверэнізацыя рэспублікі ў часы гарбачоўскай перабудовы, якi суправаджаўся пашырэннем правоў саюзных рэспублік у галіне ўнутранай і знешняй палітыкі.

Першай грамадска-палітычнай сілай, якая ўключыла пытанні пашырэння знешнепалітычных паўнамоцтваў рэспублікі ў свае праграмныя дакументы, быў Беларускі народны фронт. У 1988-1989 гг. БНФ выступіў з патрабаваннямі рэальнага суверэнітэту для БССР, яе незалежнасці ў міжнародных зносінах, рэальнага і паўнавартаснага выкарыстання знешнепалітычных паўнамоцтваў рэспублікі на міжнароднай арэне, перш за ўсё ў ААН. Сярод праграмных установак БНФ былі палажэнні аб ператварэнні Беларусі ў бяз'ядзерную зону і нейтральную дзяржаву, аб аднаўленні беларускай тэрытарыяльнай арміі. Гэтыя і іншыя тэзісы ўвайшлі пазней у Дэкларацыю аб дзяржаўным суверэнітэце БССР.

Гэты дакумент, прыняты Вярхоўным Саветам БССР 27 ліпеня 1990 г., паклаў пачатак аднаўленню беларускай дзяржаўнасці і рэальнага суверэнітэту, стаў краевугольным каменем дзяржаўнага будаўніцтва незалежнай Рэспублікі Беларусь. Ён замацаваў неад'емнае права беларускай нацыі на самавызначэнне і абвясціў поўны дзяржаўны суверэнітэт Беларускай ССР, важным элементам якога зафіксавана «незалежнасць рэспублікі ў знешніх адносінах».

Дэкларацыя змяшчала шэраг палажэнняў, якія датычыліся міжнароднага становішча Беларусі і яе знешнепалітычнай дзейнасці. Упершыню на такім высокім узроўні было заяўлена аб тым, што рэспубліка з'яўляецца «паўнапраўным і незалежным членам сусветнага супольніцтва» (прэамбула). Тэрыторыя рэспублікі абвяшчалася непадзельнай і недатыкальнай. Усе пытанні аб межах павінны вырашацца на аснове ўзаемнай згоды з памежнымі дзяржавамі шляхам заключэння адпаведных дагавораў, якія падлягаюць ратыфікацыі Вярхоўным Саветам краіны (арт. 6). Дэкларавалася права на ўласныя ўзброеныя сілы, унутраныя войскі, органы дзяржаўнай бяспекі. Ставілася мэта ператварэння Беларусі ў бяз'ядзерную зону і нейтральную дзяржаву (арт. 10). Дэкларацыя заяўляла, што БССР самастойна ажыццяўляе правы на добраахвотныя саюзы з іншымі дзяржавамі і свабодны

выхад з гэтых саюзаў. Рэспубліка прапаноўвала неадкладна пачаць распрацоўку Дагавора аб саюзе суверэнных сацыялістычных дзяржаў (арт. 11).

Рэалізацыя Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце БССР прадугледжвалася шляхам прыняцця новай Канстытуцыі і законаў рэспублікі. Але пакуль што яна мела характар урачыстай заявы аб намерах. Працягвалі дзейнічаць Канстытуцыя СССР і Канстытуцыя БССР, якім супярэчылі амаль усе палажэнні Дэкларацыі. Пасля правалу жнівеньскага путчу Вярхоўны Савет БССР прыняў 25 жніўня 1991 г. рашэнні аб наданні Дэкларацыі статуса канстытуцыйнага закона і аб абвяшчэнні эканамічнай і палітычнай незалежнасці Беларусі.

**Вызначэнне мэт, задач і прынцыпаў знешняй палітыкі незалежнай Беларусі ў пачатку 1990-х гг.** 2 кастрычніка 1991 г. Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь прыняў Заяву «Аб прынцыпах знешнепалітычнай дзейнасці Рэспублікі Беларусь ». У ёй пацвярджалася прыхільнасць краіны прынцыпам Статута ААН, Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека, а таксама міжнародным абавязацельствам, якія былі прыняты Беларуссю ў адпаведнасці з падпісанымі ёй міжнароднымі дагаворамі. Адзначалася гатоўнасць Беларусі далучыцца да Заключнага акта НБСЕ, пачаць перагаворы аб знішчэнні ядзернай зброі і абвяшчэнні еўрапейскага кантынента бяз'ядзернай зонай. Прынцыпамі знешнепалітычнай дзейнасці Рэспублікі Беларусь абвяшчаліся агульнапрызнаныя прынцыпы і нормы міжнароднага права. Нейкіх нацыянальна адметных для Беларусі знешнепалітычных прынцыпаў Заява не сфармулявала.

Міністр замежных спраў П. К. Краўчанка ў прамове на 46-й сесіі Генеральнай Асамблеі ААН у кастрычніку 1991 г. выклаў прыярытэты знешняй палітыкі Рэспублікі Беларусь. Яны былі сфармуляваны ў васьмі наступных палажэннях: 1) дасягненне Беларуссю рэальнай незалежнасці і суверэнітэту; 2) узаемадзеянне з іншымі рэспублікамі СССР у стварэнні адзінай эканамічнай прасторы і новага Саюза суверэнных дзяржаў; 3) мабілізацыя міжнароднай падтрымкі ў вырашэнні чарнобыльскай праблемы; 4)ператварэнне Беларусі ў бяз'ядзерную зону і нейтральную дзяржаву; 5) уключэнне Рэспублікі Беларусь у агульнаеўрапейскі працэс; 6) стварэнне ўмоў для фарміравання рыначнай эканомікі ў рэспубліцы; 7) забеспячэнне экалагічнай бяспекі; 8) забеспячэнне свабоднага ўзаемадзеяння культур.

З трыбуны ААН было заяўлена, што асновай знешнепалітычнага курса дзяржавы з'яўляюцца жыццёвыя інтарэсы беларускага народа. Прамову П. Краўчанкі можна лічыць першым канцэптуальным выкла-

даннем мэты, задач і прыярытэтных напрамкаў знешняй палітыкі Рэспублікі Беларусь на этапе атрымання поўнай незалежнасці.

Мінскія і Алма-Ацінскія пагадненні аб скасаванні СССР і стварэнні СНД падвялі рысу пад першым этапам працэсу набыцця Беларуссю незалежнасці і запачаткавалі дэ-юрэ і дэ-факта яе выхад на міжнародную арэну як новай незалежнай дзяржавы.

Наступным важным крокам у галіне распрацоўкі асноў уласнай ваеннай і знешняй палітыкі было прыняцце Вярхоўным Саветам у лістападзе 1992 г. Ваеннай дактрыны Рэспублікі Беларусь. У гэтым дакуменце дадзена характарыстыка геастратэгічнага становішча краіны, вызначаны статус і парадак прымянення стратэгічных ядзерных сіл Расіі, якія часова размяшчаліся на тэрыторыі Беларусі. Дактрына дэкларавала адсутнасць у Беларусі патэнцыяльных ворагаў, прадугледжвала правядзенне самастойнай знешняй палітыкі. У галіне ваеннай палітыкі дактрына замацавала канцэпцыю стрымлівання і актыўнай абароны.

У Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, што была прынята на 13-й сесіі Вярхоўнага Савета 15 сакавіка 1994 г., у раздзеле I «Асновы канстытуцыйнага ладу» змяшчаліся палажэнні, якія вызначалі асновы беларускай знешняй палітыкі. У арт. 8 гаварылася: «Рэспубліка Беларусь прызнае прыярытэт агульнапрызнаных прынцыпаў міжнароднага права і забяспечвае адпаведнасць ім заканадаўства. Не дапускаецца заключэнне міжнародных дагавораў, якія супярэчаць Канстытуцыі». Пытанням знешняй палітыкі прысвечаны арт. 18, у якім пералічваюцца некаторыя агульнапрызнаныя прынцыпы і нормы міжнароднага права, што пакладзены ў аснову знешняй палітыкі краіны: «Рэспубліка Беларусь у сваёй знешняй палітыцы зыходзіць з прынцыпаў роўнасці дзяржаў, непрымянення сілы або пагрозы сілай, непарушнасці меж, мірнага ўрэгулявання спрэчак, неўмяшання ва ўнутраныя справы і іншых агульнапрызнаных прынцыпаў і нормы міжнароднага права». У гэтым жа артыкуле пацверджана мэта зрабіць Беларусь бяз'ядзернай зонай і нейтральнай дзяржавай.

У новай рэдакцыі Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, што была прынята на рэспубліканскім рэферэндуме 24 лістапада 1996 г., палажэнні аб знешняй палітыцы амаль не зведалі змен. Толькі арт. 8 быў дапоўнены сказам наступнага зместу: «Рэспубліка Беларусь у адпаведнасці з нормамі міжнароднага права можа на добраахвотнай аснове ўваходзіць у міждзяржаўныя ўтварэнні і выходзіць з іх. Не дапускаецца заключэння міжнародных дагавораў, якія супярэчаць Канстытуцыі». Не цяжка здагадацца, што гэтае дапаўненне было

ўведзена ў сувязі з пачаткам інтэграцыйнага працэсу паміж Беларуссю і Расіяй і намерам беларускага прэзідэнта ўвайсці ў міждзяржаўнае аб'яднанне з Расіяй.

Такім чынам, у першыя гады незалежнасці ў Беларусі быў прыняты шэраг важных дзяржаўных дакументаў, у якіх выкладаліся прынцыпы, мэты і задачы беларускай знешняй палітыкі. Гэта пераводзіла ў практычную сферу задачу выпрацоўкі канцэпцыі знешняй палітыкі дзяржавы.

**Пачатак распрацоўкі знешнепалітычнай канцэпцыі**. Упершыню пытанне аб неабходнасці такога дакумента ўзнікла на Пазачарговай VI сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 2 кастрычніка 1991 г. пры абмеркаванні пытання «Аб знешнепалітычнай дзейнасці Рэспублікі Беларусь». Старшыня парламенцкай камісіі па міжнародных справах і знешнеэканамічнай дзейнасці П. В. Садоўскі заявіў, што яго камісія разам з іншымі камісіямі распрацуе знешнепалітычную дактрыну Вярхоўнага Савета. Але такога дакумента не з'явілася.

У канцы 1992 г. Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь падрыхтавала праект дакумента пад назвай «Канцэпцыя знешнепалітычнай дзейнасці Рэспублікі Беларусь». Дакумент, які быў падрыхтаваны на беларускай і рускай мовах, складаўся з тэксту Канцэпцыі (21 стар.) і Дадатку пад назвай «Прыярытэтнасць і абгрунтаванне наладжвання і развіцця дыпламатычных адносін з зарубежнымі краінамі» (9 стар.).

Тэкст Канцэпцыі складаўся з пяці раздзелаў. I раздзел «Становішча Рэспублікі Беларусь у сучасным свеце» разглядаў тры блокі пытанняў: новая геапалітычная сітуацыя ў сучасным свеце; сучаснае становішча Беларусі; месца Беларусі ў сістэме міжнародных адносін (кароткатэрміновы прагноз). II раздзел «Асноўныя мэты і прынцыпы знешняй палітыкі» змяшчаў кароткую характарыстыку асноўных мэт і прынцыпаў знешняй палітыкі Рэспублікі Беларусь. III раздзел «Прыярытэты і накірункі знешняй палітыкі пераходнага перыяду» разглядаў базавыя прыярытэты, асноўныя накірункі развіцця знешняй палітыкі і накірункі ў сферах міжнароднага супрацоўніцтва. IV раздзел «Першачарговыя задачы і меры па рэалізацыі знешнепалітычнай канцэпцыі (у кароткатэрміновай і сярэднетэрміновай перспектыве)» прадугледжваў выкананне шэрага першачарговых знешнепалітычных задач, у тым ліку у галіне міжнароднай бяспекі, стварэнне паўнацэннай структуры знешнепалітычных органаў Беларусі за мяжой, падрыхтоўку кадраў для знешнепалітычнай дзейнасці. V раздзел «Механізм выпрацоўкі і прыняцця знешнепалітычных рашэнняў»

адлюстроўваў канстытуцыйна-прававы працэс распрацоўкі, прыняцця і рэалізацыі знешнепалітычных рашэнняў.

Тэкст канцэпцыі рабіў уражанне ўзважанага і абгрунтаванага дакумента, свабоднага ад ідэалагічных штампаў і прасякнутага ідэяй служэння нацыянальна-дзяржаўным інтарэсам Беларусі. Але пры абмеркаванні праекта «Канцэпцыі знешнепалітычнай дзейнасці Рэспублікі Беларусь» на пасяджэнні Прэзідыума Вярхоўнага Савета ў пачатку 1993 г. ён не атрымаў станоўчай ацэнкі і быў накіраваны на дапрацоўку. Невядома, якія канкрэтныя заўвагі былі выказаны ў адрас аўтараў канцэпцыі, паколькі аб гэтым у друку не паведамлялася.

Можна толькі здагадвацца, што на выніках абмеркавання адбіліся складаныя ўзаемаадносіны паміж Старшынёй Вярхоўнага Савета С. Шушкевічам і міністрам замежных спраў П. Краўчанкам. Першы публічна выказваў крытычныя заўвагі ў адрас кіраўніка знешнепалітычнага ведамства за недахопы ў працы міністэрства, у прыватнасці за захапленне «культурнай дыпламатыяй» і адсутнасць вынікаў у справе памяншэння ўзносаў Беларусі ў рэгулярны бюджэт ААН.

Наступны праект знешнепалітычнай канцэпцыі пад назвай «Асноўныя накірункі знешнепалітычнай і знешнеэканамічнай дзейнасці Рэспублікі Беларусь» быў падрыхтаваны парламенцкай камісіяй па міжнародных справах і знешнеэканамічнай дзейнасці і прадстаўлены на абмеркаванне Вярхоўнага Савета ў студзені 1994 г. Але потым старшыня камісіі І. І. Цярэшка заявіў, што «ў сувязі з падрыхтоўкай пытанняў аб'яднання грашовых сістэм, перамовах аб эканамічным саюзе, а таксама з улікам сённяшніх палітычных і эканамічных абставін, калі немагчыма, па сутнасці справы, дакладна фіксаваць накірункі знешнепалітычнай і знешнеэканамічнай дзейнасці Рэспублікі Беларусь, лічыцца мэтазгодным зняць гэтае пытанне з разгляду». Ён адзначыў, што такая думка камісіі падтрымана ўрадам і Прэзідыумам Вярхоўнага Савета. Каменціруючы прынятае парламентам рашэнне, газета «Звязда» задавала пытанне: «Якія абставіны могуць прымусіць дзяржаву адмовіцца ад выпрацоўкі сваёй знешнепалітычнай стратэгіі? Здаецца, толькі адна: няма дзяржавы — няма патрэбы ў стратэгіі».

Праз пэўны час задача распрацоўкі і прыняцця канцэпцыі знешняй палітыкі была ўзнята Старшынёй Вярхоўнага Савета М. І. Грыбам на нарадзе кіраўнікоў дыпламатычных і консульскіх устаноў Беларусі за мяжой (жнівень 1994 г.). Ён сказаў, што прыняцце Канстытуцыі ставіць на парадак дня распрацоўку і прыняцце Вярхоўным Саветам канцэпцыі знешняй палітыкі Рэспублікі Беларусь. Старшыня парламента згадаў заляжалы праект «Асноўных накірункаў знешне-

палітычнай і знешнеэканамічнай дзейнасці Рэспублікі Беларусь», які быў зняты з абмеркавання ў лютым 1994 г. Ён прапанаваў прыняць адзіны закон «Аб асноўных напрамках знешнепалітычнай і знешнеэканамічнай дзейнасці Рэспублікі Беларусь», які б замацаваў асноўныя палажэнні і стратэгічныя канцэпцыі міжнароднай дзейнасці Беларусі і адзіны механізм яе ажыццяўлення.

М. Грыб выказаў некалькі ўстановачных тэзісаў у адрас патэнцыяльных распрацоўшчыкаў канцэпцыі. Па яго словах, галоўнымі рухавікамі канцэпцыі павінны быць нацыянальны інтарэс і нацыянальная бяспека, а яе асноўнымі элементамі — палітычная, эканамічная і гуманітарная дыпламатыя ў іх цеснай узаемасувязі. Канцэпцыя павінна грунтавацца на разумным прагматызме, быць свабоднай ад ідэалагічных штампаў, што дазваляла б Беларусі шукаць партнёраў і сяброў па ўсіх без выключэння накірунках. Канцэпцыя павінна прадугледжваць і механізм распрацоўкі і. прыняцця знешнепалітычных рашэнняў.

Але і гэтая спроба прыняцця канцэпцыі закончылася безвынікова. Вярхоўны Савет 12-га склікання «дажываў» апошнія месяцы, большасці дэпутатаў было не да канцэпцыі. Нарастала супрацьстаянне з прэзідэнцкай галіной улады, што вылілася ў галадоўку дэпутатаў апазіцыі і іх выдаленне з будынка парламента. Вярхоўны Савет 13-га склікання, які працаваў са студзеня да лістапада 1996 г., таксама не дайшоў да пытання аб знешнепалітычнай канцэпцыі.

**Праблемы распрацоўкі і прыняцця канцэпцыі ў другой палове 1990-х гг.** Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу 1-га склікання (1996-2000) не ініцыіравала пастаноўку і разгляд пытання аб прыняцці знешнепалітычнай канцэпцыі, як і іншых пытанняў канцэптуальнага характару. Паводле Канстытуцыі 1996 г. яна валодае паўнамоцтвамі разглядаць праекты законаў аб зацвярджэнні асноўных напрамкаў унутранай і знешняй палітыкі, а таксама ваеннай дактрыны.

З увядзеннем інстытута прэзідэнцкай улады і абраннем прэзідэнтам краіны А. Р. Лукашэнкі цэнтр распрацоўкі, прыняцця і рэалізацыі знешнепалітычных рашэнняў перайшоў у рукі кіраўніка дзяржавы. Паводле Канстытуцыі 1996 г. ён гарантуе рэалізацыю асноўных напрамкаў унутранай і знешняй палітыкі, звяртаецца з пасланнямі да народа Рэспублікі Беларусь аб становішчы дзяржавы і аб асноўных напрамках унутранай і знешняй палітыкі.

27 сакавіка 1995 г. Савет Бяспекі Рэспублікі Беларусь зацвердзіў Канцэпцыю нацыянальнай бяспекі краіны. Гэты дакумент не быў апублікаваны. У лютым 1996 г. часопіс «Беларуская думка» надрукаваў

артыкул міністра абароны Л. Мальцава, у якім выкладаліся асноўныя палажэнні згаданай Канцэпцыі. У Канцэпцыі прааналізаваны жыццёва важныя інтарэсы Беларусі, асноўныя фактары, што ствараюць пагрозу яе бяспецы, сфармуляваны прыярытэтныя напрамкі нейтралізацыі пагроз у палітычнай, эканамічнай, ваеннай, экалагічнай, інфармацыйнай і гуманітарнай сферах.

Паводле ацэнак беларускіх экспертаў, Канцэпцыя нацыянальнай бяспекі грунтуецца на безумоўным выкананні канстытуцыйных палажэнняў аб нейтралітэце і бяз'ядзернасці. У гэтай сувязі трэба нагадаць, што ў другой палове 90-х гг. у афіцыйных знешнепалітычных заявах беларускага кіраўніцтва не гаварылася пра нейтралітэт і часам выказвалася шкадаванне наконт паспешлівасці папярэдняга кіраўніцтва Беларусі ў справе ядзернага раззбраення.

Наступны варыянт Канцэпцыі знешняй палітыкі Рэспублікі Беларусь выйшаў з нетраў МЗС у чэрвені 1997 г. і быў накіраваны ў Адміністрацыю Прэзідэнта, пасля чаго знік з поля зроку знешнепалітычных экспертаў. Па некаторых звестках, прадугледжвалася яго абмеркаванне і прыняцце Саветам Бяспекі краіны, як гэта было зроблена з Канцэпцыяй нацыянальнай бяспекі. Але справа да гэтага так і не дайшла. Паводле выказванняў прафесара БДУ А. А. Разанава, гэты варыянт знешнепалітычнай канцэпцыі абмяжоўваецца самымі агульнымі палажэннямі, якія мала да чаго абавязваюць і мала што праясняюць. Вучоны адзначыў невялікую тэарэтычную і практычную каштоўнасць згаданага дакумента. У прыватнасці, у ім адсутнічалі сістэматызацыя і апісанне нацыянальных інтарэсаў краіны ў галіне міжнародных зносін, ігнаравалася спецыфіка Беларусі як еўрапейскай дзяржавы з адметным знешнепалітычным тварам, нічога не гаварылася пра канстытуцыйнае палажэнне аб імкненні Беларусі да статуса нейтральнай дзяржавы.

Папярэджваючы навуковую грамадскасць і спецыялістаў ад пераацэнкі значэння Канцэпцыі знешняй палітыкі як адшліфаванага набору тэарэтычных схем, А. Разанаў падкрэсліваў, што толькі пры ўмове, калі яна абапіраецца на аб'ектыўны і непрадузяты аналіз з'яў і працэсаў і іх навукова абгрунтаванае прагназаванне, гэта канцэпцыя можа стаць карысным арыенцірам для дыпламатыі.

Міністры замежных спраў Беларусі пасля П. Краўчанкі не адважваліся выступаць з сістэматызаваным выкладаннем прыярытэту беларускай знешняй палітыкі. Але гэта зрабіў новы кіраўнік знешнепалітычнага ведамства, віцэ-прэм'ер беларускага ўрада М. М. Хвастоў на сваёй першай прэс-канферэнцыі ў пачатку снежня 2000 г. Ён выклаў і пракаменціраваў 6 накірункаў знешнепалітычнай

дзейнасці, якія абвяшчаліся прыярытэтнымі на 2001 г.: 1) развіццё адносін з Расіяй у рамках будаўніцтва Саюзнай дзяржавы; 2) забеспячэнне інтарэсаў Беларусі ў рамках Еўразійскай эканамічнай супольнасці; 3) мэтанакіраваная работа ў СНД; 4) умацаванне пояса добрасуседства вакол Беларусі; 5) аднаўленне і развіццё адносін з Еўрапейскім саюзам і іншымі еўрапейскімі інстытутамі; 6) аднаўленне даверу ў адносінах з ЗША.

На нашу думку, такая іерархія прыярытэтаў аб'ектыўна адлюстроўвала рэальны стан знешняй палітыкі краіны ў канцы першага дзесяцігоддзя яе незалежнага развіцця, якое храналагічна супадала з завяршэннем XX ст. і пачаткам новага стагоддзя і тысячагоддзя.

**Праект знешнепалітычнай канцэпцыі вучоных БДУ.** У ліпені 2001 г. у адпаведнасці з рашэннем Дзяржаўнага камітэта па навуцы і тэхналогіях быў створаны часовы навуковы калектыў (ЧНК) пры Цэнтры міжнародных даследаванняў БДУ для распрацоўкі Канцэпцыі знешняй палітыкі Рэспублікі Беларусь. У склад ЧНК увайшлі: У. А. Астапенка — прарэктар БДУ, кандыдат юрыдычных навук (навуковы кіраўнік калектыву), А. А. Разанаў, У. Е. Снапкоўскі і А. А. Чалядзінскі — прафесары кафедры міжнародных адносін факультэта міжнародных адносін БДУ, дактары гістарычных навук, У. Я. Улаховіч — начальнік Цэнтра міжнародных даследаванняў БДУ. У лістападзе 2001 г. часовы навуковы калектыў падрыхтаваў праект Канцэпцыі знешняй палітыкі Рэспублікі Беларусь, які быў прадстаўлены Міністэрству замежных спраў і адобраны Калегіяй МЗС.

Дакумент, падрыхтаваны на рускай мове, складаўся з чатырох раздзелаў. У раздзеле І «Агульныя палажэнні» адзначалася: «Канцэпцыя знешняй палітыкі Рэспублікі Беларусь уяўляе сабой сістэму поглядаў, ацэнак і ўстановак, якія вызначаюць змест і асноўныя кірункі знешнепалітычнай дзейнасці беларускай дзяржавы. Палажэнні Канцэпцыі вынікаюць з аналізу асноўных тэндэнцый развіцця міжнародных адносін, дзяржаўнага будаўніцтва, унутранай і знешняй палітыкі Беларусі».

Прававую аснову Канцэпцыі складалі Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь, законы і іншыя нарматыўныя прававыя акты Рэспублікі Беларусь, рэгулюючыя дзейнасць дзяржаўных органаў улады ў сферы знешняй палітыкі, агульнапрызнаныя прынцыпы і нормы міжнароднага права і міжнародныя дагаворы Рэспублікі Беларусь, Канцэпцыя нацыянальнай бяспекі, зацверджаная ўказам Прэзідэнта краіны ад 17 ліпеня 2001 г.

Распрацоўшчыкі Канцэпцыі ўвялі ў навуковы абарот формулу, паводле якой Беларусь пасля абвяшчэння незалежнасці выйшла на

міжнародную арэну ў дзвюх якасцях: «як новая незалежная дзяржава са сваімі геапалітычнымі інтарэсамі і як еўрапейская краіна, якая мае глыбокія гістарычныя традыцыі дзяржаўнасці». Адзначана, што канстытуцыйны тэзіс аб гістарычных традыцыях беларускай дзяржаўнасці напоўнены багатым знешнепалітычным зместам. Шматвяковы вопыт беларускай дыпламатыі даказвае пэўную паслядоўнасць і логіку знешнепалітычных намаганняў у вызначэнні характару адносін Беларусі з суседнімі дзяржавамі і знешнім светам. Акрэслены знешнепалітычныя імператывы, што склаліся на працягу стагоддзяў, якія па сённяшні дзень захоўваюць сваю значнасць і актуальнасць для беларускай дзяржавы. Дадзена кароткая характарыстыка перыяду станаўлення знешняй палітыкі Рэспублікі Беларусь у 1990-я гг. Сказана пра дасягненні і цяжкасці на гэтым шляху. Выдзелены асноўныя тэндэнцыі развіцця міжнародных адносін у Еўропе і свеце; у гэтай сувязі падкрэслена: «Толькі ў рамках справядлівага дэмакратычнага сусветнага парадку беларуская дзяржава можа забяспечыць сабе годнае месца ў Еўропе і свеце».

Раздзел II Канцэпцыі «Нацыянальныя інтарэсы Рэспублікі Беларусь. Прынцыпы, мэты і задачы яе знешняй палітыкі» вызначае і апісвае нацыянальныя інтарэсы краіны ў галіне міжнародных адносін (геапалітычныя, эканамічныя, ваенна-палітычныя, рэгіянальныя, субрэгіянальныя і лакальныя) і асновы яе знешняй палітыкі.

Распрацоўшчыкі Канцэпцыі сфармулявалі наступныя прынцыпы знешняй палітыкі Рэспублікі Беларусь: адлюстраванне ў знешнепалітычнай дзейнасці карэнных нацыянальных інтарэсаў беларускага народа; недзялімасць міжнароднага міру, усеагульнай бяспекі, узаемны ўлік і захаванне інтарэсаў усіх членаў міжнароднай супольнасці; прызнанне прыярытэту агульнапрызнаных норм міжнароднага права; адданасць палітыцы ядзернага раззбраення і паслядоўнай дэмілітарызацыі міжнародных адносін; правядзенне міралюбівай знешняй палітыкі, выкананне абавязацельстваў па міжнародных дагаворах, да якіх далучылася Рэспубліка Беларусь; пабудова двухбаковых і шматбаковых адносін з іншымі дзяржавамі і міжнароднымі арганізацыямі на аснове міжнароднага права; дабравольнасць уваходжання ў міждзяржаўныя аб'яднанні; непрымяненне сілы ці пагрозы сілай, вырашэнне любых рэгіянальных і міжнародных канфліктаў выключна мірнымі сродкамі; адсутнасць тэрытарыяльных прэтэнзій да сумежных дзяржаў і непрызнанне тэрытарыяльных прэтэнзій да Рэспублікі Беларусь.

Стратэгічнымі мэтамі Беларусі на міжнароднай арэне вызначаны: «умацаванне незалежнасці краіны і забеспячэнне неабарачальнасці

гэтага працэсу; абарона інтарэсаў асобы, грамадства і дзяржавы». Асноўныя задачы Рэспублікі Беларусь у галіне знешняй палітыкі сфармуляваны наступным чынам: умацаванне міжнародных пазіцый, якія адпавядаюць інтарэсам Беларусі як еўрапейскай дзяржавы; стварэнне спрыяльных знешнепалітычных умоў для павышэння дабрабыту грамадзян Беларусі, развіцця палітычнага, эканамічнага, інтэлектуальнага і духоўнага патэнцыялу краіны; уздейнічанне з улікам свайго статуса і магчымасцей на фарміраванне стабільнага, справядлівага і дэмакратычнага сусветнага парадку, пабудаванага на нормах міжнароднага права; фарміраванне «пояса добрасуседства» па перыметру беларускіх меж; пошук згоды і супадаючых інтарэсаў з замежнымі партнёрамі; усебаковая абарона правоў і інтарэсаў беларускіх грамадзян за мяжой; садзейнічанне пазітыўнаму ўспрыняццю Беларусі ў свеце, папулярызацыя культурных і духоўных каштоўнасцей беларускага народа за мяжой.

У раздзеле III «Прыярытэты знешняй палітыкі Рэспублікі Беларусь» акрэслены прыярытэтныя кірункі беларускай знешняй палітыкі ў вырашэнні еўрапейскіх і міжнародных праблем (у галіне міжнароднай бяспекі і раззбраення, інтэграцыі ў сістэму сусветных эканамічных сувязей, міжнароднага права, развіцця міжнароднага супрацоўніцтва ў пераадоленні наступстваў чарнобыльскай катастрофы). У асобным падраздзеле вызначаны рэгіянальныя прыярытэты знешняй палітыкі Беларусі (адносіны з замежнымі дзяржавамі і асобнымі рэгіёнамі свету). У падраздзеле «Шматбаковая дыпламатыя Рэспублікі Беларусь» ахарактарызаваны прыярытэты адносін з міжнароднымі арганізацыямі (ААН, АБСЕ, НАТА, Савет Еўропы, ЦЭІ, Рух недалучэння і інш.)

У IV раздзеле дакумента «Фарміраванне і рэалізацыя знешняй палітыкі Рэспублікі Беларусь» апісаны канстытуцыйна-прававы механізм распрацоўкі і прыняцця знешнепалітычных рашэнняў, які створаны на падставе Канстытуцыі і законаў краіны. Названы галоўныя дзяржаўныя інстытуты ўлады ў знешнепалітычнай галіне (Прэзідэнт, Савет Бяспекі, Нацыянальны сход, Савет Міністраў, Міністэрства замежных спраў). Акрэслены задачы ў галіне інфармацыйнага забеспячэння знешнепалітычнай дзейнасці і «культурнай дыпламатыі», падкрэслена неабходнасць фарміравання знешняй палітыкі дзяржавы на дэмакратычных асновах з улікам сацыяльнай структуры і грамадскай думкі.

Падрыхтаваны вучонымі БДУ праект Канцэпцыі знешняй палітыкі Рэспублікі Беларусь быў прадстаўлены міністрам замежных спраў М. Хвастовым у Адміністрацыю Прэзідэнта краіны, пасля чаго было вырашана ўключыць гэты дакумент у Закон «Аб асновах унутранай і

знешняй палітыкі Рэспублікі Беларусь», які меркавалася прыняць беларускім парламентам. Такую думку выказаў прэзідэнт А. Лукашэнка падчас сустрэчы з М. Хвастовым у ліпені 2002 г., калі апошні прадставіў яму праект знешнепалітычнай канцэпцыі, распрацаваны вучонымі БДУ.

На працягу 2002-2005 гг. Палата прадстаўнікоў падрыхтавала некалькі праектаў гэтага закона, назва якога таксама мянялася. Апошні варыянт праекта закона называўся «Аб зацвярджэнні асноўных кірункаў унутранай і знешняй палітыкі Рэспублікі Беларусь» (падрыхтаваны на рускай мове ў студзені 2005 г.). Ён быў накіраваны на водгук у БДУ, які зрабілі прафесары факультэта міжнародных адносін А. В. Шарапа (дэкан факультэта), А. А. Разанаў, У. Е. Снапкоўскі і А. А. Чалядзінскі. У водгуку адзначалася, што падрыхтаваны на разгляд і зацвярджэнне Нацыянальнага сходу праект закона «Аб зацвярджэнні асноўных кірункаў унутранай і знешняй палітыкі Рэспублікі Беларусь» з'яўляецца першым заканадаўчым актам падобнага роду ў гісторыі незалежнай Беларусі. Эксперты звярнулі ўвагу на арыгінальны падыход распрацоўшчыкаў дакумента, якія вырашылі злучыць у адзіным законе асноўныя кірункі ўнутранай і знешняй палітыкі дзяржавы, чаго звычайна пазбягала заканадаўчая практыка суседніх і іншых еўрапейскіх дзяржаў. Гэта не ўяўлялася вучоным ФМА БДУ удалым вопытам, паколькі законапраект шмат у чым паўтараў палажэнні Канстытуцыі, аднаго яго змест меў занадта агульны, дэкларатыўны характар. У водгуку ўказваліся канкрэтныя заўвагі і прапановы адносна зместу і формы прыняцця законапраекта, у тым ліку па раздзеле аб асноўных кірунках унутранай палітыкі беларускай дзяржавы. Нягледзячы на даволі крытычную ацэнку ўсяго дакумента, прафесары ФМА БДУ выказалі думку, што яго прыняцце будзе мець пэўнае пазітыўнае значэнне.

**Даклад А. Лукашэнкі «Знешняя палітыка Рэспублікі Беларусь у новым свеце».** У ліпені 2004 г. Прэзідэнт А. Лукашэнка выступіў з праграмным дакладам «Знешняя палітыка Рэспублікі Беларусь у новым свеце» на нарадзе з кіраўнікамі загранічных устаноў Беларусі. Даклад меў характар канцэптуальнага выкладання знешняй палітыкі беларускай дзяржавы, якая ўступіла ў другое дзесяцігоддзе сваёй незалежнасці. Па словах прэзідэнта, «прыйшла пара глыбей асэнсаваць знешнюю палітыку нашай рэспублікі ў пераменлівым свеце».

У дакладзе ахарактарызаваны асаблівасці міжнароднага становішча Беларусі, якая «па насельніцтве і тэрыторыі — не малая, як гэта часта і памылкова прынята лічыць, гэта сярэдняя па еўрапейскіх мерках краіна». Па-першае, гэта краіна з развітой эканомікай

адкрытага тыпу, якая заснавана не па здабычы і продажу карысных выкапняў, а па перапрацоўцы сыравіны і вытворчасці гатовай прадукцыі. Па-другое, Беларусь размешчана на вельмі адчувальным геапалітычным скрыжаванні, цэнтры гандлёвых і транзітных шляхоў. Па-трэцяе, гэта дзяржава са значным ваенным патэнцыялам, па памерах якога яна ўваходзіць у першыя пяцьдзясят краін свету. Унушальны эканамічны, геапалітычны і ваенны патэнцыял дазваляе Беларусі праводзіць знешнюю палітыку з «пазіцый годнасці».

Асновай знешняй палітыкі Беларусі з'яўляюцца дзяржаўны суверэнітэт і незалежнасць. Беларусь ёсць і будзе заставацца самастойнай у Еўропе і свеце. Суверэнітэт і незалежнасць — гэта не разменная карта, а святая, вечная каштоўнасць. Дакладчык падкрэсліў і тую новую рэальнасць, што «ў Беларусі на другім дзесятку гадоў самастойнага існавання фарміруецца нацыянальная згода па базавых каштоўнасцях дзяржавы».

Галоўным фактарам беларускай знешняй палітыкі з'яўляецца эканоміка. Але айчынная эканоміка адкрытага тыпу вельмі ўразлівая, залежная ад знешніх уздзеянняў і ўплываў. «Таму галоўная стратэгічная задача краіны — панізіць уразлівасць нашай эканомікі і непасрэдна вынікаючыя з гэтага знешнепалітычныя рызыкі». Беларускі прэзідэнт акрэсліў тры балявыя кропкі нацыянальнай гаспадаркі: энергетыка, сыравіна і рынкі збыту прадукцыі і паставіў задачу пазбаўляцца, памяншаць энергетычную, сыравінную і монарынкавую залежнасць Беларусі ад Расіі. Адначасова ім было падкрэслена значэнне транзіту як стратэгічнага рэсурсу і пастаўлена задача максімальнага выкарыстання транзітнага патэнцыялу Беларусі.

Пераходзячы да пытання аб вектарах знешняй палітыкі, А. Лукашэнка сказаў, што яны там, дзе ляжаць яе інтарэсы. «Галоўны прыярытэт — суседзі. Таму вектары не змяніліся. Змяніліся суседзі. Змяніліся і мы. Змяніўся свет». Стратэгічны выбар Беларусі заключаецца не ў выбары паміж Усходам і Захадам. Беларусь з прычыны эканомікі, гісторыі, геаграфіі, культуры і менталітэту будзе і на Усходзе, і на Захадзе. «Мы выбіраем Беларусь» — такі правільны адказ на пытанне, што выбірае Беларусь.

Галоўным партнёрам Беларусі застаецца Расія, краіна, у эканоміцы, грамадстве і палітычнай эліце якой адбыліся значныя змены. Адзначаючы практычныя дасягненні беларуска-расійскай інтэграцыі, высокі патэнцыял эканамічнага супрацоўніцтва, прэзідэнт Беларусі адначасова канстатаваў нізкую эфектыўнасць асобных элементаў беларуска-расійскага саюза, хаця і не назваў іх. На яго думку, было б дачасна пачынаць тэрміновую перабудову інтэграцыі з Расіяй, аднак

важнейшыя элементы гэтай інтэграцыі (адзіная валюта і Канстытуцыйны акт) прэзідэнты абедзвюх дзяржаў вырашылі адкласці на пэўны час.

Важныя працэсы адбываюцца ў Еўропе. Еўрапейскі саюз стаў непасрэдным суседам Беларусі. «За Брэстам і за Ашмянамі ўжо не проста Польшча і Літва — за імі сусветны эканамічны гігант». Галоўным кампанентам узаемаадносін Беларусі і ЕС з'яўляецца эканамічны складнік. Роля ЕС і ўвогуле ўсёй Еўропы ў беларускім знешнім гандлі пастаянна расце. Калі 10-12 гадоў таму іх доля ў экспарце Беларусі складала 8-10 %, то цяпер (у 2004 г.) доля Еўропы ўзрасла амаль да 40 %.

Беларусь — ключавая транзітная краіна для ЕС, што абумоўлена трыма наступнымі прычынамі: 1) транзіт праз Беларусь у два разы карацей, чым праз любую іншую дзяржаву; 2) тут маецца развітая транспартная інфраструктура; 3) Беларусь — не крымінальная краіна, ЕС і Расія не маюць да яе прэтэнзій у гэтым пытанні. Вельмі вострая для Еўрасаюза праблема нелегальнай міграцыі, гандлю людзьмі, наркатрафіка, бяспекі меж не можа быць вырашана без Беларусі. Прэзідэнт сказаў, што беларускім інтарэсам адпавядае абвешчаная ЕС мэта фарміравання «кола сяброў» і зоны стабільнасці і працвітання ўздоўж усяго перыметра яго меж, як і распрацаваная ЕС канцэпцыя «новага суседства».

А. Лукашэнка ацаніў развіццё працэсаў на прасторы СНД як «час зацягнутага пошуку і выбару». Ён выказаў занепакоенасць «фрагментацыяй тэрыторыі СНД», ператварэннем гэтай прасторы ў арэну саперніцтва за ўплыў з удзелам знешніх сіл — США, ЕС, буйных сумежных краін. Беларусь будзе працягваць супрацоўніцтва з Расіяй, Украінай і Казахстанам, каб ажывіць адзіную эканамічную прастору, якая аб'ядноўвае 90 % эканамічнага патэнцыялу былога СССР. Беларусь зацікаўлена і ў тым, каб Арганізацыя Дагавора аб калектыўнай бяспецы СНД была эфектыўнай структурай, а не клубам па інтарэсах.

Значным фактарам еўрапейскай бяспекі з'яўляецца Паўночнаатлантычны альянс. У выніку двайнога пашырэння НАТА на Усход тры з пяці суседзяў Беларусі сталі яго членамі, Украіна імкнецца ўступіць у гэты блок, а Расія стварыла з ім асобныя адносіны. Беларусь мае цяпер 1200 км агульнай мяжы з НАТА. Дакладчык звярнуў увагу на нарошчванне актыўнасці альянсу ў рэгіёне Каўказа і Сярэдняй Азіі, размяшчэнне там сваіх баз і войскаў, выказаў апасенні ў сувязі з размяшчэннем узбраенняў і ваеннай інфраструктуры НАТА бліз беларускіх меж. Нягледзячы на гэта, Беларусь гатова, каб мяжа

паміж рознымі ваенна-палітычнымі арганізацыямі была не лініяй канфрантацыі, а лініяй добрасуседства.

Закранаючы праблематыку міжнароднай бяспекі, А. Лукашэнка адзначыў, што Беларусь з'яўляецца донарам рэгіянальнай і глабальнай бяспекі. Яна першая з ядзерных спадкаемцаў СССР заявіла аб адмове ад ядзернага арсенала, паказаўшы прыклад астатнім удзельнікам постсавецкага «ядзернага клуба». Яна ліквідавала велізарны патэнцыял звычайных узбраенняў і амаль паўмільённую групоўку войскаў на сваёй тэрыторыі. Беларусь лічыць неабходным і ўзаемавыгадным супрацоўніцтва паміж НАТА і АД КБ.

Асноўным і бясспрэчным цэнтрам сілы — эканамічнай, фінансавай, тэхналагічнай, ваеннай і палітычнай — з'яўляюцца ЗША. Узаемадзеянне са Злучанымі Штатамі ва ўсіх гэтых галінах адпавядае інтарэсам Рэспублікі Беларусь. Аднак ЗША у апошнія гады дапускалі яўнае злоўжыванне сваім сусветным лідэрствам, асабліва ў Косаве і Іраку. У адносінах з ЗША Беларусь бачыць кароткатэрміновы і доўгатэрміновы кампаненты. Кароткатэрміновы заключаецца ў тым, што, пакуль ЗША будуць працягваць уздзейнічаць на Беларусь націскам, нармальных адносін паміж імі не будзе. Калі ж ЗША пяройдуць ад націску да ўзаемадзеяння, тады ўсё наладзіцца ў інтарэсах абедзвюх дзяржаў. У доўгатэрміновым плане, як лічыць беларускі кіраўнік, ЗША неабходна змяніць стыль лідэрства.

Рэзервам эканамічнага росту Беларусі быў названы Сусветны Поўдзень, супрацоўніцтва з якім (арабскімі краінамі, Кітаем, Індыяй, Афрыкай і Лацінскай Амерыкай) разглядаецца як стратэгічная задача скарачэння ўразлівасці айчыннай эканомікі. Прэзідэнт заявіў, што Лацінская Амерыка неапраўдана знаходзіцца на другім плане беларускай знешняй палітыкі і паставіў задачу «рашучых дыпламатычных крокаў на лацінаамерыканскім кірунку».

У галіне шматбаковай дыпламатыі неабходна павысіць эфектыўнасць удзелу Беларусі ў працы міжнародных арганізацый, перш за ўсё ААН. Пастаўлена задача канцэнтраваць дыпламатычныя намаганні на тых кірунках, дзе можна атрымаць практычную аддачу: фінансавую, арганізацыйную і палітычную. Звярнуўшы ўвагу на недапрацоўкі беларускай дыпламатыі ў Руху недалучэння, А. Лукашэнка заклікаў МЗС актывізаваць працу з гэтым буйным міждзяржаўным аб'яднаннем.

У заключэнне даклада прамоўца падкрэсліў значнасць канстытуцыйнай фармулёўкі пра імкненне Беларусі стаць нейтральнай дзяржавай. Яна адыграла і працягвае адыгрываць ролю важнага стрыжня і апірышча беларускай знешняй палітыкі. «Цяпер гэта

ўспрымаецца больш не як адасобленасць, а як самастойнасць. Гэта фармулёўка забяспечвае разуменне таго, што мы павінны знайсці і забяспечыць сваё ўласнае, асобнае, непаўторнае, нераствараемае ў іншых народах і дзяржавах месца для нашай Беларусі».

Праграмны даклад А. Лукашэнкі «Знешняя палітыка Рэспублікі Беларусь у новым свеце» абазначыў важнейшыя палажэнні знешнепалітычнай стратэгіі краіны ў першай дэкадзе XXI ст. Пры адсутнасці прынятай канцэпцыі знешняй палітыкі гэты дакумент будзе адыгрываць ролю афіцыйнага выкладання мэт, задач, прынцыпаў і прыярытэтаў знешнепалітычнай дзейнасці беларускай дзяржавы.

Першае дзесяцігоддзе беларускай знешняй палітыкі прайшло без знешнепалітычнай канцэпцыі. Зразумела, што не яе адсутнасць з'яўляецца галоўнай прычынай недахопаў нашай знешняй палітыкі і дыпламатыі. Многія дэмакратычныя дзяржавы стагоддзямі жывуць без падобных канцэпцый і нават канстытуцый, што не перашкаджае ім упэўнена развівацца і праводзіць паспяховую знешнюю палітыку. Сутнасць справы бачыцца нам у хваробах станаўлення беларускай дзяржаўнасці, слабасці (нягледзячы на праявы аўтарытарызму) інстытутаў дзяржаўнай улады, расколе грамадства і асабліва эліты па лёсавызначальных пытаннях дэмакратыі і незалежнасці.

Прыняцце канцэпцыі знешняй палітыкі пры ўмове дасягнення пэўнага грамадскага і палітычнага кансэнсусу па яе асноватворных палажэннях дало б у рукі прафесійнай дыпламатыі карысны інструмент, які б дапамог сувымераць знешнепалітычныя планы і акцыі з нацыянальнымі патрэбамі і інтарэсамі Беларусі і агульнымі тэндэнцыямі развіцця міжнародных адносін. Такі дакумент мог бы быць карысным для грамадства і знешнепалітычных экспертаў у плане грамадскага кантролю за тым, наколькі дыпламатычная актыўнасць урада ў тым ці іншым напрамку або сферы адпавядае тэарэтычным установкам канцэпцыі.

Афіцыйна прынятая канцэпцыя знешняй палітыкі Беларусі патрэбна для знешняга свету, замежных дзяржаў і міжнародных арганізацый, беларускай дыяспары, міжнароднага кола знешнепалітычных экспертаў. На падставе гэтага дакумента суседзі і аддаленыя краіны, Еўропа і свет маглі б мець больш поўнае і дакладнае ўяўленне пра Беларусь, яе месца ў сістэме міжнародных адносін, мэты, задачы, прынцыпы, прыярытэты і кірункі знешняй палітыкі беларускай дзяржавы.

## Тэма 3
## ПАЛІТЫЧНАЯ СІТУАЦЫЯ Ў БЕЛАРУСІ Ў ПЕРШАЙ ПАЛОВЕ 1994 г.: АДСТАЎКА С.ШУШКЕВІЧА І ПРАБЛЕМА АБ'ЯДНАННЯ ГРАШОВЫХ СІСТЭМ БЕЛАРУСІ І РАСІІ

Пасля абвяшчэння незалежнасці Беларусі і яе міжнароднага прызнання цікавасць вялікіх дзяржаў і сусветных СМІ да гэтай новай незалежнай дзяржавы паменшылася. У пачатку 1990-х гг. дыпламатыю і грамадскасць Захаду турбавалі перш за ўсё канфліктныя з'явы на постсавецкай геапалітычнай прасторы, напружаныя адносіны паміж Расіяй і Украінай, праблемы балтыйскіх краін і іншыя гарачыя кропкі на прасторах былога СССР. У невялікіх матэрыялах адносна Беларусі заходнееўрапейскія і амерыканскія палітолагі і эксперты звярталі ўвагу на асаблівасці геапалітычнага становішча гэтай краіны, аддавалі належнае паслядоўнай палітыцы яе ўрада ў галіне ядзернага раззбраення, выдзялялі адносна стабільную ў параўнанні з іншымі былымі рэспублікамі СССР грамадска-палітычную сітуацыю ў краіне, аналізавалі праблемы ваеннага будаўніцтва і знешняй палітыкі Рэспублікі Беларусь.

Актывізацыя інтарэсу заходніх СМІ да Беларусі адбылася ў пачатку 1994 г. Гэта было абумоўлена такімі падзеямі ва ўнутранай і знешняй палітыцы беларускай дзяржавы, як візіт прэзідэнта ЗША Б. Клінтана ў Мінск у студзені, адхіленне з пасады Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. Шушкевіча 26 студзеня, працэс аб'яднання грашовых сістэм Расіі і Беларусі, прэзідэнцкая кампанія, якая разгарнулася пасля прыняцця 15 сакавіка 1994 г. Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.

**Рэакцыя Захаду на адстаўку С. Шушкевіча.** У сувязі з візітам прэзідэнта ЗША ў Мінск, вядомыя сваёй інфармаванасцю і цеснымі сувязямі ў вашынгтонскіх калідорах улады палітычныя аглядальнікі Р. Эванс і Р. Новак пісалі ў «Вашынгтон пост», што галоўнай асаблівасцю Рэспублікі Беларусь з'яўляецца яе статус «сатэліта Масквы нумар адзін» і што яна найбольш падатліва з усіх астатніх былых савецкіх рэспублік адносна ўз'яднання з Расіяй. На брыфінгу ў Вашынгтоне 16 снежня 1993 г. прадстаўнік адміністрацыі ЗША заявіў, што «Беларусь — гэта вельмі важная краіна». Гэтую ацэнку трэба разглядаць не толькі як даніну дыпламатычнай модзе. Яна адлюстроўвала важнае геапалітычнае становішча Беларусі ва ўсходнееўрапейскім рэгіёне, на што асобна звярнулі ўвагу ў Белым доме.

Падводзячы вынікі візіту прэзідэнта ЗША у Мінск, «Нью-Йорк Таймс» пісала 31 студзеня 1994 г., што Б. Клінтан сустрэўся з С.

Шушкевічам і В. Кебічам, каб выказаць Беларусі ўдзячнасць за згоду дэманціраваць 81 стратэгічную ядзерную ракету і запэўніць беларускае кіраўніцтва ў амерыканскай падтрымцы правядзення эканамічных рэформ і датэрміновых парламенцкіх выбараў.

Але станоўчыя вынікі візіту прэзідэнта ЗША былі ў немалой ступені абясцэнены адхіленнем С. Шушкевіча з пасады Старшыні Вярхоўнага Савета, якое адбылося праз 10 дзён пасля ад'езду Б. Клінтана. Адстаўка С. Шушкевіча, з якім прэзідэнт наладзіў цесныя партнёрскія адносіны, была ўспрынята ў ЗША як удар па палітычным прэстыжы Б. Клінтана і дэмакратычных рэформах у Беларусі.

На брыфінгу прэс-сакратара Белага дома Д. Майерс 28 студзеня 1994 г. вызваленне С. Шушкевіча з пасады было названа актам, «дастойным шкадавання». Д. Майерс адзначыла, што ў ходзе свайго еўрапейскага турнэ Б. Клінтан наведаў Мінск, каб аказаць маральную падтрымку С. Шушкевічу, «які прыняў праграму эканамічных і палітычных рэформ, але ж не здолеў атрымаць падтрымку заканадаўцаў». Прэс-сакратар Белага дома ахарактарызавала С. Шушкевіча як «рэфарматара, які выступае за радыкальныя эканамічныя рэформы, дэмакратызацыю і дэнуклеарызацыю». Яна падкрэсліла, што на Беларусі існуе моцны нацыянальны кансэнсус адносна ліквідацыі ядзернай зброі і выказала ўпэўненасць, што такая пазіцыя беларускага грамадства захаваецца ў будучым. Д. Майерс заявіла аб падтрымцы эканамічных рэформ у Беларусі, падкрэсліўшы адначасова, што амерыканская і міжнародная дапамога «будзе залежаць ад таго, як пойдуць рэформы». На прамой залежнасці міжнароднай дапамогі ўраду В. Кебіча ад ходу эканамічных рэформ настойваў лідэр БНФ З. Пазняк падчас сустрэчы з Б. Клінтанам у Мінску.

Афіцыйны прадстаўнік дзяржаўнага дэпартамента ЗША М. Манеры ў ходзе свайго брыфінгу таксама ўдзяліў вялікую ўвагу палітычнай сітуацыі ў Беларусі пасля адстаўкі С. Шушкевіча. Ад імя ЗША ён выказаў занепакоенасць у сувязі з рашэннем Вярхоўнага Савета аб вызваленні С. Шушкевіча з пасады. М. Манеры адзначыў прыкметны ўклад С. Шушкевіча «ў дасягненне міру і стабільнасці ў Еўропе і развіццё адносін паміж ЗША і Беларуссю». Ён расцаніў як «вельмі істотную» заяву міністра замежных спраў у П. Краўчанкі ад 27 студзеня 1994 г. перад акрэдытаванымі ў Мінску прадстаўнікамі замежных дзяржаў аб нязменнасці і паслядоўнасці знешнепалітычнай лініі Беларусі, у першую чаргу ў галіне ядзернага раззбраення.

У час брыфінгу прэс-сакратара Белага дома Д. Майерс 8 лютага 1994 г. ёй было зададзена пытанне: «Ці згаджаецеся Вы са сцвярджэннем, што беларускі ўрад становіцца больш кансерва-

тыўным і пераходзіць да правядзення дагматычнай палітыкі?». Адказ быў даволі красамоўным: «Ніхто і ніколі не лічыў, што ў беларускім урадзе было шмат рэфарматараў. Там заўсёды існавала цяжкае становішча». Далей Д. Майерс казала, што ЗША падтрымлівалі С. Шушкевіча, паколькі ён быў прыхільнікам рэформ і не з'яўляўся камуністам. Яна падкрэсліла, што галоўным напрамкам доўгатэрміновай палітыкі ЗША будзе курс на супрацоўніцтва з урадам В. Кебіча і імкненне заахвоціць яго да правядзення рэформ.

«Нью-Йорк Таймс» у каментарыі да падзей у Беларусі адзначала, што ў выніку вымушанай адстаўкі С. Шушкевіча Беларусь апынулася ў руках тых жа кіраўнікоў кампартыі, якія кіравалі ёй да падзення СССР. Газета ахарактарызавала С. Шушкевіча і В. Кебіча як лідэраў дзвюх супрацьлеглых знешнепалітычных арыентацый Беларусі. У той час як Шушкевіч «быў моцным прыхільнікам незалежнасці Беларусі і яе аддзялення ад Масквы», Кебіч выступаў за больш цесныя сувязі з Расіяй, «амаль за аб'яднанне абодвух дзяржаў». Газета папярэджвала, што аб'яднанне Расіі з Беларуссю можа прывесці да адраджэння імперыі, што непажадана для ЗША і Захаду.

«Нью-Йорк Таймс» прааналізавала палітыку ўрада В. Кебіча, накіраваную на збліжэнне з Расіяй, і заключыла, што прэм'ер-міністр ужо дасягнуў стварэння ваеннага саюза Беларусі з Расіяй, які прадугледжвае абарону Беларусі з боку Расіі. Наступным крокам урада Кебіча газета лічыла ўсталяванне эканамічнага саюза дзвюх дзяржаў, у выніку чаго «фінансавая палітыка Мінска будзе падпарадкавана Маскве ў абмен на танную энергію і расійскія рублі».

«Вашынгтон пост» 31 студзеня 1994 г. таксама прысвяціла аналітычны артыкул палітычнаму становішчу ў Беларусі. Газета пісала, што пасля С. Шушкевіча «Беларусь стане менш незалежнай краінай і, у хуткім часе, фактычным пратэктаратам Расіі». У адрозненне ад Украіны, якая ў жніўні 1991 г. пераважнай большасцю прагаласавала за незалежнасць ад Савецкага Саюза, Беларусь, пісала газета, ніколі не імкнулася да незалежнасці. Калі ў выніку падзей у жніўні 1991 г. Беларусь атрымала незалежнасць, для беларусаў яна з'явілася нечаканай і застала іх знянацку. «Вашынгтон пост» зрабіла выснову: «Многія кіраўнікі ўрада і заканадаўцы, якія засталіся з часу камуністычнай эры, ніколі не падтрымлівалі ідэю незалежнасці і імкнуліся адмяніць нечаканае аддзяленне ад Масквы».

Значны па памерах матэрыял аб развіцці падзей у Беларусі змясціла нямецкае выданне «Архіў дэр Гегенварт». Ён быў прысвечаны змене ўлады ў кіраўніцтве беларускім парламентам, аднак фактычна змяшчаў аналіз падзей у Беларусі з 1990 г. Сутнасць

апошніх падзей у краіне выкладалася наступным чынам: «Камуністычная большасць у беларускім Вярхоўным Савеце звергла 26 студзеня рэфарматарскі настроенага кіраўніка парламента і фактычнага кіраўніка дзяржавы Станіслава Шушкевіча метадам вотуму недаверу, новым кіраўніком дзяржавы абраны камуніст Мечыслаў Грыб» (М. Грыб не з'яўляўся членам Камуністычнай партыі, але быў у той час прадстаўніком наменклатурнай большасці ў Вярхоўным Савеце. — У. С.).

«Архіў дэр Гэгенварт» прасочваў развіццё падзей у Беларусі на фоне збліжэння апошняй з Расіяй і СНД і паглыблення палітычных рознагалоссяў паміж С. Шушкевічам і В. Кебічам. Нямецкае выданне адзначала, што сапраўдная прычына адстаўкі С. Шушкевіча — не яго «карумпаванасць і прыватная нясціпласць», як гаварылася ў пастанове Вярхоўнага Савета, а ў даўніх палітычных рознагалоссях паміж Шушкевічам, з аднаго боку, і ўрадам і парламентам — з другога. Падкрэслівалася, што Шушкевіч як прыхільнік рыначнай эканомікі і дэмакратычнай дзяржавы, знешнепалітычнай незалежнасці ад Расіі і нейтралітэту Беларусі змагаўся з парламентам, дзе большасць мелі камуністы, выбраныя ў савецкі час, а таксама з кабінетам Кебіча, які знаходзіўся пад уладай наменклатуры, перашкаджаў эканамічным рэформам і выступаў ва ўсіх палітычных галінах за цеснае збліжэнне з Расіяй. Звярталася ўвага на тое, што пры абмеркаванні пытання ў парламенце аб вотуме недаверу В. Кебічу апошняга абвінавачвалі ў растраце 3 млн дол., але той утрымаў сваю пасаду. Цікава, што гэты факт не фігураваў у беларускай прэсе.

Усе заходнееўрапейскія выданні выказвалі заклапочанасць і асцярогу адхіленнем С. Шушкевіча ад улады. У сувязі з заявай П. Краўчанкі аб тым, што адхіленне С. Шушкевіча з'яўляецца звычайнай працэдурай адстаўкі і што знешнепалітычны курс Беларусі не зменіцца, заходнія СМІ канстатавалі, што міністр не змог развеяць заклапочанасці Вашынгтона аб будучым курсе Беларусі. У каментарыі «Радыё Варшавы» выказвалася асаблівая заклапочанасць умацаваннем уплыву расійскіх нацыяналістычных і камуністычных сіл на Мінск і стварэннем умоў для цеснай інтэграцыі Беларусі з Расіяй.

Прыведзенага вышэй далёка не поўнага агляду рэакцыі Захаду на адхіленне С. Шушкевіча ад улады дастаткова для высновы аб тым, што заходнія палітыкі і аглядальнікі лічылі Беларусь самай цесна звязанай з Расіяй рэспублікай былога СССР, кіраўніцтва якой не імкнулася праводзіць незалежную ад Масквы палітыку. Нельга не адзначыць уласцівай для заходняй палітычнай думкі персаніфікацыі палітычнага працэсу (у дадзеным выпадку вакол імёнаў С. Шушкевіча

і В. Кебіча), хаця такі падыход не зусім адэкватна адлюстроўваў расстаноўку палітычных сіл у Беларусі. Заходні друк канстатаваў, што пасля С. Шушкевіча Беларусь стала іншай краінай. Гэта пацвердзілася ўжо летам 1994 г. Адстаўка Шушкевіча азначала аслабленне нацыянальна-дэмакратычных сіл і ўмацаванне пазіцый «партыі ўлады» і наменклатуры.

**Праблема аб'яднання грашовых сістэм Беларусі і Расіі**. На думку большасці беларускіх эканамістаў, галоўным ініцыятарам раз'яднання грашовай сістэмы на базе рубля СССР, куды ўваходзіла і Беларусь, з'яўлялася Расія, якая правяла ў 1992-1993 гг. валютную рэформу. Пасля гэтага Расія прапанавала Беларусі аб'яднаць грашовыя сістэмы абедзвюх дзяржаў на новай аснове (на базе расійскага рубля), і адпаведнае пагадненне было падпісана ў Маскве 8 верасня 1993 г. (ратыфікавана Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь 18 лістапада 1993 г). Для надання палітычнага стымулу працэсу фінансава-валютнай інтэграцыі 5 студзеня 1994 г. прэм'ер-міністры Расіі і Беларусі В. Чарнамырдзін і В. Кебіч падпісалі пагадненне аб аб'яднанні грашовых сістэм дзвюх краін. Далей за працу ўзяліся эксперты.

Між тым як у Расіі, так і ў Беларусі ўплывовыя палітычныя сілы і аўтарытэтныя эканамісты выступілі супраць узгодненых раней умоў аб'яднання грашовых сістэм. Расійскія парламентарыі Я. Гайдар, Б. Фёдараў і інш. убачылі ў ільготным курсе абмену, гіганцкіх крэдытах для Беларусі на пакупку расійскай сыравіны па ўнутраных, а не па сусветных цэнах, пагрозу расійскім інтарэсам, што ў выніку прывядзе да нарастання інфляцыі ў Расіі. Аб нявыгаднасці для Расіі грашовага саюзу з Беларуссю пісаў і вядомы польскі эканаміст М. Дамброўскі. Разам з тым расійскае кіраўніцтва выказала гатоўнасць ісці на такія страты, зыходзячы з геапалітычных інтарэсаў. У прыватнасці, Б. Фёдараў заявіў, што аб'яднанню грашовых сістэм павінна папярэднічаць палітычнае аб'яднанне, г. зн. поўнае аб'яднанне Расіі і Беларусі.

Урад В. Кебіча і «партыя ўлады» бачылі ў расійскім рублі выратавальнае кола для захавання сваёй улады і каманднай эканомікі, а пры далейшым паглыбленні эканамічнага крызісу маглі б выставіць Расію як віноўніцу ўсіх бед. Яны таксама разлічвалі выкарыстаць поспехі ў аб'яднанні грашовых сістэм як палітычны козыр на будучых прэзідэнцкіх і парламенцкіх выбарах.

У друку актыўна абмяркоўваліся плюсы і мінусы аб'яднання. Указвалася, што ахвяры Расіі ў выніку розніцы цэн (1 млрд дол.) з лішкам кампенсуюцца расходамі Беларусі на ўтрыманне расійскіх войскаў на сваёй тэрыторыі (1,9 млрд дол. кожны год). Звярталася ўвага і на тое, што нявыгадныя перспектывы аб'яднання прывядуць у

Беларусі да рэзкіх хістанняў валютных курсаў і замарожвання камерцыйнай дзейнасці, што ў выніку абернецца для краіны стратай да 1/3 нацыянальнага даходу.

У пачатку сакавіка 1994 г. старшыня Нацыянальнага банка Беларусі (НББ) С. Багданкевіч прыўзняў заслону над перагаворамі аб аб'яднанні грашовых сістэм. Ён заявіў, што Расія адышла ад узгодненых у пачатку 1994 г. умоў і вылучыла новыя патрабаванні: разлікі паміж Беларуссю і Расіяй праводзіць на аснове клірынгу ў межах астаткаў сродкаў НББ у Цэнтральным банку Расіі (ЦБР); ліквідацыя НББ і адкрыццё ў Мінску філіяла ЦБР; цэны на энерганосьбіты для спажыўцоў абедзвюх краін абавязаны быць рознымі і г. д. С. Багданкевіч назваў прапановы Масквы «непрымальнымі» і абвясціў, што аб'яднанне грашовых сістэм магчыма толькі пры ўмове вяртання расійскага палітычнага кіраўніцтва да ўзгодненых раней пазіцый.

Аднак урад В. Кебіча працягваў цвёрды курс на аб'яднанне, не забываючы крытыкаваць расійскіх апанентаў Дагавора аб аб'яднанні грашовых сістэм. 15 сакавіка прэс-сакратар Старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь У. Замяталін заявіў: «Беларускі ўрад добра разумее, што не Гайдары, не Фёдаравы пішуць гісторыю дзвюх славянскіх дзяржаў, а іх народы і палітыкі, якія цвяроза разважаюць».

18 сакавіка Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь на закрытым пасяджэнні разгледзеў сітуацыю вакол аб'яднання грашовых сістэм. У той час як В. Кебіч ацаніў перагаворны працэс аптымістычна, С. Багданкевіч папярэдзіў аб «завышаных чаканнях». Вярхоўны Савет прыняў рашэнне не прымаць у якасці плацежнага сродку беларускі рубель, бо гэта можа пагоршыць перагаворны працэс з Расіяй.

На перагаворах В. Кебіча са старшынёй Фінансавага камітэта Савета Федэрацыі Расіі Н. Ганчаром, якія адбыліся 23 сакавіка, апошні заявіў, што Расія не ставіць горшых для Беларусі ўмоў, у тым ліку аб ліквідацыі НББ і стварэнні адзінага бюджэту. З'яўленне такіх патрабаванняў ён растлумачыў спробай сарваць заключную стадыю перагавораў.

**Дагавор аб аб'яднанні грашовых сістэм і яго правал.** 12 красавіка 1994 г. у Маскве В. Чарнамырдзін і В. Кебіч падпісалі Дагавор аб аб'яднанні грашовай сістэмы Рэспублікі Беларусь і грашовай сістэмы Расійскай Федэрацыі і ўмовах функцыянавання адзінай грашовай сістэмы. Таксама былі падпісаны міжурадавыя пагадненні аб адзіным механізме кіравання бюджэтнымі сістэмамі дзвюх дзяржаў, адзіным парадку рэгулявання знешнеэканамічнай дзейнасці

і пратаколы. Палітычная барацьба вакол эканамічнага і фінансавага саюза, якая ішла з восені 1993 г., прывяла да выніку, сутнасць якога адлюстраваў загаловак у «Известиях»: «Беларусь абмяняла частку свайго суверэнітэту на расійскія рублі». У сваю чаргу Расія праявіла гатоўнасць падзяліцца з Беларуссю сваім фінансава-эканамічным патэнцыялам дзеля геапалітычных выгод.

Нягледзячы на заяву В. Кебіча аб тым, што Дагавор пачынае працаваць з моманту падпісання, галоўнай праблемай у яго выкананні стаў арт. 5 аб банках, паводле якога грашовая маёмасць Рэспублікі Беларусь перадаецца на баланс Расійскай Федэрацыі і ствараецца адзіны банк. ЦБР набываў правы адзінага эмісійнага цэнтра, правядзення ўсёй крэдытна-фінансавай палітыкі на адзінай расійска-беларускай фінансавай прасторы. Старшыня НББ С. Багданкевіч падпісаў Дагавор з агаворкай, якая ўказвала на неадпаведнасць арт. 5 Дагавора толькі што прынятай Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. Гэта агаворка пазбаўляла сэнсу ўсе астатнія артыкулы Дагавора.

Пасля вяртання з Масквы Кебіч расцаніў дагавор як адзіны спосаб захаваць суверэнітэт Беларусі. «Я зрабіў свой выбар. Гэта выбар майго жыцця. У саюзе з Расіяй наша выратаванне», — заявіў ён, адзначыўшы адначасова, што мы не адмаўляемся ад суверэнітэту. Але Кебіч не мог праігнараваць яўную неадпаведнасць Дагавора Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. Ён растлумачыў гэта тым, што Расія настаяла на патрабаванні выключнага вызначэння эмісійнай палітыкі іменна ёй. Для выпраўлення канстытуцыйнага тупіка ён прапанаваў унесці папраўкі ў беларускую Канстытуцыю, якая ўступіла ў сілу 30 сакавіка 1994 г.

Старшыня Вярхоўнага Савета РБ М. Грыб прапанаваў больш зручны варыянт, які не кранаў бы толькі што прынятую Канстытуцыю. Паколькі ў адпаведнасці з Дагаворам бакі мелі права ўносіць папраўкі ў яго змест па ўзаемаразуменні, то Рэспубліка Беларусь магла б унесці папраўкі ў арт. 5 аб статусе НББ, каб гэта не супярэчыла Канстытуцыі РБ. З такім падыходам пагадзіўся расійскі прэзідэнт Б. Ельцын пры сустрэчы з М. Грыбам і В. Кебічам падчас пасяджэння Савета кіраўнікоў дзяржаў і ўрадаў СНД, які адзначыў, што «лепш дапрацаваць тэкст Дагавора, чым мяняць Канстытуцыю».

Большасць жыхароў Беларусі спакойна, без асобага энтузіязму сустрэла Дагавор. Агульнанацыянальнае апытанне ў маі паказала, што ў падтрымку Дагавора выступала 70,6 % апытаных, 15,8 % — супраць, 12,6 % — не далі адказу. Аднак гэтыя лічбы не маглі схаваць скептычных адносін большасці насельніцтва да магчымасці

своечасова атрымліваць свае грошы ў расійскіх рублях у той час, калі шахцёры Варкуты не атрымлівалі зарплаты месяцамі.

Супраць Дагавора выступілі прадстаўнікі БНФ, нацыянальнай інтэлігенцыі, шэраг эканамістаў. Старшыня камісіі па навуцы і навукова-тэхнічным прагрэсе Вярхоўнага Савета, член апазіцыі БНФ У. Заблоцкі прааналізаваў тэкст Дагавора па ксеракопіі, паколькі сам Дагавор не быў апублікаваны, і знайшоў у ім шэраг супярэчнасцей з Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь. Ён адзначыў, што дзяржаўнасць Беларусі на гэтым скончыцца, бо гэта не аб'яднанне, а ўступленне ў грашовую сістэму Расіі. У. Заблоцкі ўказаў на «надзвычайную нахабнасць і непавагу да дзяржавы Рэспублікі Беларусь і прынятай Канстытуцыі» артыкула, які ўводзіў у дзеянне Дагавор з I мая 1994 г. без працэдуры ратыфікацыі. Парламентарый падкрэсліў, што ўрад на чале з В. Кебічам зрабіў злачынства супраць дзяржавы. У. Заблоцкі звярнуўся да жыхароў Беларусі, Генеральнага пракурора, Вярхоўнага Суда Рэспублікі Беларусь з заклікам абараніць канстытуцыйны лад ад злачынных дзеянняў такога ўрада.

6 дэпутатаў Вярхоўнага Савета ад Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады звярнуліся 13 красавіка 1994 г. да Прэзідыума Вярхоўнага Савета з патрабаваннем даручыць Генеральнаму пракурору неадкладна правесці расследаванне і пры неабходнасці ўзбудзіць крымінальную справу адносна ўдзельнікаў падрыхтоўкі і падпісання Дагавора. Дэпутаты ад апазіцыі патрабавалі ўключыць у парадак дня запланаванай на 27 красавіка пазачарговай сесіі Вярхоўнага Савета пытанне аб адстаўцы прэм'ер-міністра і членаў яго ўрада «за антыканстытуцыйную дзейнасць». Але Прэзідыум Вярхоўнага Савета не прыняў рашэння па дадзенаму звароту.

XI з'езд пісьменнікаў Беларусі прыняў 27 красавіка зварот да беларускага народа, у якім выказаў глыбокую занепакоенасць намерамі пэўных палітычных сіл уключыць Рэспубліку Беларусь у склад Расійскай Федэрацыі. Падпісанне Дагавора аб аб'яднанні грашовых сістэм разглядалася як першы крок да гэтага. У звароце гаварылася: «Мы глыбока перакананы, што гэтыя супрацьзаконныя акты вядуць нашу рэспубліку да страты суверэнітэту, незалежнасці і ператварэння яе ў каланіяльны прыдатак Расійскай Федэрацыі, для размяшчэння на тэрыторыі беларускай зямлі стратэгічнай зброі, якая нясе пагрозу ядзернага знішчэння беларускага народа...».

Сур'ёзная апазіцыя Дагавора ў беларускім грамадстве вымусіла ўрад Кебіча распачаць экстранныя меры па яго хутчэйшаму выкананню. 19 мая адбылася чарговая сустрэча ў Маскве В. Чарнамырдзін і В. Кебіча, на якой узгадняліся меры па зняцці мытных

пошлін і іншыя меры па паглыбленні эканамічнай інтэграцыі. Яшчэ раней, 30 красавіка, расійскі ўрад прыняў дакумент, які прадугледжваў зняцце мытных пошлін на ўсе віды беларускіх і расійскіх тавараў. Але С. Багданкевіч даў зусім іншую ацэнку сітуацыі з выкананнем Дагавора. Ён заявіў, што Расія не адмяняла мытныя зборы і падаткі ў той час, калі Беларусь адмяніла іх у красавіку. Старшыня НББ назваў усе заявы ўрада Кебіча не адпавядаючымі рэчаіснасці, адзначыўшы, што Беларусь пакуль нясе значныя страты ў гандлі з Расіяй.

Пасля таго як расійскі бок адмовіўся зняць свае пярэчанні і ўлічыць думку НББ, С. Багданкевіч назваў Дагавор «мёртванароджаным» і падкрэсліў, што «аб'яднанне грашовых сістэм не адбылося». Па яго словах, Расія адышла ад вераснёўскіх дамоўленасцей 1993 г. і спрабуе падпарадкаваць сабе Беларусь калі не палітычна, дык эканамічна. Ён падкрэсліў, што выступае за інтэграцыю з Расіяй, але на раўнапраўных умовах. Старшыня НББ, абясцэніўшы сваёй агаворкай Дагавор, узяў курс на ўмацаванне беларускага рубля. У канцы мая на пасяджэнні праўлення НББ было прынята рашэнне аб устанаўленні афіцыйнага курсу беларускага разліковага білета да расійскага рубля. Гэта азначала, што «заяц» станавіўся адзіным законным плацежным сродкам на тэрыторыі Беларусі і набываў статус нацыянальнай валюты.

С. Багданкевіч прапанаваў замест аб'яднання грашовых сістэм заключыць з Расіяй двухбаковы плацежны саюз. Гэты варыянт падыходзіў і для Расіі. У пачатку чэрвеня расійскі ўрад накіраваў ураду В. Кебіча прапановы і праект пагаднення па забеспячэнні ўзаемнай канвертаванасці нацыянальных валют, якое мела сваёй мэтай фарміраванне плацежнага саюза на базе нацыянальных валют. Характэрна, што ў дадзеным дакуменце ўжо нічога не гаварылася аб аб'яднанні грашовых сістэм абедзвюх краін.

У прэзідэнцкай кампаніі В. Кебічу не ўдалося зрабіць Дагавор аб аб'яднанні грашовых сістэм казырнай картай сваёй перадвыбарчай праграмы, у якой гэты Дагавор нават не ўпамінаўся. Разам з тым В. Кебіч папярэджваў выбаршчыкаў, што ў выпадку яго неабрання прэзідэнтам уступленне Беларусі ў рублёвую зону можа не адбыцца.

У ходзе перагавораў В. Кебіча і В. Чарнамырдзіна 2 ліпеня, якія адбыліся пасля першага тура галасавання, дзе ўпэўнена перамог А. Лукашэнка, дасягнута дамоўленасць аб неабходнасці выпраўлення тэксту Дагавора, каб зняць непрымальныя для Беларусі ўмовы. Ідэя рэалізацыі гэтага шматпакутнага дакумента набывала другое дыханне. А Кебіч атрымаў жаданую для яго маральна-палітычную падтрым-

ку ад Расіі напярэдадні другога, вырашальнага тура прэзідэнцкіх выбараў. Але гэтага ўжо было недастаткова, каб пераламаць сітуацыю на сваю карысць. Такую ж падтрымку Масква паабяцала і А. Лукашэнку, які ўпэўнена ішоў да перамогі. Пасля яго абрання прэзідэнтам праект аб'яднання грашовых сістэм быў адкладзены як мінімум на 5 гадоў, каб зноў узнікнуць у 2000 г. у форме ўвядзення адзінай грашовай адзінкі ў межах Саюзнай дзяржавы.

## Тэма 4
## ЗНЕШНЯЯ ПАЛІТЫКА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ: ВЫНІКІ ПЕРШАГА ДЗЕСЯЦІГОДДЗЯ

**Гістарычныя падставы знешняй палітыкі незалежнай Беларусі**. Нягледзячы на актывізацыю знешнепалітычнай дзейнасці і пашырэнне міжнародных сувязей рэспублікі ў пасляваенныя дзесяцігоддзі, пэўную эвалюцыю іх зместу і форм, яны не падняліся на якасна новую ступень, а іх узровень, практычныя вынікі не адпавядалі эканамічнаму, навукова-тэхнічнаму і культурнаму патэнцыялу, запатрабаванням сацыяльна-эканамічнага і культурнага развіцця Беларусі. Артыкул 28 Канстытуцыі БССР 1978 г. сцвярджаў, што рэспубліка «ў знешнепалітычнай дзейнасці кіруецца мэтамі, задачамі і прынцыпамі знешняй палітыкі СССР, вызначанымі Канстытуцыяй СССР». Канстытуцыя СССР 1977 г. адносіла да кампетэнцыі Саюза ССР устанаўленне агульнага парадку і каардынацыю адносін саюзных рэспублік з замежнымі дзяржавамі і міжнароднымі арганізацыямі; прадстаўніцтва СССР у міжнародных адносінах; сувязі СССР з замежнымі дзяржавамі і міжнароднымі арганізацыямі; знешні гандаль і іншыя віды знешнеэканамічнай дзейнасці на аснове дзяржаўнай манаполіі. Закон СССР аб парадку заключэння, выканання і дэнансацыі міжнародных дагавораў 1978 г. канкрэтызаваў і пашырыў паўнамоцтвы саюзных рэспублік у рэалізацыі міжнародна-прававой кампетэнцыі Саюза ССР.

Але ўвогуле прававыя асновы нацыянальна-дзяржаўнага будаўніцтва СССР у галіне міжнароднай дзейнасці, закладзеныя ў сталінскія часы, закансерваваліся, акасцянелі ў гады застою, не былі дапоўнены неабходнымі юрыдычнымі, палітыка-дыпламатычнымі і арганізацыйна-практычнымі мерапрыемствамі. Пэўнае ажыўленне знешнепалітычнай дзейнасці БССР адбылося ў час перабудовы. Гэта праявілася перш за ўсё ў актывізацыі замежных сувязей з Польшчай і іншымі дзяржавамі, развіцці знешнегандлёвых, культурных і гуманітарных кантактаў з заходнімі краінамі, пастаноўцы праблемы Чарнобыля на

форуме нацый, развіцці міжпарламенцкіх сувязей, павароце да беларускай эміграцыі, дыпламатычных намаганнях, накіраваных на рэалізацыю нацыянальных інтарэсаў беларускага народа.

БССР не выступала на міжнароднай арэне як самастойны суб'ект еўрапейскай і сусветнай палітыкі, не атрымала міжнародна-прававога прызнання як суверэнная і незалежная дзяржава. Рэспубліка не мела дыпламатычных адносін ні з адной дзяржавай свету, а яе прадстаўніцтвы пры міжнародных арганізацыях фактычна з'яўляліся філіяламі агульнасаюзных прадстаўніцтваў. Толькі дасягненне рэальнага суверэнітэту адкрывала перад Беларуссю перспектыву ўваходжання ў сусветную супольнасць дзяржаў і правядзення знешняй палітыкі ва ўласных нацыянальных інтарэсах.

Пасля абвяшчэння незалежнасці 25 жніўня 1991 г. і дэнансацыі Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь 10 снежня 1991 г. Саюзнага дагавора Беларусь выйшла на міжнародную арэну ў дзвюх якасцях: як новая незалежная дзяржава і як еўрапейская краіна, маючая глыбокія гістарычныя традыцыі дзяржаўнасці і знешняй палітыкі. Рэспубліка Беларусь з'яўляецца спадкаемніцай дзяржаў, што існавалі на тэрыторыі Беларусі: старажытнабеларускіх дзяржаў-княстваў, Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага, Беларускай Народнай Рэспублікі, Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі, выступае гістарычным нашчадкам іх багатай знешнепалітычнай спадчыны і геапалітычных традыцый.

Да найважнейшых знешнепалітычных традыцый беларускай дзяржаўнасці адносяцца: неабходнасць захавання суверэнітэту і незалежнасці Беларусі пры ўступленні ў федэратыўныя дзяржавы з іншаэтнічным дамінаваннем; улік гістарычнага вопыту знаходжання беларускага этнасу і беларускай дзяржавы ў федэратыўных і імперскіх дзяржавах з іншаэтнічным дамінаваннем (Рэчы Паспалітай, Расійскай імперыі, Савецкага Саюза); забеспячэнне непадзельнасці і тэрытарыяльнай цэласнасці беларускай дзяржавы; улік фактару поліэтнічнасці і поліканфесійнасці народа Беларусі ў планаванні і правядзенні знешняй палітыкі дзяржавы; геапалітычная важнасць збалансаванага і раўназначнага развіцця двух вектараў беларускай знешняй палітыкі — усходняга і заходняга.

**Мэты, задачы і прынцыпы беларускай знешняй палітыкі**. З набыццём незалежнасці пачаўся новы перыяд у гісторыі беларускай дзяржаўнасці і знешнепалітычнай дзейнасці Беларусі. Ён вызначаецца станаўленнем знешняй палітыкі і дыпламатыі Рэспублікі Беларусь. У адпаведнасці з Дэкларацыяй аб дзяржаўным суверэнітэце, актамі аб ліквідацыі СССР і ўтварэнні Садружнасці Незалежных Дзяржаў

Вярхоўны Савет і ўрад Рэспублікі Беларусь заявілі аб будаўніцтве незалежнай дзяржавы і правядзенні самастойнай унутранай і знешняй палітыкі. Канстытуцыя краіны замацавала абавязацельствы дзяржавы зыходзіць у сваёй знешняй палітыцы з агульнапрызнаных прынцыпаў і норм міжнароднага права, якія абвешчаны прыярытэтнымі над нацыянальным заканадаўствам. Канстытуцыйную сілу набылі палажэнні Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце аб ператварэнні Беларусі ў бяз'ядзерную зону і нейтральную краіну.

**Канстытуцыйна-прававую базу** беларускай знешняй палітыкі складаюць: Дэкларацыя Вярхоўнага Савета БССР «Аб дзяржаўным суверэнітэце БССР» ад 27 ліпеня 1990 г., Заява Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь «Аб прынцыпах знешнепалітычнай дзейнасці Рэспублікі Беларусь» ад 3 кастрычніка 1991 г., Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь, прынятая 15 сакавіка 1994 г., змененая і дапоўненая 24 лістапада 1996 г., Канцэпцыя нацыянальнай бяспекі Рэспублікі Беларусь, зацверджаная Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь у ліпені 2001 г. (першая рэдакцыя прынята 23 ліпеня 1995 г.), Ваенная дактрына Рэспублікі Беларусь, зацверджаная Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь у студзені 2002 г. (першая рэдакцыя прынята 16 СН6ЖНЯ 1992 г.), іншыя дакументы, прынятыя Прэзідэнтам, Вярхоўным Саветам і Нацыянальным сходам РБ, якія рэгулююць дзейнасць дзяржаўных органаў улады ў галіне знешняй палітыкі і таксама агульнапрызнаныя прынцыпы і нормы міжнароднага права, зафіксаваныя у Статуце ААН, Хельсінскім заключным акце, Парыжскай хартыі для новай Еўропы і іншых дакументах АБСЕ. У адрозненне ад большасці замежных дзяржаў у Беларусі пакуль што няма афійцыйна прынятай канцэпцыі знешняй палітыкі.

У пачатку XXI ст. сфарміраваліся **асноўныя прынцыпы** беларускай знешняй палітыкі, да якіх адносіліся: адпаведнасць знешнепалітычных мэт нацыянальным рэсурсам; прыярытэт агульнапрызнаных прынцыпаў і норм міжнароднага права; развіццё ўсебаковага супрацоўніцтва з замежнымі дзяржавамі і міжнароднымі арганізацыямі; добраахвотнасць уваходжання і ўдзелу ў міждзяржаўных утварэннях; адданасць палітыцы паслядоўнай дэмілітарызацыі міжнародных адносін; адсутнасць тэрытарыяльных прэтэнзій да памежных дзяржаў і непрызнанне тэрытарыяльных прэтэнзій да Рэспублікі Беларусь. **Стратэгічнымі мэтамі** знешняй палітыкі Беларусі з'яўляліся: абарона суверэнітэту і незалежнасці дзяржавы; абарона інтарэсаў грамадзян, грамадства і дзяржавы; захаванне бяз'ядзернага статуса.

**Асноўнымі задачамі** беларускай знешняй палітыкі з'яўляюцца: стварэнне знешніх умоў для павышэння дабрабыту народа, умаца-

ванне палітычнага, эканамічнага, культурнага і духоўнага патэнцыялу дзяржавы; раўнапраўная інтэграцыя Беларусі ў сусветную палітычную, эканамічную, навуковую, культурную і інфармацыйную прастору; садзейнічанне пабудове стабільнага, справядлівага, дэмакратычнага мірапарадку, заснаванага на прынцыпах міжнароднага права; фарміраванне добрасуседскіх адносін з памежнымі дзяржавамі; абарона правоў і інтарэсаў грамадзян Беларусі за мяжой.

**Асноўнымі прыярытэтнымі напрамкамі** знешняй палітыкі Рэспублікі Беларусь з'яўляюцца: развіццё ўзаемавыгадных адносін з Расійскай Федэрацыяй; развіццё стабільных адносін з Еўрапейскім саюзам і дзяржавамі — яго ўдзельніцамі; умацаванне супрацоўніцтва з дзяржавамі СНД; удзел у Еўразійскім эканамічным супольніцтве; падтрыманне і развіццё сяброўскіх адносін з суседнімі дзяржавамі; развіццё сяброўскіх адносін з усімі еўрапейскімі дзяржавамі з мэтай дасягнення Беларуссю статуса раўнапраўнага ўдзельніка агульнаеўрапейскіх інтэграцыйных працэсаў; развіццё раўнапраўных адносін з ЗША; развіццё ўзаемавыгаднага супрацоўніцтва з дзяржавамі Азіі (у першую чаргу з Кітаем, Індыяй, Японіяй), арабскага свету, Афрыкі; павышэнне ўзроўню палітычнага і эканамічнага супрацоўніцтва з краінамі Лацінскай Амерыкі; умацаванне кансалідуючай ролі ААН на глабальным і рэгіянальным узроўнях; удзел Беларусі ў шматбаковым супрацоўніцтве ў якасці фактару інтэграцыі краіны ў сусветнае супольніцтва; развіццё шматбаковага супрацоўніцтва па пытанні міжнароднай бяспекі і раззбраення, прадухілення і ліквідацыі надзвычайных сітуацый, ліквідацыі наступстваў на Чарнобыльскай АЭС; супрацоўніцтва з НАТА па пытанні мер даверу і бяспекі ў ваеннай сферы, забеспячэнне еўрапейскай бяспекі і стабільнасці, барацьбы з тэрарызмам, нелегальнай міграцыяй, аховы граніц, нацыянальнай бяспекі; падтрыманне асноўных падыходаў Руху недалучэння да праблем усеагульнай і рэгіянальнай бяспекі, да выраўноўвання базавых умоў развіцця краін незалежна ад іх эканамічнага патэнцыялу.

**Міжнароднае прызнанне Рэспублікі Беларусь**. З апошніх дзён снежня 1991 г. пачаўся працэс міжнароднага прызнання Рэспублікі Беларусь. Першымі дзяржавамі свету, якія прызналі незалежнасць Беларусі і ўстанавілі з ёй дыпламатычныя адносіны, былі Украіна і ЗША. Яны зрабілі гэта 27 і 28 снежня 1991 г. адпаведна. На працягу 1992 г. адбылося поўнае міжнароднае прызнанне Рэспублікі Беларусь. Па стане на 1 студзеня 2005 г. Рэспубліка Беларусь прызнана 159 дзяржавамі, з 157 устаноўлены дыпламатычныя адносіны. Беларусь за мяжой прадстаўляе 51 дыпламатычнае прадстаўніцтва ў 45 краінах свету, у тым ліку 42 пасольства, 2 пастаянных прадстаўніцтва

пры міжнародных арганізацыях, 7 генеральных консульстваў. За мяжой таксама функцыяніруюць 11 аддзяленняў пасольстваў Беларусі (10 у рэгіёнах Расійскай Федэрацыі, 1 у Боне, Германія). У Беларусі дзейнічаюць 33 пасольствы, 12 консульскіх устаноў, 12 прадстаўніцтваў міжнародных арганізацый, у тым ліку Выканаўчы камітэт і Эканамічны Суд СНД. Па сумяшчальніцтву ў Рэспубліцы Беларусь акрэдытавана 76 паслоў замежных дзяржаў.

Пасля абвяшчэння незалежнасці значна пашырылася дагаворна-прававая база міжнародных адносін РБ з замежнымі краінамі і міжнароднымі арганізацыямі. Агульная колькасць міжнародных дагавораў, выкананне якіх ажыццяўляла Рэспубліка Беларусь, складала больш за 2700, падпісана 47 інвестыцыйных і 76 гандлёва-эканамічных пагадненняў.

У 1992 г. Рэспубліка Беларусь была прынята ў Арганізацыю па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе (АБСЕ) і Савет Паўночнаатлантычнага Супрацоўніцтва (з 1997 г. — Савет еўраатлантычнага партнёрства), атрымала статус спецыяльна запрошанай дзяржавы ў Савеце Еўропы, а ў 1993 г. падала заяўку на прыём у гэтую арганізацыю. У 1995 г. дзяржава падпісала Дагавор аб партнёрстве і супрацоўніцтве і Часовае пагадненне па пытанні гандлю з Еўрапейскім саюзам, стала ўдзельнікам праграмы НАТА (Партнёрства дзеля міру), у 1996 г. уступіла ў Цэнтральнаеўрапейскую ініцыятыву.

Рэспубліка Беларусь значна пашырыла свой удзел у міжнародных універсальных і рэгіянальных арганізацыях. Яна — паўнапраўны член больш за 60 міжнародных міжурадавых арганізацый і іх органаў, і яшчэ ў 10 яна мае статус назіральніка.

**Уклад ва ўмацаванне міжнароднай бяспекі**. У пачатку 1990-х гг. прыярытэтнымі накірункамі знешняй палітыкі Рэспублікі Беларусь з'яўляліся: умацаванне рэальнага суверэнітэту і незалежнасці, супрацоўніцтва з дзяржавамі СНД у «арганізацыі» постсавецкай прасторы, наладжванне добрасуседскіх адносін з суседнімі дзяржавамі, ператварэнне Беларусі ў бяз'ядзерную і нейтральную дзяржаву, «вяртанне ў Еўропу» і развіццё сувязей з краінамі Захаду, міжнародная дапамога ў ліквідацыі вынікаў чарнобыльскай катастрофы.

Да сярэдзіны 1990-х гг. па ўсіх гэтых напрамках былі дасягнуты значныя вынікі. Асабліва трэба адзначыць беларускі ўклад ва ўмацаванне міжнароднай бяспекі ў галіне ядзернага раззбраення і кантролю над узбраеннямі. Беларусь атрымала ў спадчыну ад СССР самую высокую ў свеце канцэнтрацыю ваенных: I ваенны на 43 цывільныя асобы. Спатрэбілася шмат сіл і сродкаў для скарачэння арміі з 160 да 80 тыс. чалавек. У адпаведнасці з Дагаворам аб звычайных

узброеных сілах у Еўропе (ДЗУСЕ), да якога Беларусь далучылася ў 1992 г., краіна знішчыла каля 10 % узбраенняў і тэхнікі, ліквідаваных усімі 30 дзяржавамі — удзельніцамі ДЗУСЕ. Да канца 1996 г. Рэспубліка Беларусь выканала ўмовы Дагавора, што патрабавала ад яе значных фінансавых сродкаў. У сувязі з гэтым у 1995 г. рэалізацыя ДЗУСЕ была часова прыпынена. Беларусь стала першай краінай, якая ратыфікавала Пагадненне аб адаптацыі ДЗУСЕ ў 2000 г.

У 1992 г. за межы краіны была выведзена тактычная ядзерная зброя. У 1993 г. беларускі парламент ратыфікаваў Дагавор аб стратэгічных наступальных узбраеннях (СТАРТ—1) і Лісабонскі пратакол 1992 г., які прадугледжвае далучэнне Беларусі да Дагавора аб нераспаўсюджванні ядзернай зброі ў якасці няядзернай дзяржавы. У 1993 г. Рэспубліка Беларусь падпісала Канвенцыю аб забароне хімічнай зброі, у 1996 г. — Дагавор аб усеагульнай забароне выпрабаванняў ядзернай зброі. У лістападзе 1996 г. з тэрыторыі Беларусі была выведзена стратэгічная ядзерная зброя, і яна дэ-факта стала бяз'ядзернай дзяржавай. Паслядоўная палітыка Рэспублікі Беларусь у сферы ядзернага раззбраення атрымала высокае міжнароднае прызнанне.

Беларусь з'яўляецца ўдзельніцай усіх асноўных дамоўленасцей у галіне нераспаўсюджвання: Дагавора аб нераспаўсюджванні ядзернай зброі, Канвенцыі аб забароне хімічнай зброі, Канвенцыі аб забароне біялагічнай і таксічнай зброі, Дагавора аб усёабдымнай забароне ядзерных выпрабаванняў. У 1995 г. яна падпісала пагадненне аб гарантыях з МАГАТЭ. Прыняцце Беларусі ў групу ядзерных пастаўшчыкоў у 2000 г. засведчыла поўную адпаведнасць беларускай сістэмы экспартнага кантролю міжнародных норм. У 2002 г. Беларусь стала ўдзельніцай Гаагскага кодэкса паводзін па прадухіленні распаўсюджвання балістычных ракет. У 1998 г. на 53-й сесіі Генеральнай Асамблеі па ініцыятыве беларускай дэлегацыі прынята рэзалюцыя «Рэгіянальнае раззбраенне», у якой змяшчаецца ўхваленне беларускай прапановы аб стварэнні ў Цэнтральнай і Усходняй Еўропе прасторы, свабоднай ад ядзернай зброі. У 2002 г. на 57-й сесіі Генеральнай Асамблеі Беларусь стала ініцыятарам праекта рэзалюцыі «Забарона распрацоўкі і вытворчасці новых відаў зброі масавага знішчэння і новых сістэм такой зброі», якая была прынята без галасавання. У 2003 г. Беларусь далучылася да Канвенцыі аб забароне прымянення, назапашвання, вытворчасці і перадачы проціпяхотных мін і аб іх ліквідацыі.

У рамках Венскага дакумента 1999 г. перагавораў па мерах умацавання даверу і бяспекі (МДБ) у 2001 г. была дасягнуты палітычная дамоўленасць аб дадатковых МДБ з Літвой, падпісана

міжурадавае пагадненне аб дадатковых МДБ з Украінай. У 2001 г. Беларусь ратыфікавала Дагавор аб адкрытым небе.

У 1990 г. Беларусь вылучыла ініцыятыву аб стварэнні ў Цэнтральнай і Усходняй Еўропе бяз'ядзернай зоны. У 1996 г. гэтая прапанова была мадыфікаваў прэзідэнтам А. Лукашэнкам у сувязі з пашырэннем НАТА на Усход. Але, за выключэннем Расіі і Украіны, астатнія краіны рэгіёна (Польшча, дзяржавы Балтыі і інш.) не падтрымалі беларускую ідэю, не жадаючы такім чынам зачыняць сабе дзверы ў НАТА.

**Адносіны з суседнімі краінамі**. Пасля абрання ў ліпені 1994 г. Прэзідэнтам дзяржавы А. Лукашэнкі пачаўся новы этап у гісторыі суверэннай Беларусі і яе знешняй палітыкі. Значныя змяненні атрымалі знешнепалітычная дактрына і механізм распрацоўкі і рэалізацыі знешняй палітыкі Рэспублікі Беларусь. У 1995 г. А. Лукашэнка сфармуляваў наступныя знешнепалітычныя прыярытэты РБ: умацаванне суверэнітэту краіны; узмацненне шматбаковага і двухбаковага супрацоўніцтва з дзяржавамі СНД пры паглыбленні адносін з Расіяй; развіццё адносін з дзяржавамі Захаду, у тым ліку Цэнтральнай і Усходняй Еўропы; стварэнне спрыяльных умоў для супрацоўніцтва з міжнароднымі арганізацыямі.

Аднак галоўным вектарам знешняй палітыкі стала Расія. У канцы 1990-х гг. перакос усходняга вектара ва ўрон заходняму стаў настолькі моцным, што беларускі прэзідэнт абвясціў курс на шматвектарную знешнюю палітыку. У пэўнай ступені гэта праявілася ў актывізацыі сувязей з дзяржавамі Азіі, Афрыкі і Лацінскай Амерыкі і ўступленнем дзяржавы ў 1998 г. у Рух недалучэння. У 1999 г. была таксама вылучана канцэпцыя стварэння «пояса добрасуседства» вакол Беларусі. Аднак дабіцца паляпшэння адносін з Польшчай і краінамі Балтыі, як і нармалізацыі адносін з краінамі Еўрасаюза, ЗША і Захадам, увогуле не ўдалося.

Прыярытэтным напрамкам знешнепалітычнай дзейнасці беларускай дзяржавы з'яўляецца падтрыманне і развіццё дружалюбных адносін з суседнімі краінамі — Расіяй, Украінай, Польшчай, Літвой і Латвіяй. Краіны-суседзі Беларусі валодаюць значным палітычным, эканамічным і культурным патэнцыялам, выкарыстанне якога магчыма ў інтарэсах Рэспублікі Беларусь у працэсе паглыблення двухбаковага і шматбаковага супрацоўніцтва. На іх тэрыторыі пражывае больш за 2 млн беларусаў, што складае дзве трэці ўсёй сусветнай беларускай дыяспары. Геаграфічная блізкасць, агульныя гістарычныя карані і традыцыі сумеснай барацьбы за свабоду і незалежнасць, дынамічнае гандлёва-эканамічнае супрацоўніцтва,

важнасць гэтых краін для Беларусі як транзітнай тэрыторыі, наяўнасць у іх прадстаўнічай беларускай дыяспары робіць развіццё адносін Рэспублікі Беларусь з краінамі Балтыі і Польшчай стратэгічна важным і неабходным.

Адносіны Беларусі з суседнімі краінамі маюць у цяперашні час розны ўзровень і характар. Найбольш высокая ступень супрацоўніцтва і добрасуседства дасягнута ў адносінах да Расійскай Федэрацыі, сумесна з якой Беларусь будуе саюзную дзяржаву і актыўна ўзаемадзейнічае на міжнароднай арэне. Шырокае двухбаковае і шматбаковае (перш за ўсё ў рамках СНД) супрацоўніцтва ажыццяўляецца з Украінай, хаця яно і ўступае па інтэнсіўнасці інтэграцыйным сувязям з Расіяй.

Менш паспяхова складваюцца ўзаемаадносіны з заходнімі суседзямі — Польшчай, Літвой і Латвіяй, якія ўступілі ў НАТА і Еўрапейскі саюз. Яны належаць да іншага культурна-цывілізацыйнага тыпу развіцця, чым суседнія ўсходнеславянскія і праваслаўныя народы. Балтыя і Польшча у параўнанні з краінамі СНД прадвінуліся далей па. шляху пераадолення спадчыны таталітарызму, фарміравання грамадзянскай супольнасці і рыначнай эканомікі. Яны падзяляюць вядомую канцэпцыю Захаду адносна трактоўкі ўнутрыпалітычных працэсаў на Беларусі.

На працягу першай паловы 1990-х гг. адносіны Беларусі з суседнімі краінамі фарміраваліся і развіваліся даволі сінхронна, без пераносаў у той ці іншы бок. З усімі з іх былі ўсталяваны нармальныя добрасуседскія адносіны, вырашаны памежныя праблемы. У 1992-1997 гг. з Расіяй, Украінай, Польшчай, Літвой, Латвіяй падпісаны палітычныя дагаворы і дэкларацыі, а таксама дагаворы аб дзяржаўнай мяжы, якія замацоўваюць тэрытарыяльнае статус-кво. Апошнім у ліку падпісаных Беларуссю дагавораў аб дзяржаўнай мяжы быў Дагавор з Украінай (1997), які, аднак, яшчэ не ратыфікаваны беларускім бокам, што выклікае незадавальненне паўднёвай суседкі.

З другой паловы 1990-х гг. на фоне актыўнага збліжэння з Расіяй і працягвання ўсебаковага супрацоўніцтва з Украінай адбываўся працэс пэўнага ахаладжэння палітычных адносін з Польшчай (у большай ступені), Літвой і Латвіяй (у меншай ступені). Практычна спыніліся сустрэчы і перагаворы на вышэйшым узроўні. Прэзідэнты Беларусі і Польшчы ў апошні раз сустракаліся вясной 1996 г., апошняя сустрэча кіраўнікоў Беларусі і Літвы адбылася ў лістападзе 1998 г. Што тычыцца Латвіі, то з яе прэзідэнтам беларускія кіраўнікі (С. Шушкевіч і А. Лукашэнка) не сустракаліся ні разу. Аднак гандлёва-эканамічныя сувязі з заходнімі суседзямі развіваліся паспяхова.

Адносіны з краінамі Балтыі і Польшчай маюць важнае значэнне ў рамках фарміравання вакол Рэспублікі Беларусь так званага «пояса добрасуседства». Ідэя стварэння такога пояса была вылучана беларускім кіраўніцтвам у канцы 1990-х гг., адлюстраваўшы тым самым яго пэўную незадаволенасць становішчам і перспектывамі развіцця адносін з заходнімі суседзямі.

Фарміраванне «пояса добрасуседства» абумоўлена, для Беларусі, якая знаходзіцца ў складаных знешнепалітычных адносінах з Захадам, неабходнасцю працягвання палітыкі «прагматычнага рэалізму» з заходнімі суседзямі, выкарыстання транспартных калідораў суседніх краін у інтарэсах беларускай эканомікі, аднаўлення і развіцця гандлёва-эканамічнай і навукова-тэхнічнай кааперацыі краін-суседзяў, вырашэння экалагічных праблем, прыцягнення патэнцыялу беларускай дыяспары з мэтай садзейнічання эфектыўнаму правядзенню знешнепалітычнага і знешнеэканамічнага курсу Беларусі адносна адпаведных краін.

Беларуская канцэпцыя фарміравання «пояса добрасуседства» па перыметры сваіх заходніх і паўднёвых меж дапаўняе і ўраўнаважвае расійскі інтэграцыйны вектар знешняй палітыкі, накіраваны на ўсход і паўночны ўсход. Асноўнымі кампанентамі гэтага пояса з'яўляюцца фарміраванне палітычнай, ваеннай, эканамічнай, экалагічнай, культурнай і інфармацыйнай прасторы бяспекі, супрацоўніцтва і стабільнасці ў адносінах з заходнімі прыгранічнымі дзяржавамі, а таксама Украінай.

Беларуска-літоўскія адносіны развіваюцца даволі плённа. Кіраўніцтва Літоўскай Рэспублікі падкрэслівае сваё імкненне праводзіць у адносінах да Беларусі ўзважаную палітыку, якая атрымала назву палітыкі «крытычнага прагматызму». Як правіла, лідэры Літвы займаюць больш памяркоўную ў параўнанні з заходнімі краінамі пазіцыю па пытанні беларуска-еўрапейскіх адносін.

Імкненне Літвы падтрымліваць з Беларуссю добрасуседскія адносіны неаднаразова сцвярджалі кіраўнікі гэтай дзяржавы. Літва імкнецца захоўваць з Беларуссю такі ўзровень адносін, які дазваляў бы ёй забяспечваць некаторыя свае інтарэсы, у прыватнасці паскарэнне дэмаркацыі мяжы, падпісанне пагадненняў аб рэадмісіі, развіццё гандлёва-эканамічнага супрацоўніцтва. Літва плануе і далей падтрымліваць прагматычныя і ўзаемавыгадныя адносіны з Беларуссю, перш за ўсё ў галіне эканомікі.

Прагматычны курс Літвы разам з актыўнай і канструктыўнай пазіцыяй Беларусі садзейнічалі развіццю двухбаковага супрацоўніцтва на пэўных участках палітычнага спектра ўзаемаадносін,

умацаванню іх дагаворна-прававой базы. Так, у 2000 г. падпісаны міжурадавыя пагадненні аб умовах транзіту беларускіх грузаў з выкарыстаннем партоў і іншай транспартнай інфраструктуры Літоўскай Рэспублікі і аб супрацоўніцтве ў галіне чыгуначнага транспарту. Актыўныя знешнепалітычныя намаганні, якія Літва робіць на заходнім накірунку, спалучаюцца, у адрозненне ад некаторых еўрапейскіх краін, з дастаткова памяркоўнай знешнепалітычнай пазіцыяй у адносінах да Беларусі, што стварае спрыяльныя перадумовы для развіцця двухбаковага супрацоўніцтва.

Рэспубліка Беларусь зацікаўлена ў аднаўленні і актывізацыі палітычнага дыялога, наладжванні міжпарламенцкіх сувязей, усталяванні рэжыму свабоднага гандлю з Літвой, цесным супрацоўніцтве з літоўскім бокам па пытаннях, звязаных з развіццём адносін паміж адміністрацыйна-тэрытарыяльнымі адзінкамі трох суседніх краін (Беларусі, Польшчы і Літвы) у рамках еўрарэгіёнаў «Нёман» і «Азёрны край» (Беларусі і Літвы).

У адпаведнасці з канцэпцыяй знешняй палітыкі Латвіі, прынятай у 1995 г. і разлічанай на перыяд да 2005 г., мяркуецца, што сувязі з Беларуссю будуць засноўвацца на прынцыпах добрасуседскіх адносін, забеспячэння выгаднага эканамічнага супрацоўніцтва, сумеснай працы па нармалізацыі экалагічнай сітуацыі. Латвія зацікаўлена ў стварэнні спрыяльных умоў для транзіту сваіх тавараў праз Беларусь і гарантуе адначасовае забеспячэнне транзіту экспартуемых беларускіх тавараў праз латвійскія парты.

Беларуска-латвійскія адносіны ў цэлым захоўваюць тэндэнцыю нармальнага добрасуседскага развіцця. Працягваюцца кантакты на высокім узроўні, міжпарламенцкі дыялог (з парламентамі Латвіі і Літвы створаны групы па супрацоўніцтве з Рэспублікай Беларусь), пасяджэнні беларуска-латвійскіх змешаных камісій, дасягнуты нядрэнныя паказчыкі гандлёва-эканамічнага супрацоўніцтва. Латвійскае кіраўніцтва імкнецца прытрымлівацца нейтральнай пазіцыі па «беларускім пытанні» і ўхіляецца ад рэзкіх заяў альбо дзеянняў, якія б маглі выклікаць насцярожаную рэакцыю беларускага кіраўніцтва.

У адносінах з краінамі Балтыі беларускае кіраўніцтва жадала б працягваць палітыку рэалістычнага супрацоўніцтва на базе эканамічных інтарэсаў, у тым ліку ў транзітнай справе, сельскай гаспадарцы і турызме. Разам з развіццём двухбаковага супрацоўніцтва з прыгранічнымі дзяржавамі Беларусь зацікаўлена ў падключэнні да рэгіянальнага і субрэгіянальнага супрацоўніцтва ў рэгіёне Балтыі і прасторы паміж Балтыйскім і Чорным морамі. Яна мае намер ажыццяўляць свае палітычныя, эканамічныя, культурныя і экалагічныя інтарэсы ў

Балтыйска-Чарнаморскім рэгіёне, у тым ліку дамагацца статуса назіральніка ў Савеце дзяржаў Балтыйскага мора (СДБМ) і Арганізацыі чарнаморскага эканамічнага супрацоўніцтва (АЧЭС), удзельнічаць у іншых рэгіянальных арганізацыях і форумах.

У другой палове 1990-х гг. актывізаваліся адносіны Беларусі з краінамі Азіі і Арабскага Усходу. Падчас візітаў А. Лукашэнкі ў Кітай, Індыю, В'етнам, Сірыю, Егіпет і іншыя краіны Азіяцка-ціхаакіянскага рэгіёна разглядаліся пытанні ўмацавання двухбаковых палітычных, гандлёва-эканамічных і ваенных сувязей. На думку беларускага кіраўніцтва, найбольш прадуктыўнае супрацоўніцтва з гэтай групы дзяржаў развіваецца з Кітаем, Індыяй і В'етнамам. Кантакты на розных узроўнях паміж кіраўніцтвам Беларусі і кіраўніцтвам гэтых краін набылі стабільны характар. Беларусь неаднаразова атрымлівала падтрымку з боку гэтых краін у міжнародных арганізацыях пры абмеркаванні такіх далікатных для яе пытанняў, як правы чалавека альбо прыняцце ў Міжпарламенцкі саюз дэлегацыі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь. Напрыканцы 1990-х гг. адбыліся візіты А. Лукашэнкі ў Сірыю, Егіпет, Ізраіль, Бахрэйн, Катар, Аб'яднаныя Арабскія Эміраты. Разам з тым неадназначную, крытычную рэакцыю міравой прэсы выклікалі візіты высокапастаўленых беларускіх прадстаўнікоў у Лівію, Ірак, Іран і падпісаныя з гэтымі дзяржавамі пагадненні аб пастаўках зброі.

**Заходні вектар знешняй палітыкі**. Паваротным пунктам у гісторыі развіцця суверэннай Беларусі стаў канстытуцыйны рэферэндум 24 лістапада 1996 г. Ён выклікаў зацяжны канстытуцыйна-палітычны крызіс у краіне і пагаршэнне адносін з Захадам. Міжнародная супольнасць, такія ўплывовыя арганізацыі, як АБСЕ, Савет Еўропы, Еўрапейскі саюз, не прызналі ў якасці законных вынікі лістападаўскага рэферэндуму, які прывёў да ўсталявання рэжыму неабмежаванай прэзідэнцкай улады. Яны заявілі аб непрызнанні новых дзяржаўных органаў, створаных пасля рэферэндуму, у тым ліку Нацыянальнага сходу. Краіны Захаду і міжнародныя арганізацыі прызнавалі пэўны час Вярхоўны Савет 13-га склікання як адзіны легітымны заканадаўчы орган улад.

Пасля рэферэндуму 1996 г. Захад і міжнародныя арганізацыі ўвялі абмежавальныя меры ў адносінах да Беларусі. Савет Еўропы прыпыніў статус спецыяльна запрошанай краіны, а Еўрасаюз — дзеянне рамачных пагадненняў 1995 г. ЗША аб'явілі палітыку «выбарчага дыялога», якая прадугледжвае спыненне кантактаў з беларускім кіраўніцтвам і падтрымку інстытутаў грамадзянскай супольнасці ў Беларусі. Разам з тым Захад заявіў, што яго мэтай не

з'яўляецца ізаляцыя Беларусі, а вяртанне яе ў сям'ю цывілізаваных еўрапейскіх краін, на шлях дэмакратыі і рыначных рэформ.

Пасля распаду Варшаўскага дагавора і СССР перад рэспублікай паўстала праблема вызначэння адносін з ваенна-палітычнай арганізацыяй НАТА. З 1995 г. беларускі прэзідэнт выступае супраць пашырэння НАТА на Усход і прасоўвання блока да меж Беларусі. Пасля таго як у 1997 г. Расія і Украіна заключылі з НАТА асноватворныя дакументы аб супрацоўніцтве, Беларусь аказалася фактычна не ахопленай гарантыямі бяспекі з боку альянсу. Адносіны з НАТА пагоршыліся ў 1999 г. у сувязі з ваеннай акцыяй блока супраць Югаславіі. Беларусь і Расія ўнеслі ў Савет Бяспекі ААН востры праект рэзалюцыі з асуджэннем інтэрвенцыі. Аднак ён не атрымаў шырокай падтрымкі. Напрыканцы 1999 г. Беларусь услед за Расіяй аднавіла афіцыйныя кантакты з НАТА. Беларусь выступае за стварэнне сістэмы еўрапейскай бяспекі без размежавальных меж і пры ўмацаванні каардынуючай ролі АБСЕ. Пасля прыходу да ўлады ў ЗША новай рэспубліканскай адміністрацыі на чале з Дж. Бушам-малодшым беларускае кіраўніцтва неаднаразова выказвала сваю зацікаўленасць ў сяброўскіх і стабільных адносінах з ЗША, а таксама надзею на тое, што прагматычны рэалізм новай адміністрацыі дапаможа зблізіць пазіцыі дзвюх краін па шэрагу актуальных палітычных і эканамічных пытанняў.

«Беларускае пытанне» ўзнікла ў сістэме еўрапейскіх адносін пасля рэферэндуму 1996 г. як перш за ўсё ўнутрыпалітычная праблема аднаўлення дэмакратыі і раздзялення ўлад у краіне. Палажэнне аб канстытуцыйна-палітычным крызісе ў краіне зафіксавана ў падагульняючым дакуменце Стамбульскага саміту АБСЕ 1999 г., у які быў уключаны спецыяльны пункт пра Беларусь. Амаль адначасова змест «беларускага пытання» дапоўніўся фактарам інтэграцыі з Расіяй, што ўспрымаецца міжнароднай супольнасцю як пагроза суверэнітэту Беларусі і рэгіянальнай бяспецы.

Пытанне аб Беларусі як праблемнай дзяржаве стаіць на парадку дня АБСЕ, ЕС і Савета Еўропы. Заклапочанасць унутрыпалітычнай сітуацыяй у краіне, становішчам з правамі чалавека выказваюць і некаторыя іншыя органы ААН (Камітэт па правах чалавека), а таксама спецыялізаваныя ўстановы ААН (Міжнародная арганізацыя працы). Абмеркаванне «беларускага пытання» ў міжнародных арганізацыях негатыўна адбіваецца на міжнародным іміджы і міжнародных пазіцыях Беларусі.

У першыя гады XXI ст. «беларускае пытанне» як міжнародная праблема складалася з двух узаемазвязаных бакоў. Першы яго бок тычыўся заклапочанасці і міжнароднага ўцягвання ў працэс

урэгулявання ўнутрыпалітычнага крызісу ў Беларусі. Другі яго бок тычыўся міжнародных наступстваў беларуска-расійскай інтэграцыі, у прыватнасці планаў стварэння адзінай дзяржавы. Захад і міжнародныя арганізацыі (перш за ўсё АБСЕ, ЕС, СЕ) праводзяць у адносінах да Беларусі ўзгодненую палітыку. ЗША і Захад спрабуюць уздзейнічаць на Расію з тым, каб яна, у сваю чаргу, аказвала ўплыў на беларускае кіраўніцтва. Ад таго, наколькі Расія і Захад змогуць зблізіць ці прымірыць свае пазіцыі па ўнутраных і знешніх аспектах «беларускага пытання», шмат у чым залежыць далейшае развіццё сітуацыі ў Беларусі і вакол яе.

**Знешнеэканамічныя сувязі**. Беларуская эканоміка адкрытага тыпу арыентавана на знешні рынак. Доля экспарту ў валавым унутраным прадукце перавышае 60 %. На знешні рынак ідзе больш за 90 % трактароў і грузавых аўтамашын, 70 % металаапрацоўчых станкоў, халадзільнікаў, хімічных валокнаў і нітак, інтэгральных схем і паўправаднікоў, больш за 50 % тэлевізараў і вырабаў лёгкай прамысловасці. Павелічэнне экспарту з'яўляецца адной з галоўных умоў паспяховага эканамічнага развіцця краіны.

За гады незалежнасці значна пашырыліся гандлёвыя і эканамічныя адносіны Беларусі з замежнымі дзяржавамі. Калі ў 1994 г. яна падтрымлівала такія сувязі з 97, а ў 1998 г.— з 137, то ў 2004 г. — з 151 дзяржавай. Беларуская прадукцыя пастаўлялася ў 2004 г. на рынак у 119 дзяржаў, імпартавалася — з 132 краін. Аб'ём знешняга гандлю краіны вырас з 1,5 млрд дол. 1993 г. да 21,5 млрд дол. ЗША ў 2003 г. (лічбы тут і далей акругленыя).

У 2003 г. структура знешнегандлёвага тавараабароту ў разрэзе рэгіёнаў выглядала наступным чынам: краіны СНД складалі 62,7 %, астатнія краіны — 37,3 %. Аб'ём экспарту склаў 9965 млн дол., імпарту — 11505 млн дол., велічыня адмоўнага сальда знешняга гандлю — 1540 млн дол., які павялічыўся ў параўнанні з 2002 г. на 469 млн дол. Асноўнымі тэндэнцыямі развіцця знешняга гандлю Беларусі апошніх гадоў былі: прыкметнае павелічэнне гандлёвага тавараабароту, апярэджанне тэмпаў росту экспарту ў параўнанні з тэмпамі росту імпарту, павелічэнне экспарту ў гандлі з краінамі СНД і астатнімі краінамі свету, паступовае скарачэнне залежнасці беларускага экспарту ад расійскага рынку, павелічэнне адмоўнага сальда ў гандлі з Расіяй і адначасовае павелічэнне станоўчага сальда ў гандлі з краінамі па-за межамі СНД.

У 2003 г. гандлёвы абарот з Расіяй павялічыўся ў параўнанні з 2002 г. на 25,8 % і склаў 58 % ад агульнага знешнегандлёвага абароту Беларусі. Экспарт у Расію склаў 4,9 млрд дол., імпарт — 7,6 млрд дол.

Адмоўнае сальда ў гандлі з Расіяй склала 2661 млн дол., павялічыўшыся ў 1,4 раза і дасягнуўшы максімальнай лічбы за перыяд з 1996 г. Адваротныя працэсы адбываліся ў гандлі з краінамі Еўропы. Станоўчае сальда гандлёвага балансу склала больш за 1 млрд дол. і павялічылася ў 1,5 раза. Устойлівая дынаміка павелічэння станоўчага сальда з еўрапейскімі краінамі назіраецца з 1997 г. Калі пяць гадоў таму назад у гандлі з ЕС Беларусь мела адзін мільярд долараў адмоўнага сальда, то ў 2003 г. станоўчае сальда ў гандлі з Еўропай перавысіла адзін мільярд долараў. У першай палове 2004 г. удзельная вага еўрапейскіх краін у агульным таваараабароце Беларусі з краінамі па-за межамі СНД склала каля 80 %. Асноўнымі гандлёвымі партнёрамі Беларусі ў Азіі з'яўляюцца Кітай, Турцыя, Індыя, Паўднёвая Карэя, Японія, Сірыя, Іран, у Амерыцы — ЗША, Бразілія, Куба, Канада, Венесуэла, Калумбія, Мексіка.

Галоўным эканамічным партнёрам Беларусі з пачатку 1990-х гг. застаецца Расія. У апошнія 6-7 гадоў краіна падвоіла тавараабарот з Расіяй, які дасягнуў у 2004 г. 17 млрд дол. Са свайго боку Беларусь з'яўляецца другім па значэнні эканамічным партнёрам Расіі, саступаючы толькі Германіі. Адбылася дыверсіфікацыя беларускага экспарту. Калі раней 85 % айчынных паставак на знешнія рынкі складаў экспарт у Расію, то цяпер туды накіроўваецца толькі палова прадукцыі. Другая палова беларускага экспарту ідзе ў краіны Еўропы, Блізкага Усходу, Азіі, Афрыкі, Паўночнай і Паўднёвай Амерыкі. Беларуская эканамічная дыпламатыя накіравана на актыўную, нават агрэсіўную знешнеэканамічную экспансію.

Найбольшую ўдзельную вагу ў таварнай структуры экспарту займалі такія таварныя групы, як мінеральныя прадукты (прадукты перапрацоўкі нафты), транспартныя сродкі (грузавыя аўтамабілі, трактары, часткі да іх), хімічная прадукцыя (калійныя ўгнаенні, капралактам, поліэтылен, вырабы з пластмасы), машыны, абсталяванне і механізмы (халадзільнікі, тэлевізары, рухавікі ўнутранага спальвання, падшыпнікі, пад'ёмнае абсталяванне), тэкстыль і вырабы з тэкстылю (хімічныя валокны і ніці, гатовае адзенне з тэкстылю). Таварная структура імпарту рэспублікі больш чым на 80 % прадстаўлена энергарэсурсамі, сыравінай і камплектуючымі для розных галін прамысловасці, тэхналагічным абсталяваннем.

Міністэрства замежных спраў сумесна з зацікаўленымі органамі дзяржаўнага кіравання распрацавала Нацыянальную праграму развіцця экспарту на 2000-2005 гг. У рамках яе рэалізацыі штогод распрацоўваюцца мерапрыемствы па стварэнні ўмоў развіцця экспарту.

**Беларускае грамадства і знешняя палітыка.** У першае дзесяцігоддзе незалежнасці знешняя палітыка адыгрывала асаблівую ролю ў забеспячэнні ўнутранай трансфармацыі Беларусі. Ва ўмовах станаўлення нацыянальнай дзяржаўнасці, карэнных сацыяльна-эканамічных і палітычных пераўтварэнняў менавіта знешняя палітыка дзяржавы дэманстравала свету характар і накіраванасць перамен, якія адбываліся ў краіне. Яшчэ больш важна тое, што менавіта знешнепалітычная дзейнасць забяспечвала знешнія ўмовы, якія даюць магчымасць працягваць і развіваць унутраныя пераўтварэнні.

Асноўнай мэтай і нязменнай задачай знешняй палітыкі Рэспублікі Беларусь з моманту абвяшчэння незалежнасці была адаптацыя да сістэмы міжнародных зносін, што склаліся пасля заканчэння халоднай вайны і распаду СССР. Такая адаптацыя адбывалася ў трох узаемазвязаных накірунках: 1) адукацыя, прафесіяналізацыя і міжнароднапалітычная сацыялізацыя новых кіруючых колаў і эліт Беларусі, першапачаткова амаль незнаёмых з міжнароднай сферай; 2) фарміраванне знешнепалітычнага механізма і знешнепалітычнага працэсу новай дзяржавы; 3) упісанне Беларусі ў рэаліі постсавецкага свету на падставе набыцця ёю комплексу знешніх інтарэсаў, новай міжнароднай ідэнтычнасці і адпрацоўкі ўзаемадзеяння з іншымі суб'ектамі міжнародных адносін.

Знешняя палітыка Беларусі, як і любой іншай дзяржавы, абумоўлена перш за ўсё прыродай фарміруючых яе сацыяльных сіл, падзяляемых гэтымі сіламі ідэалогіяй і канкрэтнымі зацікаўленасцямі, забеспячэнне якіх дасягаецца сувязямі народа і дзяржавы са знешнім светам. На працягу першага дзесяцігоддзя незалежнасці ў краіне паступова складваліся новая сацыяльная структура, новая дзяржаўная ідэалогія, усведамленне і новае разуменне нацыянальна-дзяржаўных ін-тарэсаў. Натуральна, што гэтыя працэсы яшчэ далёка не завершаны.

Знешнепалітычны працэс сучаснай дзяржавы складаецца са знешнепалітычнага механізма (сукупнасць органаў і ведамстваў, якія распрацоўваюць, прымаюць і ажыццяўляюць знешнюю палітыку), а таксама інстытутаў і працэдур, што звязваюць знешнепалітычны механізм з грамадствам і транслююць гэтаму механізму і дзяржаве погляды, інтарэсы, прыярытэты грамадства, пэўных сацыяльных груп. Гэта другая частка знешнепалітычнага працэсу заклікана ствараць перадумовы для адпаведнасці знешняй палітыкі дзяржавы інтарэсам розных сацыяльных слаёў, грамадства ў цэлым. Іншымі словамі, яна фарміруе змест знешнепалітычнага курсу і забяспечвае яго падтрымку ў межах краіны.

У Беларусі ў 1990-я гг. адбыліся істотныя змены знешнепалітычнай дактрыны і знешнепалітычнага механізму. У перыяд парламенцкай рэспублікі вядучую ролю у знешнепалітычным працэсе адыгрывалі Вярхоўны Савет і Савет Міністраў, Пасля ўвядзення інстытута прэзідэнцтва і асабліва прыняцця новай рэдакцыі Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь у 1996 г. гэтая роля перайшла да прэзідэнта. Ва ўмовах існавання моцнай прэзідэнцкай рэспублікі знешнепалітычны працэс цалкам замыкаецца на кіраўніку дзяржавы. Іншыя суб'екты палітычнага працэсу (парламент, палітычныя партыі, няўрадавыя арганізацыі, грамадскія рухі, апазіцыя) фактычна адлучаны ад працэсу распрацоўкі і прыняцця знешнепалітычных рашэнняў.

Да сярэдзіны 1994 г. механізмы распрацоўкі, прыняцця і рэалізацыі рашэнняў у сферы знешняй палітыкі былі сканцэнтраваны ў Вярхоўным Савеце і Савеце Міністраў. Пасля ўвядзення Інстытута прэзідэнта і асабліва прыняцця на рэферэндуме 1996 г. новай рэдакцыі Канстытуцыі вядучая роля ў сферы распрацоўкі і рэалізацыі асноўных напрамкаў знешняй палітыкі перайшла да прэзідэнта. У адпаведнасці з Канстытуцыяй ён з'яўляецца гарантам рэалізацыі знешнепалітычных рашэнняў, прадстаўляе Беларусь у адносінах з замежнымі краінамі і міжнароднымі арганізацыямі, вядзе перагаворы, падпісвае міжнародныя дагаворы, назначае і адзывае дыпламатычных прадстаўнікоў РБ у замежных дзяржавах і пры міжнародных арганізацыях. Ён займаецца ўсёй кадравай палітыкай у сферы знешняй палітыкі.

У Беларусі склаўся канстытуцыйна-прававы механізм распрацоўкі і прыняцця знешнепалітычных рашэнняў. Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь у адпаведнасці са сваімі канстытуцыйнымі паўнамоцтвамі ажыццяўляе кіраўніцтва знешняй палітыкай краіны і прадстаўляе яе ў міжнародных адносінах. Савет Бяспекі ажыццяўляе падрыхтоўку рашэнняў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у галіне забеспячэння нацыянальнай бяспекі, аналіз узаемасувязей знешніх і ўнутраных пагроз нацыянальнай бяспекі і іх улік пры рэагаванні на гэтыя пагрозы. Нацыянальны сход вядзе заканадаўчую работу па забеспячэнні знешнепалітычнага і знешнеэканамічнага курсу дзяржавы і выканання яе міжнародных абавязацельстваў. Практычная рэалізацыя знешнепалітычнага і знешнеэканамічнага курсу дзяржавы ўскладзена на ўрад Рэспублікі Беларусь. Міністэрства замежных спраў з'яўляецца асноўным органам выканаўчай улады, які ажыццяўляе знешнепалітычны курс, зацверджаны прэзідэнтам. МЗС каардынуе знешнепалітычную дзейнасць і замежныя сувязі органаў дзяржаўнага і мясцовага кіравання.

Працэс фарміравання і ажыццяўлення знешняй палітыкі застаецца недастаткова адкрытым, што стварае небяспеку адрыву знешняй палітыкі ад інтарэсаў і разумення грамадства. Задача развіцця Беларусі ва ўмовах глабалізацыі патрабуе дэмакратызацыі знешнепалітычнага працэсу. Неабходна падмацаваць знешнепалітычны механізм дзяржавы сістэмай яго падтрымкі ў грамадстве. Гаворка ідзе пра стварэнне дэмакратычнага знешнепалітычнага працэсу, здольнага ўключаць у фарміраванне і ажыццяўленне знешняй палітыкі ўсе, а не толькі некаторыя зацікаўленыя ў такім удзеле слаі эліт і насельніцтва. Без такога дэмакратычнага працэсу знешняя палітыка Беларусі застаецца небяспечна адкрытай для валюнтарызму, кулуарных рашэнняў, ангажаванага лабізму (у тым ліку для інтарэсаў буйнога расійскага капіталу), не зможа адлюстроўваць увесь спектр інтарэсаў грамадства, а таму рызыкуе стаць недэмакратычнай і неэфектыўнай.

У беларускім грамадстве фарміруюцца інтарэсы, групы і сацыяльныя перадумовы, здольныя ўсё больш ўплываць на фарміраванне знешняй палітыкі (прэзідэнцкая вертыкаль, контрэліта, бізнес, нацыянальная самасвядомасць насельніцтва, этнічна-рэлігійныя фактары, СМІ, дзяржаўныя і недзяржаўныя даследчыя цэнтры і інш.).

Прынцыпова важна, каб знешняя палітыка дзяржавы абапіралася на рэальныя інтарэсы грамадства і эліт, каб апошнія былі здольныя ствараць і карыстацца рознымі каналамі законнага, упарадкаванага і прадказальнага ўплыву на фарміраванне і ажыццяўленне знешняй палітыкі. Дзяржава павінна ўсяляк садзейнічаць развіццю дэмакратычных аспектаў знешняй палітыкі, супрацоўнічаць з грамадствам у канкрэтных сітуацыях і пытаннях.

У знешнепалітычным працэсе дзяржава павінна ўлічваць грамадскую думку, у тым ліку думку меншасці, што выражаецца як праз дзяржаўныя, так і незалежныя СМІ. Неабходна уважлівае стаўленне да альтэрнатыўных знешнепалітычных канцэпцый, якія прапануюцца палітычнымі партыямі і рухамі, у тым ліку і апазіцыяй.

Гісторыя незалежнага развіцця Беларусі даказвае непарыўную сувязь унутранай і знешняй палітыкі. Парадыгма, што адводзіць знешняй палітыцы падпарадкаваную ролю ў адносінах да ўнутранай, становіцца памылковай. Немагчыма вылучыць праблему, якая б мела выключны ўнутраны характар, Цяжкасці развіцця Беларусі ў значнай ступені звязаны з тым, што многія ўнутрыпалітычныя акцыі дзяржавы не ўлічваюць іх міжнародных наступстваў. Неабходна інтэграцыя ўнутранай і знешняй палітыкі беларускай дзяржавы.

**Вынікі першага дзесяцігоддзя станаўлення знешняй палітыкі Беларусі.** Вопыт развіцця Рэспублікі Беларусь даказвае непарыўнасць унутранай і знешняй палітыкі, унутраных і знешніх фактараў яе функцыянавання. Гэта дае падставы меркаваць, што дэмакратызацыя ўнутрыпалітычнага жыцця будзе весці да паслаблення знешнепалітычнай ізаляцыі краіны і яе кіраўніцтва. Вельмі важным фактарам развіцця Беларусі была і застаецца Расія. Ад таго, як будуць развівацца адносіны з усходняй суседкай, якія сілы будуць кіраваць у Маскве, шмат у чым будзе залежаць і лёс беларускай дзяржавы. Аднак рашаючай і вызначальнай сілай развіцця Беларусі як дзяржавы і этнатэрытарыяльнай супольнасці застаецца беларускі народ ва ўсей сукупнасці яго сацыяльных і нацыянальных структур. Яго патрыятычная і грамадская пазіцыя будзе вызначаць сутнасць і накірункі трансфармацыі Беларусі, яе ролю і месца ў міжнароднай супольнасці на пачатку XXI ст.

Вынікі пятнаццацігадовага перыяду станаўлення знешняй палітыкі Рэспублікі Беларусь сведчаць як пра поспехі, так і недахопы ў галіне планавання і рэалізацыі асноўных мэт і задач знешнепалітычнай і знешнеэканамічнай дзейнасці беларускай дзяржавы.

**Да дасягненняў краіны ў галіне знешняй палітыкі трэба аднесці**:

1. Умацаванне рэальнага суверэнітэту і незалежнасці. Адбылося фарміраванне асноўных атрыбутаў дзяржаўнасці (дзяржаўных інстытутаў, арміі, меж, знешнепалітычных інструментаў), ператварэнне Мінска ў цэнтр прыняцця і рэалізацыі знешнепалітычных рашэнняў. Пры ўсіх аб'ектыўных і суб'ектыўных цяжкасцях Беларусь даказала здольнасць да незалежнага дзяржаўнага развіцця.

2. Усеагульнае міжнароднае прызнанне Беларусі і ўстанаўленне беларускай дзяржавай дыпламатычных зносін з усімі вядучымі і ўплывовымі дзяржавамі свету. Набыццё краінай пасля атрымання незалежнасці новага статуса ў ААН і яе спецыялізаваных установах, пашырэнне ўдзелу ва універсальных і рэгіянальных (еўрапейскіх і транс'еўрапейскіх) міжнародных арганізацыях і інстытутах.

3. Сусветнае прызнанне і падтрымку атрымала паслядоўная палітыка беларускай дзяржавы ў галіне ядзернага раззбраення. Упершыню ў гісторыі краіна, якая валодала ядзернай зброяй, дабравольна і без папярэдніх умоў адмовілася ад статуса ядзернай дзяржавы. З канца 1996 г. Рэспубліка Беларусь дэ-юрэ і дэ-факта з'яўляецца бяз'ядзернай дзяржавай.

4. Усталяванне нармальных добрасуседскіх адносін з суседнімі краінамі. З Расіяй, Украінай, Польшчай, Літвой, Латвіяй падпісаны

палітычныя дагаворы і дэкларацыі, у тым ліку дагаворы аб дзяржаўнай мяжы, якія замацоўваюць тэрытарыяльнае статус-кво.

Разам з дасягненнямі ў другой палове 1990-х гг. выявіліся і **слабыя месцы ў беларускай знешняй палітыцы**.

1. Выгады геапалітычнага і геаэканамічнага палажэння Беларусі пакуль не ўдалося выкарыстаць у шырокіх грамадскіх і дзяржаўных інтарэсах. Магчымасці добрасуседства і шырокага ўсебаковага супрацоўніцтва для Беларусі як еўрапейскай дзяржавы аказаліся абмежаванымі пераважна арыентацыяй на Расію.

2. Адбылося пагаршэнне адносін з Захадам і ўплывовымі еўрапейскімі і трансатлантычнымі арганізацыямі (Еўрапейскім саюзам, Саветам Еўропы, НАТА) пасля рэферэндуму ў лістападзе 1996 г. На парадку дня еўрапейскай палітыкі з'явілася «беларускае пытанне» як праяўленне «канстытуцыйна-палітычнага крызісу» (фармулёўка Стамбульскага саміту АБСЕ у 1999 г.) у краіне.

3. Праблемы і цяжкасці ў знешнеэканамічнай палітыцы. Празмерная залежнасць ад Расіі ў пастаўках энергетычных і сыравінных рэсурсаў не зменшылася, а павялічылася.

15-гадовы вопыт самастойнага існавання суверэннай Беларусі паказвае, што яна ў значнай ступені здзейснілася як еўрапейская дзяржава з уласнымі геапалітычнымі традыцыямі, нацыянальнымі інтарэсамі і знешнепалітычнымі прыярытэтамі. Краіна прадвінулася па шляху ўмацавання незалежнасці і даказала здольнасць беларускай нацыі і яго дзяржаўных структур да самастойнага існавання. Разам з тым на шляху станаўлення знешняй палітыкі Рэспублікі Беларусь застаюцца аб'ектыўныя цяжкасці і нявырашаныя праблемы. Яе геапалітычнае становішча характарызуецца пэўнай нестабільнасцю і далейшымі пошукамі сваёй міжнароднай ідэнтычнасці.

# РАЗДЗЕЛ II

# ДВУХБАКОВЫЯ АДНОСІНЫ БЕЛАРУСІ З ЗАМЕЖНЫМІ ДЗЯРЖАВАМІ

## Тэма 5

## ПРАБЛЕМЫ ФАРМІРАВАННЯ І РАЗВІЦЦЯ БЕЛАРУСКА-РАСІЙСКІХ МІЖДЗЯРЖАЎНЫХ АДНОСІН У 1990-я гг.

**Ад міжрэспубліканскіх да міждзяржаўных адносін**. Пасля распаду СССР і ператварэння Беларусі і Расіі дэ-юрэ ў незалежныя і суверэнныя дзяржавы адносіны паміж імі фарміраваліся на аснове агульнапрызнаных прынцыпаў і норм міжнароднага права з улікам гістарычных традыцый сумеснага пражывання беларускага і расійскага народаў у складзе шматнацыянальных дзяржаў — Расійскай імперыі і Савецкага Саюза. У адпаведнасці з пагадненнямі аб стварэнні СНД Беларусь і Расія, як і ўсе астатнія саюзныя рэспублікі былога СССР, прызнавалі адзін аднаго як незалежныя і суверэнныя дзяржавы. Беларусь, як і іншыя правапераемнікі СССР, падтрымала Расію у тым, каб яна «працягвала членства СССР у ААН, уключаючы пастаяннае членства ў Савеце Бяспекі, і іншых міжнародных арганізацыях». Расія, якая прыняла на сябе асноўныя правы і абавязкі СССР, прызнала ў адпаведнасці з пагадненнямі аб стварэнні СНД, што ўсе дзяржавы — члены Садружнасці «з'яўляюцца правапераемнікамі правоў і абавязкаў былога Саюза ССР».

У 1990-1991 гг. пачалі фарміравацца новыя ўзаемаадносіны паміж Беларуссю і Расіяй. Яны разам з Украінай, а затым з астатнімі саюзнымі рэспублікамі вырашылі скінуць цяжкія ланцугі цэнтралізаванага Саюза і стварыць аморфнае міждзяржаўнае аб'яднанне ў форме СНД. Развіццё падзей у 1990-1991 гг. было настолькі імклівым, што падпісаны ў снежні 1990 г. дагавор паміж БССР і РСФСР да канца наступнага года ўжо перастаў адпавядаць новым геапалітычным і міжнародна-прававым рэаліям на прасторах былога СССР. Гэтыя гады можна лічыць пачаткам пераходнага перыяду ад міжрэспубліканскіх адносін паміж БССР і РСФСР да міждзяржаўных адносін паміж Беларуссю і Расіяй як суверэннымі і незалежнымі дзяржавамі.

Тым не менш на шлях незалежнасці абедзве дзяржавы ўступілі ў рознай якасці. Расія стала асноўным правапераемнікам СССР, захавала за сабой яго месца ў Савеце Бяспекі ААН, становішча вя-

лікай дзяржавы і асноўнай спадчынніцы ядзернай і ваеннай моцы былога Саюза. Гэта не патрабавала ад сусветнай супольнасці міжнароднага прызнання Расіі, якая аўтаматычна ўступіла ў валоданне міжнароднымі правамі і абавязкамі СССР.

Іншыя задачы ў сферы міжнароднага прызнання паўсталі перад Беларуссю. Нягледзячы на статус дзяржавы — заснавальніцы ААН і 45-гадовы вопыт удзелу ў рабоце гэтай арганізацыі, БССР не была прызнана ў свеце як суверэнная і незалежная дзяржава. Яе суверэнітэт быў абмежаваны ва унітарным, цэнтралізаваным СССР, а ў ААН і яе спецыяльных установах БССР адыгрывала незайздросную ролю «дадатковага голасу» для агульнасаюзнай дэлегацыі.

Аднак з фармальна-юрыдычнага боку гледжання становішча РСФСР было нават яшчэ больш складаным. Яна не мела тых прававых інстытутаў, якія былі ва ўсіх астатніх саюзных рэспубліках. Аднак геапалітычнае становішча РСФСР у складзе Саюза яе эканамічны, людскі і ваенны патэнцыял, яе гістарычная роля збіральніка зямель вакол Масквы і Русі, прадаўжальніка вялікадзяржаўных традыцый Расійскай імперыі кампенсавалі недахопы ў прававым статусе Расійскай Федэрацыі як саюзнай рэспублікі. Невыпадкова, што ва ўсім свеце Савецкі Саюз называлі яшчэ Савецкай Расіяй.

Што датычылася Беларусі, то яе статус, як і астатніх саюзных рэспублік, вызначаемы заходнімі спецыялістамі ў галіне міжнароднага права як «квазідзяржава», «паўдзяржава» ці «дзяржава асобнага роду», патрабаваў іншага афармлення пасля распаду СССР. Гэта гістарычная задача была хутка вырашана. На працягу 1992 г. Рэспубліка Беларусь была прызнана большай колькасцю дзяржаў свету. Па стане на 1 лютага 1993 г. яе прызналі 108 дзяржаў, у тым ліку ўсе вялікія краіны свету, 68 з якіх усталявалі з Беларуссю дыпламатычныя адносіны.

25 чэрвеня 1992 г. паміж РБ і РФ былі ўсталяваны дыпламатычныя адносіны. Пастаяннае прадстаўніцтва БССР пры Савеце Міністраў СССР было ператворана ў Пасольства Рэспублікі Беларусь у Расійскай Федэрацыі, а ў Мінску было адчынена Пасольства Расійскай Федэрацыі ў Беларусі. Усталяванне дыпламатычных адносін, што азначае поўнае і канчатковае міжнародна-прававое прызнанне дзяржавы ці ўрада (прызнанне дэ-юрэ), адбылося са спазненнем, недаравальным для адносін «брацкіх народаў». Расія з'явілася толькі 53-й па ліку дзяржавай свету і апошняй з вялікіх дзяржаў — пастаянных членаў Савета Бяспекі ААН, якая ўсталявала дыпламатычныя адносіны з Беларуссю. Першымі дыпламатычныя адносіны з ёй усталявалі Украіна і ЗША (27 і 28 студзеня 1991 г.

адпаведна). Расійскі ўрад спазніўся з усталяваннем дыпламатычных адносін з Рэспублікай Беларусь, зрабіўшы гэта пасля дзесяткаў еўрапейскіх, афра-азіяцкіх і амерыканскіх краін.

У гістарычным кантэксце, аднак, ніхто не можа аспрэчваць у Расіі яе прыярытэты ў прызнанні беларускай дзяржаўнасці. 29 жніўня 1918 г. СНК РСФСР прыняў дэкрэт, які адмяняў дагаворы і акты, заключаныя Расійскай імперыяй з Прусіяй і Аўстра-Венгрыяй аб падзелах Рэчы Паспалітай. Тым самым урад Савецкай Расіі прызнаваў права народаў, што ўваходзілі ў склад Рэчы Паспалітай, у тым ліку і Беларусі, на аднаўленне сваёй дзяржаўнасці. Урад Савецкай Расіі прызнаваў дэ-факта ўрад БНР. 31 студзеня 1919 г. Усерасійскі цэнтральны выканаўчы камітэт прыняў пастанову «Аб прызнанні незалежнасці Беларускай Савецкай: Сацыялістычнай Рэспублікі», у якой адзначалася, што факт прыналежнасці Беларусі да Расійскай імперыі не накладае на Беларусь ніякіх абавязацельстваў.

У перыяд існавання савецка-камуністычнай сістэмы паміж БССР і РСФСР былі заключаны два асноўныя дагаворы: Дагавор аб ваенным і гаспадарчым саюзе ад 16 лютага 1921 г. і Дагавор аб сяброўстве і супрацоўніцтве ад 18 снежня 1990 г. Яны вельмі характэрным чынам адлюстравалі спецыфіку федэратыўных адносін паміж савецкімі рэспублікамі як на этапе стварэння СССР, так і яго дэзінтэграцыі. Пасля стварэння СНД беларускаму і расійскаму ўрадам спатрэбілася больш як тры гады, каб перавесці двухбаковыя сувязі ў нармальнае русла міждзяржаўных адносін. 21 лютага 1995 г. у час першага афіцыйнага візіту прэзідэнта Расіі Б. М. Ельцына ў Мінск паміж ім і прэзідэнтам Беларусі А. Р. Лукашэнкам быў падпісаны Дагавор аб сяброўстве, добрасуседстве і супрацоўніцтве паміж Рэспублікай Беларусь і Расійскай Федэрацыяй, у якім бакі абавязваліся будаваць сяброўскія, добрасуседскія адносіны і развіваць супрацоўніцтва, кіруючыся прынцыпамі і нормамі міжнароднага права.

У 1990-1993 гг. беларуска-расійскія адносіны перажылі даволі складаны этап пераходу ад міжрэспубліканскіх адносін у складзе СССР да афармлення міждзяржаўных адносін паміж дзвюма новымі незалежнымі дзяржавамі (хаця статус новай незалежнай дзяржавы можа быць прыменены да Расіі вельмі ўмоўна). Для гэтага перыяду характэрны непаслядоўнасць, хістанні, цяжкі пошук новых асноў двухбаковых адносін. Гэта былі гады геапалітычнага вакууму, хісткага і няпэўнага становішча на постсавецкай прасторы, якое не пераадолена па сённяшні дзень. Масква галоўную ўвагу накіравала на адносіны з Захадам і асабліва з ЗША, забыўшыся пра сваіх партнёраў па СНД. Мінск, абвясціўшы курс на нейтралітэт і бяз'ядзернасць,

спрабаваў знайсці новыя знешнепалітычныя прыярытэты. Не адхіляючы стратэгічны курс на ўсебаковае супрацоўніцтва з Расіяй і іншымі краінамі СНД, беларускае кіраўніцтва, у першую чаргу Старшыня Вярхоўнага Савета С. Шушкевіч, шукала дарогу для новага месца Беларусі на палітычнай карце Еўропы як месца паміж Усходам і Захадам. С. Шушкевіч і міністр замежных спраў П. Краўчанка былі адзінымі ў імкненні аслабіць эканамічную, палітычную і ваенную залежнасць Беларусі ад Расіі і адначасова ўмацаваць палітычныя і гандлёвыя сувязі з краінамі Цэнтральнай і Заходняй Еўропы і ЗША.

Курсу С. Шушкевіча на актыўную знешнюю палітыку на Усходзе і Захадзе супрацьстаяла лінія ўрада В. Кебіча і наменклатурнай «партыі ўлады» на «аднаўленне разарваных эканамічных сувязей» з Расіяй і іншымі краінамі былога СССР і ўваход Рэспублікі Беларусь у сістэму калектыўнай бяспекі СНД. Гэты курс актывізаваўся з другой паловы 1993 г., калі практычныя крокі беларускага ўрада па шляху рэінтэграцыі сталі дапаўняцца заявамі В. Кебіча, у якіх выказваліся шкадаванне аб падпісанні Белавежскіх пагадненняў і адначасова салідарнасць з лозунгамі левых сіл у Расіі і Беларусі аб неабходнасці стварэння новага эканамічнага, ваеннага і палітычнага саюза з народамі былога СССР. Па меры абвастрэння сацыяльна-эканамічнага крызісу ў вярхоўных эшалонах улады Беларусі ўсё мацней гучалі галасы аб немагчымасці нармальнага, паўнацэннага развіцця краіны без Расіі. Урад адхіліў усе прапановы нацыянальна-дэмакратычных і ліберальных сіл аб неабходнасці дыверсіфікацыі знешнеэканамічнай палітыкі ў забеспячэнні сыравінай і энерганосьбітамі, у тым ліку праект стварэння Балтыйска-Чарнаморскага нафтавага калектара, вылучаны БНФ, усё тужэй прывязваючы народнагаспадарчы комплекс да расійскай нафтавай і газавай трубы. Пераломным і лёсавызначальным часам у вострай унутрыпалітычнай барацьбе, у ходзе якой вырашаліся пытанні аб выбары далейшых шляхоў развіцця Беларусі, стаў 1994 г.

Беларускі прэзідэнт абвясціў курс на фарсіраваную інтэграцыю з Расіяй і іншымі краінамі СНД у палітычнай, ваеннай, эканамічнай, культурнай галінах. Праўда, у першыя месяцы свайго праўлення А. Р. Лукашэнка гаварыў аб неабходнасці апоры на ўласныя сілы, імкнучыся поўнасцю разлічыцца за даўгі за расійскія энерганосьбіты і настройваючы дырэктарскі корпус на тое, каб той разлічваў на ўнутраныя рэсурсы. Аднак на рубяжы 1994-1995 гг. прэзідэнт і яго акружэнне перасталі напамінаць аб магчымасці самастойнага эканамічнага развіцця дзяржавы. Напярэдадні майскага 1995 г. рэферэн-

думу афіцыйная прапаганда ўсяляк усхваляла энергетычную залежнасць Беларусі ад Расіі, пужаючы выбаршчыкаў стратай расійскай сыравіны і рынку і агітуючы за падтрымку прэзідэнцкага курсу на эканамічную інтэграцыю з Расіяй. У 1995-1997 гг. у выніку падпісання шэрага дзяржаўных пагадненняў і дагавораў беларуска-расійскія адносіны былі пераведзены ў плоскасць эканамічнай, ваеннай і дзяржаўнай інтэграцыі. Саюз Беларусі і Расіі ўяўляў тады вяршыню інтэграцыйных працэсаў у рамках СНД і мадэль узнаўлення новага саюза дзяржаў на постсавецкай прасторы, адкрытага для далучэння іншых дзяржаў.

**Асаблівасці фарміравання беларуска-расійскіх адносін**.

1. Саюз Беларусі і Расіі складаецца з разнавагавых геапалітычных велічынь. Пры 10-кратнай перавазе Расіі ў колькасці насельніцтва, 80-кратнай перавазе расійскай тэрыторыі, несумяшчальным эканамічным патэнцыяле складана, а лепш сказаць, немагчыма, гаварыць аб сапраўдным раўнапраўі дзвюх дзяржаў — удзельніц Саюза. Прынцып «адна дзяржава — адзін голас», які дзейнічаў у Вышэйшым дзяржаўным Савеце Саюза Беларусі і Расіі (СБР), ушчамляў інтарэсы Расіі, на што звярталі ўвагу расійскія эксперты пры абмеркаванні ўстаноўчых дакументаў Саюза. Прынцып прапарцыянальнага прадстаўніцтва непрымальны для Беларусі, паколькі існуе вельмі значная розніца ў памерах Расіі і Беларусі. У дагаворных актах СБР быў замацаваны прынцып «адна дзяржава — адзін голас», аднак паўнамоцтвы Вышэйшага Савета абмежаваны. Саюз Беларусі і Расіі больш нагадваў штучную палітычную надбудову ў выглядзе розных яго органаў, створаную для забеспячэння палітычных інтарэсаў кіруючых эліт дзвюх краін, чым рэальны міжнародны механізм узгаднення інтарэсаў дзвюх дзяржаў.

2. Для беларуска-расійскіх адносін характэрна іх празмерная палітызацыя. Унутрыпалітычная барацьба, раскол эліт і грамадства, у першую чаргу ў Беларусі, адносна кардынальных праблем і перспектыў гэтых адносін аб'ектыўна пераўтвараюць іх у заложнікаў палітычнай барацьбы. З улікам таго, што прэзідэнт А. Р. Лукашэнка фактычна манапалізаваў тэматыку інтэграцыі з Расіяй і не жадаў дзяліцца яе лаўрамі з апазіцыяй, апошняя была вымушана крытыкаваць яго прарасійскую арыентацыю. Праўда, тут не ўсё было адназначна. Частка апазіцыйна настроеных дэпутатаў Вярхоўнага Савета 13-га склікання ў красавіку 1996 г. падтрымала ратыфікацыю Дагавора аб супольнасці Беларусі і Расіі. Але ў маі 1997 г. Другі нацыянальны кангрэс дэмакратычных сіл Беларусі прыняў заяву, якая ацэньвала інтэграцыйную палітыку А. Лукашэнкі як

«шырокамаштабную кампанію па ліквідацыі дзяржаўнасці Беларусі». Палітызацыя і ідэалагізацыя беларуска-расійскіх адносін падрывала іх хісткія, яшчэ не сфарміраваныя асновы, якія абавязаны будавацца на геапалітычных разліках і дзяржаўных інтарэсах, а не на ідэях «усходнеславянскага адзінства, брацтва, і сяброўства», хаця ролю апошніх у ідэалагічным забеспячэнні інтэграцыйнай палітыкі нельга ігнараваць.

3. Усведамленне і рэалізацыя вышэйшымі эшалонамі ўлады абедзвюх краін уласных дзяржаўных інтарэсаў у галіне двухбаковых адносін адбывалася непаслядоўна і супярэчліва. Гэтыя складанасці ў пэўным сэнсе былі зразумелыя, паколькі беларускае і расійскае грамадства і іх эліты яшчэ не самаідэнтыфікаваліся. Працэс фарміравання нацыянальнай самасвядомасці беларускага і расійскага народаў не завяршыўся. Многія грамадзяне Беларусі і Расіі, іх грамадскія і палітычныя эліты не жадаюць ідэнтыфікаваць сабе як прадстаўнікоў розных нацый і дзяржаў. Дзяржаўныя інтарэсы Расіі і Беларусі яны схільны разглядаць выключна праз прызму збліжэння, інтэграцыі і ўз'яднання. Іншыя знешнепалітычныя разлікі, арыентацыі, прыярытэты і варыянты развіцця двухбаковых адносін, пабудаваныя на геапалітычных асновах, рэалізме і прагматызме, гэта значыць на дзяржаўных інтарэсах, абвяшчаюцца прыхільнікамі інтэграцыі несумяшчальнымі з традыцыямі і духам сяброўства і брацтва абодвух народаў.

4. Слабае ўсведамленне дзяржаўных інтарэсаў у сферы двухбаковых адносін кампенсавалася ідэалагемамі, стэрэатыпамі і міфамі. Адным з найбольш распаўсюджаных і прывабных з'яўляецца тэзіс аб «народах-братах», «брацкіх адносінах» паміж беларускім і рускім народамі, які лагічна вядзе да падзелу на «старэйшага і малодшага братоў». У беларусаў гэты лозунг рэанімуе і ўмацоўвае комплекс непаўнавартасці і нацыянальнага нігілізму («мы без Расіі прападзём»), у расіян гальванізуе ідэі месіянства, вялікадзяржаўнасці, імперскай нацыі. Пры будаўніцтве новых адносін паміж Беларуссю і Расіяй трэба ўлічваць негатыўны гістарычны вопыт нацыянальна-дзяржаўнага будаўніцтва Расійскай імперыі і Савецкага Саюза, кіруючыя колы якіх беспаспяхова спрабавалі фарміраваць адносіны паміж шматлікімі этнасамі гэтых імперскіх дзяржаў на дамінаванні «велікаросаў».

5. Беларуска-расійскія адносіны фарміраваліся пры нябачным удзеле трэцяй усходнеславянскай дзяржавы — Украіны. Гістарычны вопыт сумеснага жыцця беларускага і ўкраінскага народаў у складзе Расійскай імперыі і СССР і іх адносін з рускім народам сведчыць, што Украіна, дзякуючы сваім геапалітычным характарыстыкам і больш

развітой (адносна Беларусі) нацыянальнай свядомасці, з'яўлялася ўнутры славянскага трохвугольніка галоўным бар'ерам супраць асіміляцыйных і уніфікатарскіх тэндэнцый Расіі. Знаходзячыся пад заступніцтвам «сярэдняга брата» (Украіны), Беларусь магла больш смела абараняць свае нацыянальна-этнічныя правы і патрэбнасці ў адносінах са «старэйшым братам» — Расіяй. Што датычыцца Саюза Беларусі і Расіі, то ў ім Беларусь будзе адчуваць сябе няўтульна з пункту гледжання захавання нацыянальнай дзяржаўнасці, этнічнай ідэнтычнасці і беларускай мовы. Можна прагназаваць, што ў гістарычнай перспектыве захаванне СБР выключна на двухбаковай аснове прывядзе да размывання беларускай дзяржаўнасці, асіміляцыі беларускай культуры і мовы з боку значна больш моцнага і агрэсіўнага расійскага культурна-духоўнага комплексу.

У першай палове 1990 х гг. адносіны паміж Беларуссю і Расіяй прайшлі шлях ад міжрэспубліканскіх неўпарадкаваных сувязей у складзе савецкай унітарнай федэрацыі да міждзяржаўных адносін паміж дзвюма незалежнымі краінамі ў адпаведнасці з прынцыпамі і нормамі міжнароднага права. Аформіўшы распад СССР і стаўшы дэ-юрэ суверэннымі і незалежнымі дзяржавамі, Беларусь і Расія выступілі (сумесна з іншымі былымі саюзнымі рэспублікамі) ініцыятарамі рэінтэграцыі постсавецкай прасторы ў форме СНД. Убачыўшы, што гэты механізм інтэграцыі не працуе, абедзве дзяржавы стварылі свой саюз, абвясціўшы аб імкненні ператварыць яго ў федэрацыю. Такім чынам, пасля распаду ў 1991 г. савецкай федэрацыі 15 рэспублік у 1996-1997 гг. быў створаны міждзяржаўны Саюз Расіі і Беларусі, адчынены для ўступлення іншых дзяржаў.

Пытанне аб перспектывах беларуска-расійскіх адносін, альтэрнатыўных варыянтах іх развіцця не знята з парадку дня палітычных і навуковых дыскусій. На наш погляд, найбольш прымальнай і выгаднай для абодвух краін мадэлі двухбаковых адносін, якая ўлічвала б гістарычны вопыт узаемасувязей беларускага і рускага народаў і сучасны міжнародны кантэкст, была б форма адносін «стратэгічнага супрацоўніцтва» ці «сяброўскіх партнёрскіх адносін».

**Інтэграцыйная палітыка прэзідэнта А. Лукашэнкі.** Знешнепалітычным прыярытэтам нумар адзін у беларускай знешняй палітыцы з 1994 г. быў абвешчаны курс на палітычную, эканамічную і ваенную інтэграцыю з Расіяй. У лютым 1995 г. быў падпісаны беларуска-расійскі Дагавор аб сяброўстве, добрасуседстве і супрацоўніцтве. Гэты асноватворны дакумент ставіў двухбаковыя адносіны на міжнародна-прававую аснову і замацоўваў факт

існавання Беларусі і Расіі як дзвюх незалежных і суверэнных дзяржаў.

У 1995 г. яны стварылі мытны саюз, да якога у 1996 г. далучыліся Казахстан і Кіргізія, у 1999 г. — Таджыкістан. У 1999 г. 5 вышэйзгаданых дзяржаў падпісалі Дагавор аб мытным саюзе і Адзінай эканамічнай прасторы. У 1996 г. Беларусь і Расія заключылі Дагавор аб стварэнні Супольніцтва, у 1997 г. трансфармавалі яго ў Саюз. У снежні 1998 г. прэзідэнты А. Лукашэнка і Б. Ельцын заявілі ў сумеснай дэкларацыі «Аб далейшым яднанні Беларусі і Расіі» аб намеры стварыць адзіную Саюзную дзяржаву і правесці у 1999 г. рэферэндумы ў дзвюх краінах па гэтым пытанні.

8 снежня 1999 г. прэзідэнты абедзвюх краін падпісалі ў Маскве Дагавор аб стварэнні Саюзнай дзяржавы, які ўступіў у сілу ў студзені 2000 г. Дагавор прадугледжваў далейшыя сумесныя крокі дзвюх краін па зблізкэнні і аб'яднанні іх прававых, эканамічных, фінансавых, мытных і іншых сістэм, фарміраванні міждзяржаўных структур улады, што ў выніку можа прывесці да стварэння Саюзнай дзяржавы. Краіны — удзельніцы Дагавора зафіксавалі намеры добраахвотна перадаць Саюзнай дзяржаве шэраг сваіх паўнамоцтваў з мэтай ажыццяўлення адзінай палітыкі ў першую чаргу ў пытаннях стварэння адзінай эканамічнай прасторы і прававых асноў агульнага рынку. Разам з тым, паводле Дагавора, заставаліся нязменнымі асновы канстытуцыйнага ладу, захоўваліся незалежнасць, тэрытарыяльная цэласнасць, дзяржаўны лад і міжнародныя абавязкі дзяржаў.

Задача Дагавора аб стварэнні Саюзнай дзяржавы — паглыбленне інтэграцыі Беларусі і Расіі да ўзроўню міждзяржаўнага аб'яднання (саюза дзяржаў або канфедэрацыі), які меў бы адначасова рысы міжнароднай арганізацыі і федэратыўнай дзяржавы пры ўмове захавання суверэнітэту яго ўдзельнікамі. Яго прававая прырода ў некаторай ступені аналагічная прававой прыродзе ЕС.

Задачы па ажыццяўленні Беларуссю і Расіяй комплексу ўзаемазвязаных мерапрыемстваў у эканамічнай, прававой, гуманітарнай, ваеннай і іншых сферах, накіраваных на іх паэтапнае аб'яднанне, а таксама змест, этапы і тэрміны перадачы Саюзнай дзяржаве зафіксаваных у дагаворы прадметаў вядзення вызначала Праграма дзеянняў Беларусі і Расіі па рэалізацыі палажэнняў Дагавора аб стварэнні Саюзнай дзяржавы да 2005 г., прынятая прэзідэнтамі Рэспублікі Беларусь і Расійскай Федэрацыі адначасова з падпісаннем Дагавора. Таксама была прынята Праграма эканамічнага супрацоўніцтва дзвюх краін на 1999-2008 гг. Па стане на 1 студзеня 2001 г.

паміж Рэспублікай Беларусь і Расійскай Федэрацыяй падпісана больш за 200 міжурадавых і міждзяржаўных дагавораў.

Развівалася двухбаковае ваенна-палітычнае і ваенна-тэхнічнае супрацоўніцтва. У снежні 1997 г. былі падпісаны Дагавор аб ваенным супрацоўніцтве, Пагадненне аб сумесным забеспячэнні рэгіянальнай бяспекі ў ваеннай сферы. У студзені 1998 г. на пасяджэнні Вышэйшага Савета Саюза Беларусі і Расіі ў Маскве зацверджана Канцэпцыя сумеснай абароннай палітыкі дзвюх краін. Створаны сумесная абарона паветрана-касмічнай прасторы і аб'яднаная сістэма супрацьпаветранай абароны, у практычнай стадыі знаходзяцца пытанні стварэння рэгіянальнай групоўкі войскаў дзвюх краін.

Ажыццяўлялася каардынацыя знешняй палітыкі Беларусі і Расіі. Асноўнай мэтай Праграмы ўзгодненых дзеянняў у галіне знешняй палітыкі краін — удзельніц Дагавора аб стварэнні Саюзнай дзяржавы на 2004-2005 гг. абвешчана ахова і лабіраванне інтарэсаў дзвюх краін на міжнароднай арэне. Дакумент зафіксаваў намеры бакоў выпрацаваць агульныя падыходы і каардынаваць намаганні па знешнепалітычных, знешнеэканамічных, сацыяльна-культурных і іншых пытаннях. У рамках рэалізацыі гэтай Праграмы знешнепалітычнымі ўстановамі краін ажыццяўляецца пастаянная каардынацыя дзейнасці, абмен інфармацыяй, аказанне садзейнічання па пытаннях, якія выклікаюць узаемны інтарэс.

У 2000 г. былі сфарміраваны асноўныя органы Саюзнай дзяржавы, створана нарматыўна-прававая база іх дзейнасці, распрацаваны і зацверджаны: Статут і Рэгламент Вышэйшага дзяржаўнага Савета, Палажэнне і Рэгламент Савета Міністраў, Палажэнне аб Пастаянным камітэце, Часовае палажэнне аб прававым статусе і сацыяльных гарантыях службовых асоб органаў Саюзнай дзяржавы і іх апаратаў і іншыя дакументы. Асноўныя намаганні дзяржаўных органаў былі накіраваны на падрыхтоўку і прыняцце дакументаў, якія б ляглі ў аснову фарміравання адзінай эканамічнай прасторы.

30 лістапада 2000 г. у Мінску на пасяджэнні Вышэйшага дзяржаўнага савета Саюзнай дзяржавы былі падпісаны міждзяржаўнае пагадненне «Аб увядзенні адзінай грашовай адзінкі і фарміраванні адзінага эмісійнага цэнтра Саюзнай дзяржавы» і міжурадавае пагадненне «Аб мерах па забеспячэнні ўмоў для ўвядзення адзінай грашовай адзінкі». Яны прадугледжвалі, што з 1 снежня 2005 г. расійскі рубель стане адзінай валютай у абедзвюх краінах, а з 1 снежня 2008 г. планавалася ўвесці іншую грашовую адзінку, пры гэтым эмісійны цэнтр будзе знаходзіцца ў Маскве. Увядзенне адзінай грашовай адзінкі прадугледжвала выкананне шэрага ўмоў, што

датычыліся асноўных прынцыпаў грашова-крэдытнай, структурнай і падатковай палітыкі, а таксама стабілізацыі важнейшых макраэканамічных паказчыкаў.

Падпісанне і ратыфікацыя пагадненняў аб стварэнні адзінай разліковай адзінкі прадугледжвала перадачу Расіі выключнага права на эмісію грошай на тэрыторыі Беларусі, што супярэчыла Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, згодна з якой выключным правам эмісіі грошай на тэрыторыі краіны валодае Нацыянальны банк Беларусі, а нацыянальнай грашовай адзінкай з'яўляецца беларускі рубель. Выкананне гэтага пагаднення ставіць на парадак дня пытанне аб унясенні паправак і дапаўненняў як у Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь, так і Канстытуцыю Расійскай Федэрацыі. Кіраўніцтва абедзвюх краін збіраецца ажыццявіць гэта шляхам прыняцця Канстытуцыйнага акта Саюзнай дзяржавы.

Адным з найбольш важных і ў той жа час складаных праблем эканамічнай інтэграцыі з'яўляецца фарміраванне адзінай мытнай прасторы і стварэнне адзінай сістэмы тарыфнага і нетарыфнага рэгулявання ў Саюзнай дзяржаве. У гэтай галіне застаецца нямала праблем, вырашэнне якіх патрабуе карпатлівай і ўдумлівай працы, узважанага падыходу, уважлівага ўліку ўзаемных інтарэсаў.

Адным з асноўных накірункаў развіцця двухбаковых адносін Рэспублікі Беларусь з Расійскай Федэрацыяй з'яўляецца гандлёва-эканамічнае супрацоўніцтва з расійскімі рэгіёнамі, якое дазваляе напоўніць працэс фарміравання Саюзнай дзяржавы рэальным зместам. На ўзроўні ўрада Беларусі з расійскімі рэгіёнамі на пачатак 2001 г. было заключана 23 пагадненні аб гандлёва-эканамічным супрацоўніцтве. Звыш 50 дагавораў аб супрацоўніцтве з рэгіёнамі РФ было падпісана міністэрствамі і ведамствамі Беларусі. У 2000 г. ва ўзаемных пастаўках прымалі ўдзел 79 суб'ектаў Расійскай Федэрацыі (1997 г. — толькі 37) і ўсе рэгіёны Беларусі. З удзелам беларускіх і расійскіх прадпрыемстваў створана 9 фінансава-прамысловых груп.

На працягу 1999-2001 гг. адбылося 7 візітаў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь і 4 візіты Прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь у рэгіёны Расіі, Беларусь наведалі 53 дэлегацыі расійскіх рэгіёнаў. У 2000 г. каля 10 рэгіёнаў Расіі забяспечвалі больш за 70 % ад агульнага тавараабароту дзвюх краін. Лідэрам у гэтай групе з'яўляюцца Масква і Цюменская вобласць, за імі ідуць Санкт-Пецярбург, Маскоўская, Смаленская, Яраслаўская, Бранская, Калінінградская, Чэлябінская вобласці і Алтайскі край. Для інтэнсіфікацыі двухбаковага дзелавога і культурнага супрацоўніцтва ў расійскіх рэгіёнах адкрыта 7 аддзяленняў Пасольства Рэспублікі Беларусь у Расійскай Федэрацыі, а ў

Рэспубліцы Беларусь адкрыта 9 прадстаўніцтваў адміністрацый расійскіх рэгіёнаў.

Важным напрамкам у міжрэгіянальным супрацоўніцтве з'яўляецца таксама супрацоўніцтва з утворанымі на тэрыторыі Расіі федэральнымі акругамі і міжрэгіянальнымі асацыяцыямі эканамічнага ўзаемадзеяння. З імі ўстаноўлены і падтрымліваюцца пастаянныя дзелавыя кантакты. Напрыклад, у чэрвені 2000 г. у Мінску адбылося пасяджэнне заснавальнікаў асацыяцыі «Цэнтральная Расія», у склад якой ад Рэспублікі Беларусь уваходзяць Віцебская, Гомельская, Магілёўская і Мінская вобласці і горад Мінск. Адным з найбольш эфектыўных і значных накірункаў эканамічнай інтэграцыі з'яўляецца супрацоўніцтва паліўна-энергетычных комплексаў, якія грунтуюцца на фарміраванні сумесных балансаў паставак энергарэсурсаў.

Аднак ёсць шмат прычын, якія стрымліваюць развіццё беларуска-расійскага супрацоўніцтва. Перш за ўсё гэта розніца эканамічных умоў, у якіх працуюць суб'екты гаспадарання Расіі і Беларусі, і вялікія транспартныя расходы.

Нягледзячы на падпісанне цэлага шэрага палітычных дагавораў, у тым ліку Дагавора аб стварэнні Саюзнай дзяржавы, адносіны паміж Беларуссю і Расіяй і іх кіраўніцтвам пакуль цяжка назваць па-сапраўднаму саюзнымі. Гэтыя адносіны абцяжараны празмернай палітызацыяй, ідэалагізацыяй, суб'ектывізмам і папулізмам, перыядычным абвастрэннем гандлёвых і інфармацыйных войнаў. Фарсіраванае беларуска-расійскае збліжэнне падрывала аморфную СНД і выклікала падазрэнні сярод суседзяў Беларусі. Унутры краіны яно суправаджалася крытыкай і супрацьдзеяннем з боку нацыянальна-дэмакратычных сіл і шырокіх грамадскіх колаў.

Праблемы цяперашняга становішча і перспектыў беларуска-расійскіх адносін застаюцца прадметам вострай палітычнай барацьбы і грамадскіх дыскусій. Сярод пэўнай часткі насельніцтва Беларусі, яе палітычнай і інтэлектуальнай эліты распаўсюджаны настроі супраць стварэння Саюзнай дзяржавы з Расіяй і ваенна-палітычнай інтэграцыі з ёю, аб чым сведчаць сацыялагічныя апытанні. Грамадская думка і палітычная эліта дзвюх краін па-рознаму інтэрпрэтуюць мэты, задачы, тэмпы і наступствы дзяржаўна-палітычнай інтэграцыі Беларусі і Расіі ў тым выглядзе, у якім яна разгортвалася з красавіка 1996 г. Існуе рознае разуменне пераваг і недахопаў мадэлей эканамічнага развіцця дзвюх краін. Неадназначная рэакцыя суседніх дзяржаў, Захаду наогул на беларуска-расійскую інтэграцыю.

Пасля прыходу да ўлады ў Расіі прэзідэнта У. Пуціна вызначылася тэндэнцыя да спаду дэманстратыўнай інтэграцыйнай рыторыкі і

павышэння ўвагі да эканамічных аспектаў збліжэння, больш прагматычнага падыходу Расіі да вырашэння канкрэтных задач двухбаковых адносін. Праблему развіцця беларуска-расійскіх адносін нельга ацаніць адназначна, яна патрабуе адказнага і комплекснага падыходу, заснаванага не на кан'юнктурных палітычных ці іншых меркаваннях, а на ўліку нацыянальных інтарэсаў і геапалітычных традыцый Беларусі як еўрапейскай дзяржавы.

## Тэма 6

## БЕЛАРУСКА-РАСІЙСКІЯ АДНОСІНЫ НА МЯЖЫ СТАГОДДЗЯЎ (канец 1999 — пачатак 2001 г.)

У нядоўгай гісторыі беларуска-расійскіх міждзяржаўных адносін часовы адрэзак з канца 1999 да пачатку 2001 г. быў адным з самых крытычных і паваротных. За крыху больш чым год адбыліся падзеі, якія істотна паўплывалі на ход і перспектывы як унутранага развіцця Расіі і Беларусі, так і на іх знешнюю палітыку, у тым ліку на двухбаковыя беларуска-расійскія дачыненні.

Бясспрэчна, самай галоўнай і вызначальнай з гэтых падзей была змена расійскага прэзідэнта. Прыход да ўлады ў Крамлі У. Пуціна, спачатку ў якасці в. а. прэзідэнта, а пасля выбараў у сакавіку 2000 г. ужо ў якасці абранага прэзідэнта Расійскай Федэрацыі, азначыў сабой пачатак новага, пасляельцынаўскага этапу гісторыі постсавецкай Расіі і адначасова пачатак новага перыяду ў гісторыі ўзаемаадносін паміж дзвюма постсавецкімі дзяржавамі.

Разгледзім некаторыя ключавыя моманты ў развіцці адносін паміж Беларуссю і Расіяй у названы перыяд. Адметна, што пачатак новага этапу іх узаемаадносін супаў па часе з рубяжом двух дзесяцігоддзяў, стагоддзяў і тысячагоддзяў.

**Падпісанне Дагавора аб стварэнні Саюзнай дзяржавы**. Калі разглядаць канец 1999 г. як пачатак новага этапу ў беларуска-расійскіх адносінах, то адным з двух паваротных пунктаў, што прадэманстравалі новую якасць іх адносін, было падпісанне 8 снежня 1999 г. у Маскве прэзідэнтамі Б. Ельцыным і А. Лукашэнкам Дагавора аб стварэнні Саюзнай дзяржавы і Праграмы дзеянняў па яго ажыццяўленні. Гэты Дагавор быў не проста накіраваны ў XXI ст., як сцвярджаў яго тэкст. Ён, па сутнасці, падвёў рысу пад пэўным этапам інтэграцыйнага працэсу, запачаткаванага ў красавіку 1996 г. Дагаворам аб Супольнасці Беларусі і Расіі. На працягу 1996-1999 гг.

адносіны дзвюх краін прайшлі стадыі стварэння «Супольнасці», пасля «Саюза» і ўступілі ў перыяд афармлення «Саюзнай дзяржавы».

Аднак нават такія высокія тэмпы дзяржаўна-палітычнай інтэграцыі не падыходзілі беларускаму прэзідэнту, які заўжды быў ініцыятарам яе паскарэння. На цырымоніі падпісання Дагавора аб стварэнні Саюзнай дзяржавы А. Лукашэнка заявіў, што мае на мэце заключэнне яшчэ аднаго Дагавора з расійскім прэзідэнтам, Дагавора аб Саюзнай дзяржаве, г. зн. аб аб'яднанні Беларусі з Расіяй. Пры тым ён падкрэсліў, што хацеў бы ажыццявіць гэта да пачатку прэзідэнцкай кампаніі ў Расіі.

Аднак гісторыя вырашыла інакш. Дагавор аб стварэнні Саюзнай дзяржавы стаў апошнім актам з серыі буйных палітычных дагавораў, падпісаных А. Лукашэнкам і Б. Ельцыным у 1995-1999 гг. У. Пуцін, толькі заняўшы пасаду в. а. расійскага прэзідэнта, абвясціў, што было падпісана ўжо досыць эпахальных дагавораў і прыйшоў час усур'ёз брацца за іх выкананне. Тым самым ён прадэманстраваў больш рацыянальны, прагматычны падыход да адносін з Беларуссю. Але гэта быў толькі адзін з новых момантаў ягонай «беларускай палітыкі».

Перадгісторыя падпісання Дагавора аб стварэнні Саюзнай дзяржавы была пэўным чынам скандальнай. Беларускі прэзідэнт, прачытаўшы расійскі праект Дагавора, назваў яго «смеху вартым» (посмешищем). Ён палічыў, што маскоўскі праект не адпавядае сутнасці Дагавора і фактычна паўтарае Дагавор аб Саюзе 1997 г. А. Лукашэнка прапаноўваў больш радыкальны варыянт, што прадугледжваў увядзенне пасад адзінага прэзідэнта і фармаванне супольнага парламента. Паводле ягонай задумы, Саюзная дзяржава мусіла мець адзіную валюту, бюджэт, войска ды іншыя атрыбуты адзінай дзяржавы.

Гэта было не даспадобы Б. Ельцыну, які заўжды далікатна ставіўся да захавання паўнамоцтваў прэзідэнта Расіі. Расійскі бок дэманстраваў большую асцярожнасць у пытаннях захавання свайго суверэнітэту і незалежнасці. У выніку быў падпісаны ў пэўнай меры абстрактны, мала да чаго абавязваючы і двухсэнсоўны дакумент, прапанаваны Расіяй. Не абышлося і без пераносу даты падпісання Дагавора. Першапачатковая дата, прызначаная на 26 лістапада, была перанесена па просьбе расійскага боку з-за хваробы Б. Ельцына. Гэта таксама выклікала падазрэнні беларускага кіраўніка.

Газета «Известия», каменціруючы запланаванае падпісанне Дагавора, пісала, што нельга сцвярджаць, нібыта будзе створана адзіная дзяржава Расіі і Беларусі. На думку аглядальніка С. Навarудскага, дзве краіны не збліжаюцца, а аддаляюцца адна ад адной,

пра што сведчыць, напрыклад, імкненне Беларусі «спадабацца» Захаду. Беларусь пры цяперашняй уладзе будзе супрацоўнічаць толькі з тымі ў Расіі, хто «згодзіцца аплочваць яе эканамічныя дзівацтвы ў духу савецкай эканомікі». Наўрад ці Расія можа стаць гэтым спонсарам. У артыкуле прыводзіліся словы А. Лукашэнкі, сказаныя на нарадзе па пытаннях падрыхтоўкі падпісання Дагавора з Расіяй. Тады ён зноў заявіў, што меркаваны Саюз не прывядзе да пагібелі беларускай дзяржаўнасці: «Не можа быць і гаворкі пра ўваходжанне Беларусі ў склад Расіі ў якасці суб'екта федэрацыі альбо пра далучэнне да Расіі шасцю абласцямі».

Яшчэ адну немалаважную дэталь варта згадаць у сувязі з падпісаннем Дагавора аб стварэнні Саюзнай дзяржавы. Ён быў падпісаны 8 снежня. Гэта знакавая дата, таму што 8 гадоў назад у гэты дзень у Белавежскай пушчы былі падпісаны дакументы, якія аформілі распад СССР. Трэба меркаваць, першы прэзідэнт Расіі, які завяршваў сваю дзяржаўную дзейнасць, хацеў «прыгожа» ўвайсці ў гісторыю ўжо постсавецкіх міждзяржаўных адносін як «інтэгратар», а не як «разбуральнік» СССР, «аднаўляючы справядлівасць» (словы А. Лукашэнкі).

На што разлічвалі прэзідэнты дзвюх краін, падпісваючы Дагавор? Б. Ельцын, які прыняў ужо прынцыповае рашэнне пра датэрміновую адстаўку (пра што ён піша ў сваіх мемуарах «Президентский марафон», выдадзеных улетку 2000 г.), хутчэй за ўсё хацеў пакінуць свайму пераемніку, якога ён таксама ўжо вызначыў, важны палітычны капітал — Дагавор аб аб'яднанні (пакуль што патэнцыяльным) з Беларуссю. Каманда Б. Ельцына зрабіла сваю справу, прыбраўшы з дагавора небяспечныя для расійскага прэзідэнта артыкулы пра адзінага прэзідэнта, а таксама пра перадачу часткі яго паўнамоцтваў старшыні Вышэйшага дзяржаўнага савета. Гэты Дагавор павінен быў дапамагчы У. Пуціну ў яго прэзідэнцкай кампаніі, маючы на ўвазе моцныя інтэграцыйныя чаканні расійскага электарату.

А. Лукашэнка разглядаў Дагавор у якасці новага рубяжа сваёй інтэграцыйнай палітыкі, а, па сутнасці, вялікай гульні з Крамлём. Хаця ён не здолеў правесці радыкальны варыянт аб'ядання, але шанцы на падпісанне неўзабаве новага дагавора і спадзяванні стаць дзякуючы яму кіраўніком Саюзнай дзяржавы захоўваліся.

30 чэрвеня 1999 г. А. Лукашэнка казаў журналістам: «Калі будзе Саюз і яго прэзідэнт будзе выбірацца прамым адкрытым галасаваннем, то чаму мне не паспаборнічаць з Б. Ельцыным у барацьбе за гэтую пасаду?». У кастрычніку 1999 г. у прамове на пасяджэнні Дзяржаўнай Думы РФ, калі праект Дагавора ўжо быў надрукаваны

для грамадскага абмеркавання, ён сцвярджаў іншае: маўляў, улады яму хапае, ён не імкнецца кіраваць абедзвюма славянскімі краінамі. Пасля падпісання Дагавора расійскія СМІ пісалі, што магчымасць «кар'ернага ўзлёту» А. Лукашэнкі на расійскай палітычнай арэне перабольшаная, асабліва на фоне росту папулярнасці У. Пуціна.

Пасля публічнага абмеркавання Дагавора ў яго тэкст былі ўнесены пэўныя змены, якія трактаваліся афіцыйнымі беларускімі асобамі як істотныя, хаця на самой справе цяжка іх такімі назваць. Канчатковы тэкст Дагавора ўтрымлівае 71 артыкул, г. зн. на два больш, чым было ў праекце. У Дагавор было ўнесена шмат рэдакцыйных правак.

2-я глава 1-га раздзела «Грамадзянства Саюзнай дзяржавы» была дапоўнена параграфам пра тое, што грамадзяне Саюзнай дзяржавы маюць права на стварэнне саюзных грамадскіх аб'яднанняў. У тую самую главу быў дапісаны новы 16-ы артыкул. У ім абвяшчаецца, што для абароны асноўных правоў і свабод грамадзян Саюзнай дзяржавы ўтвараецца Камісія па правах чалавека. Яна дзейнічае на аснове адмысловага Палажэння, якое зацвярджаецца Вышэйшым дзяржаўным саветам. Пасля абмеркавання Праграма дзеянняў па ажыццяўленні Дагавора была дапоўнена раздзелам «Выраўноўванне асноўных макраэканамічных паказчыкаў і правядзенне адзінай структурнай палітыкі».

**Рэакцыя на Дагавор у Беларусі і Расіі.** Як паўплываў Дагавор аб стварэнні Саюзнай дзяржавы на палітычнае жыццё дзвюх дзяржаў? Можна сказаць, што палітыкі і простыя грамадзяне Беларусі і Расіі ўжо прызвычаіліся да падпісання такіх гучных палітычных дакументаў, якія насамрэч мала чаго ці наогул нічога не змянялі ў палітыцы і штодзённым жыцці. Новая дзяржава створана не была. Быў толькі дэклараваны чарговы этап у яе стварэнні. Правазнаўцы дагэтуль ламаюць галовы над тым, што такое «Саюзная дзяржава» і якая яе правасуб'ектнасць. Дарэчы на гэта звяртае ўвагу і Выніковы дакумент 3-га круглага стала навукоўцаў ФМА БДУ і ІМЭПІ РАН «Беларуска-расійскія адносіны: праблемы і перспектывы», прыняты ў Маскве 2 лютага 2000 г. Адным словам, назаўтра пасля падпісання Дагавора жыхары дзвюх краін у новай дзяржаве не прачнуліся.

Рэакцыя беларускай палітычнай (маецца на ўвазе контр-эліты) і інтэлектуальнай эліты на Дагавор была збольшага насцярожанай і адмоўнай. На працягу 1999 г. як палітычная апазіцыя, так і розныя грамадска-палітычныя сілы выступалі як у самой краіне, так і на разнастайных міжнародных форумах з асуджэннем планаў падпісання Дагавора, што разглядалася імі як «здача» незалежнасці Беларусі. Беларуская апазіцыя і грамадскія колы разгарнулі ў другой

палове 1999 г. кампанію пратэсту ў сувязі з запланаваным падпісаннем Дагавора аб стварэнні Саюзнай дзяржавы з Расіяй. Яны актыўна звярталіся да кіраўнікоў дзяржаў, урадаў, міжнародных міжурадавых і няўрадавых арганізацый з просьбай выступіць у абарону суверэнітэту і незалежнасці Беларусі.

Пасля падпісання Дагавора з адмысловай заявай выступіў Старшыня Вярхоўнага Савета 13-га склікання С. Шарэцкі, што знаходзіўся ў Вільні. Ён ахарактарызаваў Саюзны дагавор як антыканстытуцыйны і незаконны акт, які не мае ніякіх юрыдычных наступстваў.

Праціўнікі стварэння Саюзнай дзяржавы правялі ў Мінску акцыі пратэсту. 8 снежня 1999 г. прыблізна 40 чалавек перакрылі на 10 хвілін рух у раёне плошчы Якуба Коласа. Была таксама арганізавана публічная акцыя спальвання расійскага сцяга. У ноч з 7 на 8 снежня на некаторых цэнтральных вуліцах беларускай сталіцы з'явіліся белчырвона-белыя сцягі. 8-9 снежня на вэб-сайце праваабарончай арганізацыі «Хартыя-97» адбылася віртуальная акцыя пратэсту «Абаронім незалежнасць Беларусі!». Наведвальнікам сайта было прапанавана паслаць электронны ліст на адрас кангрэса ЗША, парламента Вялікабрытаніі, прэзідэнтаў і ўрадаў гэтых краін, кіраўніцтва АБСЕ. У ім нагадвалася пра Будапешцкі мемарандум аб гарантыях бяспекі Беларусі ад 5 снежня 1994 г., сцвярджалася, што Саюзны дагавор накіраваны на інкарпарацыю Беларусі ў склад іншай дзяржавы насуперак нормам міжнароднага права. За два дні электронныя лісты адаслалі больш як 200 чалавек.

У Расіі адкрытую незадаволенасць падпісаннем Дагавора з Беларуссю выказалі кіраўнікі некалькіх рэспублік, што з розных прычын прэтэндавалі на асобнае становішча ў складзе Расійскай Федэрацыі. Найбольш жорстка выказаліся прэзідэнт Татарстана М. Шайміеў і прэзідэнт Інгушэціі Р. Аўшаў, якія лічылі, што статус кіруемых імі аўтаномій павінен быць павышаны да статуса Беларусі. У менш рэзкай форме гэтую пазіцыю падтрымаў кіраўнік Башкартастана М. Рахімаў.

У прыватнасці, М. Шайміеў казаў пра недарэчную паспешлівасць з падпісаннем Дагавора, яго кан'юнктурную аснову, паважаючы, што ствараемы Саюз «стане ўрэшце бяздзейным і нікому не зразумелым утварэннем». Ён заклікаў не паддавацца настрою беларускага боку, зацікаўленага ў фарсіраванні працэсу інтэграцыі. Татарскі прэзідэнт выказаўся і наконт перспектыў расійска-беларускага саюза. «Калі гэты саюз акажацца мертвародкам, то, адпаведна, жыцця ў яго не будзе. Калі ж ён акажацца неданоскам — то валтузні з ім будзе яшчэ

больш». «Известия», каменціруючы рэакцыю кіраўнікоў суб'ектаў РФ на Дагавор, пісалі, што не варта перабольшваць небяспечнасці гэтай праблемы для Расіі, бо ў Масквы ёсць мноства спосабаў дамовіцца з М. Шайміевым, не кажучы ўжо пра Р. Аўшава.

З пункту гледжання геапалітычных наступстваў падпісання Дагавора расійскія СМІ звярталі ўвагу на тое, што адным з іх можа стацца «эўтаназія СНД як чыста дэкаратыўнага ўтварэння». Досыць прадказальнай была рэакцыя Украіны. Яе прэзідэнт Л. Кучма 7 снежня 1999 г. заявіў у Парыжы, дзе ён знаходзіўся з афіцыйным візітам, што Украіна ў пытанні стварэння расійска-беларускага Саюза займае пазіцыю дэмакратычнай і незалежнай дзяржавы. Паводле яго слоў, яднацца ў Саюз — «гэта справа суверэнных расійскага і беларускага народаў, але Украіна не іграе ў такія гульні». Інакш бачыў перспектыву адносін Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі з Украінай А. Лукашэнка. 8 снежня 1999 г. перад падпісаннем Дагавора ў Крамлі ён заявіў: «Трэба больш падцягваць Украіну да Саюза».

Як рэагавала грамадская думка на Дагавор аб стварэнні Саюзнай дзяржавы? Падчас абмеркавання праекта Дагавора афіцыйныя прадстаўнікі Беларусі і Расіі казалі, што беларусы і расіяне аднадушна падтрымліваюць аб'яднанне дзвюх краін. Аднак звесткі незалежных сацыялагічных даследаванняў у Беларусі абвергглі гэтую радасную карціну.

У Расіі стварэнне адзінай расійска-беларускай дзяржавы падтрымлівалі каля 70 % расіянаў. У Беларусі вынікі агульнанацыянальнага апытання, зробленага Незалежным інстытутам сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў у лістападзе 1999 г., выявілі наступны расклад прыхільнікаў і праціўнікаў аб'яднання з Расіяй. Рэспандэнтам задавалі пытанне наконт галасавання на гіпатэтычным рэферэндуме аб стварэнні адзінай дзяржавы. 47 % удзельнікаў апытання выступілі за аб'яднанне, 34,1 % — супраць, не ўдзельнічалі ў галасаванні больш за 15 %, мелі цяжкасці з адказам больш як 3 % рэспандэнтаў. Як бачым, колькасць патэнцыяльных праціўнікаў дзяржаўнага аб'яднання ў Беларусі перавышала 1/3 апытаных.

Праблемы і цяжкасці з выкананнем Дагавора. 16 снежня 1999 г. А. Лукашэнка правёў на беларускім тэлебачанні сустрэчу з журналістамі, прысвечаную вынікам падпісання Саюзнага дагавора. Ён сказаў сакраментальную фразу, што ў далейшым Беларусь і Расія мусяць выпрацаваць такую форму аб'яднання, пры якой дзве краіны захавалі б свой суверэнітэт і незалежнасць, але пры тым існавалі б як адзіная дзяржава. Відаць, разумеючы ўсю складанасць (а, на нашу думку, відавочную немагчымасць такой формы аб'яднання), А.

Лукашэнка патлумачыў, што «развязаць гэтае пытанне будзе надта няпростае

На думку А. Лукашэнкі, сутнасць падпісаных у Маскве дамоўленасцей заключалася ва ўсё больш цеснай эканамічнай інтэграцыі. Беларускі бок, як было сказана, дамогся, каб тэкст Дагавора быў дапоўнены, дзе былі акрэслены канкрэтныя эканамічныя механізмы аб'яднання. Было адзначана, што не выканаць такі Дагавор будзе вельмі складана. Кажучы пра перавагі Саюза з Расіяй, А. Лукашэнка перасцярог грамадзян Беларусі ад празмерных спадзяванняў і ілюзій адносна таго, што выгоды ад аб'яднання імгненна адаб'юцца на іх узроўні жыцця і памерах заробку. Варта звярнуць увагу на гэту новую думку ў яго інтэграцыйнай аргументацыі, якая раней выкарыстоўвала выключна радасна-аптымістычныя довады, каб абгрунтаваць аб'яднаўчы працэс з Расіяй.

А. Лукашэнка зноў выказаў надзею, што Украіна, і не толькі яна, далучыцца да Саюза Беларусі і Расіі, «калі Саюз сапраўды будзе дзейсным». Паводле яго слоў, лёс постсавецкіх дзяржаў вырашаць не іх кіраўнікі, а народы. «А народы вымусяць сваіх кіраўнікоў тое зрабіць».

16 снежня 1999 г. пастаянныя прадстаўнікі Рэспублікі Беларусь і РФ пры ААН А. Сычоў і С. Лаўроў перадалі Генеральнаму сакратару ААН К. Анану тэкст Дагавора аб стварэнні Саюзнай дзяржавы. Падчас сустрэчы з К. Ананам было падкрэслена, што падпісанне гэтага дакумента ніяк не адаб'ецца на членстве дзвюх дзяржаў у ААН. Гэту заяву трэба разглядаць як своеасаблівы адказ на другі пункт Выніковага дакумента 2-га круглага стала навукоўцаў ФМА БДУ і ІМЭПІ РАН «Беларуска-расійскія адносіны: праблемы і перспектывы», прынятага ў Мінску 27 студзеня 1999 г., у якім была выказана наша заклапочанасць «няяснасцю міжнародна-прававога статуса новай дзяржавы (створанай у форме «Саюзнай дзяржавы». — У. С.) і магчымасцю страты Расіяй яе статуса пастаяннага члена Савета Бяспекі ААН».

Дзяржаўная Дума Расійскай Федэрацыі ратыфікавала Дагавор аб стварэнні Саюзнай дзяржавы на пазачарговым пленарным пасяджэнні 13 снежня 1999 г. Гэта было зроблена амаль аднагалосна: за ратыфікацыю прагаласавалі 382 дэпутаты, супраць — 3, устрымаліся 3 парламентарыі. Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь ратыфікавала Дагавор 14 снежня у Савет рэспублікі — 22 снежня; пры тым галасаванне ў абедзвюх палатах было аднагалосным.

Афіцыйны прадстаўнік прэзідэнта, старшыня ўрада Расійскай Федэрацыі У. Пуцін, прадстаўляючы Дагавор у Думе, паведаміў, што ўрад, працуючы над яго праектам, разумеў усе цяжкасці перагаворнага працэсу і выканання пунктаў Дагавора. Канстытуцыйна-прававая будова Саюзнай дзяржавы — гэта прадмет вельмі вялікай, разважлівай працы. Чакаецца працяглы працэс падрыхтоўкі і прыняцця законаў па пытанні грамадзянства, выбараў у саюзны парламент і інш.

У. Пуцін адзначыў, што асновы канстытуцыйнага ладу Расіі і Беларусі застаюцца ранейшымі. Суб'екты Расійскай Федэрацыі выйграюць ад аб'яднання як эканамічна, так і палітычна. Кіраўнік расійскага ўрада звярнуў асобную ўвагу на якаснае адрозненне Дагавора ад ранейшых інтэграцыйных праектаў: упершыню пададзена заяўка на стварэнне Саюзнай дзяржавы. «Якая б крытыка ні гучала звонку, ніхто не сумняваецца і не можа сумнявацца ў волі народаў Расіі і Беларусі да аб'ектыўнага аб'яднання», — заявіў У. Пуцін.

Афіцыйныя асобы, аглядальнікі і эксперты сцвярджалі, што галоўным у працэсе ажыццяўлення Дагавора з'яўляецца эканамічная інтэграцыя. «Известия», падсумоўваючы вынікі інтэграцыйнага працэсу 1999 г., пісалі, што Беларусь стаіць перад фінансавай дылемай, якая адначасова з'яўляецца дылемай палітычнай. Прапанова Расіі зрабіць расійскі рубель адзінай валютай будучай Саюзнай дзяржавы, а адзіны эмісійны цэнтр пакінуць у Маскве азначае для Беларусі «страту ўласных грошай і, па сутнасці, дзяржаўнай самастойнасці». Газета слушна адзначала, што гэта палохае далёка не ўсіх беларусаў. Ілюзія, што лепшае жыццё пачнецца імгненна, прымушае шмат каго з іх станавіцца самымі актыўнымі прыхільнікамі дзяржаўнага яднання.

Назаўтра пасля падпісання Дагавора «Известия» пісалі, што ў эканамічнай сферы праект стварэння Саюзнай дзяржавы мае вельмі сумныя перспектывы. Долі дзвюх краін у знешнім гандлі адна з адной немагчыма параўнаць. Рэальны эканамічны саюз магчымы толькі пры правядзенні аднолькавай эканамічнай палітыкі. Не выпадае чакаць ад А. Лукашэнкі эканамічнага лібералізму. Калі Расія вырашыцца на рэстаўрацыю старой савецкай сістэмы, дык атрымаецца саюз дзвюх жабрачых дзяржаў без шанцаў разбагацець, падагульняла газета.

**Прыход У. Пуціна**. У канцы 1999 г. адбылася значна больш важная, чым падпісанне Дагавора аб стварэнні Саюзнай дзяржавы, падзея ў беларуска-расійскіх адносінах. 31 снежня першы прэзідэнт Расійскай Федэрацыі Б. Ельцын абвясціў пра датэрміновае складанне

з сябе прэзідэнцкіх паўнамоцтваў і перадачу абавязкаў прэзідэнта старшыні ўрада У. Пуціну.

Гэта рашэнне было нечаканай і непрыемнай навагодняй навіной для А. Лукашэнкі. Старшыня Вышэйшага савета Саюза Беларусі і Расіі даведаўся пра яе, як і простыя грамадзяне, з паведамленняў радыё і тэлебачання. А. Лукашэнка не даў рады прыхаваць сваёй засмучанасці, калі праз некалькі гадзін пасля таго выступіў на тэлебачанні з заявай наконт змены крамлёўскага кіраўніка.

У заяве гаварылася пра тое, што гэты крок Б. Ельцына быў «з разуменнем» сустрэты ў Беларусі. Выказвалася ўпэўненасць, што У. Пуцін, які значна зрабіў для беларуска-расійскага адзінства, будзе паслядоўна праводзіць лінію на ажыццяўленне падпісаных дамоўленасцей. А. Лукашэнка запэўніваў новага расійскага кіраўніка, што «Рэспубліка Беларусь застаецца надзейным і верным саюзнікам Расіі ў гэты выключна адказны час развіцця расійскай дзяржаўнасці».

У тэлеграме Б. Ельцыну А. Лукашэнка казаў аб перанятых ім супярэчлівых пачуццях у сувязі з рашэннем Б. Ельцына датэрмінова пакінуць пасаду расійскага прэзідэнта. «Сэрцам я так і не прыняў Вашага рашэння. Вось чаму — не магу змірыцца з думкай аб гэтай палітычнай страце». У пасланні выражалася глыбокая ўдзячнасць народа Беларусі і асабіста яго прэзідэнта за адданасць Б. Ельцына Саюзу Беларусі і Расіі, актыўную падтрымку Беларусі ў яе станаўленні як суверэннай дзяржавы.

31 снежня Б. Ельцын патэлефанаваў А. Лукашэнку. Паводле паведамлення прэс-службы беларускага прэзідэнта, у цёплай і шчырай гутарцы ён распавёў пра матывы свайго рашэння. Б. Ельцын паведаміў, што сваё першае тэлефанаванне пасля прыняцця рашэння аб адстаўцы ён зрабіў Б. Клінтану як кіраўніку вялікай ядзернай дзяржавы. Пасля патэлефанаваў А. Лукашэнку і падкрэсліў, што гэтае тэлефанаванне ёсць «данінай павагі і прызнання заслуг прэзідэнта Беларусі ў справе яднання народаў Расіі і Беларусі».

3 студзеня 2000 г. адбылася тэлефонная размова паміж прэзідэнтам Беларусі А. Лукашэнкам і в. а. прэзідэнта Расіі, прэм'ер-міністрам У. Пуціным. Абодва кіраўнікі сышліся на думцы, што «няма патрэбы мяняць палітыку ўзаемаадносін дзвюх дзяржаў». А. Лукашэнка выказаў упэўненасць, што «У. У. Пуцін працягне лінію на развіццё інтэграцыі паміж Беларуссю і Расіяй».

Беларускія палітыкі і палітычныя назіральнікі выказвалі розныя меркаванні і прагнозы развіцця беларуска-расійскіх адносін пасля адыходу ад улады Б. Ельцына. Глыбокі прагноз, які спраўдзіўся пазней, зрабіў старшыня партыі камуністаў С. Калякін. У першыя дні

2000 г. ён сказаў, што пакуль У. Пуцін на працягу трох месяцаў будзе кіраваць Расіяй да абвешчаных у сакавіку прэзідэнцкіх выбараў саюзныя адносіны дзвюх дзяржаў змогуць атрымаць канкрэтнае напаўненне. С. Калякін сказаў, што асабістыя дачыненні і размытыя палітычныя нюансы ў інтэграцыйным працэсе адыдуць на другі план, а на першы план выйдуць эканамічныя інтарэсы, будзе болей прагматызму, меней спроб выкарыстаць інтэграцыю ў палітычных мэтах, хаця гэта карта яшчэ будзе разыгрывацца на прэзідэнцкіх выбарах у Расіі. Пасля гэтых выбараў, на яго думку, усе спробы вырашаць унутраныя праблемы за кошт інтэграцыі адыдуць у мінулае. Інтэграцыя альбо напоўніцца рэальным зместам, альбо застанецца пустым гукам.

**Новыя моманты ў беларуска-расійскіх адносінах**. Як развіваліся дачыненні паміж У. Пуціным і А. Лукашэнкам, а на іх тле — міждзяржаўныя адносіны Расіі і Беларусі на працягу 2000 — пачатку 2001 г.? Вылучым самыя істотныя і прыкметныя падзеі гэтага часу. Нельга сказаць, што яны з самага пачатку складваліся як шматабяцальныя, як просты працяг адносін, што існавалі паміж Б. Ельцыным і А. Лукашэнкам. У. Пуцін, займаючы пасаду прэм'ер-міністра, выступаў з жорсткімі заявамі наконт «чорнай мытнай дзіркі» на мяжы дзвюх краін, даючы зразумець, што ён не змірыцца з існуючым на кардоне бязладдзем. Ён не дапускаў пацалункаў ды абдымкаў з беларускім кіраўніком. Стаўшы в. а. прэзідэнта, а пасля абраным прэзідэнтам, У. Пуцін не раскрываў абдымкаў беларускаму калегу, падкрэслена захоўваючы дыстанцыю.

26 студзеня 2000 г. Дагавор аб стварэнні Саюзнай дзяржавы ўступіў у сілу пасля таго, як У. Пуцін і А. Лукашэнка абмяняліся ў Маскве ратыфікацыйнымі граматамі. 27 студзеня адбылося першае пасяджэнне Вышэйшага дзяржаўнага савета Саюзнай дзяржавы, на якім былі зацверджаны статус і рэгламент ВДС, палажэнне аб Савеце міністраў Саюзнай дзяржавы, а таксама бюджэт Саюза на 2000 г. Пасля таго на «саюзным фронце» ўсталявалася зацішша.

У красавіку пачалося ажыўленне. На 14-й сесіі Парламенцкага сходу Саюза Беларусі і Расіі зноў абраны яго старшынёй Г. Селязнёў (старшыня Дзяржаўнай Думы РФ) выказаў шкадаванне, што Дагавор аб стварэнні Саюзнай дзяржавы можна разглядаць больш «як дагавор-дэкларацыю, а не як дагавор-абавязак». Ён таксама папярэдзіў, што актыўнасць праціўнікаў Дагавора як унутры дзвюх краін, так і за іх межамі будзе расці.

16 красавіка адбыўся першы афіцыйны візіт прэзідэнта У. Пуціна ў Мінск. Ён быў кароткачасовым (прыблізна 5-6 гадзін) і адбыўся па

дарозе ў Лондан на сустрэчу з прэм'ер-міністрам Вялікабрытаніі Э. Блэрам. Візіту папярэднічала гучная заява А. Лукашэнкі пра стварэнне вайсковай групоўкі з аддзелаў беларускіх узброеных сіл і Маскоўскай вайсковай акругі, якая выклікала масу занепакоеных каментарыяў на Захадзе і ў суседніх краінах. Наўрад ці гэта ваяўнічая ініцыятыва адпавядала дыпламатычным мэтам першага візіту новага расійскага прэзідэнта ў адну з заходніх дзяржаў. Пярэчачы беларускаму калегу, У. Пуцін зрабіў у Мінску паказальную заяву: «Абарончыя і палітычныя планы не могуць будавацца на хісткім эканамічным фундаменце», пазначыўшы такім чынам эканамічны прыярытэт адносін з Беларуссю.

У маі А. Лукашэнку не запрасілі на цырымонію інаўгурацыі У. Пуціна, хаця яго статус старшыні ВДС Саюзнай дзяржавы даваў падставы ўсур'ёз разлічваць на ўдзел у гэтым урачыстым мерапрыемстве. Зрэшты, гэта не выглядала скандальным, бо на цырымонію не запрасілі нікога з замежных кіраўнікоў.

У жніўні 2000 г. на сустрэчы ў Ялце У. Пуцін ясна даў зразумець беларускаму калегу, што за расійскі газ варта плаціць нават сябрам. Для А. Лукашэнкі прамалінейнасць стала прыкрай неспадзяванкай. Ён не стрымаўся і паўшчуваў Маскву за эгаізм. Ён абвясціў, што, каб не саюзніцкія абавязацельствы перад Расіяй, Беларусь ніколі не трымала б такое вялізнае войска, а Масква, маўляў, замест падзякі разменьваецца на дробязі з-за газу.

Каменціруючы ў кастрычніку фінансавыя прэтэнзіі з боку Расіі, А. Лукашэнка адзначыў, што ў яго ўпершыню адбыўся абмен думкамі «на павышаных тонах з прэзідэнтам Расіі... і мы пачалі так пабухгалтарску лічыць, хто каму і па колькі прадае». На прыкладах продажу беларускіх трактароў па нізкіх цэнах, неападаткаванага будаўніцтва газаправода Ямал-Еўропа, утрымання расійскай групоўкі ў Беларусі яму нібыта ўдалося давесці У. Пуціну абгрунтаванасць паставак у Беларусь газу па цане 40 дол. ЗША замест агульнасусветнага кошту 90-100 дол.

Адначасова А. Лукашэнка выказаўся наконт прычын, што перашкаджаюць больш шпаркай і глыбокай інтэграцыі. Гэты працэс тармозіцца з-за таго, што «яго слаба разумеюць у расійскім урадзе і наогул не разумеюць вось гэтыя рэфарматары, якіх вельмі багата яшчэ на дзяржаўных пасадах Расійскай Федэрацыі».

У кастрычніку на наступнай сустрэчы двух прэзідэнтаў адбыўся яшчэ адзін паказальны выпадак. У адказ на заяву А. Лукашэнкі, што Расія ў адрозненне ад Захаду прызнала вынікі кастрычніцкіх выбараў у Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь, У.

Пуцін, што стаяў побач, абвясціў: «Мы не ўмешваемся ва ўнутраныя справы іншых дзяржаў».

У заключэнні дэлегацыі Цэнтральнай выбарчай камісіі РФ, што ажыццяўляла назіранне за выбарамі ў Мінску, Мінскай і Гродзенскай абласцях, адзначалася, што выбары ў Палату прадстаўнікоў былі «цалкам дэмакратычнымі і адпавядалі агульнапрызнаным стандартам. У перыяд работы дэлегацыі фактаў грубага парушэння выбарчага заканадаўства ці канстытуцыйных правоў грамадзян Рэспублікі Беларусь, якія ставілі б пад сумненне дэмакратычнасць і легітымнасць выбараў, выяўлена не было».

Як вядома, міжнародная супольнасць у асобе еўрапейскай парламенцкай «тройкі» (Еўрапарламент, Парламенцкая асамблея АБСЕ і Парламенцкая асамблея Савета Еўропы) дала зусім іншую ацэнку вынікам выбараў. Расійская дэлегацыя выказалася і адносна ацэнкі парламенцкай «тройкі. Заключэнне дэлегацыі Цэнтральнай выбарчай камісіі РФ сцвярджала, што адмоўная ацэнка праведзеных у Беларусі выбараў з боку «тройкі» «сведчыць хутчэй аб палітычным падыходзе да грамадскіх працэсаў у Рэспубліцы Беларусь з боку згаданых структур». Варта дадаць, што на лістападаўскім 2000 г. саміце СНД у Мінску У. Пуцін абвясціў пра прызнанне Расіяй прэзідэнцкіх выбараў у Кыргыстане і парламенцкіх выбараў у Беларусі і Азербайджане.

Новае расійскае кіраўніцтва паступова прывучала беларускага кіраўніка да думкі, што адмаўляцца ад Саюза з Беларуссю яно не збіраецца, але будаваць яго будзе ў адпаведнасці з нацыянальнымі інтарэсамі Расіі, а не так, як гэтага хацелася б партнёру. Паводле расійскай газеты «КоммерсантЪ», А. Лукашэнку фактычна быў прад'яўлены ультыматум. Альбо ён пагаджаецца на формулу, якую Крэмль даволі паспяхова выкарыстоўвае ў дачыненнях з расійскімі рэгіёнамі (падпарадкаванне волі цэнтра), альбо Масква робіць стаўку на іншага, больш кемлівага беларускага палітыка (напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў 2001 г. у Беларусі).

Вылучаны ўльтыматум быў падмацаваны істотнымі папраўкамі ў знешнепалітычнай і абарончай стратэгіі Расіі, якія прадугледжвалі ўзмацненне лініі на супрацоўніцтва з Захадам (тэзіс У. Пуціна, што Расія і Захад з'яўляюцца стратэгічнымі партнёрамі).

**Пагадненні аб увядзенні адзінай грашовай адзінкі.** 30 лістапада 2000 г. у Мінску на пасяджэнні Вышэйшага дзяржаўнага савета Саюзнай дзяржавы прэзідэнты дзвюх краін падпісалі міждзяржаўнае пагадненне «Аб увядзенні адзінай грашовай адзінкі і фармаванні адзінага эмісійнага цэнтра Саюзнай дзяржавы», а кіраўнікі ўрадаў —

міжурадавае пагадненне «Аб захадах па стварэнні ўмоў для ўвядзення адзінай грашовай адзінкі». Яны прадугледжвалі, што ў 2005 г. расійскі рубель стане адзінай валютай у дзвюх краінах, эмісійны цэнтр будзе знаходзіцца ў Маскве, а з 2008 г. пачне дзейнічаць Саюзны банк, які выпусціць новую адзіную валюту. Варта адзначыць, што гэтыя важныя дакументы не трапілі ў друк.

Расійскі і беларускі незалежны друк расцанілі падпісаныя пагадненні як пачатак аншлюсу Беларусі. «КоммерсантЪ» пісаў, што адзіная валюта з'явіцца альбо ў выніку рэальнага паглынання Беларусі Расіяй, альбо калі Масква адмовіцца ад ліберальнага курсу на карысць узмацнення дзяржаўнага рэгулявання эканомікі. У. Пуцін пасля падпісання пагаднення са сваім беларускім калегам падкрэсліў, што стварэнне Саюзнай дзяржавы патрабуе добраахвотнай адмовы ад часткі суверэнітэту. Гэтыя словы былі адрасаваны А. Лукашэнку.

Міжурадавае пагадненне прадугледжвала стварэнне сапраўды рынкавых умоў для ўвядзення адзінай валюты. Так, яно патрабавала зніжэння гадавога ўзроўню інфляцыі і велічыні дэфіцыту дзяржбюджэту да ўзгодненых узроўняў, г. зн. да ўзроўню Расіі, што цяжка было сабе ўявіць для тагачаснага ўзроўню беларускай эканомікі. Пагадненне прадугледжвала прыватызацыю, перш за ўсё вытворчасцей і прадпрыемстваў, што знаходзяцца пад пагрозай банкруцтва, завяршэнне прыватызацыі аб'ектаў аптовага і рознічнага гандлю, грамадскага харчавання і бытавога абслугоўвання, забеспячэнне ўжо ў 2001 г. буйнамаштабнага продажу дзяржаўнай маёмасці. Яно патрабавала ад Беларусі ўзгаднення з расійскім заканадаўствам законаў аб натуральных манаполіях, дзяржаўным рэгуляванні тарыфаў на электрычную і цеплавую энергію, газазабеспячэнні, канкурэнцыі і абмежаванні манапалістычных дзеянняў на таварных рынках.

«Белорусская газета», каменціруючы праект пагаднення «Аб захадах па стварэнні ўмоў для ўвядзення адзінай грашовай адзінкі», пісала, што расіяне замахнуліся на ўсе 6-гадовыя заваёвы беларускага прэзідэнта. Застаецца здагадвацца, чаму А. Лукашэнка і прэм'ер-міністр У. Ярмошын падпісалі гэтыя надзвычай небяспечныя для суверэнітэту Беларусі пагадненні.

Пачатак новага года і новага стагоддзя азначыўся важнай заявай дзяржаўнага сакратара Саюзнай дзяржавы П. Барадзіна аб тым, што расійскі рубель магчыма будзе адзіным плацежным сродкам у Саюзнай дзяржаве ўжо ў 2001-2002 гг. Гэтую заяву падтрымаў А. Лукашэнка, які адзначыў, што пры наяўнасці эканамічных і арганізацыйных перадумоў бакі могуць перайсці да выкарыстання адзінай грашовай адзінкі раней узгодненага часу. Разам з тым ён

адзначыў, што пытанне аб адзіным эмісійным цэнтры з'яўляецца вельмі далікатным, бо закранае суверэнітэт дзвюх краін. Кажучы пра недапушчальнасць паспешнасці ў яго вырашэнні, А. Лукашэнка сказаў, што прапановы аб статусе, задачах і функцыях адзінага эмісійнага цэнтра будуць уключаны ў Канстытуцыйны акт.

У пачатку студзеня 2001 г. Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь апублікавала заключэнне, якое сцвярджала, што перадача Цэнтральнаму банку Расіі выключнага права эмісіі грошай на тэрыторыі Беларусі супярэчыць Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, паводле якой выключнае права грашовай эмісіі на тэрыторыі краіны належыць Нацыянальнаму банку Беларусі, а нацыянальнай грашовай адзінкай ёсць беларускі рубель. У заключэнні, накіраваным у Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу, падкрэслівалася, што ўступленне ў сілу гэтага пагаднення магчыма толькі пасля ўнясення паправак і дапаўненняў у Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь. Гэтая заява — рэдкі прыклад таго, як дзяржаўны інстытут стаў на варту Канстытуцыі, абвяшчаючы «неканстытуцыйным» пагадненне, падпісанае прэзідэнтам Беларусі. Праўда, крыху больш як праз месяц Міністэрства юстыцыі падкарэкціравала сваё заключэнне, заявіўшы, што трэба выпраўляць не пагадненне, а Канстытуцыю, пасля чаго пагадненне ўступіць у сілу.

Апошняй па часе важнай падзеяй у гісторыі беларуска-расійскіх адносін азначанага перыяду з'явілася справа дзяржаўнага сакратара Саюзнай дзяржавы П. Барадзіна, арыштаванага ў студзені 2001 г. у Нью-Йорку па падазрэнні ў адмыванні брудных грошай. Рэакцыя на затрыманне высокапастаўленага чыноўніка апарату Саюзнай дзяржавы з боку А. Лукашэнкі рэзка кантраставала з паводзінамі У. Пуціна, які не рабіў ніякіх рэзкіх заяў з гэтай нагоды. Справа П. Барадзіна зноў прадэманстравала пэўную напружанасць у стасунках паміж кіраўнікамі дзвюх саюзных дзяржаў.

У заявах А. Лукашэнкі, зробленых на мяжы 2000-2001 гг., узмацніліся акцэнты на незалежнасць і суверэнітэт Беларусі. У навагоднім звароце да беларускага народа ён падкрэсліў: «Суверэнітэт Беларусі — не аспрэчваецца. Мы не збіраемся прадаваць наш суверэнітэт ні Захаду, ні Усходу. Мы будзем мацаваць нашу незалежнасць, зыходзячы выключна з нацыянальных інтарэсаў». У гэтым звароце, які меў амаль праграмны характар, бо гаворка ішла пра надыход новага веку, А. Лукашэнка ні словам не згадаў Расіі і інтэграцыі Беларусі з ёй. У інтэрв'ю беларускаму тэлебачанню ў пачатку студзеня 2001 г., асноўнай тэмай якога былі маючыя адбыцца прэзідэнцкія выбары, А. Лукашэнка сказаў, закрануўшы пытанне «расійскага

чынніка» ў прэзідэнцкай кампаніі, што «прэзідэнта будзе выбіраць беларускі народ, а не Захад ці Крэмль».

**Грамадскасць Беларусі і Расіі: за і супраць інтэграцыі**. У другой палове 2000 г. актывізавалі сваю дзейнасць грамадскія сілы, што выступалі за паскарэнне інтэграцыйных працэсаў. Гэтыя сілы, аб'яднаныя ў расійскія і расійска-беларускія грамадскія арганізацыі (Пятроўская Акадэмія навук і мастацтваў, Саюзная грамадская палата і інш.), білі трывогу ў сувязі з запаволеннем і тармажэннем працэсу інтэграцыі, станаўлення Саюзнай дзяржавы.

У сваіх шматлікіх заявах і зваротах да прэзідэнтаў, старшыняў парламентаў і ўрадаў дзвюх краін яны выказвалі занепакоенасць «антысаюзнымі дзеяннямі ўплывовых палітычных сіл Расіі», прыводзілі шматлікія факты такіх дзеянняў. Сярод іх называліся: беспадстаўна маруднае ажыццяўленне Дагавора аб стварэнні Саюзнай дзяржавы і Праграмы дзеянняў па яго рэалізацыі, аднаўленне расійскім урадам мытнага кантролю на мяжы з Беларуссю, зрыў планаў будаўніцтва газаправода праз Беларусь і Польшчу, дамоўленасцей пра правядзенне выбараў у Саюзны парламент, «грубыя выпады» расійскіх СМІ, асабліва ОРТ і НТВ, у адрас Беларусі і яе прэзідэнта, якім расійскае кіраўніцтва не чыніць адпору, і г. д. У гэтых заявах прыводзіліся словы А. Лукашэнкі, што, маўляў, беларуска-расійскія адносіны дасягнулі небяспечнай рысы, што сёння на нішто зведзены ўсе дасягненні ў галіне «саюзнага будаўніцтва», што ніколі інтэграцыя не адкідвалася так далёка.

У прыватнасці, у звароце саюзнай грамадскай палаты да прэзідэнтаў дзвюх краін ад 3 лістапада 2000 г. гаварылася пра тое, што інтэграцыйны працэс упершыню пасля 1996 г. «не толькі замарудзіўся, але і перажывае зацяжны крызіс». У дакуменце звярталася ўвага на наступствы запавольвання і тармажэння інтэграцыйных працэсаў: рост скептыцызму ў грамадскіх настроях, дыскрэдытацыя ідэі яднання, змяшчалася настойлівая просьба дамагчыся пералому ў ходзе «саюзнага будаўніцтва». Заяўлялася, што грамадскасць чакае ад прэзідэнтаў рашучых дзеянняў па стварэнні дзейснай сістэмы кантролю за прынятымі рашэннямі і наданні неабходных паўнамоцтваў дзяржаўным структурам, адказным за пытанні інтэграцыі.

Адначасова з актывізацыяй праінтэграцыйных сіл дзвюх краін у Беларусі адбываўся процілеглы працэс — нарастанне грамадскага супраціўлення палітыцы, накіраванай на дзяржаўнае аб'яднанне Беларусі і Расіі, у якой патрыятычныя сілы бачылі пагрозу незалежнасці краіны. Грамадская незадаволенасць інтэграцыйнай

палітыкай улад праявілася ў перыяд, што папярэднічаў падпісанню Дагавора аб стварэнні Саюзнай дзяржавы, калі ішло публічнае абмеркаванне праекта Дагавора, асабліва ў навуковых, акадэмічных, творчых калектывах, на старонках незалежнага друку, у выступах дзеячаў беларускай культуры і навукі.

Выдатны беларускі пісьменнік В. Быкаў казаў у студзені 2000 г., што пад маркай інтэграцыі з Расіяй у Беларусі «знішчаецца нацыянальная культура, нацыянальная літаратура, нацыянальная мова». IV Кангрэс дэмакратычных сіл Беларусі прыняў 2 ліпеня 2000 г. заяву «Аб палітычнай сітуацыі», у якой асудзіў Дагавор аб стварэнні Саюзнай дзяржавы як антыканстытуцыйны акт.

У Мінску 29 ліпеня 2000 г. адбыўся Усебеларускі сход за незалежнасць, дзе прысутнічалі прыблізна 2 тыс. дэлегатаў. Ён прыняў адзін дакумент — Акт незалежнасці Беларусі. У ім абвяшчаецца, што «незалежнасць Беларусі знаходзіцца под пагрозай», якая сыходзіць ад «дагавора аб стварэнні так званай саюзнай дзяржавы з Расіяй». Акт незалежнасці дэкларуе імкненне Беларусі развіваць добрыя, раўнапраўныя і ўзаемавыгадныя дачыненні з усімі краінамі свету, асабліва суседзямі, канстатуючы адначасова яе нежаданне «стаць рэгіёнам іншай дзяржавы».

Мяжа стагоддзяў супала з крызісным этапам у гісторыі беларуска-расійскіх адносін. Прычым наяўнасць крызісу была прызнана беларускім кіраўніцтвам, якое раней заўжды было схільна даваць больш радасную інтэграцыйную карціну, чым тое было насамрэч. Трыма найважнейшымі падзеямі ў двухбаковых адносінах Беларусі і Расіі ў разгледжаны перыяд (снежань 1999 — студзень 2001 г.) сталі: падпісанне Дагавора аб стварэнні Саюзнай дзяржавы; прыход да ўлады ў Крамлі У. Пуціна і пачатак новай расійскай палітыкі ў дачыненні да Беларусі і А. Лукашэнкі; заключэнне пагадненняў аб увядзенні адзінай грашовай адзінкі Саюзнай дзяржавы.

Сутнасць «новай», калі можна так сказаць, расійскай палітыкі ў дачыненні да Беларусі, якая ў прынцыповых момантах не змянілася з часоў Б. Ельцына, заключалася ў адыходзе ад дэманстратыўнай інтэграцыйнай рыторыкі і ва ўзмацненні ўвагі да эканамічных аспектаў збліжэння, больш прагматычным падыходзе да вырашэння канкрэтных задач двухбаковых адносін, зыходзячы з нацыянальных інтарэсаў Расіі. Здаецца, што час дэкларацый, абдымкаў і інтэграцыйных гульняў мінуў. Надышоў час аплачваць рахункі. Гэтыя рахункі былі выпісаны расійскім кіраўніцтвам у выглядзе пагадненняў ад 30 лістапада 2000 г. Іх сутнасць: расійскія рублі ў абмен на беларускі суверэнітэт.

## Тэма 7
## БЕЛАРУСКА-РАСІЙСКАЯ ІНТЭГРАЦЫЯ І ЗАХАД

Праблема беларуска-расійскіх адносін, асабліва збліжэння, інтэграцыі і аб'яднання дзвюх дзяржаў — Рэспублікі Беларусь і Расійскай Федэрацыі, мае шырокі міжнародны кантэкст. Гэта не ў апошнюю чаргу абумоўлена геапалітычнай важнасцю рэгіёна, у якім размешчаны дзве краіны. Пры ўмове іх патэнцыяльнага аб'яднання мяжа будучай саюзнай дзяржавы, а фактычна той самай Расійскай Федэрацыі, апынецца на цяперашніх межах Рэспублікі Беларусь з Латвіяй, Літвой, Польшчай і Украінай. Такім чынам, беларуска-расійскі інтэграцыйны працэс самым непасрэдным чынам закранае інтарэсы дзяржаў Цэнтральнай і Усходняй Еўропы і СНД, а ў шырэйшым плане можа ўплываць на геапалітычную канфігурацыю Еўропы і Еўразіі.

**Стан праблемы даследавання**. Мэтай дадзенай тэмы з'яўляецца вывучэнне палітыкі Захаду ў дачыненні да беларуска-расійскай інтэграцыі. Пад «калектыўным» Захадам мы разумеем арганізаваную вакол НАТА і Еўрапейскага саюза (ЕС) еўраатлантычную супольнасць дзяржаў, а таксама краіны Цэнтральнай і Усходняй Еўропы, што становяцца часткай Захаду, які прасоўваецца на Усход у выніку пашырэння НАТА і ЕС. Першачарговая ўвага ў нашым даследаванні надаецца пазіцыі ЗША і суседніх з Рэспублікай Беларусь дзяржаў, бо яны збольшага сфармулявалі сваё стаўленне да беларуска-расійскага саюза. Значна менш вядома пра стаўленне вядучых краін Заходняй Еўропы (ФРГ, Францыі, Вялікабрытаніі), Еўрапейскага саюза да гэтай праблемы. Заходнееўрапейскія дзяржавы імкнуцца не выказваць публічна сваё меркаванне аб інтэграцыі дзвюх краін, аднак іх пазіцыя грунтуецца на супольных для Захаду прынцыпах непажаданасці адбудовы вакол Расіі цесна інтэграванай супольнасці.

Важнай часткай тэмы «Беларуска-расійская інтэграцыя і Захад» з'яўляецца ўнутрыпалітычны, унутрыбеларускі чыннік. Гэта тлумачыцца тым, што беларуская апазіцыя і грамадскія колы звяртаюцца да краін Захаду, міжнароднай супольнасці ў сувязі з пагрозай для незалежнасці Беларусі, якая бачыцца ім рэальнай у выпадку стварэння саюзнай дзяржавы на аснове аб'яднання Беларусі з Расіяй. Таму ўнутрыбеларускі, антыінтэграцыйны чыннік выступае як складаная частка намаганняў Захаду і ўсёй міжнароднай супольнасці, накіраваных на захаванне беларускай дзяржаўнасці.

Разглядаемая праблема, нягледзячы на сваю навізну, ужо прыцягнула да сябе ўвагу даследчыкаў. У першых кнігах аб сучаснай Бела-

русі, што з'явіліся ў Расіі і ЗША, іх аўтарскія інтэрнацыянальныя калектывы разглядаюць «беларускі чыннік» праз прызму пагроз бяспецы суседніх краін, засяроджваючыся перадусім на беларуска-расійскіх адносінах. Расійскі эксперт Дз. Трэнін, намеснік дырэктара Маскоўскага цэнтра Карнэгі, у прадмове да кніжкі «Белоруссия на перепутье: в поисках международной идентичности» адзначае, што выклік, кінуты А. Лукашэнкам унутры краіны і ў беларуска-расійскіх адносінах, ставіць беларускую праблематыку на парадак дня амерыканскай і заходнееўрапейскай палітыкі. Амерыканскі палітолаг Ш. Гарнэт адзначае важную ролю заходняй часткі постсавецкіх абшараў, дзе размешчана Беларусь, канстатуючы, што Захад, асабліва пасля пашырэння НАТА, не можа самаўхіліцца ад распрацоўкі і ажыццяўлення палітыкі ў дачыненні да гэтага рэгіёна.

Навукоўцы суседніх з Беларуссю краін, аналізуючы міжнародны аспект збліжэння Беларусі і Расіі, імкнуцца паказаць, як гэта адаб'ецца на нацыянальных інтарэсах і бяспецы гэтых краін, дзяржаў Цэнтральнай і Усходняй Еўропы (ЦУЕ) наогул. Што тычыцца ЗША, то, на думку прафесара Калумбійскага універсітэта Р. Легвалда, ЗША і Заходняя Еўропа могуць не толькі рэагаваць на інтэграцыйны працэс, але і ўплываць на формы, якія прыме беларуска-расійскі саюз. Для амерыканскіх даследчыкаў уласцівы шырокі падыход да разглядаемай тэмы, якую яны ўпісваюць у геапалітычныя рамкі заходняга «блізкага замежжа» Расіі і ўсяго рэгіёна Цэнтральнай і Усходняй Еўропы. У гэтым плане вылучаюцца працы Ш. Гарнэта і М. Бальмасэды.

Даследчыцкую актыўнасць у падыходах да дадзенай праблемы выяўляюць расійскія навукоўцы (М. Бухарын, С. Мануйлаў, Н. Медэн, В. Ніканаў, Дз. Трэнін і інш.). У прыватнасці, С. Мануйлаў апісвае стратэгічныя прынцыпы ЗША у дачыненні да Расіі і СНД, адзначаючы, што інтэграцыя ўнутры СНД ды «штучны раздзел расійскага суперэтнасу» (да якога расійская грамадска-палітычная думка схільная адносіць таксама ўкраінскі і беларускі народы) з'яўляюцца адным з асноўных сфер сутыкнення інтарэсаў Расіі і ЗША на постсавецкай прасторы. Дз. Трэнін, разглядаючы стан даследаванняў у Расіі ў галіне беларуска-расійскіх узаемаадносін, канстатуе, што большасць разважанняў расійскіх аўтараў характарызуецца «самазадаволеным русацэнтрызмам». Яго закід датычыцца і таго, што гэтыя аўтары амаль цалкам ігнаруюць рэгіянальны і агульнаеўрапейскі аспекты расійска-беларускага інтэграцыйнага працэсу. Прызнаючы справядлівасць гэтай заўвагі, усё-такі адзначым, што ў даследаваннях В. Ніканава і дакладзе Савета па знешняй і абарончай палітыцы

(старшыня С. Караганаў), падрыхтаваным у 1997 г., аналізаваліся міжнародныя аспекты збліжэння дзвюх краін.

Сярод сур'ёзных беларускіх публікацый па тэме даследавання варта вылучыць артыкулы прафесара Беларускага дзяржаўнага універсітэта А. Разанава, у якіх аналізуецца інтэрпрэтацыя Захадам беларуска-расійскай інтэграцыі, у прыватнасці ўзаемадзеянне Рэспублікі Беларусь і РФ у галіне бяспекі і абароны і рэакцыя на яго з боку суседніх дзяржаў і Захаду.

**Асновы палітыкі Захаду на постсавецкай прасторы**. Захад, уся міжнародная супольнасць віталі нараджэнне новых незалежных дзяржаў у выніку распаду СССР, абвясцілі аб падтрымцы іх незалежнасці і суверэнітэту, праводзілі палітыку аказання дапамогі краінам СНД у нацыянальна-дзяржаўным будаўніцтве, правядзенні дэмакратычных і эканамічных рэформ. З'яўленне СНД як новай, аморфнай формы інтэграцыі на постсавецкіх абшарах было сустрэта на Захадзе без занепакоенасці. У першыя гады незалежнасці працягваўся «шлюбаразводны» працэс былых саюзных рэспублік, не было і гаворкі аб іх рэальным збліжэнні, таму Захад не лічыў патрэбным публічна выказваць сваю занепакоенасць патэнцыяльна магчымай інтэграцыяй краін СНД вакол Расіі. Больш таго, ЗША і Расія супрацоўнічалі паміж сабой на постсавецкай прасторы ў справе перадачы Беларуссю, Казахстанам і Украінай ядзернай зброі ў рукі Масквы.

Захад валодаў немалымі магчымасцямі ўздзеяння на Расію ў выпадку ўзмацнення антыамерыканізму ў яе палітыцы на постсавецкіх абшарах. Сама Расія паводзіла сябе асцярожна, імкнучыся не даваць нагоды для закідаў у імперскіх замашках. Пачатак 90-х гг. адзначаны рамантычнай стадыяй адносін паміж Расіяй і Захадам. Ніводная былая саюзная рэспубліка не дэкларавала тады жадання адрадзіць нешта падобнае на СССР, стварыць цесна інтэграваную супольнасць.

Урэгуляванне пытання ядзернай спадчыны былога СССР, актывізацыя расійскіх інтэграцыйных памкненняў у «блізкім замежжы», выхад у ЗША на першы план палітыкаў, што баяліся рэінтэграцыі СССР, падштурхнулі Вашынгтон да таго, каб сфармуляваць сваю пазіцыю па пытанні постсавецкай інтэграцыі. Ужо ў пачатку 1990-х гг. аўтарытэтныя заходнія аналітыкі сталі выступаць з перасцярогамі ў адрас Расіі ў сувязі з небяспекай адраджэння ў ёй імперскай палітыкі ў дачыненні да краін блізкага замежжа. Аднак да 1994 г. гэтыя перасцярогі мелі хутчэй тэарэтычны, чым практычны характар.

Як адзначае расійскі амерыканіст А. Уткін, знешнепалітычная эліта ЗША не адразу перайшла да ўспрыняцця постсавецкай інтэграцыі як небяспекі. Гэтая выснова была зроблена падчас абмеркавання

будучыні НАТА, Расіі, стаўлення Расіі да пашырэння НАТА. Аднак, на нашу думку, не варта жорстка ўвязваць постсавецкую, перадусім беларуска-расійскую, інтэграцыю і пашырэнне НАТА на Усход, хаця сувязь паміж двума гэтымі працэсамі несумненна існуе.

У 1994 г. на постсавецкіх абшарах з'явіўся дзяржаўны лідэр, які адкрыта выступіў за «ўз'яднанне» былых савецкіх рэспублік, перш за ўсё Беларусі, Расіі і Украіны, адраджэнне СССР у новай форме. Гэта быў нобаабраны Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. Лукашэнка. Яго інтэграцыйная палітыка і рыторыка значна аблегчылі прасоўванне адпаведных планаў Расіі, якую Захад з гэтага часу фармальна не мог абвінавачваць у ініцыіраванні рэінтэграцыі.

**Беларусь у планах ЗША у пачатку 1990-х гг.** У першыя гады пасля распаду СССР Захад параўнальна мала цікавіўся Беларуссю. Гэтая слабапрафіляваная з пункту гледжання дзяржаўнай і міжнароднай ідэнтычнасці краіна, надзвычай залежная ад Расіі, не разглядалася ім у якасці важнага прыярытэту. Беларусь не ўваходзіла ў лік амерыканскіх улюбёнцаў на постсавецкай прасторы, якімі тады былі Украіна, Казахстан і Азербайджан. ЗША і Захад не ў поўнай меры аддалі належнае Беларусі за яе паслядоўную палітыку ядзернага раззбраення, калі яна першая добраахвотна адмовілася ад статуса ядзернай дзяржавы, ратыфікаваўшы ў лютым 1993 г. адпаведныя міжнародныя пагадненні.

У 1991-1992 гг. амерыканскіх палітыкаў мала турбавала роля Беларусі ў зменлівым цэнтральнаеўрапейскім кантэксце. Яна разглядалася як найбліжэйшая да Расіі краіна, яшчэ не зусім саспелая да поўнай незалежнасці. Становішча пачало выпраўляцца ў 1993 — пачатку 1994 г., калі з перапынкам у паўгода кіраўнікі Беларусі і ЗША абмяняліся афіцыйнымі візітамі. Прычым Старшыня Вярхоўнага Савета С. Шушкевіч быў першым з лідэраў дзяржаў СНД, які наведаў Вашынгтон (ліпень 1993 г.). У студзені 1994 г. Мінск з аднадзённым візітам наведаў прэзідэнт ЗША Б. Клінтан. Гэты візіт і наступная (праз 10 дзён) вымушаная адстаўка С. Шушкевіча выклікалі ў ЗША і іншых краінах Захаду хвалю ажыўленых і трывожных каментарыяў, аб чым ужо гаварылася.

Аднак афіцыйная пазіцыя ЗША ў пытанні постсавецкай інтэграцыі ў той час была досыць спакойнай і лаяльнай. У ліпені 1994 г. «Известия» надрукавалі адказ прэзідэнта ЗША Б. Клінтана на пытанне свайго карэспандэнта пад назвай «Народы былога СССР маюць права аб'яднацца зноў, калі яны самі вельмі гэтага захочуць». Аднак сутнасць адказу была не такой простай, як падала расійская газета. Адказваючы на пытанне карэспандэнта, ці можа ён прадбачыць

нейкі варыянт дэмакратычнага і законнага ўз'яднання некаторых былых саюзных рэспублік, каб гэта не пагражала ні дзяржавам Цэнтральнай Еўропы, ні краінам Балтыі, ні нацыянальным інтарэсам ЗША і ўсяму свету, Б. Клінтан сказаў наступнае: «Гэта залежыць ад таго, наколькі падобнае рашэнне будзе сапраўды добраахвотным і будзе воляй большасці нацый».

Выказваючы сваю думку аб перспектывах развіцця сітуацыі ў Беларусі, прэзідэнт адзначыў: «Калі паўстане сапраўды незалежнае палітычнае развіццё, напрыклад, у Беларусі, якое абвесціць: маўляў, мы лічым, што нам будзе лепей, калі ў нас будуць крыху іншыя адносіны з Расіяй, тут, я думаю, усё залежыць ад таго, што сапраўды адбудзецца. Народы Цэнтральнай і Усходняй Еўропы адчуюць, наколькі натуральныя, сумленныя і дэмакратычныя гэтыя намеры. І ў гэтым заключаецца ўся сутнасць». Такім чынам, прэзідэнт ЗША выказаўся асцярожна, дыпламатычна і ўзважана, пакідаючы за народамі былога СССР права дэмакратычна і добраахвотна вырашыць свой дзяржаўны лёс.

**Інтэграцыя і пазіцыя ЗША**. Спакойная пазіцыя адміністрацыі Б. Клінтана да расійска-беларускай інтэграцыі, гульня вакол якой ледзь пачыналася, захавалася і ў 1995 г. К. Блэкер, саветнік прэзідэнта ЗША, галоўны дырэктар па справах Расіі, Украіны і Еўразіі Савета нацыянальнай бяспекі падчас візіту ў Мінск 28 чэрвеня 1995 г., калі ён сустрэўся з А. Лукашэнкам, падкрэсліў на прэс-канферэнцыі, што ЗША цалкам прызнаюць той факт, што «характар адносін паміж Расіяй і Беларуссю павінен вызначацца гэтымі дзяржавамі». К. Блэкер выказаў задаволенасць выкладзенай беларускім прэзідэнтам канцэпцыяй знешняй палітыкі, накіраванай на дасягненне разумнага балансу ў адносінах Беларусі з блізкім і далёкім замежжам.

Даволі мяккая і лагодная пазіцыя адміністрацыі ЗША у далейшым саступіла месца сур'ёзнай стрыманасці ў дачыненні да дагавораў аб стварэнні Супольнасці і Саюза Беларусі і Расіі, падпісаных у 1996-1997 гг. Амерыканскія пярэчанні датычыліся хутчэй способу заключэння гэтых дагавораў, а не іх сутнасці. Амерыканскі ўрад прызнаваў права народаў дзвюх краін інтэгравацца, але не парушаючы дэмакратычных працэдур. Гэта датычылася перадусім Беларусі, грамадская думка якой у пытанні аб'яднання з Расіяй не была такой адназначнай і станоўчай, як трактавала афіцыйная прапаганда. Пазіцыя Вашынгтона не магла не ўлічваць масавай незадаволенасці беларускіх грамадзян, у першую чаргу жыхароў Мінска, выказанай імі падчас антыінтэграцыйных дэманстрацый вясною 1996 і 1997 гг.

Чым больш у Мінску і Маскве гаварылі пра інтэграцыю, тым мацнейшымі рабіліся падазрэнні ўрада ЗША. Відаць, як указвае Р. Легвалд, занепакоенасць Вашынгтона была выклікана адчуваннем, што інтэграцыя, як яе разумела беларускае кіраўніцтва, надта моцна нагадвала старыя ўзаемаадносіны ў былым СССР і выклікала да жыцця найменш канструктыўныя тэндэнцыі ў знешняй палітыцы дзвюх краін. У афіцыйных ацэнках Белага дома праглядалася некаторая заклапочанасць, звязаная з магчымасцю адбудовы ў той ці іншай форме саюза дзяржаў на тэрыторыі былога СССР і аднаўлення ўплывовага цэнтра сілы ў ключавым рэгіёне Еўразіі. ЗША баяліся саюза на антызаходняй аснове альбо ў форме, што перашкаджала б супрацоўніцтву з Захадам.

Дагавор аб стварэнні Супольнасці ад 2 красавіка 1996 г. не выклікаў на Захадзе сур'ёзнай занепакоенасці. Гэтая падзея разглядалася пераважна як прапагандысцкі сродак вырашэння прэзідэнтамі кан'юнктурных палітычных задач: у рамках выбарчай кампаніі Б. Ельцына і супрацьстаяння А. Лукашэнкі з парламентам.

Пазіцыя Вашынгтона да Беларусі, выкладзеная ў дакументах дзяржДэпартамента ў канцы 1996 — пачатку 1997 г., не закранала пытанняў беларуска-расійскіх адносін. Д. Сігал, кіраўнік аддзела Украіны, Беларусі і Малдовы дзяржДэпартамента, выступіў 30 кастрычніка 1996 г. на брыфінгу ў Камісіі па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе амерыканскага кангрэса і выклаў пазіцыю ўрада ЗША да становішча ў Беларусі. Ён адзначыў, што ЗША не імкнуцца да ізаляцыі Беларусі і хочуць дапамагчы яе інтэграцыі ў новы трансатлантычны парадак. Была падкрэслена зацікаўленасць ЗША і іншых дзяржаў — членаў АБСЕ, каб у Беларусі былі добрыя адносіны з усімі краінамі.

Пасля лістападаўскага рэферэндуму 1996 г. ацэнкі Захаду да збліжэння Беларусі і Расіі сталі набываць усё больш негатыўны характар. Прадстаўнік дзяржДэпартамента ЗША Н. Бёрнс у сувязі з падпісаннем Дагавора аб стварэнні Саюза Беларусі і Расіі ад 2 красавіка 1997 г. заявіў, што «мы не пярэчым рэфлексіўным намаганням аб'яднаць гэтыя дзве краіны, але мы мяркуем, што такі працэс мусіць быць добраахвотным і адлюстроўваць узаемныя пажаданні народаў дзвюх краін». Ён адзначыў, што ЗША паважаюць Расію як свабодную і дэмакратычную краіну, чаго нельга сказаць пра Беларусь. За словамі Н. Бёрнса хавалася глыбокая занепакоенасць. У выпадку стварэння аб'яднання Беларусі з Расіяй ЗША не хацелі б, каб узнікалі новыя лініі геапалітычнага падзелу ў абстаноўцы, калі «мы імкнёмся аб'яднаць Еўропу». Адносна сутнасці новага дагавора прадстаўнік дзяржДэ-

партамента сказаў, што «гэта мала падобна на сапраўдны саюз, а хутчэй нагадвае больш цеснае супрацоўніцтва».

Яўная незадаволенасць стварэннем саюза прагучала ў рэзалюцыі Еўрапарламента ад 10 красавіка 1997 г. У ёй выказваліся сумненні ў легітымнасці расійска-беларускага саюза, адзначалася, што нельга лічыць законным працэс, які адбываецца без удзелу дэмакратычна абранага парламента. Еўрапарламент заклікаў адкласці ратыфікацыю дагавора да фарміравання дэмакратычных інстытутаў у Беларусі і даў зразумець Маскве, што калі яна не прыслухаецца да яго парад, то могуць быць перагледжаны ўмовы супрацоўніцтва паміж ЕС і Расіяй.

У каментарыях амерыканскіх аўтараў увага была звернута на адсутнасць новага зместу і дэкларатыўнасць Дагавора 1997 г. П. Гобл пісаў, што кампанія А. Лукашэнкі па збліжэнні з Расіяй можа прывесці да адваротнага эфекту: паглыбленне інтэграцыі відочна ўзмацняе разыходжанні ў падыходах Мінска і Масквы, супрацьстаянне ў беларускім грамадстве вядзе да ізаляцыі Беларусі ад Захаду. Былы пасол ЗША у Беларусі Д. Суорц прынцыпова выступаў супраць беларуска-расійскай інтэграцыі, гаворачы, што гэта прывядзе да страты беларускага суверэнітэту, і наогул лічыў, што рэінтэграцыя постсавецкіх краін супярэчыць нацыянальным інтарэсам ЗША. Разам з тым ён указваў на аб'ектыўны характар інтэграцыі для Беларусі, асабліва ў эканамічнай сферы. Д. Суорц, кажучы пра сур'ёзныя матывы для эканамічнага збліжэння дзвюх краін, падкрэсліваў, што для Беларусі больш важнай з'яўляецца яе інтэграцыя ў сусветную эканоміку.

Новы пасол ЗША у Беларусі Д. Спэкхард на сваёй першай прэс-канферэнцыі ў Мінску ў верасні 1997 г. зноў выклаў пазіцыю свайго ўрада да беларуска-расійскай інтэграцыі. ЗША не бачаць тут праблемы і мяркуюць, што Беларусь можа інтэгравацца як з усходнімі, так і з заходнімі суседзямі. Аднак гэты працэс павінен быць добра ўсвядомленым, абдуманым, адбывацца без паспешлівасці і ва ўмовах адкрытага абмеркавання ўсіх праблем; ён не павінен будаваць новых муроў і шкодзіць беларускім грамадзянам.

У 1998-2000 гг. галоўны акцэнт у пазіцыі Вашынгтона змясціўся ў бок забеспячэння ў Беларусі дэмакратычных працэдур пры прыняцці рашэнняў па пытанні беларуска-расійскай інтэграцыі і падтрымкі грамадскіх і палітычных сіл, што выступалі за захаванне незалежнасці і суверэнітэту краіны.

Намеснік дзяржаўнага сакратара ЗША С. Тэлбат заявіў у красавіку 1999 г., што «інтэграцыя паміж краінамі СНД павінна адлюстроўваць волевыяўленне народа, якое праяўляецца праз сродкі дэмакратычнага

працэсу, павінна быць узаемавыгаднай і не павінна ствараць перашкоды для інтэграцыі з больш шырокай групай краін». Ён адзначыў, што дэмакратычнага працэсу зараз у Беларусі няма, і гэта ставіць пад сумненне спробы, што былі зроблены па стварэнні расійска-беларускага саюза.

Новым выкладаннем пазіцыі ЗША па пытанні беларуска-расійскай інтэграцыі пасля падпісання Дагавора аб стварэнні Саюзнай дзяржавы былі выказванні С. Тэлбата на сустрэчы са Старшынёй Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. Шарэцкім і дэпутатамі Вярхоўнага Савета С. Шушкевічам і Л. Гразновай, што адбылася ў Вашынгтоне 3 лютага 2000 г. На той час С. Тэлбат фактычна быў дзеючым міністрам замежных спраў, бо дзяржсакратар ЗША М. Олбрайт знаходзілася па-за тэрыторыяй краіны. Ён падкрэсліў асаблівую зацікаўленасць ЗША у захаванні незалежнасці Беларусі, адзначыўшы, што іх падтрымкай будуць карыстацца толькі тыя палітычныя групы, што сваім галоўным прыярытэтам лічаць незалежнасць Беларусі як дзяржавы. С. Тэлбат указаў на дадатковыя аргументы, якія з'явіліся ў ЗША у дыялогу з Расіяй і Заходняй Еўропай па ўрэгуляванні крызісу ў Беларусі. Крытычна ацэньваючы дзеянні Расіі па стварэнні Саюзнай дзяржавы з Беларуссю, ён сказаў, што «наколькі Расія будзе паскараць працэсы паглынання Беларусі, настолькі ж будуць памяншацца яе шансы інтэгравацца ў сусветную супольнасць».

Такім чынам, палітыка ЗША у дачыненні да інтэграцыі эвалюцыяніравала ад спакойных і нейтральных ацэнак да непрыхаванага раздражнення і непрыняцця інтэграцыйнай ліхаманкі кіраўніцтва абедзвюх краін. Нязменным імкненнем Вашынгтона было захаванне дэмакратычных правілаў падчас волевыяўлення насельніцтва і прыняцця рашэнняў па важнейшых дакументах аб'яднаўчага працэсу, што датычылася выключна Беларусі. Амерыканцы настойвалі таксама, каб гэты працэс не шкодзіў бяспецы суседніх краін і не пагражаў стабільнасці ўсяго рэгіёна. Да новых момантаў у палітыцы ЗША па гэтым пытанні варта аднесці ўключэнне ў іх арсенал унутрыбеларускага антыінтэграцыйнага чынніку і ўзмацненне ціску на Расію, каб прадухіліць яе спробы паглынання Беларусі.

**Геапалітычнае вымярэнне інтэграцыі.** Важнейшым чыннікам беларуска-расійскіх адносін з'яўляецца геапалітычны кантэкст. Зблiжэнне дзвюх краін адбываецца ў міжнародным асяроддзі, развіццё якога вызначаецца Захадам, які пашыраецца на Усход, і Расіяй, засяроджанай на сабе самой. Ш. Гарнэт указвае на асаблівую ролю рэгіёна Цэнтральнай і Усходняй Еўропы (ЦУЕ), што складаецца з

былых заходніх рэспублік СССР (Беларусі, Эстоніі, Латвіі, Літвы і Украіны), падкрэсліваючы яго ключавое становішча на стыку і перасячэнні Еўропы, што пашыраецца, і постсавецкай прасторы. На працягу гісторыі ў Расіі сфарміравалася ўстойлівае кола інтарэсаў у гэтым рэгіёне, у тым ліку схільнасць разглядаць яго як жыццёва важную зону бяспекі, у якой яна павінна дамінаваць. Беларусь і Украіна асабліва важныя для Расіі ў яе намаганнях пабудаваць на месцы былога СССР працаздольнае інтэграванае супольніцтва. Амерыканскі даследчык справядліва прызнае, што ў гэтым рэгіёне для Расіі шмат што пастаўлена на карту.

Што датычыцца Беларусі, то яе кіруючы рэжым, які імкнецца да інтэграцыі з Расіяй і пастаянна супрацьставіць сябе ствараемаму еўрапейскаму парадку сваёй унутранай і знешняй палітыкай, заходнія аўтары лічаць пагрозай стабільнасці ў рэгіёне. Ш. Гарнэт звяртае ўвагу на слабую дзяржаўную і міжнародную ідэнтычнасць Беларусі, прыводзячы наступнае вобразнае параўнанне: «Беларусь хутчэй падобная да нічыйнай зямлі, чым на тое месца, дзе праходзіць выпрабаванне новая Еўропа».

Замежныя аналітыкі ўказваюць на значную верагоднасць расійска-беларускай інтэграцыі і нават страты Беларуссю сваёй дзяржаўнасці, што прывядзе да змянення балансу сіл у рэгіёне. Напрыклад, Р. Легвалд адзначае, што ў ЗША за апошнія гады склалася меркаванне, што, магчыма, Беларусь не застанецца самастойнай, паколькі вельмі глыбока зайшоў працэс паглынання яе Расіяй. Амерыканскім палітыкам яшчэ цяжэй паверыць, што А. Лукашэнка імкнецца захаваць незалежнасць і што ён зацікаўлены ў сувязях з Захадам. Аднак і ў Беларусі Расія сутыкаецца з абмежаванасцю сваіх магчымасцей і супраціўленнем самых розных сіл, што перашкаджаюць аб'яднанню дзвюх дзяржаў.

Расія, самая буйная і магутная дзяржава рэгіёна , больш у ім не дамінуе. НАТА і ЕС становяцца найбольш уплывовымі міжнароднымі актарамі ў ЦУЕ. Аднак самая цудоўная змена ў гэтым рэгіёне, на думку Ш. Гарнэта, заключаецца ў тым, што ўпершыню за стагоддзі суадносіны паміж дзяржавамі ЦУЕ і знешнімі дзяржавамі зрушыліся на карысць першых. Краіны рэгіёна маюць альбо набываюць здольнасць самастойна фарміраваць сваю будучыню. Хаця ўплыў Расіі і Захаду будзе, як і раней, адыгрываць пэўную ролю, але ён больш не з'яўляецца вырашальным.

Дзякуючы свайму геаграфічнаму становішчу і геапалітычнаму статусу Беларусь істотна ўплывае на напрамак і характар міжнародных перамен у ЦУЕ. Ці стане яна чыннікам стабільнасці альбо

крыніцай нестабільнасці ў рэгіёне? Р. Легвалд і Ш. Гарнэт фармулююць пытанне наконт асобай геапалітычнай ролі Беларусі ў Еўропе наступным чынам: ці будзе яна «прыфрантавой» дзяржавай на мяжы НАТА, што пашыраецца на Усход, мостам альбо шлагбаумам, месцам сустрэчы сяброў ці ворагаў.

Унутранае развіццё Беларусі, наступствы стварэння Саюзнай дзяржавы з Расіяй перш за ўсё адаб'юцца і ўжо адбіваюцца на суседніх краінах. Даследчыкі выказваюць розныя пункты гледжання наконт уплыву беларуска-расійскага саюза на суседзяў і краіны рэгіёна. Польскі палітолаг А. Камінскі адзначае магчымасць (праўда, выключна тэарэтычную) таго, што канструктыўны расійска-беларускі саюз стане вынікам стабільнасці ў Беларусі і рэгіёне. Аднак большасць экспертаў з краін Захаду і ЦУЕ, улічваючы дынаміку фарміравання гэтага саюза, мяркуюць, што ён здольны прыняць паталагічныя формы (прывесці да паглынання Беларусі) і тым самым уяўляе сабой пагрозу стабільнасці рэгіёна.

Беларусь застаецца выпрабавальным палігонам новага еўрапейскага парадку. На беларускім напрамку НАТА і ЕС адпрацоўваюць узгадненне сваёй знешняй палітыкі. Расія адпрацоўвае тут мадэль постсавецкай рэінтэграцыі. Беларусь, на думку заходніх аналітыкаў, дапусціўшы недаравальны знешнепалітычны перакос у бок Расіі і загнаўшы сябе ў кут самаізаляцыяй ад Захаду, мае мала прасторы для ажыццяўлення самастойнай і збалансаванай палітыкі. Тым не менш яна можа вярнуцца да палітыкі, заснаванай на нацыянальна-дзяржаўных інтарэсах, і гэтым вызначаць умовы саперніцтва Расіі і Захаду.

Ш. Гарнэт лічыць важным і неабходным узгадненне палітыкі Расіяй, Захадам і краінамі рэгіёна. Іх супольныя дзеянні заклікаваны спрыяць паслабленню стратэгічнага змагання ў гэтай частцы Еўропы, умацаванню зладжанасці ў палітыцы, накіраванай на падтрымку пераўтварэння Расіі, пашырэнне асноўных інстытутаў Захаду, рэфармаванне і забеспячэнне стабільнасці дзяржаў, размешчаных у прамежкавай зоне. З краін рэгіёна Беларусь менш за ўсіх прасунулася да пастаўленых мэт, застаючыся праблемнай дзяржавай Еўропы. Пры ўмове захавання сваёй незалежнасці ёй давядзецца больш за іншых папрацаваць у плане аднаўлення міжнароднага даверу і ператварэння ў канструктыўны элемент еўрапейскай бяспекі і супрацоўніцтва.

**Суседзі Беларусі і яе інтэграцыя з Расіяй**. Дзяржаўныя дзеячы і палітыкі суседніх ды іншых краін адназначна прызнаюць той факт, што палітыка збліжэння Беларусі з Расіяй — суверэннае права гэтай

краіны. Сама па сабе ўсходняя арыентацыя знешняй палітыкі Мінска не можа выклікаць нейкіх пярэчанняў іншых дзяржаў, у тым ліку суседніх, пры ўмове, што гэта не стварае пагрозы іх бяспецы. У дадзеным выпадку такой упэўненасці ў бліжэйшых суседзяў Беларусі, як зазначае літоўскі даследчык А. Грыцюс, няма. Гэтую занепакоенасць падтрымліваюць заявы беларускіх афіцыйных асоб аб магчымым вяртанні ядзернай зброі на яе тэрыторыю альбо аб умацаванні вайсковага саюза з Расіяй. На думку ўкраінскага вайскова-палітычнага эксперта Г. Перапяліцы, у выпадку павелічэння вайсковай актыўнасці Беларусі і Расіі ў процістаянні з НАТА вырасце пагроза не для НАТА, а для бліжэйшых суседзяў Беларусі і ўсяго рэгіёна ЦУЕ.

Краіны Балтыі занепакоены тым, што стварэнне адзінай расійска-беларускай дзяржавы фактычна ператворыць іх у анклаў, які з захаду будзе межаваць з Калінінградскай вобласцю, а з поўдня і ўсходу — з Беларуссю і Расіяй. Гэта створыць небяспечныя магчымасці для ўплыву на палітыку балтыйскіх дзяржаў і выкарыстання транзіту для ціску на іх. Напярэдадні падпісання Дагавора аб Саюзе Беларусі і Расіі ў красавіку 1997 г. дыпламат, што прадстаўляў у Маскве адну з балтыйскіх рэспублік, сказаў у інтэрв'ю газеце «Известия», што аб'яднанне Расіі з Беларуссю яшчэ мацней падштурхне суседнія дзяржавы да збліжэння з заходнімі дэмакратыямі.

Старшыня сейма Літвы В. Ландсбергіс меркаваў, што Захад «павінен праяўляць больш заклапочанасці» з прычыны мажлівага аб'яднання Расіі і Беларусі. Паводле яго слоў, калі ля меж Літвы будзе адкрыта стаяць буйная вайсковая структура, то ціск на Літву і Балтыйскі рэгіён павялічыцца, а бяспека ў гэтым рэгіёне і Еўропе ўвогуле паменшыцца. Захад павінен адрэагаваць на аб'яднанне Расіі і Беларусі актывізацыяй працэсаў інтэграцыі краін Балтыі ў НАТА і іншыя еўрапейскія структуры. «Калі Беларусь у выніку аб'яднання дэ-факта знікне як дзяржава і будзе цалкам кіравацца з Масквы альбо праз беларускага прэзідэнта, дык гэта адаб'ецца і на геапалітычнай сітуацыі ў гэтай частцы Еўропы». У выпадку аб'яднання «стане больш яснасці: усё, што будзе рабіцца, будзе палітыкай Расіі, таму і мы, і Еўропа будзем мець справу і размаўляць толькі з Расіяй». Дапушчэнне В. Ландсбергіса аб выключэнні Беларусі з ліку дзяржаўных партнёраў Літвы ў выпадку аб'яднання з Расіяй, выказанае яшчэ ў пачатку 1997 г., мусіла б быць больш сур'ёзна ўспрынята беларускім кіраўніцтвам.

Афіцыйная пазіцыя кіраўніцтва Беларусі і Літвы па пытанні інтэграцыі кожнай з краін са сваімі ўсходнімі ці заходнімі суседзямі была сфармулявана на сустрэчы прэзідэнта Літвы В. Адамкуса і прэзідэнта Беларусі А. Лукашэнкі 12 лістапада 1998 г., што адбылася

на памежным кантрольна-прапускным пункце «Мядзінінкай— Каменны Лог». У сумесным паведамленні для друку адзначалася, што «Літоўская Рэспубліка і Рэспубліка Беларусь паважаюць права кожнай дзяржавы ўступаць у міжнародныя палітычныя, эканамічныя, абарончыя саюзы і структуры бяспекі, не парушаючы пры тым дасягнутай атмасферы добрасуседства і даверу ў рэгіёне».

Гэтая заява характэрная тым, што не толькі Літва прызнала права Беларусі на інтэграцыю з Расіяй, але і Беларусь прызнала права сваёй суседкі ўступаць у НАТА і ЕС. Як вядома, Расія катэгарычна пярэчыла супраць уступлення ў НАТА любой постсавецкай рэспублікі. Што датычыцца ўступу Літвы і Беларусі ў вайскова-палітычныя саюзы, што процістаяць адзін аднаму, дык кожная краіна лічыла, што гэты крок не паслабіць, а ўмацуе рэгіянальную стабільнасць.

Яшчэ большыя наступствы ствараемы саюз Беларусі і Расіі будзе мець для заходняй суседкі Беларусі — Польшчы, што ў 1999 г. уступіла ў НАТА і разлічвала на першачарговае ўступленне ў ЕС. У такім разе беларуска-польская мяжаператворыцца ў кардон паміж СНД і аб'яднанай Еўропай. Заходнія аўтары лічаць, што па меры прасоўвання НАТА на Усход будзе расці значэнне Польшчы і краін, размешчаных за яе ўсходнімі межамі, у ажыццяўленні палітыкі Захаду на постсавецкіх абшарах. Гэтую думку падзяляюць польскія навукоўцы, якія адзначаюць, што Польшча павінна стаць пасрэдніцай у зносінах Беларусі з Захадам і прадстаўляць там інтарэсы незалежнай і дэмакратычнай Беларусі. Прафесар Люблінскага універсітэта Р. Радзік заўважае, што нельга наладжваць сувязі з Мінскам праз Маскву і рабіць крокі, якія надавалі б А. Лукашэнку палітычную вагу на міжнароднай арэне. На думку іншага польскага прафесара — А. Камінскага, апрача ўзнікнення новай паласы падзелу ўздоўж польска-беларускай мяжы больш істотным чыннікам ўзмацнення нестабільнасці ў Еўропе з'яўляецца ўсталяванне ў Беларусі аўтакратычнага рэжыму. У гэтым плане «беларуская праблема» мае агульнаеўрапейскі, а не рэгіянальны характар.

У Расіі прыхільнікі аб'яднання з Беларуссю амаль выключна засяродзіліся на расійскіх геапалітычных інтарэсах, а не на выдатках і стратах, якія яно можа прычыніць. Яны сцвярджаюць, што паспяховая расійска-беларуская інтэграцыя дадасць дынамізму кволай СНД і стане плацдармам і буферам супраць пашырэння Захаду. Геапалітычныя і геастратэгічныя выгады для Расіі ад аб'яднання з Беларуссю досыць добра прадстаўлены ў дакладзе аўтарытэтных даследчыцкіх цэнтраў Масквы, апублікаваным у красавіку 1997 г. Гэта просты выхад Расіі на межы рэгіёна ЦУЕ, прадухіленне

патэнцыяльнай пагрозы паўстання балтыйска-чарнаморскага «паса ізаляцыі Расіі», атрыманне дадатковых сродкаў уздзеяння на Украіну, умацаванне стратэгічнага становішча Расіі на заходнім напрамку, атрыманне прасторы для манеўраў у рамках ДАУСЕ і інш.

Да адмоўных міжнародных наступстваў інтэграцыі расійскія аналітыкі адносяць мажлівасць пераходу шэрага дзяржаў свету да індывідуальнай альбо ўзгодненай палітыкі, накіраванай на нейтралізацыю атрымліваемых Расіяй пераваг. Гэта прывядзе да збліжэння Польшчы з Літвой, іншых краін Балтыі і Украінай, звужэння «прасторы для манеўру» Расіі, прымусіць Украіну яшчэ больш аддаліцца ад Расіі і зблізіцца з Захадам. Больш хуткімі тэмпамі пойдзе пашырэнне НАТА (хутчэй вайсковае, чым палітычнае) на краіны ДУЕ. Аднак збліжэнне з Беларуссю не разглядаецца аўтарытэтнымі расійскімі палітыкамі і экспертамі ў кантэксце ці як мера ў адказ на пашырэнне НАТА. Наогул, гэта выкліча павелічэнне напружанасці паміж Расіяй і Захадам.

На думку В. Ніканава, Захад можа мабілізаваць сваіх саюзнікаў, каб не дапусціць такога аб'яднання. Аднак ён не пойдзе на адкрытую канфрантацыю з Расіяй з-за яе збліжэння з Беларуссю. У Расіі мяркуюць, што большая частка згаданых адмоўных тэндэнцый ужо праяўляецца і будзе развівацца ў далейшым, нават калі расійска-беларуская інтэграцыя не адбудзецца.

**Беларуская апазіцыя, інтэграцыя і Захад.** За апошнія гады праблема стаўлення міжнароднай супольнасці да беларуска-расійскай інтэграцыі дапоўнілася яшчэ адным важным унутрыбеларускім аспектам, які ўсё больш і больш выходзіць на першы план. Справа ідзе пра легітымнасць вышэйшых органаў дзяржаўнай улады Беларусі, сфарміраваных пасля рэферэндуму 1996 г., вынікі якога не прызнаныя Захадам і еўрапейскімі міжнароднымі арганізацыямі. Арганізацыйным цэнтрам беларускай апазіцыі ў 1997-2000 гг. быў Вярхоўны Савет 13-га склікання, распушчаны пасля рэферэндуму 1996 г. Захад і еўрапейскія міжнародныя арганізацыі лічылі гэты Вярхоўны Савет, пакуль не скончыліся яго 5-гадовыя паўнамоцтвы ў 2001 г., адзіным законным органам заканадаўчай улады ў Беларусі і не прызнавалі прызначанага беларускім прэзідэнтам «Нацыянальнага сходу».

Апазіцыя заяўляла, што ратыфікаваныя Нацыянальным сходам дагаворы і пагадненні Рэспублікі Беларусь з Расійскай Федэрацыяй, у тым ліку Дагавор аб стварэнні Саюзнай дзяржавы з Расіяй, не маюць законнай сілы і будуць скасаваны дэмакратычна абраным парламентам. Апазіцыя даводзіла свае погляды да ведама краін

Заходу, міжнароднай супольнасці і грамадскасці, заклікаючы іх не прызнаваць падпісаныя беларускім бокам інтэграцыйныя дакументы.

Беларуская апазіцыя і грамадскія колы разгарнулі ў другой палове 1999 г. кампанію пратэсту ў сувязі з прызначаным падпісаннем Дагавора аб стварэнні Саюзнай дзяржавы з Расіяй. Яны актыўна звярталіся да кіраўнікоў дзяржаў, урадаў, міжнародных міжурадавых і няўрадавых арганізацый з просьбай выступіць на абарону суверэнітэту і незалежнасці Беларусі.

Старшыня Вярхоўнага Савета (ВС) Рэспублікі Беларусь С. Шарэцкі па даручэнні ВС накіраваў у кастрычніку 1999 г. адмысловую заяву прэзідэнту ЗША Б. Клінтану, прэм'ер-міністру Вялікабрытаніі Т. Блэру і прэзідэнту Расійскай Федэрацыі Б. Ельцыну. Ён нагадаў пра мемарандум аб гарантыях бяспекі Беларусі ад 5 снежня 1994 г., падпісаны кіраўнікамі гэтых краін, у якім быў пункт аб павазе незалежнасці і суверэнітэту Беларусі. Саюзны дагавор, які А. Лукашэнка збіраўся падпісаць з Расіяй, расцэньваўся як накіраваны на інкарпарацыю Беларусі ў іншую дзяржаву насуперак нормам міжнароднага права. С. Шарэцкі адзначаў, што з боку ЗША і Вялікабрытаніі адсутнічаюць прынцыповыя ацэнкі палітыкі анексіі, і запатрабаваў добрасумленнага выканання міжнародных абавязацельстваў па абароне незалежнасці Беларусі. Ён прапанаваў правесці кансультацыі падчас сустрэчы АБСЕ у Стамбуле без удзелу А. Лукашэнкі па пытанні абавязацельстваў удзельнікаў мемарандума па абароне незалежнасці Рэспублікі Беларусь і пагрозе, якую ўяўляе сабой сітуацыя ў Беларусі для міжнароднага міру і бяспекі.

Беларускай апазіцыі цяжка было разлічваць на выкананне вышэйзгаданых патрабаванняў, улічваючы крытычныя ацэнкі пазіцый ЗША і Вялікабрытаніі, зробленыя кіраўніком Вярхоўнага Савета. Стамбульскі саміт АБСЕ 1999 г. адрэагаваў на сітуацыю ў Беларусі ўключэннем пункта ў выніковы дакумент сустрэчы, у якім была выказана занепакоенасць канстытуцыйна-палітычным крызісам у краіне і адсутнасцю рэальнага дыялога паміж урадам і апазіцыяй. Пытанні беларуска-расійскіх адносін і абароны суверэнітэту Рэспублікі Беларусь у дакументах саміту ніяк не закраналіся.

21 кастрычніка 1999 г. быў надрукаваны адкрыты ліст групы вядомых дзеячаў навукі і культуры Беларусі ў адрас Генеральнага сакратара ААН, Генеральнага сакратара ЮНЕСКА, кіраўнікоў дзяржаў Вялікай васьмёркі, Дырэктара-распарадчыка МВФ, Генеральнага сакратара Савета Еўропы, Старшыні АБСЕ. Яго аўтары, спасылаючыся на мемарандум 1994 г., прасілі знайсці інструмент для абароны суверэнітэту Беларусі».

4 студзеня 2000 г. апазіцыйныя палітычныя партыі прынялі заяву ў сувязі з Дагаворам аб стварэнні Саюзнай дзяржавы. Імкненне расійскага кіраўніцтва фактычна інкарпараваць суседнюю дзяржаву характарызавалася як рэанімацыя імперскай палітыкі. Выказвалася меркаванне, што гэта прывядзе да абвастрэння процістаяння паміж Расіяй і Захадам. Заява заклікала міжнародную супольнасць не прызнаваць ніякіх дагавораў Беларусі з Расіяй, падпісаных беларускім прэзідэнтам, і ўсяляк процідзейнічаць ліквідацыі беларускай дзяржаўнасці.

10 лістапада 1999 г. парламенцкая група сейма Літвы па сувязях з Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь, у якую ўваходзілі 25 літоўскіх парламентарыяў, прыняла заяву аб Саюзным дагаворы паміж Беларуссю і РФ. У ёй гаварылася, што калі дагавор будзе падпісаны да правядзення у Беларусі парламенцкіх і прэзідэнцкіх выбараў, не зважаючы на волю народаў Расіі і Беларусі, дык ён не будзе мець юрыдычнай сілы.

У лістападзе 1999 г. Рада Беларускай Народнай Рэспублікі (галоўны орган беларускай палітычнай эміграцыі за мяжой) заклікала ЗША і Вялікабрытанію «ўзняцца на абарону Беларусі» ў сувязі з падпісаннем саюзнага дагавора. У заяве Рады адзначалася, што легітымнасць прэзідэнта Беларусі аспрэчваецца на міжнародным узроўні і ўнутры краіны, што стварае праблему прызнання юрыдычнай сілы гэтага дагавора.

У другой палове 1990-х гг. стварэнне адзінай расійска-беларускай дзяржавы стала важнай міжнароднай праблемай. Яна прамым ці ўскосным шляхам закранала інтарэсы суседніх з Беларуссю і Расіяй дзяржаў, краін ЦУЕ, ЗША і іншых вядучых дзяржаў Захаду. Пагроза паглынання Беларусі Расіяй з прычыны вельмі розных вагавых катэгорый дзвюх дзяржаў, што яднаюцца, можа значна змяніць нестабільную раўнавагу ў рэгіёне ЦУЕ. Гэтыя і іншыя выкладзеныя вышэй абставіны выклікалі насцярожанае стаўленне Захаду да дзяржаўнай і вайскова-палітычнай інтэграцыі Мінска і Масквы. Аднак геапалітычныя і геастратэгічныя наступствы стварэння расійска-беларускага саюза пры ўсёй іх важнасці не вычэрпваюць сутнасці гэтай новай міжнароднай рэчаіснасці.

На наш погляд, самае важнае значэнне мае пытанне, якія палітычныя рэжымы інтэгруюцца. І тут зноў паўстае праблема суадносін і ўзаемадзеяння дэмакратыі, нацыянальна-дзяржаўных інтарэсаў, суверэнітэту нацыі і геапалітыкі. Калі б у Беларусі і Расіі існавалі, на думку іх блізкіх і далёкіх суседзяў, сапраўдныя дэмакратычныя рэжымы, то інтэграцыя і ў канчатковым выніку аб'яднанне дзвюх

краін і народаў не выклікалі б у іх насцярожанасці і трывогі. Гэта, на наш погляд, з'яўляецца галоўнай передумовай сапраўднага збліжэння і магчымага аб'яднананяя дзвюх дзяржаў у будучыні. Але ці патрэбна будзе такое аб'яднанне для дэмакратычнай Беларусі і дэмакратычнай Расіі? Яны напэўна знойдуць іншыя формы інтэграцыі ў больш шырокія аб'яднанні на прасторах Еўропы і Еўразіі.

## Тэма 8
## БЕЛАРУСКА-РАСІЙСКАЕ СУПРАЦОЎНІЦТВА Ў МІЖНАРОДНЫХ АРГАНІЗАЦЫЯХ

Супрацоўніцтва і каардынацыя дзеянняў у міжнародных арганізацыях паміж Беларуссю і Расіяй сталі ажыццяўляцца яшчэ ў перыяд суверэнізацыі саюзных рэспублік, калі яны пачалі выходзіць на міжнародную арэну як самастойныя суб'екты міжнародных адносін, застаючыся часткамі СССР. Арганізацыйнай формай знешнепалітычнага супрацоўніцтва саюзных рэспублік з'явіўся Савет міністраў замежных спраў (СМЗС) саюзных рэспублік, створаны ў 1991 г.

Пасля распаду СССР і стварэння СНД адносіны паміж Беларуссю і Расіяй набылі міждзяржаўны і міжнародна-прававы характар. Сваю дзейнасць на міжнароднай арэне, у тым ліку і ў міжнародных арганізацыях, абедзве дзяржавы пачалі ажыццяўляць зыходзячы з уласных нацыянальных інтарэсаў. Паколькі дзяржаўныя інтарэсы Беларусі і Расіі на міжнароднай арэне ў асноўным супадалі, гэта стварала аснову для цеснага знешнепалітычнага супрацоўніцтва, у тым ліку і ў галіне шматбаковай дыпламатыі.

Праблема вызначэння ўласных нацыянальных інтарэсаў з'яўляецца найбольш важнай у расійска-беларускіх адносінах. Усведамленне дзяржаўнымі дзеячамі, палітыкамі, грамадскасцю дзвюх краін, навукоўцамі, якія прафесійна займаюцца міжнароднымі адносінамі, супадзенняў і разыходжанняў нацыянальных інтарэсаў Беларусі і Расіі, як дзвюх незалежных дзяржаў, блізкіх усходнеславянскіх народаў, дапаможа не дапусціць пралікаў і пазбавіцца ілюзій у справе пабудовы міждзяржаўных адносін паміж Рэспублікай Беларусь і Расійскай Федэрацыяй.

**Арганізацыйныя механізмы знешнепалітычнага супрацоўніцтва**. Пасля стварэння СНД беларуска-расійскае супрацоўніцтва на міжнароднай арэне стала ажыццяўляцца ў межах Савета міністраў замежных спраў (СМЗС) дзяржаў — удзельніц СНД. Распрацоўваюцца і рэалізуюцца штогадовыя Планы шматузроўневых кансультацый краін Садружнасці на ўзроўні міністэрстваў замежных спраў. Аднак,

нягледзячы на прыняцце праграм, планаў і іншых дакументаў аб супрацоўніцтве і сумесных дзеяннях краін СНД на міжнароднай арэне, у тым ліку і ў міжнародных арганізацыях, узровень і эфектыўнасць іх знешнепалітычнага ўзаемадзеяння застаюцца невысокімі. Прынятыя рашэнні аб узгодненых знешнепалітычных дзеяннях парушаюцца ці не выконваюцца. СНД, у адрозненне ад Еўрапейскага саюза, не мае агульнай знешняй і абароннай палітыкі, і гэтая задача ніколі не ставілася лідэрамі краін СНД. Беларуска-расійскае знешнепалітычнае супрацоўніцтва ажыццяўляецца таксама ў межах такіх структур СНД, як Арганізацыя Дагавора аб калектыўнай бяспецы і Еўразійская эканамічная супольнасць.

Як адзначае расійскі даследчык А. Загорскі, у 90-я гг. каардынацыя знешняй палітыкі дзяржаў — удзельніц СНД і тым больш узгодненая дзейнасць на міжнароднай арэне насілі эпізадычны характар. У гэтым працэсе прымалі ўдзел толькі некаторыя краіны Садружнасці. СНД, якая згодна са статутнымі дакументамі не з'яўляецца суб'ектам міжнароднага права, так і не стала нават нефармальным суб'ектам рэгіянальнай і тым больш сусветнай палітыкі.

Улічваючы гэта, Беларусь і Расія, якія з 1996 г. перайшлі да стварэння Саюза Беларусі і Расіі (СБР), пачалі ажыццяўляць больш цеснае, чым у межах СНД, знешнепалітычнае супрацоўніцтва. З другой паловы 1990-х гг. сталі распрацоўвацца і ажыццяўляцца Праграмы ўзгодненых дзеянняў у галіне знешняй палітыкі дзяржаў — удзельніц Саюза Беларусі і Расіі, падрыхтаваныя міністэрствамі замежных спраў дзвюх краін. Першая з гэтых праграм ахоплівала 1996-1997 гг.

Апошні з гэтых дакументаў мае назву «Праграма ўзгодненых дзеянняў у галіне знешняй палітыкі дзяржаў — удзельніц Дагавора аб стварэнні Саюзнай дзяржавы на 2004-2005 гг.». Асноўнай мэтай Праграмы з'яўляецца абарона інтарэсаў дзяржаў — удзельніц Дагавора на міжнароднай арэне. Дакумент замацаваў намер бакоў выпрацаваць агульныя падыходы і каардынаваць намаганні па знешнепалітычных, знешнеэканамічных, сацыяльна-гуманітарных і іншых пытаннях. У межах ажыццяўлення згаданай праграмы знешнепалітычныя ведамствы абедзвюх краін пастаянна каардынуюць сваю дзейнасць, вядуць абмен інфармацыяй і аказваюць дапамогу па пытаннях, якія ўяўляюць узаемную цікавасць.

Таксама рэалізуюцца штогадовыя Планы кансультацый паміж міністэрствамі замежных спраў абедзвюх дзяржаў, якія зацвярджаюцца на сумесных калегіях МЗС Беларусі і Расіі. У лютым 2000 г. адбылося першае сумеснае пасяджэнне калегій, на якім абмяркоўваліся пытанні ўзаемадзеяння Беларусі і Расіі на міжнароднай арэне; былі

падпісаны Праграма ўзгодненых дзеянняў у галіне знешняй палітыкі дзяржаў — удзельніц Дагавора аб стварэнні Саюзнай дзяржавы на 2000- 2001 гг. У пачатку XXI ст. Беларусь і Расія мелі самы высокі ўзровень знешнепалітычнага супрацоўніцтва сярод краін СНД.

Найбольш сталым і прадуктыўным сярод накірункаў расійска-беларускага супрацоўніцтва ў міжнародных арганізацыях стала іх узаемадзеянне ў межах Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. Традыцыі супрацоўніцтва расійскай і беларускай дыпламатыі на форуме нацый сягаюць у савецкі перыяд, калі яно ажыццяўлялася ў межах адзінай знешнепалітычнай лініі Савецкага Саюза, сумеснай дзейнасці дэлегацый СССР, УССР і БССР, якія былі дзяржавамі — заснавальніцамі ААН. Пасля набыцця незалежнасці Беларусь і Расія, як дзве незалежныя дзяржавы, пачалі ажыццяўляць сапраўднае знешнепалітычнае супрацоўніцтва ў ААН і яе спецыялізаваных установах.

Пасля абвяшчэння незалежнасці істотна змяніўся статус Расіі і Беларусі ў ААН. Замест былой ролі «дадатковага голасу» для дэлегацыі СССР Рэспубліка Беларусь пачала дзейнічаць на форуме нацый зыходзячы з уласных нацыянальна-дзяржаўных інтарэсаў. Што тычыцца Расійскай Федэрацыі, то яна стала дзяржавай-спадкаемніцай СССР, захаваўшы за сабой месца пастаяннага члена Савета Бяспекі, а таксама месца СССР ва ўсіх органах і ўстановах ААН. Беларусь падтрымала правапераемнасць Расійскай Федэрацыі ў ААН і іншых міжнародных арганізацыях.

Да першых прыкладаў беларуска-расійскага супрацоўніцтва ў ААН можна аднесці сумесную дзейнасць дзвюх краін па рэалізацыі рашэнняў, зафіксаваных у Алма-Ацінскай дэкларацыі ад 21 снежня 1991 г., якія тычыліся падтрымкі ўступлення ў ААН былых саюзных рэспублік-дзяржаў — членаў СНД. На працягу 1992-1993 гг. гэта задача была выканана.

Адным з прыярытэтных накірункаў беларуска-расійскага супрацоўніцтва ў ААН стала чарнобыльская праблематыка. Рэспубліка Беларусь выступае за актывізацыю двухбаковага і шматбаковага супрацоўніцтва для рашэння экалагічных, сацыяльна-эканамічных і медыцынскіх праблем чарнобыльскай катастрофы. Як і раней, краіна зацікаўлена ў каардынацыі намаганняў трох найбольш пацярпелых дзяржаў — Беларусі, Украіны і Расіі — у вырашэнні постчарнобыльскіх праблем.

Першай праявай самастойных дзеянняў беларускай дыпламатыі ў ААН было прынццe па ініцыятыве БССР, СССР і УССР на 45-й сесіі Генеральнай Асамблеі (1990 г.) рэзалюцыі аб міжнародным супрацоўніцтве ў змяншэнні наступстваў аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Трэба

зазначыць, што беларускі МЗС і новы міністр П. К. Краўчанка былі вымушаны зрабіць шмат намаганняў, каб пераадолець супрацьдзеянне і некаторую інертнасць мыслення саюзнага МЗС па пытанні аб пастаноўцы чарнобыльскай праблемы на парадак дня ААН. На гэтай жа сесіі беларуская дэлегацыя ўзняла пытанне аб пераводзе краіны з групы краін-донараў у групу краін — атрымальніц дапамогі ААН. Беларуская ініцыятыва была падтрымана дэлегацыямі СССР і УССР.

У 1997 г. па ініцыятыве ўрадаў Беларусі, Расіі і Украіны ААН прыняла праграму міжнароднай падтрымкі тэрыторыям, пацярпелым у выніку чарнобыльскай катастрофы. У снежні 2001 г. на 56-й сесіі Генеральнай Асамблеі ААН у выніку ўзаемадзеяння Беларусі, Расіі і Украіны была прынята рэзалюцыя «Умацаванне міжнароднага супрацоўніцтва і каардынацыі намаганняў у мэтах вывучэння і паляпшэння наступстваў чарнобыльскай катастрофы». Аднак дапамога міжнароднага супольніцтва па пераадоленні наступстваў найбольш жахлівай тэхнагеннай катастрофы XX ст. была вельмі нязначнай. Фактычна, як прызнаў беларускі ўрад, краіна апынулася сам-насам з гэтай жахлівай бядой.

Падчас ваеннай акцыі НАТА у Косава (1999 г.) Расія і Беларусь прапанавалі праект рэзалюцыі Савета Бяспекі супраць агрэсіі і з патрабаваннем прыпынення бомбавых удараў НАТА, які, аднак, не быў падтрыманы. Намаганнямі дзвюх дзяржаў стала магчыма прадухіліць прыняцце на 54-й сесіі Генеральнай Асамблеі рэзалюцыі, накіраванай на выключэнне Югаславіі з ААН.

У справе палітычнага ўрэгулявання косаўскай праблемы Рэспубліка Беларусь і Расійская Федэрацыя выступалі з агульных пазіцый і патрабавалі безумоўнага выканання зацікаўленымі бакамі рэзалюцыі 1244-га Савета Бяспекі. Разам з абмеркаваннем агульнай сітуацыі на Балканах і непасрэдна ў Югаславіі беларуска-расійскі абмен думкамі таксама тычыўся аднаўлення дзейнасці Югаславіі ў рабоце ААН і іншых міжнародных арганізацый.

1 снежня 1999 г. на 54-й сесіі ГА ААН была прынята рэзалюцыя «Аб захаванні і выкананні Дагавора аб супрацьракетнай абароне» (ДСА), ініцыятарамі якой выступілі Рэспубліка Беларусь, Расійская Федэрацыя і Кітайская Народная Рэспубліка. 20 лістапада 2000 г. на 55-й сесіі ГА ААН па ініцыятыве згаданых дзяржаў і Кіргізіі была зноў прынята рэзалюцыя аналагічнага зместу. У чэрвені 2000 г. Прэзідэнт Расіі ў пасланні на імя Прэзідэнта Беларусі праінфармаваў аб ходзе выканання ўнутрыдзяржаўных працэдур уступлення ў сілу Мемарандума аб дамоўленасцях да ДСА.

Рэгулярна ажыццяўляюцца кансультацыі паміж пастаяннымі прадстаўнікамі Рэспублікі Беларусь і Расійскай Федэрацыі пры ААН. 16 снежня 1999 г. пастаянныя прадстаўнікі А. Сычоў і С. Лаўроў перадалі Генеральнаму сакратару ААН К. Анану тэкст Дагавора аб стварэнні Саюзнай дзяржавы. Падчас сустрэчы з К. Ананам было падкрэслена, што падпісанне гэтага дакумента ніяк не адаб'ецца на членстве гэтых краін у ААН.

Беларусь і Расія прытрымліваюцца адзіных пазіцый у справе рэфармавання і ўмацавання сістэмы ААН і яе асноўных органаў з мэтай павышэння эфектыўнасці арганізацыі. Гэта прадугледжвае павелічэнне колькасці пастаянных членаў Савета Бяспекі і выдзяленне дадатковага месца непастаяннага члена для ўсходнееўрапейскай рэгіянальнай групы. Як вядома, Беларусь толькі аднойчы выбіралася непастаянным членам Савета Бяспекі (на 1974-1975 гг.). Яе новая спроба ўвайсці ў склад гэтага галоўнага органа па падтрымцы міру і міжнароднай бяспекі ў 1993 г. скончылася безвынікова. З-за гэтага і ўзнікла прапанова аб выдзяленні дадатковага месца для краін Усходняй Еўропы.

Рэспубліка Беларусь вылучыла сваю кандыдатуру на выбранне непастаянным членам Савета Бяспекі ААН на 2002-2003 гг. Аднак і на гэты раз галасаванне, якое адбылося на 56-й сесіі Генеральнай Асамблеі ў кастрычніку 2001 г., скончылася не на карысць Беларусі. За Балгарыю аддалі свае галасы 120 дзяржаў, а за Беларусь толькі 53. Фактычна паўтарыліся вынікі галасавання 1993 г., калі Беларусь саступіла Чэхіі.

Пасля вылучэння кандыдатуры Беларусі на выбранне непастаянным членам Савета Бяспекі была дасягнута дамоўленасць аб тым, што Расія будзе дапамагаць Беларусі, выкарыстаўшы магчымасці сваіх замежных устаноў перш за ўсё ў тых краінах, дзе такія ўстановы адсутнічаюць у Рэспублікі Беларусь. Аднак гэтага аказалася недастаткова. Не дапамог Беларусі і яе ўдзел у Руху недалучэння, паколькі больш палавіны яго ўдзельнікаў падтрымалі Балгарыю, якая членам руху не з'яўляецца.

Каардынацыя дзейнасці Беларусі і Расіі ў Арганізацыі Аб'яднаных Нацый ажыццяўляецца ў апошнія гады на пастаяннай аснове па ўсіх пунктах парадку дня Генеральнай Асамблеі ААН. Беларуска-расійскае супрацоўніцтва ў межах ААН будуецца на сістэмнай аснове з улікам вынікаў аналізу падыходаў і вынікаў галасавання Беларусі і Расіі па парадку дня Генеральнай Асамблеі за мінулы пяцігадовы перыяд.

Разам з гэтым па некаторых пытаннях парадку дня ААН дзве дзяржавы займаюць розныя пазіцыі. Як адзначаў старшыня камісіі

Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу РБ па міжнародных справах і нацыянальнай бяспецы М. Чаргінец на прэсканферэнцыі ў лістападзе 1999 г., падчас 53-й сесіі ГА ААН, па 17 з больш чым 200 рэзалюцый Беларусь і Расія разышліся ў пазіцыях. У гэтай сувязі ён заявіў, што неабходна «ўдасканальваць механізмы, каб больш скаардынавана вырашаць агульныя праблемы». М. Чаргінец сказаў, што саюзныя дзяржавы, ажыццяўляючы самастойную знешнюю палітыку, павінны дзейнічаць так, каб не нашкодзіць адна адной.

Зразумела, што разыходжанне пазіцый дзвюх краін па некаторых пунктах парадку дня ГА ААН было выклікана і такой акалічнасцю, як імкненнем Беларусі суадносіць сваю палітыку з пазіцыяй у Руху недалучэння і пазіцыяй Расіі як вялікай ядзернай еўразійскай дзяржавы.

Беларусь і Расія маюць пазітыўны вопыт узаемадзеяння па пытаннях узаемнай падтрымкі на выбарах у органы ААН. З мэтай дасягнення выніковасці выбараў абодва бакі звычайна ўстрымліваюцца ад удзелу ў адных і тых жа выбарах. Тым не менш былі прыклады, калі Беларусь і Расія заяўлялі аб вылучэнні сваіх кандыдатур у адзін і той жа орган (выбары ў Камісію па правах чалавека 2000 г.). Такая сітуацыя значна зніжала шансы абедзвюх краін быць абранымі і не дазваляла ў поўнай меры выкарыстоўваць магчымасці аказваць дапамогу адна адной па прасоўванні сваіх кандыдатур (членства Беларусі ў Руху недалучэння, пастаяннае членства Расіі ў Савеце Бяспекі).

Расія падтрымлівала беларускі ўрад у ААН па пытаннях забеспячэння правоў чалавека ў Беларусі. У 2000 г. былі дасягнуты беларуска-расійскія дамоўленасці аб блакіраванні рэзалюцыі аб правах чалавека ў Беларусі, у выпадку, калі яна будзе разглядацца на 56-й сесіі Камісіі ААН па правах чалавека.

Намаганнямі дэлегацый дзвюх краін у заключныя дакументы шэрага форумаў былі ўключаны тэзісы аб падтрымцы краін з пераходнай эканомікай. Сярод такіх буйных форумаў трэба згадаць 23-ю спецыяльную сесію Генеральнай Асамблеі ААН «Пекін+5» па пытаннях паляпшэння стану жанчын і 24-ю спецыяльную сесію «Капенгаген+5» па пытаннях сацыяльнага развіцця, якія адбыліся ў 2000 г.

Трэба зазначыць, што ААН дэманструе рэальныя магчымасці актыўнага беларуска-расійскага дыпламатычнага супрацоўніцтва. Абедзве дзяржавы лічаць, што неабходна ўмацоўваць ААН як унікальны інструмент сусветнай палітыкі. Для ўрадаў гэтых краін арганізацыя з'яўляецца каштоўнай яшчэ і таму, што яна мае менш жорсткія крытэрыі і вымярэнні праблем дэмакратыі і правоў чалавека, чым еўрапейскія арганізацыі (АБСЕ, СЕ і інш.). Таму

правячым колам дзвюх краін удавалася пазбягаць крытыкі з боку органаў ААН палітыкі расійскага ўрада ў Чачні і беларускага ўрада ў галіне правоў чалавека.

**Супрацоўніцтва ў АБСЕ**. Значна больш востра на палітыку Расіі і Беларусі рэагуюць еўрапейскія міжнародныя арганізацыі. І гэта стварае дадатковы стымул для беларуска-расійскага супрацоўніцтва і ўзаемнай падтрымкі на форумах і ў кулуарах гэтай арганізацыі.

Расія падтрымала ўваходжанне Беларусі ў склад дзяржаў — членаў Нарады па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе, якое адбылося ў студзені 1992 г. З 1 студзеня 1995 г. яна мае назву Арганізацыя па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе (АБСЕ). На Будапешцкім саміце АБСЕ у снежні 1994 г. Беларусь і Расія разам з Вялікабрытаніяй і ЗША падпісалі Мемарандум аб гарантыях бяспекі Беларусі. На гэтай жа сустрэчы знешнепалітычнае супрацоўніцтва дзвюх краін праявілася ў тым, што беларускі прэзідэнт А. Лукашэнка стаў адзіным сярод лідэраў краін-удзельніц, хто падтрымаў расійскага прэзідэнта Б. Ельцына ў яго пазіцыі, накіраванай супраць прасоўвання НАТА на Усход.

На Лісабонскім саміце АБСЕ у снежні 1996 г. Расія адзіная з 54 краін-удзельніц падтрымала прэзідэнта А. Лукашэнку і створаную ім новую канстытуцыйна-палітычную сітуацыю ў Беларусі пасля лістападаўскага рэферэндуму 1996 г. Гэта было зроблена шляхам адхілення Расіяй прапановы большасці дэлегацый, якая прадугледжвала асуджэнне канстытуцыйнага перавароту ў Беларусі. На пасяджэнні Парламенцкай асамблеі АБСЕ у Варшаве ў ліпені 1997 г. Расія выступіла супраць прысутнасці на пасяджэнні прадстаўніка Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, які разглядаўся ПА АБСЕ як адзіны легітымны орган заканадаўчай улады. Замест гэтага Расія падтрымала пазіцыю беларускага ўрада, які настойваў на прызнанні Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу. Але на працягу 1997-2000 гг. ПА АБСЕ прызнавала толькі Вярхоўны Савет 13-га склікання.

Пачынаючы з восені 1997 г. Расія, па словах нямецкага аналітыка Х. Цымермана, пачала ажыццяўляць «усё больш моцны ціск» на Мінск з мэтай прымусіць яго прыняць місію АБСЕ. Як вядома, Кансультатыўна-назіральная група АБСЕ ў Беларусі на чале з паслом Г.-Г. Вікам пачала сваю работу ў студзені 1998 г. Х. Цымерман адзначае ў сваім артыкуле ў афіцыйным штогодніку АБСЕ за 1998 г., што запрашэнне прадстаўніцтва АБСЕ у Мінск павінна было адкрыць дзверы для ўваходжання краіны ў еўрапейскія структуры.

«Крытычную ролю» Расіі ў атрыманні згоды беларускіх улад на адкрыццё місіі АБСЕ у Беларусі падкрэсліваў пасля сваёй адстаўкі

пасол Г.-Г. Вік у інтэрв'ю «Народнай волі» ў студзені 2002 г. Ён адзначыў «вялікі інтарэс і разуменне», з якімі Расія ўважліва назірала за дзейнасцю місіі, адзначыўшы разам з тым факт, што Расія прызнала вынікі рэферэндуму 1996 г.

У сваім артыкуле Х. Цымерман аналізуе амбівалентныя адносіны Масквы да палітыкі беларускага ўрада. З аднаго боку, Расія ў якасці «ментара рэпрэсіўнага і варожага рэформам А. Лукашэнкі павінна была несці асноўную цяжкасць палітычных і эканамічных стратаў мінскай самаізаляцыі». Працяг безумоўнай падтрымкі прэзідэнта А. Лукашэнкі быў шкодным для вобраза Расіі ў вачах еўрапейцаў і падрываў працэс еўрапейскага збліжэння. «Менавіта інтарэсы Расіі ў фарміраванні «адзінай Еўропы», пашырэнні эканамічнага і палітычнага супрацоўніцтва з ЕС і яго краінамі ствараюць падаплёку таго, што Масква ў працэсе пасрэдніцтва паміж бакамі канфлікту аказвае ўздзеянне на Лукашэнку». Прыкладам такога ўздзеяння Х. Цымерман лічыць словы Б. Ельцына на маскоўскай сустрэчы з А. Лукашэнкам у студзені 1998 г. аб тым, што «краіна (Беларусь. — У. С.) павінна быць уключана ў работу з еўрапейскімі інстытутамі і міжнароднымі структурамі».

З другога боку, нямецкі аўтар піша аб падтрымцы Расіяй беларускага прэзідэнта на форумах АБСЕ 1996-1997 гг., канстатуючы, што «Лукашэнка разглядаецца ў Маскве, нягледзячы на ўсе яго эскапады, як гарант цесных зносін з Расіяй». Па Х. Цымерману, ціск Масквы на Мінск, які адыгрывае цэнтральную ролю, мае свае межы, таму што «А. Лукашэнка і надалей разглядаецца як апора геастратэгічных інтарэсаў Масквы».

Выснова, да якой прыходзіць Х. Цымерман у сваім артыкуле, зводзіцца да наступнага: «Пазіцыя Расіі як галоўнага фактару ўплыву на Беларусь мае вырашальнае значэнне для будучага поспеху ці правалу групы АБСЕ». Што тычыцца найбліжэйшых перспектыў адносін Беларусі і АБСЕ, то нямецкі аўтар лічыць, што нарастаючыя праблемы краіны: крытычны эканамічны і фінансавы стан, самаізаляцыя ад Захаду, матэрыяльная падтрымка, якая скарачаецца, — усё гэта вымусіць А. Лукашэнку карэкціраваць курс у накірунку норм і стандартаў АБСЕ.

На Стамбульскім саміце АБСЕ 1999 г. беларуская дыпламатыя сумесна з Расіяй і некаторымі іншымі краінамі дабілася такой фармулёўкі пункта аб Беларусі ў заключнай Дэкларацыі, якая задавальняла беларускі ўрад. Трэба зазначыць, што пункт аб «канстытуцыйна-палітычным крызісе ў Беларусі», які быў вымушаны прызнаць А.

Лукашэнка, паставіўшы свой подпіс пад Дэкларацыяй, не афішуецца ў краіне і фактычна не прызнаецца ўладамі.

У ходзе падрыхтоўкі да выбараў у Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі, якія адбыліся 15 кастрычніка 2000 г., першаснае значэнне набыло пытанне аб накіраванні міжнародных назіральнікаў у Беларусь, што стала перадумовай прызнання выбараў дэмакратычнымі з боку міжнароднай супольнасці. Еўрапейскія парламенцкія структуры (ПА АБСЕ, Еўрапарламент і ПАСЕ) падчас трох тэхнічных канферэнцый, якія адбыліся на экспертным узроўні ў красавіку, чэрвені і жніўні 2000 г. пад эгідай АБСЕ, вырашылі ажыццяўляць каардынацыю сваіх намаганняў у «беларускім пытанні», а таксама выпрацавалі крытэрыі ацэнкі становішча ў Беларусі. Гэтыя крытэрыі ўключалі чатыры ўмовы арганізацыі дэмакратычных выбараў, якія сталі сродкам ціску на беларускія ўлады.

На Трэцяй тэхнічнай канферэнцыі экспертаў (30 жніўня 2000 г.) беларуская дыпламатыя пры падтрымцы Расіі дабілася запрашэння на канферэнцыю прадстаўнікоў Міжпарламенцкай асамблеі СНД і Выканкома СНД. Прынятыя канферэнцыяй «Заключэнні і рэкамендацыі» прадугледжвалі накіраванне ў Беларусь толькі тэхнічнай місіі па ацэнцы Бюро па дэмакратычных інстытутах і правах чалавека АБСЕ (ТОМ БДІПЧ), паколькі дасягнуты ў краіне прагрэс быў адзначаны як недастатковы для накіравання поўнай місіі назіральнікаў. Канферэнцыя таксама адзначыла, што факт прысутнасці парламенцкай «тройкі» і ТОМ БДІПЧ у Беларусі не будзе з'яўляцца «актам міжнароднага прызнання дэмакратычнага характару і вынікаў парламенцкага выбарчага працэсу». Прадстаўнікі Расіі і іншых краін СНД не падтрымалі гэты пункт і заявілі, што вынікі выбараў будуць прызнаны парламентамі краін СНД.

Дзеючы старшыня АБСЕ, міністр замежных спраў Аўстрыі Б. Ферэра-Вальднэр у сваёй заяве па выніках выбараў адзначыла, што выбары не адпавядалі міжнародным дэмакратычным стандартам. Іншай была ацэнка расійскага ўрада. МЗС Расійскай Федэрацыі заявіла, што большасць вынікаў працы ТОМ, а таксама ігнараванне ёю прагрэсу, дасягнутага Беларуссю ў выкананні сваіх абавязкаў у межах АБСЕ, сведчаць аб «палітызаваным падыходзе, які накіраваны на апраўданне курсу на міжнародную ізаляцыю Беларусі».

У заключэнні дэлегацыі Цэнтральнай выбарчай камісіі РФ, якая ажыццяўляла назіранне за выбарамі ў Мінску, Мінскай і Гродзенскай абласцях, адзначалася, што выбары ў Палату прадстаўнікоў былі «ў поўнай меры дэмакратычнымі і адпавядалі агульнапрызнаным патрабаванням. Падчас работы дэлегацыі не было зафіксавана

фактаў грубага парушэння заканадаўства ці канстытуцыйных правоў грамадзян Рэспублікі Беларусь, якія маглі б паставіць пад сумненне дэмакратычнасць і легітымнасць выбараў». Акрамя гэтага заключэння расійская дэлегацыя пайшла далей, выказаўшы сваё адмоўнае стаўленне да супрацьлеглай ацэнкі выбараў еўрапейскай парламенцкай «тройкі». На лістападаўскім саміце СНД 2000 г. у Мінску расійскі прэзідэнт У. Пуцін заявіў аб прызнанні Расіяй прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі і Азербайджане.

Нягледзячы на тое, што краіны СНД накіравалі сваіх назіральнікаў і прызналі вынікі парламенцкіх выбараў у Беларусі, аб гэтым у Пастаянным савеце АБСЕ заявіў толькі прадстаўнік Расіі. Намеснік кіраўніка Пастаяннай дэлегацыі Рэспублікі Беларусь у АБСЕ У. М. Чайчыц у сувязі з гэтым пісаў у Штогодніку Дыпламатычнай акадэміі МЗС РФ: «Астатнія краіны СНД практычна ніколі не выступалі па беларускім пытанні. Фактычна краіны СНД, за выключэннем Расіі, сёння не ў стане ўплываць у АБСЕ на характар адносін да Беларусі, паколькі яны, на жаль, не выступаюць адзіным блокам і нават ніколі не практыкуюць сумесных заяў на Пастаянным савеце АБСЕ, нягледзячы на тое, што іх пазіцыі па большасці пытанняў супадаюць (на гэтым фоне можна вызначыць толькі сумесныя заявы краін ГУУАМ)».

Беларускі дыпламат лічыць, што краіны СНД патэнцыяльна маглі б стаць больш дзейсным фактарам падтрымкі інтарэсаў Беларусі, паколькі самі нярэдка з'яўляюцца аб'ектам крытыкі ў АБСЕ, хоць і не такой сістэматычнай і рэзкай, як Беларусь. Характэрна і выказаная У. М. Чайчыцам думка аб тым, што «Беларусь павінна ўлічыць рэкамендацыі еўрапейскіх арганізацый і зрабіць рашучыя крокі насустрач Еўропе... ».

Нягледзячы на тое, што з боку беларускага кіраўніцтва былі зроблены заявы аб тым, што яно максімальна ўлічыла рэкамендацыі еўрапейскай супольнасці адносна дэмакратызацыі ўнутрыпалітычнага жыцця, рэальна ў гэтым накірунку быў дасягнуты мінімальны прагрэс. Гэта прадэманстравалі адносіны еўрапейскіх парламенцкіх структур да выбараў у Беларусі ў мясцовыя органы ўлады 1999 г., выбараў у Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу 2000 г. і прэзідэнцкіх выбараў 2001 г.

У дакуменце кіраўніка КНГ АБСЕ Г.-Г. Віка пад назвай «Беларусь пасля выбараў: вынікі легітымнасць, назіранне», распаўсюджаным у лістападзе 2001 г., адзначалася, што мясцовыя, парламенцкія і прэзідэнцкія выбары не адпавядалі стандартам АБСЕ. Разам з гэтым ён заўважыў, што «дэлегацыя СНД і прадстаўнікі краін — удзельніц СНД, а таксама асобныя палітычныя "турысты" з краін Еўропы і

далёкага замежжа далі ў асноўным пазітыўную ацэнку (вынікаў прэзідэнцкіх выбараў. — У. С.)», растлумачыўшы гэта тым, што прадстаўнікі краін СНД выступалі ў якасці кароткачасовых назіральнікаў.

Яшчэ адным пунктам парадку дня АБСЕ і Савета Еўропы, па якім назіраецца падтрымка Расіяй беларускіх улад, з'яўляецца праблема прадстаўніцтва Беларусі ў Парламенцкай асамблеі АБСЕ і Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы. Пасля таго як у гэтых парламенцкіх органах скончыўся тэрмін паўнамоцтваў прадстаўнікоў Вярхоўнага Савета РБ 13-га склікання (студзень 2001 г.), беларуская і расійская дыпламатыя пачала ажыццяўляць работу па прасоўванні туды прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь.

На нарадзе Пастаяннага камітэта ПА АБСЕ у Лісабоне (кастрычнік 2001 г.) пры абмеркаванні пытання аб прадстаўніцтве Беларусі ў ПА АБСЕ член расійскай парламенцкай дэлегацыі, прадстаўнік Саюза правых сіл А. Мізуліна выступіла з рэзкай крытыкай ПА АБСЕ за тое, што гэты орган адмаўляецца прыняць рашэнне аб прызнанні паўнамоцтваў дэлегацыі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь. Дэпутат Дзяржаўнай Думы, па сутнасці, выкарыстала шантаж членаў Пастаяннага камітэта, заявіўшы аб тым, што члены расійскай дэлегацыі думаюць аб тым, «ці трэба ўвогуле працягваць работу ў складзе ПА АБСЕ». Як бачым, расійскія парламентарыі гатовы заплаціць высокую цану за прыняцце карыснага для афіцыйнага Мінска рашэння аб міжнародным прызнанні новай парламенцкай структуры, створанай пасля 1996 г.

Агульнасць пазіцый дзвюх краін была прадэманстравана на пасяджэннях Савета міністраў замежных спраў АБСЕ у Вене (лістапад 2000 г.) і Бухарэсце (снежань 2001 г.). У Вене расійская дэлегацыя выступіла супраць аднаго з пунктаў выніковага дакумента, які прапанаваў беларускаму ўраду сфармуляваць умовы правядзення прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі. У Бухарэсце міністр замежных спраў Рэспублікі Беларусь М. Хвастоў выступіў за правядзенне рэформы АБСЕ, якая магла б выправіць геаграфічны дысбаланс Арганізацыі, які тычыцца яе празмернай канцэнтрацыі на гуманітарнай і праваахоўнай праблематыцы постсавецкіх краін і Балканскага рэгіёна. Такой жа пазіцыі прытрымліваецца расійская дыпламатыя, што зафіксавана ў Канцэпцыі знешняй палітыкі Расійскай Федэрацыі.

Расійскі бок працягвае аказваць падтрымку Беларусі ў ходзе пасяджэнняў розных органаў АБСЕ. Узгадненне пазіцый у рабочым парадку ажыццяўляецца Пастаяннымі дэлегацыямі краін у АБСЕ у Вене, а таксама ў ходзе кансультацый прадстаўнікоў дзвюх краін у

сталіцах. Пытанні ўзаемадзеяння ў межах АБСЕ вырашаюцца і на самым высокім узроўні.

Узгадненне пазіцый у іншых міжнародных арганізацыях. Расія падтрымлівала намаганні Беларусі атрымаць статус назіральніка ў Савеце дзяржаў Балтыйскага мора (СДБМ), Арганізацыі чарнаморскага эканамічнага супрацоўніцтва (АЧЭС) і «Паўночным вымярэнні» Еўрапейскага саюза. Расія, якая займала ў 2000-2002 гг. пасаду старшыні ў СДБМ і АЧЭС, па сваіх каналах вырашала пытанне падключэння Беларусі да дзейнасці гэтых арганізацый.

У Праграме ўзгодненых дзеянняў у галіне знешняй палітыкі Саюза Беларусі і Расіі на 1998-1999 гг. замацаваны абавязак Беларусі як удзельніцы Цэнтральнаеўрапейскай ініцыятывы (ЦЕІ) аказваць дапамогу Расіі ў замацаванні сувязей на пастаяннай аснове з арганізацыйнымі структурамі і рабочымі групамі ЦЭІ.

Расія дапамагла дэлегацыі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь аднавіць членства ў Міжпарламенцкім саюзе ў 1997 г. Яна працягвае дапамагаць Беларусі ў аднаўленні яе статуса ў агульнаеўрапейскіх структурах, а таксама ў паляпшэнні адносін ЕС да афіцыйнага Мінска. 21 верасня 1999 г. падчас тэлефоннай размовы Б. Ельцына з А. Лукашэнкам прэзідэнт Расіі звярнуў увагу на недапушчальнасць ціску на Беларусь з боку заходніх дзяржаў і запэўніў, што МЗС і іншыя дзяржаўныя органы Расіі і надалей будуць рашуча выступаць на міжнароднай арэне супраць такіх спроб.

У межах Еўразійскай эканамічнай супольнасці дзве дзяржавы выпрацавалі адзіную пазіцыю ва ўзаемаадносінах з Сусветнай гандлёвай арганізацыяй і іншымі міжнароднымі эканамічнымі арганізацыямі. У межах Супольнасці адпрацаваны механізм міжурадавых кансультацый па пытаннях, звязаных з СГА. Неабходна адзначыць важнасць дакладнага ўзгаднення пазіцый Беларусі і Расіі з мэтай сінхроннага далучэння гэтых краін як самастойных суб'ектаў міжнароднага права да СГА.

Рашэннем сумеснага пасяджэння калегіі Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь і Міністэрства гандлю Расіі ад 31 ліпеня 1999 г. створана пастаянна дзеючая рабочая група па каардынацыі перагаворных пазіцый па далучэнні да СГА. Па словах загадчыка ўпраўлення МЗС Рэспублікі Беларусь Я. Багамазава (2000 г.), маруднае прасоўванне Беларусі ў СГА адбываецца не толькі з-за ўнутраных прычын, але і з-за неабходнасці праводзіць сумесную палітыку з Расіяй, што знаходзіць паразуменне ў СГА.

Больш цяжка ажыццяўляецца беларуска-расійскае супрацоўніцтва з міжнароднымі фінансавымі інстытутамі, з якімі абедзве дзяржавы супрацоўнічаюць асобна.

У апошнія гады ў сувязі з узмацненнем ціску беларускіх улад на Федэрацыю прафесійных саюзаў Беларускую (ФПБ), а таксама на незалежныя прафесійныя саюзы пытанне аб выкананні беларускім урадам працоўных правоў неафіцыйна з'явілася ў парадку дня Міжнароднай арганізацыі працы (МАП), членам якой Беларусь з'яўляецца з 1954 г. Гаворка ідзе аб прыняцці з боку МАП так званага Спецыяльнага параграфа па Беларусі. Ціск улад на беларускія прафесійныя саюзы таксама стаў прадметам занепакоенасці расійскіх прафесійных саюзаў. Іх кіраўніцтва неаднаразова выражала салідарнасць з палітыкай ФПБ, якую да нядаўняга часу ўзначальваў адзіны кандыдат у прэзідэнты ад апазіцыі на прэзідэнцкіх выбарах 2001 г. У. І. Ганчарык, і абяцала паставіць гэтае пытанне перад расійскім прэзідэнтам У. Пуціным.

Беларуска-расійскае супрацоўніцтва на міжнароднай арэне, у тым ліку і ў міжнародных арганізацыях, ажыццяўляецца на базе агульнасці інтарэсаў правячых у дзвюх краінах палітычных рэжымаў. Яны эвалюцыяніруюць у бок далейшага ўмацавання прэзідэнцкай улады (так званай кіруемай дэмакратыі ў Расіі і прэзідэнцкага рэжыму ў Беларусі). Асновай для падтрымкі Расіяй беларускіх інтарэсаў з'яўляюцца геапалітычныя інтарэсы самой Расіі. На гэтым увесь час засяроджваюць увагу расійскія праваахоўны. Сёння геапалітыка з'яўляецца больш важнай для Расіі, чым абстрактныя ідэалы дэмакратыі і правоў чалавека, чым дэмакратычны імідж новай Расіі ў міжнароднай супольнасці. Гэта яшчэ адзін доказ слабасці дэмакратычных асноў новай расійскай дзяржаўнасці.

Праблема спалучэння інтарэсаў асобы, грамадства і дзяржавы ў знешняй палітыцы, што дэкларуюцца ў канцэптуальных дакументах Расіі і Беларусі, застаецца пакуль яшчэ далёкай ад свайго ўвасаблення ў знешнепалітычнай практыцы абедзвюх дзяржаў. На тэарэтычным узроўні расійскія даследчыкі зазначаюць, што ў расійскім грамадстве і палітычнай эліце дасягнуты ўнутрыпалітычны кансэнсус па кардынальных пытаннях знешняй палітыкі. Аднак гэтага нельга сказаць аб Беларусі, дзе грамадства і эліта падзелены адносна разумення і падтрымкі ўнутранай і знешняй палітыкі ўрада.

Адсутнасць знешнепалітычнага кансэнсусу ў грамадстве вядзе да сутыкнення інтарэсаў сацыяльных груп і эліты ў сферы знешняй палітыкі. Гэта стварае знешнепалітычныя праблемы для ўрада, аслабляе міжнародны аўтарытэт і пазіцыю краіны. Застаецца спадзя-

ваццa, што ўмацаванне дэмакратыі і ўнутрыпалітычнай стабільнасці, паляпшэнне становішча ў галіне правоў чалавека знімуць праблематыку «дэмакратыі і правоў чалавека ў Беларусі», як і ўвогуле ўсё «беларускае пытанне», з парадку дня міжнародных арганізацый. Гэта зробіць неактуальным беларуска-расійскае міжурадавае супрацоўніцтва, накіраванае супраць міжнароднай крытыкі недэмакратычных паводзін урада той ці іншай краіны, паколькі знікне сам прадмет крытыкі.

## Тэма 9
## БЕЛАРУСКА-ПОЛЬСКІЯ АДНОСІНЫ (1990-2003 гг.)

Ад стварэння беларускай дзяржаўнасці польскі фактар адыгрываў ключавую ролю ў гісторыі Беларусі, міжнародным становішчы, унутранай і знешняй палітыцы беларускіх дзяржаў. Для старажытнабеларускіх дзяржаў-княстваў, Вялікага княства Літоўскага, Беларускай Народнай Рэспублікі, Беларускай ССР Польшча была найбліжэйшай заходняй дзяржавай. Важнае значэнне Польшчы як самага буйнога заходняга суседа захоўваецца зараз і для Рэспублікі Беларусь.

Беларуска-польскія адносіны ад пачатку 1990-х гг. набылі новую якасць і змест, сталі адносінамі паміж дзвюма незалежнымі і суверэннымі дзяржавамі. Гісторыя беларуска-польскіх міждзяржаўных адносін налічвае ўжо больш чым дзесяцігадовы перыяд. Яна мае ўласную дынаміку, чаргаванне перыядаў уздыму і падзення, ажыўлення і спаду. Гэта гісторыя даволі лёгка падзяляецца на два перыяды. Мяжой паміж імі выступае 1994 ці 1996 гг. Польскія аўтары схільны лічыць лініяй водападзелу 1994 г., калі да ўлады ў Беларусі прыйшоў прэзідэнт А. Лукашэнка, які пачаў праводзіць іншую ўнутраную і знешнюю палітыку, якая істотна адрознівалася ад палітычнага курсу парламенцкай рэспублікі. Несумненна, што існуючы ў Беларусі палітычны рэжым ёсць найгалоўнейшым фактарам, які вызначае беларускую палітыку адносна Польшчы.

Беларускія вучоныя лічаць рубежным момантам у гісторыі Рэспублікі Беларусь лістападаўскі рэферэндум 1996 г. Непрызнанне вынікаў гэтага рэферэндуму з боку заходніх дзяржаў, у тым ліку Польшчы, еўрапейскіх міжнародных арганізацый прывяло да пагаршэння адносін Беларусі з Захадам, у тым ліку беларуска-польскіх адносін. У стане застою і ахаладжэння гэтыя адносіны застаюцца і ў пачатку XXI ст.

Нягледзячы на тое, які год можна лічыць паваротным у нядоўгай гісторыі незалежнай Беларусі, трэба прызнаць, што на працягу 1994-

1996 гг. адбыўся пераходны перыяд, у ходзе і выніку якога істотна змяніліся мэты і кірункі дзяржаўнага будаўніцтва, унутранай і знешняй палітыкі беларускай дзяржавы. Ацэнкі вынікаў прэзідэнцкіх выбараў 1994 г. і канстытуцыйнага рэферэндуму 1996 г. застаюцца прадметам вострых спрэчак і нават расколу сярод беларускай эліты, грамадска-палітычных сіл і ўсяго беларускага грамадства. Як паказвае гісторыя, такі грамадска-палітычны раскол у недэмакратычных грамадствах адносна палітыкі дзеючай улады ці пэўнай асобы пераадольваецца пасля зыходу гэтай асобы з палітычнай сцэны.

У дадзенай лекцыі зроблена спроба сціслага апісання найбольш важных падзей і этапаў у развіцці адносін паміж Беларуссю і Польшчай у 1990-2003 гг., а таксама аналізу беларускай і замежнай, у тым ліку польскай, навуковай літаратуры па гэтай праблеме.

**Развіццё адносін у 1990-1996 гг.** У гады, што папярэднічалі распаду СССР (1989-1991), польская ўсходняя палітыка развівалася па двух кірунках, ці ўзроўнях. З аднаго боку, Варшава падтрымлівала афіцыйныя адносіны з СССР і цэнтральнымі органамі савецкай федэрацыі. Адначасова дэмакратычны ўрад новай Польшчы імкнуўся ўстанавіць адносіны новай якасці і зместу з заходнімі савецкімі саюзнымі рэспублікамі (рэспублікамі Балтыі, Беларуссю, Украінай, Малдовай). Польшча, улічваючы дэзінтэграцыйныя працэсы ў СССР, хацела ўзняць узровень сувязей з рэспублікамі. На думку польскага даследчыка П. Заянчкоўскага, Польшча была першай краінай, якая паклала ў аснову сваёй палітыкі адносна СССР прынцып двухузроўневасці, які заключаўся ў неабходнасці лічыцца як з Саюзам, так і з рэспубліканскімі партнёрамі. Але пасля распаду СССР перадумовы правядзення двухузроўневай палітыкі зніклі. Для Варшавы трэба было будаваць адносіны з былымі рэспублікамі СССР з чыстага ліста, хаця пэўныя гістарычныя традыцыі і перадумовы адносін Польшчы з рэспублікамі Балтыі, Беларуссю, Украінай існавалі.

Пачатак афіцыйных беларуска-польскіх адносін быў няпросты. Першы візіт польскага міністра замежных спраў К. Скубішэўскага ў Мінск у кастрычніку 1990 г. закончыўся дыпламатычным непаразуменнем. Новы міністр замежных спраў БССР П. Краўчанка, які толькі што заняў гэтую пасаду, праявіў характар і адмовіўся падпісваць прапанаваную К. Скубішэўскім Дэкларацыю аб асновах міждзяржаўных адносін. Аналагічныя дэкларацыі былі падпісаны ў ходзе візіту К. Скубішэўскага з РСФСР і Украінскай ССР. Факт адмовы ад падпісання дэкларацыі не атрымаў адлюстравання ў беларускім друку, аб гэтым беларуская грамадскасць даведалася з замежных крыніц. Прычынай адмовы, як сведчаць польскія публікацыі, з'явіліся

патрабаванні, вылучаныя беларускім бокам. Беларускія ўлады заявілі, што БССР не падпісвала савецка-польскі Дагавор аб дзяржаўнай мяжы ад 16 жніўня 1945 г. і таму не можа прызнаць яго сапраўдным для Беларусі. П. Краўчанка таксама ўзняў пытанне аб тэрытарыяльнай прыналежнасці Беласточчыны, якая часткова была населена беларусамі.

Беларускі бок, адхіліўшы прапанаваную Варшавай фармулёўку аб недатыкальнасці і нязменнасці ў будучым існуючай беларуска-польскай мяжы, не вылучыў ніякіх тэрытарыяльных прэтэнзій да Польшчы. У інтэрв'ю беларускаму тэлебачанню К. Скубішэўскі выказаў шкадаванне адносна пагранічнай праблемы, адзначыўшы, што для яго пазіцыя Мінска не была нечаканай, паколькі для выпраўлення недахопаў мінулага патрэбны час.

Аўтар у сваіх даследаваннях звяртаў увагу на парушэнне сталінскім кіраўніцтвам Канстытуцыі СССР і Канстытуцыі БССР пры падрыхтоўцы, заключэнні і ратыфікацыі савецка-польскага Дагавора аб дзяржаўнай мяжы ад 16 жніўня 1945 г., расцэньваючы гэта як грубае парушэнне правоў саюзнай рэспублікі і праяву вялікадзяржаўнасці ў сталінскай знешняй палітыцы.

Памежнае пытанне паміж Беларуссю і Польшчай было ўрэгулявана праз год. У кастрычніку 1991 г. у час візіту кіраўніка беларускага ўрада В. Кебіча ў Варшаву была падпісана беларуска-польская Дэкларацыя аб добрасуседстве, узаемаразуменні і супрацоўніцтве. Яна прызнавала непарушнасць меж, усталяваных Дагаворам ад 16 жніўня 1945 г., як фактару мірнага ўрэгулявання ў Еўропе. Кропка ў вырашэнні памежнага пытання была пастаўлена ў Дагаворы аб добрасуседстве і супрацоўніцтве ад 23 чэрвеня 1992 г., у адпаведнасці з якім бакі прызнавалі існуючыя паміж імі межы.

Польскі сейм прызнаў незалежнасць Беларусі дэ-факта 30- 31 жніўня 1991 г. На дзяржаўным узроўні Польшча прызнала незалежнасць Рэспублікі Беларусь 27 снежня 1991 г. У 1992 г. абедзве дзяржавы абмяняліся пасольствамі. У 1992 г. паміж Беларуссю і Польшчай быў падпісаны шэраг пагадненняў аб супрацоўніцтве ў канкрэтных галінах, у тым ліку аб трансгранічным супрацоўніцтве, пагранічных пераходах, арганізацыі перавозак, чыгуначных і аўтамабільных зносінах, садзейнічанні і абароне інвестыцый, пазбяганні двайнога падаткаабкладання даходаў і маёмасці, Дагавор аб супрацоўніцтве ў галіне культуры, навукі і адукацыі. Гэтыя пагадненні складалі дагаворна-прававую базу беларуска-польскага супрацоўніцтва на перспектыву і сведчылі аб добрай волі і жаданні бакоў да развіцця ўзаемных адносін ва ўсіх галінах.

Інтэнсіўнасць двухбаковых гандлёвых адносін была няўстойлівай. У 1992 г. Польшча стала для Беларусі партнёрам нумар адзін сярод краін па-за межамі СНД і трэцім па значэнні партнёрам пасля Расіі і Украіны. У сваю чаргу Беларусь стала другім пасля Японіі імпарцёрам польскіх тавараў. Аднак узровень гандлю быў невысокі, складаючы каля 300 млн дол. ЗША, і вызначаўся бартэрным абменам. У 1993 г. аб'ём гандлёвага абароту знізіўся на адну трэць, у 1994 г. — у паўтара раза. У 1995 г. доля Беларусі ў польскім тавараабароце складала 0,9 %.

На думку шэрага польскіх аналітыкаў, у першай палове 1990-х гг. Польшча не змагла выпрацаваць колькі-небудзь дзейсную мадэль двухбаковых адносін з Беларуссю. П. Заянчкоўскі адзначае, што зацікаўленасць значнай часткі беларускай палітычнай эліты ў развіцці адносін з Расіяй пры адначасовай адсутнасці сур'ёзных палітычных і эканамічных рэформ прывяла да таго, што да прыходу А. Лукашэнкі да ўлады Мінск і Варшава не выйшлі за межы набору стандартных міждзяржаўных дамоўленасцей, якія рэгулявалі найбольш элементарныя прававыя адносіны.

Іншы аўтарытэтны польскі аўтар А. Камінскі таксама заўважае, што да канца 1996 г. Польшча не мела якой-небудзь акрэсленай палітычнай лініі адносна Беларусі. Для яе больш важнай была Украіна. На яго думку, толькі пачынаючы з падзей лістападаўскага рэферэндуму 1996 г. польская палітыка адносна Беларусі набыла рысы паслядоўнасці, што выражалася ў неадабрэнні Варшавай парушэнняў правоў чалавека ў Беларусі.

Польшча была зацікаўлена ва ўмацаванні незалежнасці Беларусі і поспеху яе дэмакратычных і рыначных рэформ. Яна была занепакоена высокім узроўнем залежнасці Беларусі ад Расіі і вельмі павольным ходам сацыяльных пераўтварэнняў. У ходзе візіту ў Мінск прэм'ер-міністра Польшчы Х. Сухоцкай у лістападзе 1992 г. яна выказала заклапочанасць расійска-беларускім збліжэннем, якое выразілася ў падпісанні ў ліпені 1992 г. каля 20 пагадненняў у ваенна-палітычнай і эканамічнай галінах. Пасля вяртання ў Варшаву Х. Сухоцкая выказала пажаданне, каб «Беларусь была цалкам суверэннай дзяржавай». Гэта было расцэнена расійскай прэсай як двухсэнсоўная заява, паколькі суверэнітэт Беларусі абумоўліваўся польскім прэм'ер-міністрам узроўнем беларуска-расійскіх адносін. Газета «Известия» пісала, што ад Беларусі залежыць, з кім з суседзяў і на якім узроўні падтрымліваць адносіны.

У адказ на заклапочанасць Х. Сухоцкай беларускі прэм'ер В. Кебіч заявіў, што яго ўрад прытрымліваецца «палітыкі раўнавагі» паміж

суседзямі Беларусі, і нават запэўніў, што такія ж пагадненні будуць падпісаны з Польшчай. Грамадскі рэзананс, выкліканы выказваннямі прэм'ер-міністра Польшчы Х. Сухоцкай, сведчыў аб тым, наколькі ўважліва Польшча і Расія сачылі за вызначэннем прыярытэтаў беларускай знешняй палітыкі ў першы год існавання незалежнай Беларусі, імкнучыся «перацягнуць» яе на свой бок. Аднак у гэтай барацьбе за Беларусь у Польшчы было значна менш шансаў. І калі яны яшчэ захоўваліся ў час праўлення Старшыні Вярхоўнага Савета С. Шушкевіча, то з прыходам А. Лукашэнкі гэтыя шансы зніклі.

Польскія даследчыкі М. Менкішак і М. Піятроўскі ў кнізе «Знешняя палітыка Польшчы 1989-2002 гг.» пішуць, што Польшча з узрастаючым непакоем сачыла за развіццём палітычнай сітуацыі ў Беларусі ў 1994 г. Варшаву таксама турбавала ўзрастаючая залежнасць Беларусі ад Расіі. «Гэтыя тэндэнцыі ўзмацніліся пасля прыходу А. Лукашэнкі і зрабілі немагчымым умацаванне польска-беларускага супрацоўніцтва», — заключаюць вышэйназваныя аўтары.

У 1993-1994 гг. павялічылася розніца ў пазіцыях Беларусі і Польшчы па пытаннях міжнароднай бяспекі. У пачатку 1994 г. Беларусь далучылася да Дагавора аб калектыўнай бяспецы краін — удзельніц СНД, што было расцэнена ў Польшчы і многіх іншых краінах як адыход афіцыйнага Мінска ад абвешчанага і замацаванага ў Канстытуцыі тэзіса аб імкненні стаць нейтральнай дзяржавай і як знак умацавання ваенна-палітычнай залежнасці Беларусі ад Расіі.

Польшча, у сваю чаргу, актывізавала намаганні па ўступленні ў НАТА. У лістападзе 1993 г. польскае МЗС накіравала ў Мінск запыт з мэтай высветліць пазіцыю беларускага боку адносна польскіх планаў далучэння да НАТА. Адказ быў стрымана-негатыўны. Пасля прыходу да ўлады А. Лукашэнкі Беларусь заняла пазіцыю самага рэзкага крытыка руху НАТА на Усход. Умацаванне напружанасці паміж НАТА і дзяржавамі — кандыдатамі на ўступленне ў гэту арганізацыю, з аднаго боку, і саюзам Беларусь — Расія, які сфарміраваўся ў 1996 г., з другога боку, прывяло да сур'ёзнага абвастрэння беларуска-польскіх адносін. Як лічыць беларускі даследчык В. Карбалевіч, «Крэмль спрабаваў замарудзіць працэс далучэння Польшчы да НАТА, штучна справакаваўшы ахаладжэнне адносін паміж Мінскам і Варшавай». Аналагічную думку выказаў і А. Камінскі, які мяркуе, што пагрозы, выказаныя беларускім прэзідэнтам у ходзе дэбатаў аб пашырэнні НАТА, былі прадыктаваны Масквой.

Польшча была занепакоена працэсам беларуска-расійскай інтэграцыі, лічачы, што ён пагражае незалежнасці Беларусі і вядзе яе да абмежавання супрацоўніцтва з заходнімі партнёрамі і наступнай

самаізаляцыі. Для Польшчы, як і для іншых суседзяў Беларусі, асаблівае значэнне меў не столькі сам Саюз Беларусі і Расіі, колькі ўнутрыпалітычныя (беларускія) і міжнародныя ўмовы, у якіх ён складваўся. Польскія палітыкі і аналітыкі лічылі, што пры падтрымцы Расіі аўтарытарны рэжым у Беларусі можа стаць крыніцай рэгіянальнай напружанасці.

30 сакавіка 1996 г. у Белавежскай пушчы адбылася першая і апошняя сустрэча Прэзідэнта Беларусі А. Лукашэнкі з Прэзідэнтам Польшчы А. Кваснеўскім. Яна не прывяла да якіх-небудзь істотных вынікаў і мела ў асноўным характар зандажу. Польшча спрабавала падключыць Мінск да трохбаковага супрацоўніцтва з удзелам Украіны. 21 ліпеня 1996 г. міністры замежных спраў трох дзяржаў сустрэліся ў Брэсце, але вынікі сустрэчы не давалі падстаў для аптымізму. Абвастрэнне ўнутрыпалітычнай сітуацыі ў Беларусі падштурхнула Варшаву да смелай ініцыятывы — прыняцця сумеснай заявы прэзідэнтаў Літвы, Польшчы і Украіны аб становішчы ў Беларусі ад 20 лістапада 1996 г. У ёй выказвалася заклапочанасць развіццём падзей у суседняй краіне.

Палітыка «крытычнага дыялога» (1997-2003 гг.). Пасля лістападаўскага рэферэндуму 1996 г., вынікі якога былі ўспрыняты ў Варшаве як дзяржаўны пераварот, Варшава прыняла адносна афіцыйнага Мінска новую палітыку так званага «крытычнага дыялога». Гэтая палітыка азначала крытыку і асуджэнне дзеянняў беларускіх улад, якія парушалі правы чалавека і дэмакратычныя прынцыпы. Адначасова польскі ўрад не адмаўляўся цалкам ад дыялога з афіцыйным Мінскам, хаця і панізіў узровень кантактаў. Польшча лічыла, што ізаляцыя Беларусі можа толькі падштурхнуць яе да далейшай інтэграцыі з Расіяй, нанесці шкоду інтарэсам Польшчы як суседняй дзяржавы і польскай нацыянальнай меншасці ў Беларусі.

З 1997 г. на першы план польскай палітыкі адносна Беларусі выйшаў эканамічны фактар. Пасля спаду гандлёвага абароту ў 1994 г. у наступным годзе адбыўся ўздым, які працягваўся ў 1996 г. У 1997-1998 гг. аб'ём беларуска-польскага гандлю зноў упаў ніжэй за 500 млн дол. ЗША. У канцы 1998 г. доля Польшчы ў знешнім гандлі Беларусі складала 2,9 %. Яна з'яўлялася чацвёртым па значэнні гандлёвым партнёрам Беларусі пасля Расіі, Украіны і Германіі.

Пасля таго як Захад і еўрапейскія міжнародныя арганізацыі пачалі праводзіць адносна Беларусі палітыку «абмежаванага дыялога» Польшча спрабавала выступіць галоўным пасрэднікам у нармалізацыі адносін афіцыйнага Мінска з Захадам. У Варшаве лічылі, што Захад заўчасна адрокся ад Беларусі і сваёй жорсткай, прамалінейнай

палітыкай толькі радыкалізуе ў гэтай краіне і рэгіёне антызаходнія настроі. Польскія даследчыкі ўказвалі на тое, што Беларусь застаецца глухой да ўздзеяння Захаду таму, што трывала не прывязана да яго фінансава-эканамічнымі сувязямі. У студзені 1997 г. Польшча вылучыла ідэю аказання калектыўнай эканамічнай дапамогі Беларусі сіламі Польшчы, Украіны, Літвы і Латвіі пры падтрымцы міжнародных фінансавых інстытутаў і Еўрапейскага саюза. Умовай аказання дапамогі была названа «поўная незалежнасць Беларусі». Але гэты праект не быў рэалізаваны.

Для беларускіх улад сур'ёзным фактарам, які перашкаджаў адносінам з заходняй суседкай, была падтрымка, якую Варшава аказвала антылукашэнкаўскай апазіцыі і недзяржаўным арганізацыям (НДА). Варшава прызнавала Вярхоўны Савет 13-га склікання, які быў распушчаны прэзідэнтам пасля лістападаўскага рэферэндуму 1996 г., адзіным легітымным органам заканадаўчай улады ў Беларусі і падтрымлівала з ім міжпарламенцкія сувязі. Новай зачэпкай для беларускай крытыкі ў адрас польскага ўрада з'явілася стварэнне радыёстанцыі «Рацыя», якая вяла перадачы з польскай тэрыторыі на беларускай мове. У студзені 1999 г. польскі сейм прыняў «Пасланне да беларускага народа», якое было расцэнена беларускім кіраўніцтвам як умяшанне ва ўнутраныя справы дзяржавы.

Аб неабходнасці актывізацыі польскай усходняй палітыкі ў канцы 1990-х гг. пісалі польскія, амерыканскія і беларускія знешнепалітычныя эксперты. У прыватнасці, даследчыкі са Злучаных Штатаў Ш. Гарнэт і Р. Легволд адзначалі, што няма большага выкліку стабільнасці ўсходняй мяжы Польшчы, чым Беларусь. Нягледзячы на тое што пытанне беларуска-польскіх адносін надзвычай далікатнае з гістарычнага пункту погляду, яно па сваёй вастрыні не можа параўнацца з тымі намаганнямі, якія зрабіла Польшча ў сваіх адносінах з Украінай. Амерыканскія аўтары таксама настойліва рэкамендавалі, каб ініцыятывы Польшчы ва «ўсходняй палітыцы» заахвочваліся НАТА і ЕС.

Беларускі даследчык М. Часноўскі значную частку адказнасці за ненармальны стан беларуска-польскіх адносін ускладае на Польшчу, якая безнадзейна зацягнула пошукі ўласнай палітыкі адносна Беларусі і на афіцыйным узроўні цалкам падтрымала ізаляцыяністскую палітыку заходніх сталіц адносна беларускіх улад. Разам з тым ён канстатуе, што Мінску і Варшаве на працягу 1990-х гг. не хапала дынамізму, паслядоўнасці і яснасці ў сваіх двухбаковых адносінах. Не ўвайшло ў практыку ўзгадненне пазіцый бакоў, не быў закладзены фундамент вырашэння праблем бяспекі ў духу партнёрства, не была створана мадэль супрацоўніцтва ў галіне мер даверу. Бакі не абмяр-

коўвалі праблему розніцы інтарэсаў Беларусі і Польшчы ў сваім рэгіёне. А іх знешнепалітычныя дактрыны былі пабудаваны на аднабаковым геапалітычным інтарэсе: заходнім для Польшчы і ўсходнім для Беларусі. У выніку ўступленне Польшчы ў НАТА і збліжэнне Беларусі з Расіяй трактавалася ў абедзвюх сталіцах як вельмі непажаданыя працэсы.

У новае стагоддзе Беларусь і Польшча ўступілі, маючы нізкі ўзровень двухбаковых адносін. Варшава працягвала палітыку «крытычнага дыялога», спасылаючыся на тое, што ўнутрыпалітычная сітуацыя ў Беларусі не палепшылася. Сваю «беларускую палітыку», як і ўвогуле ўсю «ўсходнюю палітыку», яна ўсё больш падпарадкоўвала інтарэсам сумеснай знешняй палітыкі ЕС. Польшча разам з іншымі заходнімі дзяржавамі і еўрапейскімі арганізацыямі не прызнала парламенцкія і прэзідэнцкія выбары ў Беларусі, якія адбыліся ў 2000-2001 гг., у якасці справядлівых і дэмакратычных. Разам з тым польскі прэзідэнт А. Кваснеўскі заявіў, што Беларусь не павінна быць ізалявана і з ёй неабходна падтрымліваць эканамічныя адносіны.

Многія польскія палітыкі і эксперты прыйшлі да высновы, што папярэдняя палітыка ізаляцыі Беларусі сябе не апраўдала. Яны прапануюць узняць дыялог з беларускімі ўладамі на больш высокі (але не на вышэйшы) узровень, паглыбляць супрацоўніцтва з беларускай элітай, недзяржаўнымі арганізацыямі і мясцовымі органамі самакіравання, аказваць пэўны ціск на Расію ў «беларускім пытанні». У лістападзе 2001 г. і сакавіку 2002 г. адбыліся дзве неафіцыйныя сустрэчы паміж міністрамі замежных спраў Беларусі і Польшчы. Аднак, як лічаць польскія даследчыкі, недэмакратычны ўрад А. Лукашэнкі і адсутнасць з беларускага боку дастатковага супрацоўніцтва рабілі немагчымым істотнае паляпшэнне адносін з Беларуссю.

Афіцыйнае бачанне сучаснага стану і бліжэйшых перспектыў беларуска-польскіх адносін выклаў міністр замежных спраў Беларусі М. Хвастоў у інтэрв'ю газеце «Звязда», якое было апублікавана 23 кастрычніка 2001 г. Ён сказаў: «Мне здаецца, што з абраннем новага парламента ў Польшчы нашы адносіны з гэтай краінай пацяплеюць. Я не выключаю таго, што яны могуць нават істотна палепшыцца. Для гэтага ёсць аб'ектыўныя ўмовы. Напрыклад, даволі высокі ўзровень гандлёва-эканамічнага супрацоўніцтва стварае глебу для палітычных кантактаў і сустрэч. Мы разлічваем на тое, што Польшча пачне праводзіць больш самастойную палітыку ў адносінах з Беларуссю, а не аглядацца на Захад, дакладней — на рашэнні Еўрасаюза».

На думку міністра, Польшча ўсё больш схіляецца да ажыўлення эканамічнага і палітычнага супрацоўніцтва з Беларуссю. У якасці

пазітыўнага моманту ён назваў тое, што Польшча ніколі не выказвала сваіх якіх-небудзь пераваг перад Беларуссю, не брала ментарскага тону ў размове з ёю. М. Хвастоў далей заўважыў, што Польшча ў адрозненне ад Літвы, якая заявіла аб вядзенні з Беларуссю так званага крытычнага дыялога, ніколі не займала рэзка адмоўную пазіцыю адносна афіцыйнага Мінска.

Аднак наступнае развіццё падзей не апраўдала аптымістычных чаканняў міністра замежных спраў Беларусі. Прынцыповых змен у беларуска-польскіх адносінах не адбылося. Новым важным момантам можна лічыць праграму аказання дапамогі Беларусі, Украіне, Малдове і Расіі, якую польскае МЗС прапанавала Еўрапейскаму саюзу ў студзені 2003 г. Польскі план прадугледжвае доўгатэрміновую перспектыву членства названых краін у ЕС і стварэнне «Фонду еўрапейскай дэмакратыі». У Польшчы лічаць, што гэта ініцыятыва дапаможа ліквідаваць «бар'ер паміж пашыраным ЕС і яго ўсходнімі суседзямі», садзейнічаць стабільнасці, бяспецы і працвітанню гэтых краін. Адносна Беларусі ў дакуменце гаворыцца: «У Беларусі прынцып адкрытасці ЕС залежыць ад правядзення дэмакратычных рэформ». Задачу сваёй «беларускай» палітыкі Варшава бачыць у развіцці супрацоўніцтва з дэмакратычнымі сіламі і мясцовымі лідэрамі, аказанні дапамогі малому і сярэдняму бізнесу, СМІ і НДА. Задача актывізацыі супрацоўніцтва з уладамі прама не ставіцца, хаця сцвярджаецца: «Месца для пагаднення з Беларуссю таксама павінна быць адкрытае».

Пазіцыя афіцыйнага Мінска, выказаная А. Лукашэнкам падчас прыняцця давернай граматы ад польскага пасла ў Беларусі Т. Паўляка ў снежні 2002 г., заключаецца ў тым, што бакам неабходна «ўзмацніць імкненне да вядзення палітычнага дыялога і ўстанаўлення ўзаемаразумення паміж дзвюма дзяржавамі».

# РАЗДЗЕЛ III

# АДНОСІНЫ БЕЛАРУСІ З МІЖНАРОДНЫМІ АРГАНІЗАЦЫЯМІ

## Тэма 10

## РЭСПУБЛІКА БЕЛАРУСЬ І МІЖНАРОДНЫЯ АРГАНІЗАЦЫІ

**Гістарычны вопыт удзелу Беларусі ў міжнародных арганізацыях**. Першы вопыт устанаўлення адносін і ўдзелу Беларусі ў працы міжнародных канферэнцый і арганізацый адносіцца да перыяду мірнага ўрэгулявання пасля заканчэння Першай сусветнай вайны. Дэлегацыі БНР неафіцыйна ўдзельнічалі ў працы Парыжскай мірнай канферэнцыі (1919-1920 гг.) і Генуэзскай міжнароднай канферэнцыі па эканамічных і фінансавых пытаннях (1922 г.). БССР, як і іншыя савецкія рэспублікі, даручыла прадстаўляць свае інтарэсы на Генуэзскай канферэнцыі дэлегацыі РСФСР. 10 мая 1922 г. БССР падпісала пагадненне з Эпідэмічнай камісіяй Лігі Нацый па пытаннях аховы здароўя і разам з РСФСР і УССР стала яе членам. Дэлегацыя БССР прыняла ўдзел у канферэнцыі Аб'яднаных Нацый у Сан-Францыска (красавік-чэрвень 1945 г.) і падпісала Статут ААН. Беларусь у ліку 51 дзяржавы з'яўляецца дзяржавай-заснавальніцай, першапачатковым членам ААН.

У жніўні 1945 г. БССР уступіла ў Адміністрацыю Аб'яднаных Нацый па дапамозе і аднаўленні краін, якія пацярпелі ў гады Другой сусветнай вайны (ЮНРРА). Пагадненне паміж ЮНРРА і ўрадам БССР было падпісана ў Вашынгтоне 18 снежня 1945 г. Дэлегацыя БССР прымала ўдзел у Міжнароднай канферэнцыі па ахове здароўя (Нью-Йорк, 1946 г.), якая заснавала Сусветную арганізацыю аховы здароўя (СААЗ). БССР далучылася да Статута СААЗ 7 красавіка 1948 г. На 1-й сесіі СААЗ (1948 г.) яна была абрана членам яе Выканаўчага камітэта. У 1949 г. БССР разам з СССР і УССР, краінамі Усходняй Еўропы спыніла актыўнае членства ў СААЗ на падставе неабгрунтаванага рашэння савецкага кіраўніцтва. 13 мая 1947 г. БССР уступіла ў Сусветны паштовы саюз (СПС), 16 мая 1947 г. — у Міжнародны саюз электрасувязі (МСЭ), 12 красавіка 1948 г. — у Сусветную метэаралагічную арганізацыю (СМА). У канцы 1946 — пачатку 1947 г. міністр замежных спраў БССР К. Кісялёў паставіў перад МЗС СССР пытанне аб уваходжанні СССР, УССР і БССР у Арганізацыю Аб'яднаных Нацый па пытаннях адукацыі, навукі і культуры (ЮНЕСКА), якое, аднак, тады вырашыць не ўдалося. У маі 1954 г. БССР увайшла ў Міжна-

родную арганізацыю працы (МАП) і ЮНЕСКА, у 1957 г. — у Міжнароднае агенцтва па атамнай энергіі (МАГАТЭ), у 1970 г. — у Сусветную арганізацыю інтэлектуальнай уласнасці (САІУ), у 1985 г. — у Арганізацыю Аб'яднаных Нацый па прамысловым развіцці (ЮНІДА).

У 1958 г. пачало працаваць Пастаяннае прадстаўніцтва БССР пры ААН у Нью-Йорку, у 1960-я гг. адкрыліся пастаянныя прадстаўніцтвы БССР пры Аддзяленні ААН і іншых міжнародных арганізацыях у Жэневе, пры ЮНЕСКА у Парыжы, у 1982 г. — пры міжнародных арганізацыях у Вене. БССР была абрана непастаянным членам Савета Бяспекі на 1974-1975 гг., неаднаразова выбіралася членам Эканамічнага і сацыяльнага савета, прымала ўдзел у рабоце розных функцыянальных і дапаможных органаў ААН, якія займаюцца пытаннямі раззбраення, дэкаланізацыі, эканамічнага і сацыяльнага супрацоўніцтва, правоў чалавека, іншымі пытаннямі. Акрамя ААН і яе спецыялізаваных устаноў БССР была членам яшчэ 6 міжнародных міжурадавых арганізацый — Міжнароднага архіўнага савета (з 1956 г.), Міжнароднага бюро выстаў (з 1960 г.), Пастаяннай палаты Трацейскага суда (з 1962 г.) і Міжнароднай арганізацыі марской спадарожнікавай сувязі (ІНМАРСАТ, з 1979 г.). Як член ААН БССР удзельнічала ў асобных канферэнцыях у рамках Міжнароднай арганізацыі грамадзянскай авіяцыі (ІКАА) і Міжнароднай марской арганізацыі (ІМА), хаця і не з'яўлялася іх членам.

**Інтэграцыя Рэспублікі Беларусь у сістэму міжнародных арганізацый**. З 1990-1991 гг. пачаўся якасна новы перыяд дзейнасці Беларусі ў міжнародных арганізацыях. Рэспубліка Беларусь значна пашырыла свой удзел у міжнародных універсальных і рэгіянальных арганізацыях. Яна з'яўляецца дзяржавай — заснавальніцай Садружнасці Незалежных Дзяржаў. У 1992 г. яна ўступіла ў Міжнародны валютны фонд, Міжнародны банк рэканструкцыі і развіцця (МБРР), Міжнародную фінансавую карпарацыю (МФК), Міжнароднае агенцтва па гарантыях інвестыцый, Еўрапейскі банк рэканструкцыі і развіцця, аднавіла актыўнае членства ў СААЗ, атрымала статус назіральніка пры Генеральным пагадненні па тарыфах і гандлю (ГАТТ), у 1993 г. уступіла ў ІКАА. У 1992 г. Беларусь адкрыла ў Мінску прадстаўніцтва ААН/Праграмы развіцця ААН (ПРААН). Рэспубліка Беларусь з'яўляецца членам 12 (з 16) спецыялізаваных устаноў ААН, але не ўваходзіць у Міжнародную марскую арганізацыю, Харчовую і сельскагаспадарчую арганізацыю, Міжнародны фонд сельскагаспадарчага развіцця, Міжнародную арганізацыю развіцця.

Рэспубліка Беларусь у 1992 г. была прынята ў лік дзяржаў — членаў Нарады па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе (з 1995 г. —

Арганізацыя па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе — АБСЕ) і Савет паўночнаатлантычнага супрацоўніцтва (з 1997 г. — Савет еўраатлантычнага партнёрства). У 1992 г. Беларусь атрымала статус спецыяльна запрошанай дзяржавы ў Савеце Еўропы, а ў 1993 г. падала заяўку на прыём у гэтую арганізацыю. У 1995 г. наша дзяржава падпісала Пагадненне аб партнёрстве і супрацоўніцтве, у 1996 г. — Часовае пагадненне па пытаннях гандлю з Еўрапейскім саюзам, у 1995 г. стала ўдзельніцай праграмы НАТА «Партнёрства дзеля міру», у 1996 г. уступіла ў Цэнтральнаеўрапейскую ініцыятыву, у 1997 г. — у Арганізацыю па забароне хімічнай зброі. Рэспубліка Беларусь — паўнапраўны член больш за 60 міжнародных міжурадавых арганізацый і іх органаў, яшчэ ў 10 яна мае статус наглядальніка.

У пачатку XXI ст. асноўнымі прыярытэтамі беларускай знешняй палітыкі ў галіне шматбаковай дыпламатыі (ці супрацоўніцтва з міждзяржаўнымі аб'яднаннямі і міжнароднымі арганізацыямі) з'яўляюцца: узмацненне пазіцый Рэспублікі Беларусь як суверэннай незалежнай дзяржавы; мэтанакіраваная праца ў СНД і Еўразійскім эканамічным супольніцтве (ЕўрАзЭС); паляпшэнне і нармалізацыя адносін з еўрапейскімі структурамі і арганізацыямі; садзейнічанне будаўніцтву новай сусветнай і еўрапейскай сістэм бяспекі; актыўны ўдзел у шматбаковым міжнародным эканамічным супрацоўніцтве; энергічнае супрацоўніцтва ў міжнародных арганізацыях, перш за ўсё сістэмы ААН.

**Беларусь і СНД**. Важным прыярытэтным напрамкам знешнепалітычнай і знешнеэканамічнай дзейнасці краіны з'яўляецца ўзмацненне двухбаковага і шматбаковага супрацоўніцтва з краінамі СНД. Яна выступае заператварэнне Садружнасці ў рэгіянальную арганізацыю з высокім узроўнем эканамічнай і палітычнай інтэграцыі. Беларускія прадстаўнікі актыўна ўдзельнічаюць у сустрэчах кіраўнікоў дзяржаў і ўрадаў, працы каардынацыйных органаў СНД (Міжпарламенцкай асамблеі, Савета міністраў замежных спраў, Савета міністраў абароны, Міждзяржаўнага эканамічнага камітэта і інш.). Сталіца рэспублікі горад Мінск з'яўляецца месцам знаходжання выканаўчых і каардынацыйных органаў СНД.

Рэспубліка Беларусь падпісала і ратыфікавала важнейшыя ўстаноўчыя дакументы СНД, у тым ліку яго Статут. Аднак Садружнасць з-за розных інтарэсаў краін-членаў і цэнтрабежных працэсаў на постсавецкай прасторы не змагла стаць эфектыўным інструментам узгаднення інтарэсаў і стварэння адзінага палітыка-эканамічнага супольніцтва. У рамках СНД узніклі рэгіянальныя групы дзяржаў па інтарэсах: Саюз Беларусі і Расіі, ЕўрАзЭС, якое складаецца з пяці краін — членаў Мытнага саюза (Беларусі, Казахстана, Кіргізіі, Расіі, Таджы-

кістана), Цэнтральнаазіяцкі саюз, ГУУАМ — Саюз Грузіі, Украіны, Узбекістана, Азербайджана і Малдовы.

Беларусь выступае за павышэнне эфектыўнасці рэгіянальных інтэграцыйных аб'яднанняў на постсавецкай прасторы, у прыватнасці: за фарміраванне зоны свабоднага гандлю ў рамках СНД, фарміраванне паўнацэннага мытнага саюза і адзінай эканамічнай прасторы ў рамках ЕўрАзЭС. З 70 дагавораў, падпісаных у рамках ЕўрАзЭС, Беларусь выканала ўнутрыдзяржаўныя працэдуры па 67 пагадненнях. Важнейшым прызначэннем ЕўрАзЭС наша краіна лічыць падрыхтоўку да ўваходжання ў глабальную сусветную гандлёвую сістэму з тым, каб краіны Супольнасці калектыўна адстойвалі для сябе найбольш спрыяльныя ўмовы прасоўвання сваіх тавараў на рынкі заходніх дзяржаў. На пасяджэнні Міждзяржаўнага савета ЕўрАзЭС (чэрвень 2004 г., Астана) быў падпісаны Дагавор аб статусе асноў заканадаўства ЕўрАзЭС.

23 лютага 2003 г. кіраўнікі Беларусі, Казахстана, Расіі і Украіны падпісалі Заяву аб фарміраванні Адзінай эканамічнай прасторы і стварэнні Арганізацыі рэгіянальнай інтэграцыі.

Сумесна з Арменіяй, Казахстанам, Кыргызстанам, Расіяй і Таджыкістанам Рэспубліка Беларусь вядзе працу па паглыбленні ваеннапалітычнай інтэграцыі ў рамках Дагавора аб калектыўнай бяспецы (ДКБ) ад 1992 г. У 1999 г. з ДКБ, заключанага ў 1992 г. у Ташкенце, выйшлі Азербайджан, Грузія і Узбекістан. На новы тэрмін Ташкенцкі дагавор пралангавалі Арменія, Беларусь, Казахстан, Кіргізія, Расія і Таджыкістан. У 2002 г. кіраўнікамі шасці згаданых дзяржаў падпісаны Статут Арганізацыі Дагавора аб калектыўнай бяспецы (АДКБ) і Пагадненне аб прававым статусе АДКБ. Асноўныя намаганні дзяржаў — членаў АДКБ накіраваны на барацьбу з міжнародным тэрарызмам, ваяўнічым экстрэмізмам і распаўсюджваннем наркотыкаў. АДКБ імкнецца кансалідаваць сваю дзейнасць у фарміраванні новай архітэктуры міжнароднай бяспекі і развіцці ўзаемадзеяння з іншымі міжнароднымі структурамі. Новым перспектыўным напрамкам супрацоўніцтва ў рамках гэтай арганізацыі з'яўляецца фарміраванне механізма калектыўнай міратворчай дзейнасці, што ажыццяўляецца па мандату ААН.

Улічваючы істотныя разыходжанні паміж дзяржавамі-членамі адносна перспектыў развіцця Садружнасці, Саветам кіраўнікоў дзяржаў СНД узаконена канцэпцыя рознахуткаснай інтэграцыі на прасторах СНД. Эканамічны напрамак з'яўляецца на сённяшні дзень найбольш перспектыўным у развіцці Садружнасці. У пачатку XXI ст. стала

відавочна, што ператварэнне СНД у паўнацэннае інтэграцыйнае аб'яднанне немагчыма ў бліжэйшай перспектыве.

Беларускае кіраўніцтва выказваецца за павышэнне эфектыўнасці дзейнасці органаў СНД, іх рэарганізацыю з мэтай аператыўнага прыняцця рашэнняў і стварэння дзейснага механізма кантролю за выкананнем прынятых рашэнняў. Праграма рэфармавання СНД і пазіцыя Рэспублікі Беларусь адносна гэтай арганізацыі была выказана Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь А. Лукашэнкам у яго заяве ад 25 лістапада 1997 г. і іншых выступленнях.

Разам з развіццём двухбаковага супрацоўніцтва з прыгранічнымі дзяржавамі Беларусь зацікаўлена ў падключэнні да рэгіянальнага і субрэгіянальнага супрацоўніцтва ў рэгіёне Балтыі і прасторы паміж Балтыйскім і Чорным морамі. Яна мае намер ажыццяўляць свае палітычныя, эканамічныя, культурныя і экалагічныя інтарэсы ў Балтыйска-Чарнаморскім рэгіёне, у тым ліку дамагацца статуса назіральніка ў Савеце дзяржаў Балтыйскага мора (СДБМ) і Арганізацыі чарнаморскага эканамічнага супрацоўніцтва (АЧЭС), удзельнічаць у іншых рэгіянальных арганізацыях і форумах.

**Беларусь і сістэма ААН**. Пасля абвяшчэння незалежнасці істотна змяніўся статус Беларусі ў ААН. Замест былой ролі «дадатковага голасу» для дэлегацыі СССР Рэспубліка Беларусь стала самастойна дзейнічаць на форуме нацый, зыходзячы з уласных нацыянальна-дзяржаўных інтарэсаў. Першай праявай самастойных дзеянняў беларускай дыпламатыі ў ААН было прыняцце па ініцыятыве дэлегацый БССР, СССР і УССР на 45-й сесіі Генеральнай Асамблеі (1990 г.) рэзалюцыі аб міжнародным супрацоўніцтве па змякчэнні наступстваў аварыі на Чарнобыльскай АЭС. На гэтай жа сесіі беларуская дэлегацыя ўзняла пытанне аб пераводзе краіны з групы дзяржаўдонараў у групу дзяржаў — атрымальнікаў дапамогі ААН.

У 1997 г. па ініцыятыве ўрадаў Беларусі, Расіі і Украіны ААН распрацавала праграму міжнароднага садзейнічання тэрыторыям, якія пацярпелі ў выніку чарнобыльскай катастрофы. Пэўны ўклад у рэалізацыю чарнобыльскіх праектаў на тэрыторыі Беларусі ўносяць МАГАТЭ, СААЗ і ЮНЕСКА. Аднак дапамога міжнароднай супольнасці ў пераадоленні і мінімізацыі наступстваў самай страшэннай тэхнагеннай аварыі XX ст. аказваецца ў цэлым вельмі нязначнай.

Змена статуса Беларусі ў ААН патрабавала па-новаму вырашаць пы-танне аб выплаце ўзносаў у рэгулярны бюджэт Арганізацыі і бюджэт аперацый па падтрыманні міру (АПМ). У 1995 г. у выніку настойлівых намаганняў беларускай дыпламатыі, падтрыманых іншымі еўрапейскімі краінамі, было прынята рашэнне аб паступовым зніжэнні

долі ўзносаў Беларусі з улікам складанага сацыяльна-эканамічнага становішча і неабходнасці адцягвання велізарных дзяржаўных сродкаў на памяншэнне наступстваў чарнобыльскай катастрофы.

Беларускія дэлегацыі на самым высокім узроўні ўдзельнічалі ў такіх важных сусветных канферэнцыях, якія праводзіліся пад эгідай ААН, як Канферэнцыя па навакольным асяроддзі (Рыо-дэ-Жанейра, 1992 г.), Канферэнцыя па правах чалавека (Вена, 1993 г.), Канферэнцыя па народанасельніцтву (Каір, 1994 г.), Канферэнцыя па сацыяльным развіцці (1995 г.) і інш. У кастрычніку 1995 г. на юбілейнай, 50-й сесіі Генеральнай Асамблеі з дакладам выступіў Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. Лукашэнка, заявіўшы аб гатоўнасці Беларусі развіваць усебаковае супрацоўніцтва з гэтай вядучай міжнароднай арганізацыяй. У прамове А. Лукашэнкі на Саміце Тысячагоддзя (2000 г.) была выказана пазіцыя Беларусі ў падтрымку захавання ААН сваіх функцый як унікальнага універсальнага міжнароднага інстытута, які аб'ядноўвае ўсе краіны свету.

У 1995 г. Беларусь выступіла за бестэрміновае прадаўжэнне Дагавора аб нераспаўсюджванні ядзернай зброі. У 1998 г. на 53-й сесіі Генеральнай Асамблеі па ініцыятыве беларускай дэлегацыі прынята рэзалюцыя «Рэгіянальнае раззбраенне», у якой змяшчаецца падтрымка беларускай прапановы аб стварэнні ў Цэнтральнай і Усходняй Еўропе прасторы, свабоднай ад ядзернай зброі.

Рэспубліка Беларусь уносіць значны ўклад у вырашэнне яшчэ адной важнай праблемы раззбраення: забароны новых відаў зброі масавага знішчэння. Пачынаючы з 1970-х гг. яна выступае ініцыятарам прыняцця рэзалюцыі Генеральнай Асамблеі аб забароне распрацоўкі і вытворчасці новых відаў зброі масавага знішчэння і новых сістэм такой зброі. На 54-й сесіі Генеральнай Асамблеі (1999 г.) па ініцыятыве Беларусі зноў прынята такая рэзалюцыя. У ёй сцвярджаецца неабходнасць прыняцця эфектыўных мер з мэтай прадухілення з'яўлення новых відаў зброі масавага знішчэння.

Беларусь лічыць неабходным рэфармаванне і ўмацаванне сістэмы ААН і яе асноўных органаў з мэтай павышэння эфектыўнасці Арганізацыі. Гэта ўключае ў сябе павелічэнне колькасці пастаянных членаў Савета Бяспекі і выдзяленне дадатковага месца непастаяннага члена ўсходнееўрапейскай рэгіянальнай групе.

У лістападзе 2001 г. у межах 56-й сесіі Генеральнай Асамблеі міністр замежных спраў Рэспублікі Беларусь М. Хвастоў падпісаў Міжнародную канвенцыю ААН па барацьбе з фінансаваннем тэрарызму. Ён таксама прыняў удзел у адкрытым пасяджэнні Савета Бяспекі ААН на ўзроўні міністраў замежных спраў па пытаннях барацьбы з

міжнародным тэрарызмам. Па выніках пасяджэння была прынята Дэкларацыя аб глабальных намаганнях па барацьбе з тэрарызмам.

Важным дасягненнем беларускай шматбаковай дыпламатыі можна лічыць прыняцце гэтай сесіяй Генеральнай Асамблеі рэзалюцыі, якая была прадстаўлена Беларуссю, Расіяй і Украінай, пад назвай «Умацаванне міжнароднага супрацоўніцтва і каардынацыя намаганняў у мэтах вывучэння, змякчэння і мінімізацыі наступстваў чарнобыльскай катастрофы». Прыняцце рэзалюцыі стала вынікам доўгатэрміновай працы Беларусі па актывізацыі міжнароднага чарнобыльскага супрацоўніцтва. ААН са свайго боку засведчыла гатоўнасць да пераводу чарнобыльскай праблематыкі ў галіну садзейнічання ўстойліваму развіццю забруджаных раёнаў і чалавечага патэнцыялу.

У прамове М. Хвастова на агульнапалітычнай дыскусіі 56-й сесіі Генеральнай Асамблеі была асобна падкрэслена пазіцыя Беларусі ў справе барацьбы з міжнародным тэрарызмам. Яе сутнасць заключаецца ў тым, што ААН павінна адыгрываць галоўную ролю ў мабілізацыі намаганняў міжнароднай супольнасці па стварэнні шырокай антытэрарыстычнай кааліцыі ў свеце. Беларусь падтрымлівае ўсе антытэрарыстычныя рэзалюцыі Савета Бяспекі і Генеральнай Асамблеі ААН, аформіўшы свой удзел у 12 канвенцыях ААН па барацьбе з тэрарызмам. М. Хвастоў адзначыў далейшыя крокі Беларусі па ўмацаванні стратэгічнай і рэгіянальнай стабільнасці, паслядоўнае выкананне беларускай дзяржавай усіх міжнародных пагадненняў у галіне ядзерных і звычайных узбраенняў. Значны акцэнт быў зроблены на працэсе пашырэння ўдзелу Беларусі ў міжнародна-прававых актах ААН па шэрагу важных накірункаў, уключаючы барацьбу з тэрарызмам, міжнароднай злачыннасцю і распаўсюджваннем наркотыкаў.

Разам з садзейнічаннем умацаванню ролі ААН у сусветных працэсах асноватворчай мэтай членства Беларусі ў ААН з'яўляецца адстойванне доўгатэрміновых нацыянальных інтарэсаў Беларусі і прыцягненне патэнцыялу Арганізацыі для вырашэння задач сацыяльна-эканамічнага развіцця рэспублікі. Беларуская дыпламатыя ажыццяўляе паслядоўныя і мэтанакіраваныя крокі ў наступных накірунках: усебаковае адлюстраванне інтарэсаў Беларусі ў якасці дзяржавы з пераходнай эканомікай у гандлёва-эканамічнай, навукова-тэхнічнай, прыродаахоўнай і сацыяльна-гуманітарнай галінах праграмнай дзейнасці ААН; прыцягненне рэсурсаў і вопыту міжурадавых арганізацый сістэмы ААН для паўнацэннай інтэграцыі краін з пераходнай эканомікай у сусветныя гаспадарчыя сувязі; пашырэнне ўкладу сістэмы ААН ва ўмацаванне міжнароднага чарнобыльскага супрацоўніцтва;

забеспячэнне паэтапнага зніжэння ўзносаў Беларусі ў рэгулярны бюджэт ААН і на фінансаванне аперацый ААН па падтрымцы міру.

У верасні 1992 г. Беларусь першай з дзяржаў СНД пасля Расіі адкрыла ў Мінску прадстаўніцтва ААН/Праграмы развіцця ААН (ПРААН). Прадстаўніцтва дзейнічае для ажыццяўлення праектаў тэхнічнай дапамогі Беларусі па лініі ПРААН і аказання неабходнага кансультатыўнага і тэхнічнага садзейнічання ў сферы рыначных пераўтварэнняў. У Мінску адкрыта аддзяленне Дзіцячага фонду ААН (ЮНІСЕФ) з адпаведным фінансаваннем для ажыццяўлення праграмы па абароне мацярынства і дзяцінства. ААН аказвае падтрымку нацыянальным намаганням па ўрэгуляванні праблем бежанцаў і міграцыі.

Рэспубліка Беларусь дзейнічае ў ААН і яе спецыялізаваных установах у адпаведнасці са сваімі нацыянальнымі інтарэсамі. Яна выступае за развіццё ўсебаковага супрацоўніцтва з ААН, лічыць неабходным рэфармаванне і ўмацаванне сістэмы ААН і яе асноўных органаў, каб павысіць эфектыўнасць гэтай вядучай міжнароднай арганізацыі. У рамках ЮНЕСКА для рэспублікі распрацоўваліся праграмы «Генетычная спадчына», «ЮНЕСКА — Чарнобыль», «Чалавек і біясфера», у краіне дзейнічае нацыянальная Камісія Рэспублікі Беларусь па справах ЮНЕСКА, падпісаны мемарандумы аб супрацоўніцтве паміж Беларуссю і ЮНЕСКА.

Беларусь падпісала 44 канвенцыі МАП. Планамерна прасоўваецца працэс далучэння Беларусі да СГА, пры якой краіна атрымала ў 1995 г. статус назіральніка. У красавіку 1995 г. паміж Беларуссю і МАГАТЭ падпісана пагадненне аб прымяненні гарантый. Удзельная вага спецыялізаваных устаноў ААН у агульным аб'ёме замежнай дапамогі рэспубліцы складае нязначную частку. Беларусь актыўна ўдзельнічае ў працы такіх функцыянальных органаў ААН, як Еўрапейская эканамічная камісія (ЕЭК), Дзіцячы фонд ААН (ЮНІСЕФ), ПРААН, Канферэнцыя Аб'яднаных Нацый па гандлю і развіццю (ЮНКТАД) і інш. У 1995 г. у Мінску адкрыта прадстаўніцтва Упраўлення Вярхоўнага камісара ААН па бежанцах, у 1996 г. — пастаяннае прадстаўніцтва Міжнароднай арганізацыі па мігрантах. У красавіку 1994 г. Мінск з трохдзённым візітам наведаў Генеральны сакратар ААН Б. Бутрас-Галі.

**Прыярытэты беларускай дыпламатыі ў ААН.** Намаганні Беларусі ў рамках ААН накіраваны на далейшае прасоўванне ініцыятыў, якія адлюстроўваюць прыярытэты рэспублікі ў сферы знешняй і ўнутранай палітыкі, і іх замацаванне ў падагульняючых дакументах і рашэннях Генеральнай Асамблеі ААН.

У галіне забеспячэння міжнароднага міру і бяспекі беларуская дыпламатыя ажыццяўляе неабходныя дзеянні для павелічэння ўкладу беларускай дзяржавы ў працэсы ядзернага і звычайнага раззбраення, умацавання рэжымаў нераспаўсюджвання, стварэння новай архітэктуры міжнароднай калектыўнай бяспекі на субрэгіянальным, рэгіянальным і глабальным узроўнях. Яна працягвае далейшую працу над фарміраваннем міжнародных палітычных умоў дзеля замацавання ў юрыдычна абавязваючай форме існуючага дэ-факта бяз'ядзернага статуса рэгёна Цэнтральнай і Усходняй Еўропы.

Беларуская дзяржава лічыць міжнародную практыку міратворчасці ААН дзейсным інструментам урэгулявання ўзброеных канфліктаў і выступае за ўмацаванне яго прававых асноў у строгай адпаведнасці з прынцыпамі Статута ААН. Беларусь бярэ ўдзел у неваенных аперацыях па падтрымцы міру шляхам накіравання і падрыхтоўкі назіральнікаў у склад місій ААН і АБСЕ у адпаведнасці са сваімі нацыянальнымі інтарэсамі і міжнароднымі абавязкамі.

Важны крок у стварэнні прававых асноў для далучэння краіны да сістэмы міратворчых аперацый ААН быў зроблены на 56-й сесіі Генеральнай Асамблеі. 1 кастрычніка 2001 г. беларускі ўрад падпісаў Мемарандум аб узаемаразуменні з Сакратарыятам ААН аб удзеле ў рэзервовых пагадненнях Аб'яднаных Нацый. Адразу ж пасля гэтага адбыўся візіт у Беларусь прадстаўнікоў Дэпартамента па міратворчых аперацыях Сакратарыята ААН для тэсціравання і адбору беларускіх кандыдатаў у склад кантынгентаў грамадзянскай паліцыі ААН.

У сувязі з ваеннай акцыяй НАТА супраць Югаславіі ў 1999 г., якую Беларусь асудзіла, рэспубліка лічыць недапушчальным выкарыстанне ваеннай сілы. Гэта парушае Статут ААН, супярэчыць прынцыпам існуючага міжнароднага права. Наша краіна крытычна ставіцца да выкарыстання новых прававых канцэпцый тыпу «гуманітарнай інтэрвенцыі», «абмежаванага суверэнітэту», якія выкарыстоўваюцца для апраўдання аднабаковых сілавых акцый без адпаведных санкцый Савета Бяспекі ААН. Беларуская дзяржава лічыць, што пошук канкрэтных форм рэагавання міжнароднай супольнасці на крызісныя і канфліктныя сітуацыі, у тым ліку ў выпадку ўмяшання і прымянення сілы на гуманітарных падставах, павінен весціся калектыўна, на аснове бездакорнага выканання норм міжнароднага права і Статута ААН.

У галіне міжнародных эканамічных адносін Беларусь зацікаўлена ў фарміраванні адкрытай недыскрымінацыйнай і транспарантнай сістэмы міжнароднага гандлю, ядром якой павінна стаць Сусветная гандлёвая арганізацыя. Уступленне ў СГА з'яўляецца істотнай прыярытэтнай задачай эканамічнай дыпламатыі Беларусі.

Беларусь выкарыстоўвае вопыт МАП, ЮНЕСКА, ЮНІДА, МАГАТЭ, СААЗ, МБРР, МВФ, Сусветнага банка і іншых міжнародных арганізацый у інтарэсах міжнароднага і нацыянальнага эканамічнага, навукова-тэхнічнага і культурнага развіцця, асабліва дзеля забеспячэння фінансавай і экспертнай падтрымкі сацыяльна-эканамічнай палітыкі кіраўніцтва.

Беларусь развівае ў рамках ААН узаемадзеянне з максімальна шырокім колам дзяржаў дзеля пашырэння геаграфіі свайго міжнароднага супрацоўніцтва. З 1998 г. Беларусь з'яўляецца паўнапраўным членам Руху недалучэння (РН) і актыўна развівае на гэтай падставе ўзаемавыгаднае супрацоўніцтва па цэлым шэрагу накірункаў дзейнасці ААН з дзяржавамі — членамі гэтага буйнога міжнароднага аб'яднання, якое злучае каля 120 дзяржаў. Членства Беларусі ў Руху недалучэння дазваляе мабілізаваць магутны патэнцыял дадзенага форуму на падтрымку знешнепалітычных ініцыятыў нашай краіны, як у рамках ААН, так і іншых міжнародных арганізацый.

Рэспубліка Беларусь як адна з дзяржаў — заснавальніц ААН разглядае сваё членства ў ААН і яе спецыялізаваных установах і органах як велізарны палітычны капітал і непераадольную перашкоду на шляху ўсялякіх спроб пасягнуць на суверэнітэт і тэрытарыяльную цэласнасць Рэспублікі, адну з гарантый захавання незалежнасці.

Рэспубліка Беларусь — член «Інтэрспадарожніка», Еўрапейскай арганізацыі спадарожнікавай сувязі (ЕВТЕЛСАТ), Еўрапейскага вяшчальнага саюза, Сусветнага энергетычнага савета, Міжнароднай арганізацыі па эканамічным і навукова-тэхнічным супрацоўніцтве ў галіне электратэхнічнай прамысловасці (Інтэр-электра), Міжнароднага эпізаатычнага бюро, Міжнароднай арганізацыі па стандартызацыі (ІСА), Міжнароднай электратэхнічнай камісіі, Міжнароднай арганізацыі па заканадаўчай метралогіі, Міжнароднай арганізацыі па сертыфікацыі электраабсталявання на адпаведнасць стандартам бяспекі.

Нацыянальныя арганізацыі Рэспублікі Беларусь, яе юрыдычныя асобы ўваходзяць у склад наступных міжнародных няўрадавых арганізацый: Міжнародную федэрацыю інвалідаў (з 1991 г.), Міжнародную федэрацыю вышэйшых органаў (з 1992 г.), Міжнародную арганізацыю крымінальнай паліцыі «Інтэрпол» (з 1993 г..), Міжпарламенцкі саюз (з 1995 г.), Сусветную федэрацыю глухіх (з 1995 г.), шэраг міжнародных спартыўных арганізацый і федэрацыі, у тым ліку Міжнародны алімпійскі камітэт, Сусветную федэрацыю асацыяцый садзейнічання ААН.

У мэтах пашырэння супрацоўніцтва, павышэння эфектыўнасці ўдзелу рэспублікі ў рабоце міжнародных арганізацый урад Рэспублікі

Беларусь надае вялікае значэнне гэтаму кірунку ў знешнепалітычнай дзейнасці дзяржавы. Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь 19 мая 1997 г. прыняў пастанову «Аб супрацоўніцтве Рэспублікі Беларусь з міжнароднымі арганізацыямі», паводле якой усе міжнародныя арганізацыі, членам якіх з'яўляецца Беларусь, замацаваны за галіновымі міністэрствамі і іншымі рэспубліканскімі органамі дзяржаўнага кіравання. Каардынацыю і кантроль за ўзаемадзеяннем Беларусі з міжнароднымі арганізацыямі ажыццяўляе Міністэрства замежных спраў.

Удзел Рэспублікі Беларусь у ААН і іншых міжнародных арганізацыях стварае шырокія магчымасці для ўзаемадзеяння практычна з усімі дзяржавамі свету на падставе шматбаковай дыпламатыі. Сяброўства ў іх дапаўняе і пашырае двухбаковыя і рэгіянальныя механізмы забеспячэння фундаментальных нацыянальных інтарэсаў Беларусі і адкрывае доступ да сусветнага вопыту, інфармацыі, статыстыкі, экспертных паслуг, крыніц тэхнічнай і фінансавай дапамогі. Міжнародныя арганізацыі садзейнічаюць павышэнню ролі і ўплыву беларускай дзяржавы ў свеце.

Паўнапраўны і дзейны ўдзел Беларусі ў міжнародным супрацоўніцтве з'яўляецца істотным складнікам асновы стварэння спрыяльных умоў для ўнутранага развіцця рэспублікі, забеспячэння дэмакратычных і эканамічных рэформ і яе інтэграцыі ў сусветнае супольніцтва.

**Членства Рэспублікі Беларусь у міжнародных арганізацыях (на 01. 01. 2005)**

| *Назва арганізацыі* | *Скарачэнне* | *Год уступлення* |
|---|---|---|
| Арганізацыя Аб'яднаных Нацый | ААН | 1945 |
| Праграма развіцця ААН | ПРААН | 1965 |
| Праграма ААН па навакольным асяроддзі | ЮНЕП | 1975 |
| Еўрапейская эканамічная камісія | БЭК ААН | 1947 |
| Камісія ААН па раззбраенні | | 1978 |
| Канферэнцыя ААН па раззбраенні | | 1996 |
| Канферэнцыя ААН па гандлю і развіццю | ЮНКТАД | 1964 |
| Фонд ААН для развіцця ў інтарэсах жанчын | ЮНІФЕМ | 1973 |
| Фонд ААН у вобласці народанасельніцтва | ЮНФПА | 1969 |
| Дзіцячы фонд ААН | ЮНІСЕФ | 1997 |
| Упраўленне Вярхоўнага камісара ААН па справах бежанцаў | УВКБ | 2001 |

## Спецыялізаваныя ўстановы ААН

| *Назва арганізацыі* | *Скарачэнне* | *Год уступлення* |
|---|---|---|
| Арганізацыя Аб'яднаных Нацый па пытаннях адукацыі, навукі і культуры | ЮНЕСКА | 1954 |
| Сусветная арганізацыя аховы здароўя | САЗ | 1946 г., аднаўленне актыўнага членства ў 1992 г. |
| Сусветная метэаралагічная арганізацыя | СМА | 1948 |
| Сусветная арганізацыя інтэлектуальнай уласнасці | САІУ | 1967 |
| Міжнародная арганізацыя працы | МАП | 1954 |
| Арганізацыя Аб'яднаных Нацый па прамысловым развіцці | ЮНІДА | 1985 |
| Сусветны паштовы саюз | СПС | 1947 |
| Міжнародны саюз электрасувязі | МСЭ | 1947 |
| Міжнародная арганізацыя грамадзянскай авіяцыі | ІКАА | 1993 |
| Міжнародны валютны фонд | МВФ | 1992 |

## Група Сусветнага банка

| *Назва арганізацыі* | *Скарачэнне* | *Год уступлення* |
|---|---|---|
| Міжнародны банк рэканструкцыі і развіцця | МБРР | 1992 |
| Міжнародная фінансавая карпарацыя | МФК | 1992 |
| Міжнароднае агенцтва па гарантыях інвестыцый | МАГІ | 1992 |
| Міжнародная асацыяцыя развіцця | МАР | 1992 |
| Міжнародны цэнтр па ўрэгуляванні інвестыцыйных спрэчак | | 1992 |

## Іншыя міжнародныя арганізацыі

| *Назва арганізацыі* | *Скарачэнне* | *Год уступлення* |
|---|---|---|
| Міжнароднае агенцтва па атамнай энергіі | МАГАТЭ | 1957 |
| Міжнародная арганізацыя па міграцыі | МАМ | 1994 г., стат. назіральніка |
| Сусветная гандлёвая арганізацыя | СГА | 1993 г., стат. назіральніка |
| Сусветная мытная арганізацыя | СМА | 1993 |
| Міжнародная арганізацыя па цукру | | 1993 |
| Міжнароднае эпізаатычнае бюро | | 1994 |
| Міжнародны савет па пшаніцы | | 1993 г., стат. назіральніка |
| Арганізацыя супрацоўніцтва чыгунак | АСЧ | 1993 |
| Міжнародны навукова-тэхнічны цэнтр | МНТЦ | 1993 |
| Міжнародны цэнтр навукова-тэхнічнай інфармацыі | МЦНТІ | 1993 |
| Сусветны энергетычны савет | СЭС | 1992 |
| Міжнародная электратэхнічная камісія | МЭК | 1993 |
| Міжнародная арганізацыя па стандартызацыі | ІСА | 1993 |
| Міжнародная арганізацыя па заканадаўчай метралогіі | МАЗМ | 1994 |
| Міжнародны савет архіваў | | 1956 |
| Міжнароднае бюро выстаў | МБВ | 1951 |
| Сусветная турысцкая арганізацыя | СТА | 1993 |
| Міжнародная арганізацыя крымінальнай паліцыі | ІНТЭРПОЛ | 1993 |
| Арганізацыя па забароне хімічнай зброі | АЗХЗ | 1997 |
| Пастаянная палата Трацейскага суда | | 1962 |
| Міжнародная арганізацыя мабільнай спадарожнікавай сувязі | | 1979 |
| Міжнародная арганізацыя спадарожнікавай сувязі | ІНТЭЛСАТ | 1993 |

| | | |
|---|---|---|
| Міжнародная арганізацыя касмічнай сувязі | ІНТЭР-СПАДАРОЖНІК | 1993 |
| Рух недалучэння | РН | 1998 |
| Міжпарламенцкі саюз | МС | 1994 |
| Падрыхтоўчая камісія Арганізацыі па ўсёабдымнай забароне ядзерных вы-прабаванняў | | 1996 |
| Міжнародная арганізацыя па экана-мічным і навукова-тэхнічным супра-цоўніцтве ў вобласці электратэхнічнай прамысловасці | ИНТЭР-ЭЛЕКТРА | 1993 |
| Міжнародная федэрацыя інвалідаў | | 1991 |
| Сусветная федэрацыя глухіх | | 1950 |
| Міжнародны савет ваеннага спорту | | 1993 |

## Рэгіянальныя арганізацыі

| Назва арганізацыі | Скарачэнне | Год уступлення |
|---|---|---|
| Арганізацыя па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе | АБСЕ | 1992 |
| Сумесная кансультатыўная група па Дагавору аб звычайных узброеных сілах | СКГ | 1992 |
| Кансультатыўная камісія адкрытага неба. Дагавор па адкрытым небе | ККАН | 1992 |
| Еўрапейскі банк рэканструкцыі і развіцця | ЕБРР | 1992 |
| Савет еўраатлантычнага партнёрства | СЕАП | 1997 |
| Еўрапейская канферэнцыя міністраў тран-спарту | ЕКМТ | 1996 |
| Еўрапейскі вяшчальны саюз | ЕВС | 1993 |
| Еўрапейская энергетычная хартыя | ЕЭХ | 1991 |
| Еўрапейская спартыўная канферэнцыя | ЕСК | 1995 |
| Еўрапейская арганізацыя спадарожнікавай сувязі | ЕВТЭЛСАТ | 1994 |
| Цэнтральнаеўрапейская ініцыятыва | ЦЕІ | 1996 |

## Тэма 11

## АДНОСІНЫ БЕЛАРУСІ З ЕЎРАПЕЙСКІМІ МІЖНАРОДНЫМІ АРГАНІЗАЦЫЯМІ

Больш чым 10-гадовая гісторыя ўдзелу суверэннай Беларусі ў міжнародных арганізацыях падзяляецца на два этапы: першы ахоплівае 1992-1996 гг., другі пачаўся пасля лістападаўскага рэферэндуму 1996 г. і працягваецца па сённяшні дзень. Гэты падзел асабліва выразна выяўляецца ва ўзаемаадносінах Беларусі з еўрапейскімі міжнароднымі арганізацыямі.

На працягу першай паловы 1990-х гг. Рэспубліка Беларусь значна пашырыла свой удзел у міжнародных універсальных і рэгіянальных арганізацыях. Канстытуцыйны рэферэндум (лістапад 1996 г.) выклікаў пагаршэнне адносін з Захадам і еўрапейскімі міжнароднымі арганізацыямі. Міжнародная супольнасць, такія ўплывовыя арганізацыі, як АБСЕ, Савет Еўропы, Еўрапейскі саюз, не прызналі ў якасці законных вынікі лістападаўскага рэферэндуму. Яны заявілі аб непрызнанні новых дзяржаўных органаў, створаных пасля рэферэндуму, у тым ліку Нацыянальнага сходу. Краіны Захаду і еўрапейскія міжнародныя арганізацыі прызнавалі Вярхоўны Савет 13-га склікання як адзіны легітымны заканадаўчы орган улады ў Беларусі.

Пасля рэферэндуму 1996 г. дзяржавы Захаду і міжнародныя арганізацыі ўвялі абмежавальныя меры ў адносінах да Рэспублікі Беларусь. У пачатку 1997 г. Савет Еўропы прыпыніў статус спецыяльна запрошанай краіны, а Еўрасаюз — дзеянне рамачных пагадненняў 1995 г. ЗША аб'явілі палітыку «выбарчага ўдзелу», якая прадугледжвае прыпыненне кантактаў з беларускім кіраўніцтвам і падтрымку інстытутаў «цывільнага грамадства» ў Беларусі. Разам з тым Захад заявіў, што яго мэтай не з'яўляецца ізаляцыя Беларусі, а вяртанне яе ў сям'ю цывілізаваных еўрапейскіх краін, на шлях дэмакратыі і рынечных рэформ.

Праблема легітымнасці вышэйшых органаў дзяржаўнай улады ў Беларусі (выканаўчай, заканадаўчай і судовай) застаецца для Захаду прадметам дыскусій. Аб гэтым сведчыць рэакцыя заходніх дзяржаў, перш за ўсё ЗША, большасці краін Цэнтральнай і Усходняй Еўропы, АБСЕ, Еўрапейскага саюза, Савета Еўропы, на выбары мясцовых органаў улады (1999 г.), Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу (2000 г.) і Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь (2001 г.). Гэтыя выбары не прызнаны паводле стандартаў АБСЕ справядлівымі і дэмакратычнымі. Захад, тым не менш, працягвае лічыць А. Лукашэнку дзеючым

кіраўніком дзяржавы, на падставе формулы Еўрапейскага саюза «прызнаваць беларускую дзяржаву, але не ўрад».

У дадзенай лекцыі разглядаецца адзін з накірункаў беларускай шматбаковай дыпламатыі — адносіны краіны з найбольш уплывовымі еўрапейскімі міжнароднымі арганізацыямі.

**Адносіны Беларусі з Еўрапейскім саюзам**. Найважнейшым прыярытэтам знешняй палітыкі Рэспублікі Беларусь з'яўляецца наданне ўстойлівага і дынамічнага характару адносінам з Еўрапейскім саюзам. Пагадненне аб партнёрстве і супрацоўніцтве (ППС) паміж Беларуссю і ЕС было падпісана 6 сакавіка 1995 г. у час візіту Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнкі ў Брусель і ратыфікавана Вярхоўным Саветам 12 красавіка 1995 г. ППС уступіць у сілу пасля яго ратыфікацыі парламентамі ўсіх краін — членаў ЕС і Еўрапейскім парламентам. На цяперашні час Пагадненне ратыфікавалі парламенты толькі васьмі краін — членаў Еўрасаюза.

Пагадненне паміж Еўрасаюзам і Беларуссю ўстанаўлівае прынцыпы ўсёабдымнага палітычнага дыялога, якія адлюстроўваюць інстытуцыянальныя асновы для прымянення пагаднення. ППС ахоплівае наступныя галіны: гандаль таварамі, умовы ўладкавання на працу, правілы стварэння і дзейнасці кампаній, аказанне паслуг за мяжой, плацяжы і рух капіталу, правілы канкурэнцыі, правілы аховы прамысловай і камерцыйнай уласнасці, супрацоўніцтва ў сферы заканадаўства, эканомікі, фінансаў і культуры. Неабходным элементам партнёрства і гэтага Пагаднення з'яўляецца прытрымліванне прынцыпаў дэмакратыі, міжнародных законаў, правоў чалавека, а таксама прынцыпаў рыначнай эканомікі. У Пагадненні змяшчаецца артыкул, які дазваляе (нават у аднабаковым парадку) прыпыніць яго дзеянне, калі будзе ўстаноўлена, што былі парушаны яго важнейшыя элементы — дэмакратыя, правы чалавека і прынцыпы рыначнай эканомікі.

26 сакавіка 1996 г. было падпісана Часовае пагадненне аб гандлі (ЧПГ) паміж Рэспублікай Беларусь і ЕС. Беларусь выканала ўсе неабходныя ўнутрыдзяржаўныя працэдуры для яго ўступлення ў сілу. Нягледзячы на тое, што Часовае пагадненне не ўведзена ў дзеянне, Беларусь выкарыстоўвае рэжым найбольшага спрыяння (РНС) у гандлі з ЕС. Акрамя таго, ЕС у аднабаковым парадку прымяняе да Беларусі сістэму мытных ільгот (прэферэнцыі) у гандлі, у адпаведнасці з якой беларускія тавары імпартуюцца ў ЕС бяспошлінна па зніжаных адносна ставак РНС мытных тарыфах.

Еўрасаюз з'яўляецца найбуйнейшым пасля Расіі знешнегандлёвым партнёрам Беларусі. У 2000 г. на долю дзяржаў — членаў ЕС прыходзілася больш за 13 % агульнага гандлёвага абароту Беларусі і

каля 42 % гандлёвага абароту з краінамі далёкага замежжа. Гандаль з ЕС з'яўляецца галоўнай крыніцай паступленняў у нашу краіну цвёрдай валюты ў адрозненне ад бартэрнага гандлю, які дамінуе паміж дзяржавамі СНД. А імпартуе Беларусь з ЕС прадукцыю вытворча-тэхнічнага прызначэння, якая з'яўляецца адной з асноўных крыніц мадэрнізацыі вытворчай базы беларускіх прадпрыемстваў. Па меры пашырэння ЕС на Усход супольная доля дзяржаў — членаў ЕС у знешнегандлёвым абароце Беларусі будзе крытычна павялічвацца. Пасля ўступлення ў ЕС 1 мая 2004 г. 10 новых дзяржаў, у тым ліку трох суседзяў Беларусі — Польшчы, Літвы і Латвіі, гэтая доля ўзрасла да 62 %.

Развіццё эканамічных адносін з Беларуссю ЕС увязвае з развіццём у краіне дэмакратычнага працэсу. У кастрычніку 1996 г. Еўрапейскі парламент прыняў рэзалюцыю, згодна з якой працэс ратыфікацыі Пагаднення аб партнёрстве і супрацоўніцтве быў прыпынены, а таксама ўвядзенне ў дзеянне Часовага пагаднення аб гандлі паміж ЕС і Рэспублікай Беларусь да таго часу, «пакуль беларускія ўлады не дадуць ясна зразумець аб сваім намеры цалкам паважаць асноўныя дэмакратычныя нормы і правы чалавека». У 1997 г. Еўрасаюз запатрабаваў ад урада Беларусі выканання шэрага абавязковых умоў: забеспячэння свабоды друку, змянення адносін да апазіцыі і правядзення эканамічных пераўтварэнняў, а таксама заявіў аб непрызнанні легітымнасці Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь.

У 1999-2000 гг. беларускае кіраўніцтва здолела дабіцца пэўных зрухаў у палітычных і эканамічных зносінах з ЕС. Са свайго боку, Еўрапейскі саюз і яго дзяржавы-члены зрабілі захады, каб «размарозіць» і нармалізаваць адносіны з Рэспублікай Беларусь. У лютым 1999 г. Саветам ЕС было прынята рашэнне аб адмене Агульнай пазіцыі ЕС аб візавых абмежаваннях на ўезд у краіны ЕС для кіраўнікоў органаў дзяржаўнага кіравання Беларусі.

Ажыццяўлялася лібералізацыя гандлю паміж краінамі ЕС і Беларуссю. У прыватнасці, Еўрапейская камісія згадзілася пралангаваць да 2004 г. Пагадненне аб гандлі тэкстыльнымі вырабамі паміж Беларуссю і ЕС са значным павелічэннем квот на імпарт беларускіх вырабаў у ЕС; удалося дабіцца некаторага змякчэння антыдэмпінгавых санкцый ЕС у адносінах да імпартуемых з Беларусі калійных угнаенняў, поліэстэравых валокнаў і жгута.

Еўрапейская камісія прыняла рашэнне аб частковым размарожванні для Беларусі праграмы тэхнічнай дапамогі ТАСІС на 2000-2003 гг. (у рамках дадзенай праграмы выдзелена фінансаванне на мадэрнізацыю трох пагранічных пераходаў, а таксама ўладкаванне

беларуска-польскай і беларуска-літоўскай мяжы). Еўрасаюз выразіў зацікаўленасць ва ўдзеле Беларусі ў фарміраванні «паўночнага вымярэння» ЕС і прапанаваў прадставіць канкрэтныя прапановы, якія будуць ажыццяўляцца ў рамках гэтай ініцыятывы ў галіне аховы навакольнага асяроддзя, энергетыкі, развіцця транспартнай інфраструктуры з удзелам беларускага боку.

У лістападзе 1999 г. бакамі падпісана Праграма TACIC «Развіццё грамадзянскага (цывільнага) грамадства» на Беларусі, якая прадугледжвае выдзяленне 5 млн еўра на развіццё няўрадавых арганізацый, сродкаў масавай інфармацыі і адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь. У 1999 г. Еўрапейская камісія выдзеліла 1,6 млн еўра на фінансаванне гуманітарных праектаў, якія рэалізуюцца ў Беларусі ў галіне медыцынскага абслугоўвання і сацыяльнай рэабілітацыі.

Пазітыўнае развіццё адносін з Беларуссю звязваецца Еўрапейскім саюзам перш за ўсё з неабходнасцю выканання беларускім бокам дамоўленасцей адносна развіцця ў краіне дэмакратычнага працэсу, павагі асноўных дэмакратычных прынцыпаў, падтрымання дыялога з апазіцыяй, павагі правоў чалавека, правядзення свабодных і справядлівых выбараў у адпаведнасці з міжнароднымі стандартамі. Паколькі, на думку ЕС, як і ўсёй «еўрапейскай тройкі», парламенцкія і прэзідэнцкія выбары 2001 г. не адпавядалі міжнародным стандартам, то гэта не дае падстаў чакаць з боку ЕС адмены абмежаванняў, прынятых у верасні 1997 г.

Пасля правядзення прэзідэнцкіх выбараў 2001 г. Беларусь вуснамі сваіх кіраўнікоў заявіла аб тым, што выступае за аднаўленне даверу з Еўрасаюзам. Еўрасаюз распрацаваў у адносінах да Беларусі падыход, які грунтуецца на палітыцы ажыццяўлення ўзаемных сустрэчных крокаў па нармалізацыі ўзаемаадносін. Прадстаўнікамі Еўрасаюза падкрэслівалася, што перспектывы нармалізацыі адносін з Беларуссю і міжнароднага прызнання Нацыянальнага сходу будуць залежаць ад далейшых канкрэтных дзеянняў беларускага кіраўніцтва па дэмакратызацыі ўнутрыпалітычнай сітуацыі ў краіне. Але пакуль што не бачна падстаў для істотнага змянення адносін паміж Рэспублікай Беларусь і ЕС у тым выглядзе, у якім яны склаліся пасля лістападаўскага рэферэндуму 1996 г.

**Беларусь — АБСЕ**. Галоўнай мэтай беларускай знешняй палітыкі на еўрапейскім накірунку з'яўляецца стварэнне стабільнай і дэмакратычнай сістэмы агульнаеўрапейскай бяспекі і супрацоўніцтва, якая складваецца вакол Арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе. Сёння гэта практычна адзіная агульнаеўрапейская арганізацыя, у якой Беларусь захоўвае паўнапраўнае членства, можа весці раўна-

праўны палітычны дыялог, удзельнічаць у выпрацоўцы і прыняцці рашэнняў, а калі яны не адпавядаюць яе інтарэсам — блакіраваць іх пры падтрымцы Расіі і некаторых іншых дзяржаў СНД, карыстаючыся прынцыпам «кансэнсус мінус адзін». Гэта правіла, якое дзейнічае адносна праблематыкі правоў чалавека, застаецца адзіным выключэннем з прынятага ў АБСЕ кансэнсуснага прынцыпу.

Беларусь зацікаўлена ў збалансаваным развіцці ўсіх кампанентаў агульнаеўрапейскай бяспекі і супрацоўніцтва і лічыць, што ваеннае, эканамічнае і экалагічнае вымярэнні АБСЕ заслугоўваюць больш актыўнага ўключэння ў парадак дня гэтай агульнаеўрапейскай арганізацыі.

Міністр замежных спраў Рэспублікі Беларусь М. Хвастоў у прамове на Нарадзе міністраў замежных спраў АБСЕ у Бухарэсце (снежань 2001 г.) выступіў за правядзенне грунтоўнай рэформы АБСЕ, якая магла б дапамагчы ёй адэкватна рэагаваць на выклікі сучаснасці. На яго думку, трэба выправіць функцыянальны і геаграфічны дысбаланс арганізацыі, які выражаецца ў яе празмернай засяроджанасці на гуманітарнай і праваахоўнай праблематыцы постсавецкіх краін і Балканскага рэгіёна.

Беларусь выступае за ліквідацыю дыскрымінацыі і перашкод у гандлі паміж краінамі — членамі АБСЕ, стварэнне ўмоў для мінімізацыі негатыўных наступстваў пашырэння Еўрасаюза для краін, якія не ўваходзяць у гэтую супольнасць. М. Хвастоў прапанаваў распрацаваць Экалагічны кодэкс АБСЕ, які стаў бы важным каталізатарам у вырашэнні праблем аховы навакольнага асяроддзя як на нацыянальным узроўні, так і ў рамках транснацыянальнага супрацоўніцтва. Беларусь выказвае заклапочанасць тым, што АБСЕ пакуль што не ўдзяляе належнай увагі пытанням нелегальнай міграцыі і гандлю людзьмі, візавай палітыкі і свабоды руху людзей. У сувязі з тым, што на тэрыторыі краіны знаходзяцца больш як 100 тыс. мігрантаў, якія імкнуцца ў краіны ЕС, Беларусь спадзяецца на канкрэтную і поўнамаштабную дапамогу ў вырашэнні гэтай праблемы з боку АБСЕ і ЕС.

**Дзейнасць КНГ АБСЕ у Беларусі**. У пачатку 1998 г. у Мінску па прапанове беларускага ўрада адчынілася прадстаўніцтва Кансультатыўна-назіральнай групы (КНГ) АБСЕ. Асноўныя намаганні КНГ былі накіраваны на правядзенне свабодных і дэмакратычных выбараў і забеспячэнне свабоды сродкаў масавай інфармацыі. З мэтай нармалізацыі ўнутрыпалітычнага становішча місія АБСЕ спрабавала наладзіць канструктыўныя перамовы паміж беларускімі ўладамі і палітычнай апазіцыяй. Аднак гэтыя спробы не прынеслі жаданых

вынікаў, а дзейнасць КНГ была раскрытыкавана і ўладамі, і апазіцыяй.

У кастрычніку 1998 г. па рашэнні Парламенцкай асамблеі АБСЕ (ПА АБСЕ) была створана Рабочая група ПА АБСЕ па Беларусі. Яна стала важным інструментам у перагаворным працэсе паміж канфліктуючымі бакамі ў Беларусі з міжнароднай супольнасцю. Нягледзячы на тое што часам як беларускае кіраўніцтва, так і «еўрапейская тройка» выказвалі пэўны аптымізм наконт магчымасцей паляпшэння адносін паміж афіцыйным Мінскам і астатняй Еўропай, гэтыя заявы і спадзяванні не спраўдзіліся. Галоўны крытэрый дэмакратычнага вымярэння дзяржавы і грамадства — свабодныя і дэмакратычныя выбары — застаецца недасягальным (з пункту погляду еўрапейскай супольнасці) для сучаснай палітычнай сістэмы, якая ўсталявалася ў Беларусі. Пра гэта сведчаць адносіны еўрапейскіх парламенцкіх структур да выбараў у мясцовыя органы ўлады 1999 г., Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу 2000 г. і Прэзідэнта 2001 г., а таксама да парламенцкіх выбараў 2004 г. і рэферэндуму аб дазволе А. Лукашэнку ўдзельнічаць у прэзідэнцкіх выбарах 2006 г.

У дакуменце КНГ АБСЕ пад назвай «Беларусь пасля выбараў: вынікі, легітымнасць, назіранне», які быў распаўсюджаны ў лістападзе 2001 г., адзначаецца, што мясцовыя, парламенцкія і прэзідэнцкія выбары не адпавядалі стандартам АБСЕ.

Пасля завяршэння прэзідэнцкай кампаніі з боку беларускіх урадавых структур узмацнілася крытыка дзейнасці КНГ АБСЕ і яе кіраўніка Г.-Г. Віка. Назіралася імкненне не дапусціць Г.-Г. Віка да сустрэч беларускіх афіцыйных асоб з прадстаўнікамі «еўрапейскай тройкі», якія рэгулярна наведвалі Беларусь. Гэта тлумачылася тым, што ён «страціў давер» беларускага ўрада. Настойліва гучалі патрабаванні змены мандата місіі, які быў прыняты ў 1997 г., а таксама адмовы ад чатырох умоў Еўропы да беларускіх улад, што былі сфармуляваны ў 2000-2001 гг. з дапамогай КНГ і беларускай апазіцыі. Адносіны паміж афіцыйным Мінскам і АБСЕ пагоршыліся.

**Праблемы паляпшэння адносін з Саветам Еўропы**[1]. У верасні 1992 г. Беларусь атрымала статус «спецыяльна запрошанай» дзяржавы ў межах дзейнасці Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы (ПАСЕ), што дазволіла дэлегацыі Вярхоўнага Савета 4 разы ў год прымаць удзел у працы ПАСЕ, а беларускаму ўраду дало магчымасць прымаць удзел у працы шэрага камітэтаў СЕ у якасці назіральніка. У

[1] Гл. выкладанне ўзаемаадносін паміж Беларуссю і Саветам Еўропы ў тэме 12.

сакавіку 1993 г. Беларусь падала заяўку на ўступленне ў СЕ у якасці паўнапраўнага члена.

Беларусь у кастрычніку 1993 г. далучылася да Еўрапейскай культурнай канвенцыі, у кастрычніку 1994 г. — да Венецыянскай камісіі «Дэмакратыя праз права». Разгляд заяўкі Беларусі аб уступленні ў СЕ быў запланаваны на восеньскую сесію ПАСЕ 1995 г., але ў маі 1995 г. Вярхоўны Савет не быў абраны, што азначала невыкананне краінай аднаго з галоўных патрабаванняў СЕ. Пасля таго як Вярхоўны Савет у рэшце рэшт быў абраны ў канцы 1995 г., гэта, аднак, не ліквідавала апошнюю перашкоду на шляху Беларусі ў СЕ. Абвастрэнне канфрантацыі паміж прэзідэнтам і парламентам замарудзіла прыняцце станоўчага рашэння па Беларусі на працягу 1996 г.

На падставе юрыдычнага і палітычнага дакладаў, візіту Старшыні ПАСЕ у студзені 1997 г. на сесіі ПАСЕ было прынята рашэнне аб прыпыненні дзеяння статуса спецыяльна запрошанай дзяржавы для Рэспублікі Беларусь. Гэтае прававое становішча захоўваецца па сённяшні дзень. Галоўным накірункам у адносінах Беларусі з Саветам Еўропы застаецца праца па аднаўленні статуса «спецыяльна запрошанага» для Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу. Гэтая праца актывізавалася пасля прэзідэнцкіх выбараў 2001 г. Але пакуль што няма падстаў спадзявацца на хуткае вырашэнне гэтай праблемы ў інтарэсах беларускага ўрада. Перспектыўнай задачай для Беларусі з'яўляецца ўступленне ў паўнапраўныя члены Савета Еўропы, які ахоплівае сёння практычна ўсе еўрапейскія краіны.

**Супрацоўніцтва з ЦЕІ**. Акрамя вышэйназваных еўрапейскіх міжнародных арганізацый, Беларусь імкнецца актывізаваць супрацоўніцтва ў рэгіянальных і субрэгіянальных міжнародных арганізацыях Цэнтральнай, Усходняй і Паўночнай Еўропы. Гаворка ідзе перш за ўсё аб Цэнтральнаеўрапейскай ініцыятыве (ЦЕІ), Арганізацыі чарнаморскага эканамічнага супрацоўніцтва (АЧЭС) і Савеце дзяржаў Балтыйскага мора (СДБМ).

Цэнтральнаеўрапейская ініцыятыва — рэгіянальнае аб'яднанне, якое створана ў 1989 г. краінамі Дунайска-Адрыятычнага субрэгіёна з мэтай супрацоўніцтва ў галіне рэканструкцыі палітычных і эканамічных структур у Еўропе. Беларусь далучылася да ЦЕІ на паўнапраўнай аснове ў маі 1996 г. Зараз у склад ЦЕІ ўваходзяць 16 дзяржаў Цэнтральна-Еўрапейскага рэгіёна. Галоўная задача ЦЕІ — аб'яднанне намаганняў дзяржаў-членаў для арганізацыі гнуткай і прагматычнай рэгіянальнай кааперацыі.

Рэспубліка Беларусь мае намер працягваць канструктыўнае ўзаемадзеянне з ЦЕІ. Сёння гэта практычна адзіная еўрапейская

арганізацыя, якая не панізіла ўзровень кантактаў з Беларуссю, нягледзячы на абмежаванні ЕС. Важнае значэнне ЦЕІ заключаецца ў тым, што гэта арганізацыя здольная аказаць рэальную падтрымку па мінімізацыі магчымых негатыўных наступстваў пашырэння ЕС для Беларусі.

Што датычыцца іншых еўрапейскіх рэгіянальных арганізацый, то Беларусь імкнецца перш за ўсё атрымаць статус назіральніка ў АЧЭС і СДБМ.

**Беларусь і НАТА**. У 1993 г. падчас візіту ў Мінск дзяржаўнага сакратара ЗША У. Крыстафера Беларусі было прапанавана далучыцца да Праграмы НАТА «Партнёрства дзеля міру», на што пазітыўна адрэагавала тагачаснае беларускае кіраўніцтва. Аднак на справе краіна далучылася да гэтай праграмы ў 1995 г., зрабіўшы гэта адной з апошніх еўрапейскіх дзяржаў. У 1997 г. штаб-кватэрай НАТА у Бруселі ўхвалена Індывідуальная праграма партнёрства (ІПП) Рэспублікі Беларусь з НАТА на 1997-1999 гг. Яна прадугледжвала абмежаванае супрацоўніцтва з альянсам. У красавіку 1998 г. было адчынена пастаяннае прадстаўніцтва Беларусі пры НАТА.

Пасля таго як у 1997 г. Расія і Украіна заключылі з НАТА асноватворныя дакументы аб супрацоўніцтве, Беларусь аказалася фактычна не ахопленай гарантыямі бяспекі з боку альянсу. Адносіны з НАТА пагоршыліся ў 1999 г. у сувязі з ваеннай акцыяй блока супраць Югаславіі. Беларусь і Расія ўнеслі ў Савет Бяспекі ААН востры праект рэзалюцыі з асуджэннем інтэрвенцыі. Аднак ён не атрымаў шырокай падтрымкі. Напрыканцы 1999 г. Беларусь услед за Расіяй аднавіла афіцыйныя кантакты з НАТА.

У маі 2000 г. Прэзідэнт Беларусі адобрыў праект ІПП Рэспублікі Беларусь з НАТА на 2000-2001 гг. Паўночнаатлантычны савет НАТА зацвердзіў яго ў ліпені 2000 г., пасля чаго Індывідуальная праграма партнёрства Беларусі і НАТА уступіла ў сілу. У гэтай праграме наша краіна зрабіла акцэнт на мерапрыемствах неваеннага характару, у прыватнасці на такіх накірунках, як надзвычайныя сітуацыі і грамадзянская абарона, абаронная палітыка і стратэгія, медыцынская служба, моўная падрыхтоўка, ваенная адукацыя і падрыхтоўка.

Беларусь зацікаўлена ў канструктыўным супрацоўніцтве з НАТА, прызнаючы яе важную ролю ва ўмацаванні еўрапейскай і міжнароднай бяспекі. Разам з тым існуюць рознагалоссі паміж нашай краінай і НАТА у справе вырашэння крызісных сітуацый і пашырэння Паўночнаатлантычнага альянсу на Усход. Беларусь выступае за стварэнне сістэмы еўрапейскай бяспекі без падзяляльных меж і пры ўмацаванні каардынуючай ролі АБСЕ.

**«Беларускае пытанне» як еўрапейская праблема**. «Беларускае пытанне» ўзнікла ў сістэме еўрапейскіх адносін пасля рэферэндуму 1996 г. як перш за ўсё ўнутрыпалітычная праблема аднаўлення дэмакратыі і падзелу ўлад у краіне. Амаль адначасова змест «беларускага пытання» дапоўніўся фактарам інтэграцыі з Расіяй, што ўспрымаецца міжнароднай супольнасцю як пагроза суверэнітэту Беларусі і рэгіянальнай бяспецы.

У цяперашні момант «беларускае пытанне» як міжнародная праблема складаецца з двух узаемазвязаных бакоў. Першы яго бок тычыцца заклапочанасці і, як вынік, міжнароднага ўдзелу ў працэсе ўрэгулявання ўнутрыпалітычнага крызісу ў Беларусі. Інстытуцыянальным выражэннем гэтай прысутнасці з'яўлялася дзейнасць місіі АБСЕ у Беларусі (з 1 студзеня 2002 г. у Мінску замест КНГ дзейнічае офіс АБСЕ). Другі яго бок тычыцца міжнародных наступстваў беларуска-расійскай інтэграцыі, у прыватнасці планаў стварэння адзінай дзяржавы.

Міністр замежных спраў Рэспублікі Беларусь М. Хвастоў, прызнаючы розныя падыходы і ацэнкі ЕС і беларускага кіраўніцтва да эканамічнай і палітычнай сітуацыі ў краіне і за яе межамі, адзначаў: «Празмерная палітызацыя беларускага пытання адбылася ў асноўным таму, што ў адносінах да нашай краіны выкарыстоўваліся двайныя стандарты і наўмысна вылучаліся завышаныя патрабаванні, а часам увогуле непрымальныя і заведама невыканальныя».

Беларусь сёння — гэта фактычна адзіная еўрапейская краіна, дзе ёсць дзве дыпламатыі: урадавая, афіцыйная, і няўрадавая, апазіцыйная. Яны даводзяць да еўрапейскай і міжнароднай супольнасці дзве супрацьлеглыя пазіцыі ад Беларусі і пра Беларусь. Гэта яшчэ адна дэманстрацыя, можа, і не зусім бачнага падзелу беларускага грамадства.

Пасля рэферэндуму 1996 г. на еўрапейскіх форумах (ПААБСЕ, ПАСЕ, Паўночнаатлантычная асамблея) прысутнічаюць, як правіла, дзве беларускія парламенцкія дэлегацыі (адну складаюць прадстаўнікі Вярхоўнага Савета 13-га склікання, другую — Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу РБ). Пасля студзеня 2001 г., калі Вярхоўны Савет 13-га склікання спыніў свой 5-гадовы тэрмін дзеяння, замест яго прадстаўнікоў дэлегацыі на міжнародныя форумы пасылае Каардынацыйная рада апазіцыйных палітычных партый.

Беларуская паралельная дыпламатыя прадстаўлена і прафесійнымі дыпламатамі (былы намеснік міністра замежных спраў А. Саннікаў, былы міністр па знешнеэканамічных сувязях і былы пасол у Латвіі і Эстоніі М. Марыніч). Фактычна беларуская апазіцыя

прадстаўляе на міжнароднай арэне інтарэсы іншай часткі нашага грамадства, якая рэальна існуе і якая не падтрымлівае ўнутраную і знешнюю палітыку ўрада. Паводле афіцыйных даных, гэта як мінімум тыя 15 працэнтаў выбаршчыкаў, якія прагаласавалі на апошніх прэзідэнцкіх выбарах 9 верасня 2001 г. за адзінага кандыдата сацыяльнай і палітычнай апазіцыі У. Ганчарыка. З улікам галасоў, пададзеных за 3-га кандыдата, і тых, хто прагаласаваў супраць усіх, гэтая незадаволеная цяперашнім станам рэчаў частка беларускага грамадства складала ў 2001 г. каля 25 працэнтаў.

Захад і міжнародныя арганізацыі (перш за ўсё АБСЕ, ЕС, СЕ) праводзяць у адносінах да Беларусі ўзгодненую палітыку. ЗША і Захад спрабуюць уздзейнічаць на Расію з тым, каб яна, у сваю чаргу, аказвала ўплыў на беларускае кіраўніцтва. Ад таго, наколькі Расія і Захад змогуць зблізіць ці прымірыць свае пазіцыі па ўнутраных і знешніх аспектах «беларускага пытання», шмат у чым залежыць далейшае развіццё сітуацыі ў Беларусі і вакол яе.

## Тэма 12

## УЗАЕМААДНОСІНЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ І САВЕТА ЕЎРОПЫ

**Пачатак адносін (1992-1996 гг.).** Першыя кантакты паміж Рэспублікай Беларусь і Саветам Еўропы адбыліся яшчэ ў 1992 г. і былі даволі плённымі. Узнікненне палітычнага дыялога, паступовае ўключэнне Беларусі ў праграмы СЕ і прадстаўленне дэлегацыі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 16 верасня 1992 г. статуса «спецыяльна запрошанага госця» — падзеі, якія сведчылі аб усталяванні адносін супрацоўніцтва, канчатковай мэтай якіх бачылася хуткае ўступленне Беларусі ў Савет Еўропы.

Дэлегацыя: Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь чатыры разы на год прымала ўдзел у працы ПАСЕ. Урад Беларусі атрымаў магчымасць прымаць удзел у працы шэрага камітэтаў СЕ у якасці назіральніка без права голасу. Афіцыйная заява Беларусі аб уступленні ў Савет Еўропы была накіравана 12 сакавіка 1993 г. У кастрычніку 1993 г. Беларусь далучылася да Еўрапейскай культурнай канвенцыі, у кастрычніку 1994 г. — уступіла ў Венецыянскую камісію «Дэмакратыя праз права». У верасні 1994 г. адбыўся афіцыйны візіт у Беларусь дэлегацыі Савета Еўропы на чале са Старшынёй Камітэта міністраў С. Даскалавым і Генеральным сакратаром СЕ Д. Таршысам. Наступным крокам стаў візіт дэлегацыі СЕ на чале з Дырэктарам палітычнага дэпартамента Х.-П. Фурэрам. У выніку візіту Беларусі

была прапанавана мэтавая праграма супрацоўніцтва па падрыхтоўцы да ўступлення ў Савет Еўропы.

Разгляд заявы Беларусі ў СЕ быў запланаваны на восеньскую сесію 1995 г., аднак у маі 1995 г. Вярхоўны Савет не быў выбраны, што з'явілася невыкананнем дамоўленасцей уступлення. Тым не менш кантакты Рэспублікі Беларусь з Саветам Еўропы заставаліся досыць актыўнымі. Толькі ў 1995 г. СЕ правёў у Беларусі больш за 20 семінараў і двухбаковых сустрэч па розных напрамках яго дзейнасці, і Беларусь даволі актыўна пачала падключацца да супрацоўніцтва ў рамках праграм Савета Еўропы.

У маі 1995 г. пасля першага тура парламенцкіх выбараў міністр замежных спраў У. Сянько наведаў з афіцыйным візітам Страсбург дзеля ўдзелу ў палітычным дыялогу з прадстаўнікамі Камітэта міністраў СЕ на ўзроўні паслоў. На 541-м пасяджэнні паслоў краін — удзельніц СЕ было прынята рашэнне «працягваць супрацоўніцтва з Рэспублікай Беларусь, звярнуўшы асобую ўвагу на свабоду сродкаў масавай інфармацыі». Была абумоўлена паслядоўнасць далейшых практычных крокаў па падрыхтоўцы да ўступлення краіны ў арганізацыю.

Намеры Беларусі ўступіць у Савет Еўропы былі вельмі сур'ёзнымі, аб чым сведчыць стварэнне ў жніўні 1995 г. Міжведамаснага савета па супрацоўніцтву з СЕ на чале з намеснікам прэм'ер-міністра У. Русакевічам. У склад Савета ўвайшло больш за 20 кіраўнікоў міністэрстваў і ведамстваў рэспублікі. Пры Савеце было створана сем рабочых груп па асноўных напрамках дзейнасці СЕ. Вядучыя спецыялісты рэспублікі вялі актыўную працу па вывучэнні нацыянальнага заканадаўства на прадмет яго адпаведнасці патрабаванням СЕ. Вывучаўся вопыт краін, якія нядаўна ўступілі ў арганізацыю. Некаторыя заканадаўчыя акты рэспублікі былі накіраваны на экспертызу ў Савет Еўропы. Генеральнаму дырэктару Савета Еўропы быў дасланы ліст з просьбай аб далучэнні краіны да 12 канвенцый СЕ, у тым ліку да Канвенцыі аб узаемадапамозе па крымінальных справах, Канвенцыі аб ахове археалагічнай спадчыны, Канвенцыі аб нацыянальных меншасцях. Актыўна развіваліся міжнародныя кантакты.

У канцы 1995 — пачатку 1996 г. рэспубліку наведалі прадстаўнікі практычна ўсіх дэпартаментаў СЕ. Важнай падзеяй з'явіўся рабочы візіт у Страсбург старшыні Міжведамаснага савета У. Русакевіча. Падчас візіту Беларусь была афіцыйна запрошана да праграмы супрацоўніцтва па працэдуры ўступлення, якая прадугледжвала падрыхтоўку двух дакладаў: юрыдычнага і палітычнага. У мэтах падрыхтоўкі юрыдычнага даклада з 5 па 9 мая 1996 г. у Мінску знаходзілася

дэлегацыя экспертаў-юрыстаў ад ПАСЕ на чале з Ф. Гельчуклю, суддзёй Еўрапейскага суда па правах чалавека. Члены дэлегацыі правялі сустрэчы з прадстаўнікамі Вярхоўнага Савета, Пракуратуры, Канстытуцыйнага Суда, Міністэрства юстыцыі, палітычных партый, прафсаюзаў, няўрадавых арганізацый.

Адным з асноўных напрамкаў супрацоўніцтва Беларусі з Саветам Еўропы планавалася ўдасканаленне нацыянальнай заканадаўчай базы ў галіне аховы гісторыка-культурнай спадчыны. Меркавалася стварэнне інфармацыйнага банка, які будзе змяшчаць матэрыялы па гісторыка-культурнай спадчыне рэспублікі, а таксама здзяйсненне пілотнага праекта па рэвіталізацыі (вяртанні да жыцця) гістарычнага цэнтра Гродна. Дыялог з Беларуссю працягваўся летам 1996 г., калі разглядалася, хоць і са значнымі агаворкамі, магчымасць уступлення Беларусі ў Савет Еўропы ў 1997-1998 гг.

**Прыпыненне статуса «спецыяльна запрошанага госця».** Пачынаючы з верасня 1996 г. сітуацыя на Беларусі стала аб'ектам пільнай увагі Савета Еўропы, а з пачатку 1997 г. у скаардынаванай з Еўрапейскім саюзам і АБСЕ пазіцыі кіраўніцтва СЕ у адносінах да Беларусі пачалі дамінаваць тэндэнцыі, заснаваныя на поўным непрыняцці вынікаў рэферэндуму 1996 г. Працягам; пазіцыі Савета Еўропы стала прыпыненне 13 студзеня 1997 г. Бюро ПАСЕ статуса «спецыяльна запрошанага госця» для парламенцкай дэлегацыі Беларусі і рашэнне Камітэта Міністраў аб замарожванні двухбаковай праграмы супрацоўніцтва з Беларуссю. Сакратару СЕ было рэкамендавана абмежавацца ў 1997 г. асобнымі мерапрыемствамі, накіраванымі на «падтрыманне грамадзянскага грамадства» і «функцыянаванне незалежных СМІ». Дзеянні, якія былі прадпрыняты СЕ, выклікалі рэзкае зніжэнне актыўнасці ў супрацоўніцтве арганізацыі з Рэспублікай Беларусь і фактычна прывялі да замарожвання працэдуры разгляду яе заявы на ўступленне ў арганізацыю.

Рашэнне Бюро ПАСЕ аб прыпыненні статуса «спецыяльна запрошанага госця» для дэлегацыі парламента Беларусі было растлумачана тым, што Бюро ПАСЕ палічыла незаконным працэс прыняцця новай рэдакцыі Канстытуцыі Беларусі. 16 лістапада 1996 г. Еўрапейская камісія за дэмакратыю праз права («Венецыянская камісія») надрукавала сваё заключэнне адносна канстытуцыйнай рэформы, праведзенай прэзідэнтам А. Лукашэнкам. Па меркаванні камісіі, праект «празмерна ўзмацняе паўнамоцтвы Прэзідэнта за кошт іншых органаў — Парламента і Канстытуцыйнага Суда», утрымлівае некаторыя абмежаванні свабоды рэлігіі і інфармацыі.

Прэзідэнт ПАСЕ Л. Фішар 26 лістапада 1996 г. заявіла, што рэферэндум у Беларусі 24 лістапада можа мець толькі кансультацыйны характар, падкрэсліўшы таксама, што ПАСЕ не можа падтрымліваць адносіны з парламентам, сфарміраваным такім шляхам, і заклікала прэзідэнта Беларусі правесці круглы стол па пытаннях дзяржаўнага ладу з удзелам усіх зацікаўленых партый і рухаў. Бюро вырашыла не забіраць, а толькі прыпыніць статус у мэтах падтрымкі дэмакратычных сіл на Беларусі. У дадзеным выпадку гаворка ішла аб рэзкай змене пазіцыі кіраўніцтва Савета Еўропы па пытанні ўступлення Беларусі ў гэтую арганізацыю, бо падчас візіту 15-16 кастрычніка 1996 г. у Мінск Л. Фішар, адзначыўшы прыкметнае прасоўванне Беларусі па дэмакратычным шляху, пацвердзіла выказванне аб тым, што СЕ разлічвае на хуткае ўступленне ў яго Беларусі ў якасці паўнапраўнага члена.

У пачатку 1997 г. была створана трохбаковая рабочая група па падрыхтоўцы прапаноў па змяненні беларускай Канстытуцыі. Яна была складзена з прадстаўнікоў прэзідэнта, дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў, прадстаўнікоў Вярхоўнага Савета 13-га склікання, чатырох экспертаў ЕС. Праца камісіі не прынесла чаканых вынікаў. Беларусь не была запрошана на Другую сустрэчу на вышэйшым узроўні СЕ у кастрычніку 1997 г.

Падчас вясенняй сесіі ПАСЕ 21-25 красавіка 1997 г. была прынята Дэкларацыя аб саюзе Беларусі і Расіі. У ёй гаварылася аб тым, што Дагавор аб Саюзе Беларусі і Расіі ад 2 красавіка 1997 г. грунтуецца на гістарычных сувязях паміж Беларуссю і Расіяй і адпавядае асновам канстытуцыйнага ладу абедзвюх краін і агульнапрызнаным нормам міжнароднага права. Дэкларацыя заклікала парламентарыяў ПАСЕ разглядаць інтэграцыю Беларусі і Расіі як пазітыўны працэс, які садзейнічае ўмацаванню ў іх дэмакратыі і правоў чалавека. У Дэкларацыі змяшчаўся заклік аднавіць палітычны дыялог паміж Беларуссю і СЕ з мэтай стварэння ўмоў, якія дазволяць парламенту краіны зноў атрымаць статус «спецыяльна запрошанага госця» на Парламенцкай асамблеі і працягнуць працэдуру ўступлення ў СЕ.

9 чэрвеня 1997 г. у Санкт-Пецярбургу адбылося сумеснае пасяджэнне Бюро ПАСЕ і Савета Міжпарламенцкай асамблеі СНД (МПА). У ходзе дыскусій па розных пытаннях у той ці іншай трактоўцы гучала тэма Беларусі. Прыгадаўшы, што Беларусь — дзяржава — заснавальніца ААН, Старшыня Савета Федэрацыі Дзяржаўнай Думы Расійскай Федэрацыі Я. Строеў назваў недальнабачнымі спробы абмежаваць удзел Беларусі ў парламенцкіх і іншых міжнародных арганізацыях. «Дыялог з Беларуссю будзе працягнуты»,

— заявіла кіраўнік ПАСЕ Л. Фішар. На пасяджэнні выступіў Старшыня Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі А. Малафееў. Ён адзначыў, што ПАСЕ пакуль не валодае поўнай інфармацыяй аб сітуацыі на Беларусі, таму яе ацэнкі часта неаб'ектыўныя, і выказаў надзею, што гэты недахоп будзе выпраўлены ў бліжэйшы час. На яго думку, ПАСЕ і яе кіраўніцтва апынуліся заложнікамі сітуацыі, якую яны самі стварылі ў адносінах з Беларуссю.

**Спробы аднаўлення статуса «спецыяльна запрошанага госця».** 22 красавіка 1998 г. падчас чарговай сесіі ПАСЕ група расійскіх і ўкраінскіх дэпутатаў накіравала Старшыні ПАСЕ пісьмовы запыт аб неабходнасці аднаўлення статуса «спецыяльна запрошанага госця» для дэлегацыі Беларусі. У гэтай сувязі Бюро ПАСЕ даручыла дэпутату бундэстага Германіі, намесніку старшыні ПАСЕ Р. Антрэтэру падрыхтаваць даклад аб палітычнай сітуацыі на Беларусі. Даклад быў падрыхтаваны ў выніку візіту Р. Антрэтэра ў Беларусь 4-6 лістапада 1998 г. і заслуханы на пасяджэнні Бюро ПАСЕ 17 снежня 1998 г. Яго змест сведчыў аб адсутнасці прынцыповых змен у ацэнках развіцця палітычнага становішча на Беларусі.

Бюро ўхваліла ўнесеную Р. Антрэтэрам прапанову аб захаванні былой крытычнай пазіцыі адносна сітуацыі на Беларусі, аб падтрымцы прыпынення статуса «спецыяльна запрошанага госця» і замарожванні разгляду заявы Беларусі аб членстве ў арганізацыі. У дакладзе адзначалася немэтазгоднасць ізаляцыі Беларусі, указвалася неабходнасць аказання дапамогі Рэспубліцы Беларусь у змяненні існуючага палажэння і давалася рэкамендацыя аб аднаўленні кантактаў з усімі палітычнымі сіламі краіны ў мэтах дасягнення згоды адносна канкрэтных шляхоў нармалізацыі палітычнай сітуацыі.

На аснове рэкамендацый, змешчаных у дакладзе Р. Антрэтэра, Бюро ПАСЕ прыняла рашэнне аб аднаўленні адносін з усімі палітычнымі сіламі Беларусі ў мэтах дасягнення кансенсусу адносна канкрэтных шляхоў нармалізацыі палітычнай сітуацыі ў краіне. У гэтай сувязі 27 красавіка 1999 г. у рамках Камісіі ПАСЕ па палітычных пытаннях адбылася дыскусія па Беларусі, у якой прынялі ўдзел дэпутаты Нацыянальнага сходу і прадстаўнікі апазіцыйных сіл Беларусі. Абедзвюма беларускімі дэлегацыямі была падкрэслена неабходнасць хутчэйшага ўступлення Рэспублікі Беларусь у такую аўтарытэтную арганізацыю, як Савет Еўропы. Нягледзячы на тое, што ніякіх дакументаў па выніках сустрэчы не было прынята, гэтае мерапрыемства паказала, што ПАСЕ сканцэнтравала ўвагу на дэмакратычным правядзенні парламенцкіх выбараў 2000 г.

4-6 кастрычніка 1999 г. адбыўся візіт у Мінск новага дакладчыка ПАСЕ па Беларусі В. Берэндта. Мэтай візіту ставіўся збор інфармацыі аб развіцці сітуацыі на Беларусі дзеля наступнай падрыхтоўкі даклада для студзеньскай 2000 г. сесіі ПАСЕ. Аб некаторым пацяпленні адносін СЕ з Беларуссю сведчыў абмен думкамі ў кастрычніку 1999 г. у Страсбургу паміж першым намеснікам міністра замежных спраў Рэспублікі Беларусь С. М. Мартынавым і пастаяннымі прадстаўнікамі ўсіх дзяржаў — членаў Савета Еўропы ў рамках Групы дакладчыкаў па пытаннях палітычнай стабільнасці. Само запрашэнне афіцыйнай асобы такога высокага ўзроўню сведчыла аб некаторым змяненні пазіцыі СЕ адносна Беларусі.

У выніку кантактаў паміж Беларуссю і СЕ у 1999 г. дакладчыкам ПАСЕ В. Берэндтам быў падрыхтаваны даклад аб сітуацыі на Беларусі, які быў разгледжаны на пасяджэнні палітычнай камісіі ПАСЕ 3 лістапада 1999 г. В. Берэндт у сваім дакладзе фактычна паўтарыў асноўныя тэзісы, адлюстраваныя ў дакладзе Р. Антрэтэра ў 1998 г. Нягледзячы на захаванне шэрага «традыцыйных» крытычных заўваг да палітыкі афіцыйнай улады, у дакладзе прысутнічалі досыць канструктыўныя ацэнкі пазітыўных крокаў урада. Падкрэслівалася, што дэмакратычная законнасць інстытутаў на Беларусі можа быць адноўлена толькі праз палітычны дыялог паміж уладамі і апазіцыяй, вынікам якога павінны стаць дэмакратычныя выбары. Адзначалася неабходнасць дапамогі Савета Еўропы Беларусі ў развіцці грамадзянскага грамадства шляхам дыялога з уладамі, аказання экспертнай дапамогі, каардынацыі супрацоўніцтва з АБСЕ і Еўрапейскім саюзам, падтрымкі ўсіх дэмакратычных сіл краіны.

16 снежня 1999 г. на пасяджэнні Камісіі па палітычных пытаннях ПАСЕ у Парыжы практычна аднагалосна былі прыняты за аснову праект Рэкамендацыі ПАСЕ аб сітуацыі на Беларусі і тлумачальны мемарандум да яе. Гэтыя дакументы, падрыхтаваныя ў выніку справаздачы В. Берэндта, былі вынесены на абмеркаванне на пленарным пасяджэнні студзеньскай сесіі ПАСЕ 2000 г.

25 студзеня 2000 г. напярэдадні чарговай сесіі ПАСЕ прайшло пасяджэнне Камісіі па палітычных пытаннях ПАСЕ, на якім разглядалася сітуацыя ў Беларусі. З інфармацыяй па гэтым пытанні выступіў дакладчык ПАСЕ па Беларусі, кіраўнік нацыянальнай дэлегацыі Германіі В. Берэндт. У абмеркаванні ў рамках пасяджэння камісіі і сесіі ПАСЕ прынялі ўдзел дэлегацыя Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь, якую ўзначаліў намеснік Старшыні Палаты прадстаўнікоў У. М. Канаплёў, і прадстаўнікі апазіцыі.

31 студзеня на прэс-канферэнцыі У. Канаплёў адзначыў, што асноўнай мэтай слухання «беларускага пытання» з'яўлялася абмеркаванне перспектыў супрацоўніцтва паміж СЕ і Рэспублікі Беларусь у кантэксце чарговых парламенцкіх выбараў. На яго думку, у ПАСЕ часам прысутнічаюць палярныя ацэнкі сітуацыі на Беларусі, а дакладчык В. Берэндт прадставіў не зусім аб'ектыўную, спрэчную інфармацыю аб сітуацыі ў Беларусі. Старшыня Пастаяннай камісіі па міжнародных справах і сувязях з СНД Палаты прадстаўнікоў А. В. Козыр адзначыў, што кіраўніцтва ПАСЕ і большасць заходніх палітыкаў перш за ўсё цікавілі тры асноўныя пазіцыі: правядзенне парламенцкіх выбараў, дыялог улады з апазіцыяй, праблемы стварэння саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі. У. Канаплёў выказаў жаданне беларускага ўрада правесці свабодныя і дэмакратычныя выбары ў парламент на аснове прынятага Выбарчага кодэкса, гатоўнасць афіцыйных улад Беларусі да шырокага грамадска-палітычнага дыялога.

У 2000 г. адносіны Беларусі з Саветам Еўропы былі досыць ажыўленымі. Пацверджаннем гэтаму было павелічэнне колькасці беларускіх прадстаўнікоў на ўзроўні экспертаў у рабочых групах і камітэтах розных органаў СЕ, пашырэнне кола афіцыйных асоб высокага рангу, якіх запрашалі да ўдзелу ў мерапрыемствах СЕ. Такія запрашэнні атрымалі міністры культуры, аховы навакольнага асяроддзя, старшыні дзяржаўных камітэтаў па друку, справах моладзі. У чэрвені 2000 г. у Страсбургу знаходзіўся Старшыня Канстытуцыйнага Суда Рэспублікі Беларусь Р. А. Васілевіч. У канцы 2000 г. запрашэнне прыняць удзел у заключных мерапрыемствах кампаніі «Еўропа — наша агульная спадчына» было накіравана міністру замежных спраў Беларусі. У ходзе студзеньскай 2000 г. сесіі ПАСЕ на вышэйшым узроўні была прынята дэлегацыя Беларусі на чале з намеснікам Старшыні Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу У. Канаплёвым. Практычна рэгулярнымі былі сустрэчы пасла Беларусі ў Францыі і прадстаўніка Беларусі ў СЕ з кіраўніцтвам Савета Еўропы і ПАСЕ. У сваю чаргу кіраўніцтва ПАСЕ падтрымлівала рэгулярныя стасункі з уладамі Беларусі.

Дастаткова частымі былі візіты членаў ПАСЕ, уключаючы Старшыню Палітычнага камітэта ПАСЕ Т. Дэвіса і спецыяльнага дакладчыка гэтага камітэта В. Берэндта, у Мінск. Пачынаючы з сакавіка 2000 г. прадстаўнік Беларусі ў Савеце Еўропы атрымаў права пры абмеркаванні «беларускага пытання» ўдзельнічаць у пасяджэннях рабочай групы дакладчыкаў па дэмакратычнай стабільнасці, якая з'яўляецца рабочым органам Камітэта Міністраў СЕ, што рыхтуе праекты яго рашэнняў. Такім чынам, прадстаўніку

Беларусі была прадстаўлена магчымасць рэгулярна інфармаваць пастаянных прадстаўнікоў краін — членаў СЕ аб развіцці ўнутрыпалітычнай сітуацыі на Беларусі.

**Умовы еўрапейскай «парламенцкай тройкі».** Падчас падрыхтоўкі да парламенцкіх выбараў 2000 г. еўрапейская «парламенцкая тройка» сфармулявала 4 крытэрыі прызнання выбараў свабоднымі і справядлівымі:

празрыстасць працэсу выбараў; доступ палітычных партый да дзяржаўных СМІ; павелічэнне паўнамоцтваў выбіраемага парламента; «мірны перыяд» падрыхтоўкі да выбараў, спыненне праследаванняў прадстаўнікоў апазіцыі.

Падчас візіту ў Мінск 31 ліпеня — 4 жніўня 2000 г. дэлегацыя ПАСЕ правяла шэраг сустрэч з прадстаўнікамі дзяржаўных структур, апазіцыйных і няўрадавых арганізацый. У выніку гэтага візіту прэс-службай СЕ было распаўсюджана прэс-камюніке, вытрыманае ў досыць жорсткіх выразах. Яно змяшчала высновы аб тым, што «ў Беларусі адзначаны недастатковы рух наперад у рэалізацыі чатырох раней названых крытэрыяў і адсутнасць умоў для правядзення свабодных і справядлівых выбараў. Дэлегацыя не будзе рэкамендаваць ПАСЕ накіроўваць прадстаўнікоў на выбары парламента Беларусі 2000 г.».

У сувязі з гэтымі ацэнкамі прэс-сакратаром МЗС Рэспублікі Беларусь была зроблена заява, у якой, у прыватнасці, адзначалася, што рашэнне дэлегацыі ПАСЕ не рэкамендаваць накіроўваць назіральнікаў на беларускія выбары было ўспрынята ў МЗС Рэспублікі Беларусь са шкадаваннем і неразуменнем. Па меркаванні беларускага МЗС, «пазіцыя, занятая прадстаўнікамі ПАСЕ, не можа разглядацца інакш як непрыкрытае выяўленне палітыкі двайных стандартаў, нежаданне аб'ектыўна ўспрымаць і ацэньваць сітуацыю. Такая пазіцыя з'яўляецца яскравым прыкладам прадузятых адносін і неўспрымання відавочных фактаў, якія сведчаць аб імкненні кіраўніцтва Беларусі забяспечыць спрыяльныя ўмовы для правядзення ў краіне дэмакратычных выбараў». У заяве было выказана спадзяванне, што структуры агульнаеўрапейскага супрацоўніцтва зоймуць больш аб'ектыўную пазіцыю адносна будучых выбараў у Беларусі.

У якасці міжнародных назіральнікаў за выбарамі ў Нацыянальны сход 15 кастрычніка 2000 г. прымалі ўдзел дэлегацыі «парламенцкай тройкі» і Тэхнічнай ацэначнай місіі БДІПЧ АБСЕ. «Парламенцкая тройка», адзначыўшы пазітыўныя змены ў беларускім заканадаўстве, выказала намер працягваць дыялог з уладамі Беларусі. Аднак

агульная негатыўная пазіцыя адносна арганізацыі выбарчага працэсу не атрымала значных змен.

Выкарыстоўваючы вынікі парламенцкіх выбараў у Рэспубліцы Беларусь і іх ацэнку міжнароднымі назіральнікамі, беларускі бок змог дабіцца прыняцця Бюро ПАСЕ рашэння афіцыйна запрасіць дэлегацыю Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь прыняць удзел у пасяджэнні Камітэта ПАСЕ па палітычных пытаннях, якое адбылося ў рамках студзеньскай 2001 г. сесіі ПАСЕ ў Страсбургу. Акрамя афіцыйнай парламенцкай дэлегацыі Беларусі на пасяджэнні Камісіі ПАСЕ былі запрошаны прадстаўнікі беларускай апазіцыі, не прадстаўленыя ў парламенце. Пераводзячы такое размежаванне, ПАСЕ фактычна ўпершыню пасля прыпынення ў студзені 1997 г. дзейнасці статуса «спецыяльна запрошанага госця» для Беларусі ўскосна прызнала, што адзіным парламентам, які мае права прадстаўляць Беларусь на міжнароднай арэне, з'яўляецца Нацыянальны сход Рэспублікі Беларусь.

Падчас візіту ў Страсбург Старшыні ПАСЕ была перададзена афіцыйная заява Нацыянальнага сходу з просьбай аднавіць статус «спецыяльна запрошанага госця» ў ПАСЕ і працэдуру прыёму Беларусі ў СЕ. Таксама адбылося падпісанне ад імя Рэспублікі Беларусь Канвенцыі «Аб крымінальнай адказнасці за карупцыю». У той жа час, нягледзячы на прызнанне з боку ПАСЕ пэўнага прагрэсу, дасягнутага беларускімі ўладамі ў працэсе дэмакратызацыі, Асамблея прадэманстравала негатоўнасць змяніць свае адносіны да агульнай ацэнкі сітуацыі на Беларусі.

З 31 ліпеня па 3 жніўня 2001 г. дэлегацыя Савета ПАСЕ наведала Мінск. У яе склад уваходзілі, акрамя іншых, Тэры Дэвіс (Старшыня камісіі ПАСЕ па палітычных пытаннях) і Вольфганг Берэндт (дакладчык па Беларусі камісіі ПАСЕ па палітычных пытаннях). Асноўнай мэтай візіту быў аналіз палітычнай сітуацыі ў Беларусі, ў святле будучых прэзідэнцкіх выбараў. Дэлегацыя правяла сустрэчы са спікерам Савета Рэспублікі А. Вайтовічам, намеснікам прэм'ер-міністра — міністрам замежных спраў М. Хваставым, Старшынёй Цэнтральнай выбарчай камісіі Л. Ярмошынай, іншымі афіцыйнымі асобамі, прадстаўнікамі розных палітычных сіл і няўрадавых арганізацый. Дэлегацыя выказала расчараванне тэмпамі дэмакратычных пераўтварэнняў на Беларусі, падкрэсліла важнасць крытэрыяў, што датычыліся парламенцкіх выбараў 2000 г. Разгледзеўшы ўсе аспекты падрыхтоўкі да выбараў, дэлегацыя рэкамендавала ПАСЕ накіраваць сваіх прадстаўнікоў у якасці назіральнікаў за выбарамі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь 2001 г.

10 верасня 2001 г., на наступны дзень пасля правядзення прэзідэнцкіх выбараў, міжнародная абмежаваная місія назірання за выбарамі надрукавала «Заяву папярэдніх вынікаў і вывадаў» наконт арганізацыі прэзідэнцкіх выбараў 2001 г. на Беларусі. Місія зрабіла наступныя вывады:

1. Перадвыбарчая кампанія 2001 г. у Беларусі не змагла выканаць абавязкаў АБСЕ у справе арганізацыі дэмакратычных выбараў.

2. Міжнародная абмежаваная місія вітае і сцвярджае з'яўленне плюралістычнага грамадзянскага грамадства, якое з'яўляецца асновай будаўніцтва дэмакратычных палітычных структур.

3. Ізаляцыя краіны — не ў інтарэсах насельніцтва Беларусі, яна не садзейнічае ўмацаванню дэмакратычнага развіцця.

У Заяве адзначалася, што міжнародная супольнасць павінна на самым высокім узроўні перагледзець палітыку адносна Беларусі і, нягледзячы на існуючы плюралістычны дэфіцыт, звяртаць больш увагі на развіццё дэмакратычных тэндэнцый. Дэмакратычны дэфіцыт не павінен скончыцца ізаляцыяй Беларусі, а хутчэй стаць асновай для дапамогі дэмакратычнаму развіццю.

## Асноўныя праблемы ўступлення Беларусі ў Савет Еўропы

Дакументы і даклады, падрыхтаваныя экспертамі Савета Еўропы па сітуацыі на Беларусі, амаль аднолькавыя па сваім змесце. Яны змяшчаюць кароткую гістарычную даведку аб адносінах Беларусі і СЕ, аналіз агульнапалітычнай сітуацыі і найбольш важных падзей грамадска-палітычнага жыцця краіны. У дакументах няма ніводнага канкрэтнага спіса ўмоў, пасля выканання якіх Беларусь будзе прынята ў Савет Еўропы. Тут фармулююцца «крытычныя заўвагі» адносна развіцця ўнутрыпалітычнай сітуацыі на Беларусі. Ніжэй прадстаўлены асноўныя накірункі і «заўвагі» аналізу экспертамі СЕ сітуацыі на Беларусі, якія з'яўляюцца практычна нязменнымі, «традыцыйнымі» ва ўсіх дакументах.

**Канстытуцыйнае будаўніцтва і функцыянаванне палітычнай сістэмы.** 16 лістапада 1996 г. Еўрапейская камісія за дэмакратыю праз права («Венецыянская камісія»), складзеная з незалежных экспертаў па канстытуцыйных пытаннях, надрукавала меркаванне адносна канстытуцыйнай рэформы, прапанаванай Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь А. Лукашэнкам. На думку камісіі, праект «празмерна ўмацоўвае паўнамоцтвы Прэзідэнта за кошт паўнамоцтваў усіх іншых органаў дзяржаўнай улады — Парламента і Канстытуцыйнага Суда». Пад крытыку трапілі працэдура фарміравання Нацыянальнага сходу,

умовы звальнення Прэзідэнтам членаў судоў па прычынах, не адзначаных у Канстытуцыі, і прызначэння суддзяў. Камісія вырашыла, што прапанаваная рэформа ўтрымлівала недапушчальныя абмежаванні свабоды рэлігіі і свабоды інфармацыі. 26 лістапада 1996 г. служба інфармацыі і інфармацыйных тэхналогій Савета Еўропы распаўсюдзіла прэс-рэліз, у якім была размешчана заява прэзідэнта ПАСЕ Л. Фішар, дзе гаварылася, што рэферэндум у Беларусі можа мець толькі «кансультацыйную вагу». Наступныя ацэнкі палітычнай сітуацыі ў краіне прадстаўнікамі СЕ былі заснаваныя на меркаванні Камісіі і не мелі з імі прынцыповых разыходжанняў.

Савет Еўропы прапанаваў правесці дыялог улады з прадстаўнікамі апазіцыі для ажыццяўлення канстытуцыйнай рэформы. Аднак гэтая ініцыятыва не мела поспеху. У дакументах СЕ пры аналізе палітычнай сітуацыі ў Беларусі выдзяляюцца наступныя праблемы: незбалансаванасць розных галін улады; панаванне прэзідэнцкай улады; недастатковыя гарантыі для функцыянавання незалежнай судовай улады; праблемы фарміравання партыйнай сістэмы.

**Выбарчы працэс**. У дакументах Савета Еўропы падкрэсліваецца, што менавіта правядзенне выбараў згодна з еўрапейскімі стандартамі стане зыходнай кропкай у аднаўленні адносін Беларусі з еўрапейскімі арганізацыямі, у тым ліку з Саветам Еўропы. СЕ прапанаваў і аказаў дапамогу пры прывядзенні беларускага выбарчага заканадаўства да адпаведных еўрапейскіх норм.

Савет Еўропы рэзка адмоўна аднёсся да шляху фарміравання Нацыянальнага сходу ў выніку канстытуцыйных змен па выніках рэферэндуму 1996 г. Прэзідэнт ПАСЕ Л. Фішар заявіла, што «шлях фарміравання заканадаўчага органа на Беларусі не адпавядае прынцыпам дэмакратычнай законнасці». ПАСЕ не прызнала Нацыянальны сход у якасці легітымнага органа. 13 студзеня 1997 г. Бюро ПАСЕ вырашыла прыпыніць статус «спецыяльна запрошанага госця» для дэлегацыі беларускага парламента.

У красавіку 1999 г. у Беларусі адбыліся выбары ў мясцовыя органы ўлады. Меркаванні і рэкамендацыі Савета Еўропы і АБСЕ не былі ўдакладнены. Кангрэс мясцовых і рэгіянальных улад Еўропы абвясціў, што выбары не мелі дэмакратычнага характару, парушэнні фіксаваліся на ўсіх стадыях выбарчага працэсу. У маі 1999 г. апазіцыя арганізавала альтэрнатыўныя прэзідэнцкія выбары, матывуючы гэта тым, што тэрмін прэзідэнцтва А. Лукашэнкі канчаецца 20 ліпеня 1999 г. Савет Еўропы палічыў гэтую акцыю не як сапраўдныя выбары, а як дэманстрацыю супраць дзеючай улады.

«Парламенцкая тройка» наведала Беларусь у перыяд з 12 па 16 кастрычніка 2000 г. «Тройка» зрабіла вывады адносна выбараў у Нацыянальны сход, прадстаўленыя БДІПЧ АБСЕ: «Выбары ў Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу 15 кастрычніка 2000 г. не адпавядалі міжнародным стандартам, прад'яўляемым да дэмакратычных выбараў, а таксама патрабаванням, сфармуляваным у Капенгагенскім дакуменце 1990 г. У прыватнасці, не былі выкананы мінімальныя абавязкі па правядзенні свабодных, справядлівых, роўных і адкрытых выбараў». У заяве ад 16 кастрычніка 2000 г. «парламенцкая тройка» адзначыла, што беларускія ўлады не прадэманстравалі дэмакратычных змен у выбарчым працэсе. Нягледзячы на значнае паляпшэнне, «тройка» падагульняй, што 4 эталонныя тэзісы засталіся нявыкананымі.

5-7 сакавіка 2001 г. падчас візіту ў Мінск «парламенцкая тройка» сфармулявала крытэрыі прызнання прэзідэнцкіх выбараў на Беларусі свабоднымі і дэмакратычнымі: змены выбарчага заканадаўства, поўная празрыстасць і дэмакратычнасць працэсу падрыхтоўкі і правядзення выбараў, у прыватнасці гэта датычыцца працэсу рэгістрацыі кандыдатаў, складу выбарчых камісій і падліку галасоў; роўныя ўмовы доступу да СМІ для ўсіх кандыдатаў; запрашэнне назіральнікаў ад міжнародных арганізацый як абавязковы элемент гарантый празрыстасці выбарчага працэсу.

Прэзідэнцкія выбары 2001 г. мелі важнае значэнне для ацэнкі развіцця дэмакратыі і грамадзянскага грамадства на Беларусі, паўплывалі на развіццё адносін Беларусі з еўрапейскімі арганізацыямі. 10 верасня 2001 г. міжнародная абмежаваная місія назірання за прэзідэнцкімі выбарамі надрукавала «Заяву аб папярэдніх выніках» выбараў. Адзначыўшы адмоўныя і станоўчыя бакі праведзеных выбараў, місія падагульніла, што «пры правядзенні прэзідэнцкіх выбараў 2001 года на Беларусі не выкананы абавязкі АБСЕ па правядзенні выбараў, сфармуляваныя ў Капенгагенскім дакуменце 1990 г.».

**Абарона правоў чалавека**. Эксперты Савета Еўропы, нягледзячы на канстатацыю некаторага паляпшэння ў арганізацыі механізмаў абароны правоў чалавека на Беларусі, лічаць гэты працэс недастатковым і звяртаюць увагу на наступныя праблемы:

*Пакаранне смерцю.* Савет Еўропы ў сваіх дакументах неаднаразова заклікаў беларускія ўлады ўвесці мараторый на выкананне пакарання смерцю. Нягледзячы на той факт, што на рэферэндуме 1996 г. большасць насельніцтва прагаласавала за захаванне пакарання смерцю, беларускае кіраўніцтва выбрала доўгатэрміновай мэтай адмену пакарання смерцю, аднак 29 чалавек на Беларусі былі

пакараны ў студзені і адзін — у жніўні 1999 г. Беларусь — адзіная краіна ў Еўропе, дзе пакаранне смерцю выкарыстоўваецца рэгулярна.

*Знікненне палітычных працўнікаў.* 23 верасня 1999 г. Прэзідэнт ПАСЕ лорд Расэл-Джонстан, Генеральны сакратар В. Швімер заклікалі ўлады Беларусі правесці хуткае і эфектыўнае расследаванне па факту знікнення В. Ганчара, Т. Віннікавай, Ю. Захаранкі, адзначыўшы, што рашэнне гэтай праблемы аблегчыла б палітычны дыялог і супрацоўніцтва з Саветам Еўропы. Урад Беларусі катэгарычна адмаўляе ўсякае дачыненне да знікненняў і сцвярджае, што робіць усё для расследавання па дадзеных фактах.

*Праследаванне працўнікаў рэжыму.* 7 кастрычніка 1999 г., падчас азнаямленчага візіту ў Мінск дакладчык ПАСЕ па Беларусі В. Берэндт звярнуўся да ўлад Беларусі з просьбай абвясціць амністыю ўсім беларускім палітзняволеным. Апазіцыя заяўляе аб існаванні сведчанняў праследавання людзей, расцэненых у якасці працўнікаў існуючай улады на Беларусі. Шмат затрыманых, па меркаванні прадстаўнікоў апазіцыі, гэта палітычныя зняволеныя. Беларускія ўлады сцвярджаюць, што няма ніякіх палітычных зняволеных і што ўсе людзі, пра якіх сведчыць апазіцыя, былі арыштаваны або асуджаны на падставе крымінальных абвінавачванняў, як, напрыклад, карупцыя ці растрата.

*Умовы ўтрымання ў турмах і месцах часовага затрымання.* У абодвух выпадках існуюць праблемы з харчовым забеспячэннем, абмежаванне зносін зняволеных з іх сем'ямі і адвакатамі, шматлікія выпадкі гвалту ў адносінах да зняволеных.

*Парушэнне правоў чалавека супрацоўнікамі міліцыі.* Выпадкі неабгрунтаванага затрымання, недастатковы кантроль з боку пракуратуры і судоў.

*Свабода меркаванняў, перакананняў і іх свабоднае выяўленне.* Асноўныя праблемы ў гэтай сферы — дзяржаўны кантроль над СМІ, адсутнасць доступу апазіцыі да дзяржаўных СМІ.

*Свабода аб'яднанняў, сходаў, мітынгаў, дэманстрацый.* Складанасць працэсу рэгістрацыі грамадскіх аб'яднанняў, праблемы з арганізацыяй і правядзеннем розных масавых вулічных мерапрыемстваў, дыскрымінацыя людзей у сувязі з іх прыналежнасцю да вызначаных арганізацый.

**Правядзенне заканадаўчай рэформы, забеспячэнне незалежнасці судовай улады, адвакатуры.** У галіне заканадаўчай рэформы Савет Еўропы звяртаў асобую ўвагу на стварэнне Выбарчага кодэкса ў адпаведнасці з нормамі арганізацыі. Экспертаў СЕ хвалявала празмерная жорсткасць крымінальнага заканадаўства Беларусі.

## Перспектывы развіцця адносін Беларусі з Саветам Еўропы

Уступленне ў Савет Еўропы дасць магчымасць Беларусі паскорыць інтэграцыю ў агульнаеўрапейскую супольнасць, удзельнічаць у распрацоўцы і прыняцці важных рашэнняў еўрапейскай палітыкі. У кантэксце паляпшэння адносін з СЕ разглядаецца і супрацоўніцтва з Еўрапейскім саюзам. Прынцыпы дэмакратычных каштоўнасцей і інтарэсаў асобы вылучаюцца ЕС у якасці зыходных крытэрыяў пры інтэграцыі новых дзяржаў у адзіную еўрапейскую гандлёва-эканамічную прастору. Дзейнасць Беларусі ў СЕ ўмацавала б міжнародны аўтарытэт краіны, а ўдзел у працы яго інстытутаў прадставіў бы магчымасць больш эфектыўна адстойваць знешнепалітычныя прыярытэты рэспублікі. Паколькі канвенцыі СЕ ахопліваюць практычна ўсе сферы жыцця, супрацоўніцтва з гэтай арганізацыяй па розных накірунках дазволіла б гарманізаваць беларускае заканадаўства з краінамі ЕС, удасканаліць сістэму аховы правоў чалавека, сацыяльных гарантый, узмацніць міжнароднае супрацоўніцтва ў галіне юстыцыі, барацьбы са злачыннасцю, адмываннем незаконных прыбыткаў, адчыніць шлях беларускім абітурыентам у еўрапейскія ВНУ і г. д.

Савет Еўропы зацікаўлены ў прыняцці Беларусі ў шэрагі сваіх членаў, а Беларусь зацікаўлена ва ўступленні ў гэтую аўтарытэтную арганізацыю. Беларусь па сваёй геапалітычнай прыродзе і гісторыка-культурных традыцыях з'яўляецца неад'емнай часткай еўрапейскай прасторы. Стварэнне «зоны вакууму» ў цэнтры Еўропы наўрад ці ўваходзіць у планы еўрапейскіх арганізацый. Прыняцце Беларусі ў СЕ у якасці паўнапраўнага члена дазволіла б Савету Еўропы ўнесці свой рэальны ўклад у комплексную інтэграцыю краін Цэнтральнай і Усходняй Еўропы ў агульнаеўрапейскую прастору, пацвердзіць сваю жыццяздольнасць у сістэме еўрапейскіх арганізацый.

Беларускае кіраўніцтва надае вялікае значэнне развіццю адносін з СЕ і іншымі еўрапейскімі арганізацыямі. У Пасланні Нацыянальнаму сходу Рэспублікі Беларусь 2002 г. Прэзідэнт Беларусі А. Р. Лукашэнка адзначыў, што «Беларусь зацікаўлена ў развіцці раўнапраўнага супрацоўніцтва з вядучымі еўрапейскімі дзяржавамі і міждзяржаўнымі структурамі. Удзел у еўрапейскіх інтэграцыйных працэсах — важная ўмова захавання яе суверэнітэту і тэрытарыяльнай цэласнасці, рэальны механізм злучэння ў міждзяржаўнае супрацоўніцтва ў якасці самастойнага суб'екта міжнародных адносін. Беларускі народ мае права разлічваць на тое, што еўрапейская супольнасць з поўнай павагай паставіцца да зробленага народам выбару падчас апошніх выбарчых

кампаній. Адпаведна агульнаеўрапейскія структуры (Еўрапейскі саюз, АБСЕ, Савет Еўропы) маюць усе асновы для перагляду сваіх адносін з Рэспублікай Беларусь. Нацыянальны сход краіны павінен заняць належнае яму па праву месца ў еўрапейскай парламенцкай сям'і. Неабходна дамагчыся для Беларусі аднаўлення статуса "спецыяльна запрошанага" ў ПАСЕ, прызнання паўнамоцтваў беларускай дэлегацыі ў Парламенцкай асамблеі АБСЕ».

Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь афіцыйна абвяшчае, што адной з самых важных беларускіх знешнепалітычных мэт з'яўляецца ўступленне краіны ў Савет Еўропы. Беларусь цалкам падзяляе прынцыпы і каштоўнасці гэтай аўтарытэтнай міжнароднай арганізацыі. Развіццё дэмакратыі, павага правоў чалавека і верхавенства закону з'яўляюцца прыярытэтамі для Беларусі на шляху інтэграцыі ў еўрапейскую супольнасць. Важна, каб СЕ заставаўся верным свайму прызначэнню — быць не суддзёй, а памочнікам еўрапейскіх краін у гуманітарнай сферы, дзейнічаў у духу супрацоўніцтва, а не адчужэння. Беларусь будзе ўзаемадзейнічаць з СЕ, зыходзячы з такога разумення яго ролі і месца. Знешняя палітыка Беларусі адносна еўрапейскіх арганізацый, краін Цэнтральнай, Усходняй і Паўднёвай Еўропы будзе будавацца на ўмовах партнёрства. У гэтым кантэксце асноўнай і галоўнай задачай з'яўляецца аднаўленне адносін з еўрапейскімі інстытутамі, перш за ўсё з еўрапейскімі парламенцкімі інстытутамі: ПА АБСЕ, НАТА, СЕ і ЕС.

У размове з членамі «парламенцкай тройкі», якія знаходзіліся з візітам на Беларусі 1-4 сакавіка 2000 г. намеснік прэм'ер-міністра — міністр замежных спраў РБ У. Латыпаў адзначыў, што існуюць розныя погляды на ўнутрыпалітычную сітуацыю на Беларусі. Апазіцыя зацікаўлена перш за ўсё ў атрыманні ўлады ў краіне. Заходнія краіны і ЗША, па меркаванні У. Латыпава, намагаюцца выкарыстаць дыялог палітычных сіл для сур'ёзных змен палітычнай сістэмы Беларусі, а Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь бачыць асноўную мэту правядзення дыялога ў захаванні стабільнасці ў грамадстве, правядзенні справядлівых і свабодных выбараў, стабілізацыі адносін з еўрапейскімі арганізацыямі. У гэтай сітуацыі неабходна знайсці баланс інтарэсаў.

Эксперты Савета Еўропы ў апошні час праяўляюць адзінства ў ацэнках сітуацыі ў Беларусі. Падкрэсліваюцца сур'ёзныя праблемы ў галіне плюралістычнай дэмакратыі, верхавенства закону і правоў чалавека з указаннем на пагаршэнне сітуацыі. Прымаючы гэта пад ўвагу, СЕ не ставіць пытанне аб аднаўленні статуса «спецыяльна запрошанага госця» для парламента Беларусі і аб размарожванні працэдуры ўступлення. Аднак гэта не павінна перашкаджаць падтры-

манню адносін з Беларуссю і станоўчых тэндэнцый развіцця краіны. Асабліва падкрэсліваецца, што ізаляцыя Беларусі — гэта крок, які пашкодзіць магчымым дэмакратычным рэформам, аднак рэальная ацэнка сітуацыі дазволіць звярнуць увагу на праблемы і актывізаваць іх вырашэнне. У якасці асноўнага шляху для ўсталявання дэмакратычнай законнасці эксперты СЕ лічаць дыялог паміж уладай, апазіцыяй і міжнароднымі арганізацыямі з мэтай выпрацоўкі кампрамісных рашэнняў, а таксама правядзенне дэмакратычных выбараў.

У ПАСЕ можна пачуць меркаванні, якія адрозніваюцца ад афіцыйных. На думку шэрага расійскіх дэпутатаў, пры ацэнцы сітуацыі ў Беларусі мае месца недастатковае даследаванне экспертамі СЕ рэальнага становішча ў краіне, не ўлічваецца жаданне беларускіх улад супрацоўнічаць з арганізацыяй, не звяртаецца ўвага на правядзенне рыначных рэформ, адсутнасць канфліктаў у краіне; эксперты СЕ аднабакова ацэньваюць сітуацыю ў Беларусі, улічваецца меркаванне апазіцыі, а не афіцыйных асоб. Расійскія дэпутаты ўнеслі прапанову па аднаўленні паўнамоцтваў дэлегацыі Палаты прадстаўнікоў, заявіўшы, што сітуацыя з правамі чалавека на Беларусі не бачыцца больш складанай у параўнанні з іншымі краінамі былога СССР.

Перыяды актывізацыі адносін СЕ з Рэспублікай Беларусь былі звязаны з правядзеннем парламенцкіх 2000 г. і прэзідэнцкіх 2001 г. выбараў і з іншымі значнымі для палітычнага жыцця Беларусі падзеямі. Лідэры СЕ працягваюць выказвацца аб сваім непрыняцці канстытуцыйных зменаў 1996 г. Захоўваецца прывязка пытання аднаўлення статуса «спецыяльна запрошанага госця» з правядзеннем дэмакратычных выбараў. Беларусь — кандыдат на ўступленне ў Савет Еўропы з самым вялікім стажам. Аднак працэс разгляду заявы на ўступленне замарожаны і нельга прадказаць яго перспектывы. Бліжэйшая мэта — размарозіць працэдуру разглядання заявы. Галоўным накірункам у адносінах Беларусі і СЕ застаецца праца па аднаўленні статуса дэлегацыі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь, што будзе залежаць ад прызнання выбараў у краіне свабоднымі і дэмакратычнымі.

Шмат чаго залежыць ад волі беларускага кіраўніцтва, сапраўднага жадання паважаць агульнаеўрапейскія каштоўнасці і на іх аснове развіваць палітычную сістэму і сацыяльныя адносіны ў краіне. Савет Еўропы, у сваю чаргу, павінен праяўляць палітычную мудрасць і ўсебакова дапамагаць развіццю дэмакратыі на Беларусі.

## Тэма 13

## БЕЛАРУСЬ І ЮНЕСКА

**Мэты і структура ЮНЕСКА.** ЮНЕСКА (Арганізацыя Аб'яднаных Нацый па пытаннях адукацыі, навукі і культуры) (United Nations Educational, Scientific and Cultural Organization), міжнародная міжурадавая арганізацыя, спецыялізаваная ўстанова ААН, заснавана ў лістападзе 1945 г. на ўстаноўчай канс]зерэнцыі прадстаўнікоў 44 дзяржаў у Лондане. Статут ЮНЕСКА падпісаны 16 лістапада 1945 г. прадстаўнікамі 37 дзяржаў. Ён уступіў у сілу 4 лістапада 1946 г., і гэты дзень лічыцца днём стварэння ЮНЕСКА.

Асноўнымі мэтамі ЮНЕСКА з'яўляюцца: уклад у забеспячэнне міру і бяспекі праз заахвочванне міжнароднага супрацоўніцтва ў галіне адукацыі, навукі і культуры; забеспячэнне павагі да законнасці і справядлівасці, правоў чалавека і асноўных свабод, якія абвешчаны ў Статуце ААН, для ўсіх народаў без розніцы расы, полу, мовы ці рэлігіі. ЮНЕСКА мае наступную структуру: Генеральная канферэнцыя; Выканаўчы савет; Нацыянальныя камісіі; Рэгіянальная структура; Сакратарыят. Генеральная канферэнцыя — галоўны орган ЮНЕСКА, у якім прадстаўлены ўсе дзяржавы — члены Арганізацыі. Урады пасля кансультацый з нацыянальнай камісіяй або, у выпадку яе адсутнасці, з органамі адукацыі, навукі і культуры, прызначаюць для ўдзелу ў Канферэнцыі да пяці дэлегатаў. Генеральная канферэнцыя збіраецца раз у два гады і вызначае мэты і 2-гадовыя праграмы дзейнасці ЮНЕСКА, склікае міжурадавыя і няўрадавыя канферэнцыі па пытаннях адукацыі, прыродазнаўчых і гуманітарных навук ці распаўсюджвання агульных ведаў, выбірае членаў Выканаўчага савета і назначае па яго рэкамендацыі Генеральнага дырэктара. Выканаўчы савет выбіраецца ў складзе 58 чалавек на 4 гады. Нацыянальныя камісіі павінны забяспечыць уключэнне ў працу ЮНЕСКА дзяржаўных органаў, якія займаюцца пытаннямі адукацыі, навукі і культуры. Пастаянны рабочы орган ЮНЕСКА — Сакратарыят — складаецца з Генеральнага дырэктара і персаналу са служачых — грамадзян дзяржаў-членаў. Генеральны дырэктар назначаецца Генеральнай канферэнцыяй па прадстаўленні Выканаўчага савета тэрмінам на 6 гадоў. Штаб-кватэра ЮНЕСКА — Парыж. У 2005 г. у Арганізацыю ўваходзіла 190 дзяря-саў-членаў і 6 асацыіраваных членаў. Яна супрацоўнічала больш чым з 400 міжнароднымі няўрадавымі арганізацыямі і фондамі, практычна з усімі спецыялізаванымі ўстановамі ААН.

**Далучэнне БССР да ЮНЕСКА**. Міністр замежных спраў БССР К. В. Кісялёў прапанаваў у канцы 1946 — пачатку 1947 г. кіраўніцтву МЗС СССР, каб СССР, УССР і БССР уступілі ў ЮНЕСКА. Мэтазгоднасць уступлення СССР, УССР і БССР у ЮНЕСКА К. Кісялёў аргументаваў тым, што гэта дасць Савецкаму Саюзу магчымасць: 1) выкарыстоўваць ЮНЕСКА у барацьбе супраць пагрозы новай вайны; 2) супрацьдзейнічаць яе выкарыстанню ў якасці сродку ідэалагічнага ўплыву іншых урадаў, асабліва ЗША і Англіі; 3) выкарыстоўваць яе як сродак савецкага ўплыву.

Аднак Масква не падтрымала прапанову беларускага міністра, паколькі лічыла, што ўдзел Савецкага Саюза ў ЮНЕСКА у тагачасных умовах немэтазгодны, паколькі гэта арганізацыя з'яўляецца «адным з каналаў англа-амерыканскага ўплыву». Уступленне ў гэту арганізацыю не ўваходзіла ў планы І. Сталіна і яго бліжэйшага акружэння. Ініцыятыва Кісялёва была пахавана. Але яна была праяўленнем палітычнай смеласці і беларускага міністра замежных спраў. Прапанова Кісялёва па-новаму паказвае нам асобу кіраўніка беларускай дыпламатыі, яго рэалістычны, прагматычны падыход да выкарыстання магчымасцей ЮНЕСКА у інтарэсах савецкай знешняй палітыкі. Яна змагла быць рэалізавана пасля прыходу да ўлады новага савецкага кіраўніцтва, калі ў 1954 г. СССР, УССР і БССР уступілі ў ЮНЕСКА і МАП.

4 лістапада 1953 г. МЗС БССР накіравала ліст МЗС Вялікабрытаніі з паведамленнем аб рашэнні ўрада БССР прыняць Статут ЮНЕСКА, які даручалася падпісаць міністру замежных спраў К. Кісялёву. 10 красавіка 1954 г. міністр замежных спраў БССР К. Кісялёў накіраваў ноту Генеральнаму дырэктару ЮНЕСКА Л. Эвансу аб рашэнні ўрада БССР упаўнаважыць пасла СССР у Вялікабрытаніі Я. А. Маліка падпісаць Статут ЮНЕСКА ад імя ўрада БССР. Гэтую ноту К. Кісялёў прасіў разглядаць як афіцыйны дакумент аб прыняцці Беларускай ССР Статута ЮНЕСКА. У той жа самы дзень К. Кісялёў накіраваў ноту Генеральнаму дырэктару Міжнароднага бюро працы аб прыняцці ўрадам БССР абавязацельстваў, якія вынікаюць са Статута Міжнароднай арганізацыі працы (МАП). СССР уступіў у ЮНЕСКА 21 красавіка 1954 г., БССР і УССР — 12 мая 1954 г.

Уступленне СССР, УССР і БССР у склад ЮНЕСКА, як і аднаўленне ў 1954 г. дзейнасці ў гэтай арганізацыі Венгрыі, Польшчы і Чэхаславакіі, якія выйшлі з яе ў 1952-1953 гг., сведчыла аб вяртанні СССР і яго саюзнікаў з ліку краін Усходняй Еўропы на шлях рэалізму і канструктыўнага супрацоўніцтва з ААН і яе спецыялізаванымі ўстановамі. Гэта стала магчымым у сувязі з пазітыўнымі зрухамі, якія

адбываліся ў савецкай знешняй палітыцы пасля смерці І. Сталіна, і пацяпленнем міжнароднай атмасферы. Палітыка «сістэматычнага абсентэізму» (выраз французскай даследчыцы К. Лабейры-Менахем), якая праводзілася «савецкім блокам» у спецыялізаваных установах ААН з 1950 г., каб такім шляхам дасягнуць прадстаўніцтва Кітайскай Народнай Рэспублікі ў ААН, пацярпела крах.

**Дзейнасць БССР у ЮНЕСКА**. З уступленнем СССР, УССР і БССР у ЮНЕСКА, вяртаннем у гэту арганізацыю краін Усходняй Еўропы пачалася фаза адкрытай барацьбы паміж сацыялістычнымі і большай часткай краін у стадыі развіцця, з аднаго боку, і групай заходніх дзяржаў — з другога. ЮНЕСКА ператварылася ў ахвяру ідэалагічнай барацьбы паміж сацыялізмам і капіталізмам, якая зацята ішла ў час халоднай вайны. Замест таго, каб быць у авангардзе барацьбы за мір і выхавання ў духу міру, прапаведаваць універсальныя каштоўнасці, Арганізацыя служыла дзяржаўным інтарэсам асноўных груповак краін. Савецкая стратэгія ў гэтай арганізацыі зводзілася да трох пытанняў: мірнае суіснаванне, якое не выключала ідэалагічнага супрацьборства, раззбраенне і ліквідацыя каланіялізму. Гэтая стратэгія супадала з асноўнымі інтарэсамі краін у стадыі развіцця, для якіх ЮНЕСКА была адным з нешматлікіх інструментаў шматбаковай дыпламатыі.

Дэлегацыі БССР садзейнічалі прыняццю многіх важных рашэнняў Генеральнай канферэнцыі ЮНЕСКА, у тым ліку аб выкарыстанні сродкаў інфармацыі ў мэтах забеспячэння міру (VIII сесія Генеральнай канферэнцыі, 1954 г.), уклад ЮНЕСКА у развіццё мірнага суіснавання краін з розным сацыяльным ладам (IX сесія, 1956 г.). З кастрычніка 1956 г. міністр замежных спраў БССР К. Кісялёў накіраваў паведамленне Генеральнаму дырэктару ЮНЕСКА Л. Эвансу аб стварэнні Камісіі БССР па справах ЮНЕСКА. Камісія была створана ў адпаведнасці з арт. 7 Статута ЮНЕСКА, яе ўзначаліў міністр культуры БССР Г. Я. Кісялёў, у яе склад увайшлі дзеячы беларускай культуры і навукі.

У 1960-1970-я гг. БССР з'явілася сааўтарам шэрага рэзалюцый, прынятых Генеральнай канферэнцыяй ЮНЕСКА, у тым ліку: «Задачы ЮНЕСКА у справе садзейнічання міру, мірнаму супрацоўніцтву і мірнаму суіснаванню дзяржаў з рознымі сацыяльна-эканамічнымі сістэмамі», «Уклад ЮНЕСКА у справу міру і яе задачы ў справе ліквідавання каланіялізму», «Аб выкарыстанні сродкаў масавай інфармацыі для распаўсюджвання ідэалаў міру і ўзаемаразумення паміж народамі». У адрас ЮНЕСКА накіроўвалася разнастайная інфармацыя і статыстычныя звесткі аб культурным і навуковым жыцці рэспублікі.

Беларускія спецыялісты працавалі экспертамі ЮНЕСКА у многіх краінах свету. На працягу 1954-1974 гг. БССР удзельнічала ў 97 міжнародных канферэнцыях і сімпозіумах, якія былі скліканы гэтай арганізацыяй.

У пастанове ЦК КПБ «Аб удзеле міністэрстваў і ведамстваў рэспублікі ў дзейнасці міжнародных арганізацый сістэмы ААН» ад 29 сакавіка 1976 г. адзначалася, што прадстаўнікі БССР у межах ААН, яе органаў і спецыялізаваных устаноў, у тым ліку ЮНЕСКА, «актыўна адстойваюць у іх інтарэсы Савецкага Саюза, выступаюць у якасці ініцыятараў і сааўтараў праектаў рэзалюцый па палітычных, эканамічных, сацыяльных, прававых, культурных і навукова-тэхнічных пытаннях». Звярталася ўвага, што накіраванне беларускіх стыпендыятаў па лініі ЮНЕСКА дазволіла атрымаць карысную інфармацыю для развіцця прамысловай і сельскагаспадарчай вытворчасці, аховы навакольнага асяроддзя і інш.

Разам з тым у пастанове гаварылася аб істотных недахопах і нявыкарыстаных магчымасцях, якія тычыліся ўдзелу міністэрстваў і ведамстваў рэспублікі ў дзейнасці міжнародных арганізацый сістэмы ААН. У прыватнасці, канстатавалася, што прадстаўнікі міністэрстваў, ведамстваў і арганізацый, якія ўваходзілі ў склад Камісіі БССР па справах ЮНЕСКА, слаба цікавяцца праблемамі, якія вырашаюцца гэтай арганізацыяй. «Імі мала ўносілася прапаноў, накіраваных на ўмацаванне ў ёй пазіцый СССР, пашырэнне магчымасцей ЮНЕСКА у мэтах прапаганды за мяжой дасягненняў савецкага народа ў галіне асветы, навукі і культуры». У дакуменце былі пастаўлены задачы па ўстараненні адзначаных недахопаў і паляпшэнні работы міністэрстваў, ведамстваў і арганізацый, якая тычылася іх удзелу ў міжнародных арганізацыях сістэмы ААН.

**Асноўныя кірункі дзейнасці Рэспублікі Беларусь у ЮНЕСКА**. Сучасная дзейнасць ЮНЕСКА ажыццяўляецца шляхам міжнароднага інтэлектуальнага супрацоўніцтва, узаемадапамогі, садзейнічання справе міру. Яна канцэнтруецца ў шасці прыярытэтных галінах: Выхаванне; Навука; Культура; Камунікацыя; Сацыяльныя навукі і развіццё; Мір і правы чалавека. Праграмы ЮНЕСКА накіраваны на падтрыманне культуры міру, устойлівага развіцця і развіцця чалавека. Яны засяроджаны на дасягненні адукацыі для ўсіх; садзейнічанні экалагічным даследаванням шляхам стварэння міжнародных навуковых праграм; падтрымцы нацыянальнай культурнай самабытнасці; ахове і пашырэнні сусветнай прыроднай спадчыны; садзейнічанні свабоднаму патоку інфармацыі і свабодзе друку; павелічэнні камунікацыйных магчымасцей краін у стадыі развіцця. У сваёй

працы ЮНЕСКА абапіраецца на камітэты, міжнародныя камісіі і інш. органы, сярод якіх: Міжнародная камісія па гісторыі навуковага і культурнага развіцця чалавецтва; Міжнародная акіянаграфічная камісія; Камісія па культуры і развіцці; Міжнародная камісія па пытаннях адукацыі ў XXI ст.; Міжнародны інстытут планавання адукацыі ў Парыжы; Інстытут ЮНЕСКА па пытаннях адукацыі ў Гамбургу.

З 1970-х гг. сталі ажыццяўляцца сярэднетэрміновыя, 6-гадовыя планы ЮНЕСКА. Важнае месца ў дзейнасці ЮНЕСКА займаюць мерапрыемствы, накіраваныя на захаванне міру і развіццё ўзаемаразумення паміж народамі, стварэнне грамадскай думкі на карысць раззбраення, супраць каланіялізму, расізму і апартэіду і інш. ЮНЕСКА прыняла Канвенцыю аб барацьбе з дыскрымінацыяй у галіне адукацыі (1960), Дэкларацыю прынцыпаў міжнароднага культурнага супрацоўніцтва (1966), Рэкамендацыю аб выхаванні ў духу міжнароднага ўзаемаразумення, супрацоўніцтва і міру і выхаванні ў духу павагі правоў чалавека і асноўных свабод (1974), Дэкларацыю аб асноўных прынцыпах, якія датычацца ўкладу сродкаў масавай інфармацыі ва ўмацаванне міру і міжнароднага ўзаемаразумення, развіццё правоў чалавека, барацьбу супраць расізму, апартэіду і падбухторвання да вайны (1978).

Некаторыя заходнія дзяржавы абвінавацілі ЮНЕСКА у палітызацыі дзейнасці і няправільным кіраванні і выйшлі з яе складу — ЗША у 1984 г., Вялікабрытанія і Сінгапур у 1985 г., што прывяло да сур'ёзных бюджэтных цяжкасцей у дзейнасці арганізацыі. Вялікабрытанія вярнулася ў ЮНЕСКА у 1997 г., ЗША — у 2003 г. У 1970 і 1982 гг. адбыліся Першая і Другая сусветныя канферэнцыі ЮНЕСКА па культурнай палітыцы. У Дэкларацыі аб палітыцы ў галіне культуры, прынятай на канферэнцыі ў Мехіка (1982 г.), сфармуляваны базісныя прынцыпы культурнай палітыкі, у тым ліку неабходнасць захавання культурнай самабытнасці народаў, дэмакратызацыя культуры, пашырэнне міжнароднага культурнага супрацоўніцтва. У 1997 г. ЮНЕСКА прыняла Усеагульную Дэкларацыю аб чалавечым геноме і правах чалавека — першы міжнародны дакумент аб этыцы генетычных даследаванняў, у 2001 г. — Усеагульную Дэкларацыю аб культурнай разнастайнасці. ЮНЕСКА ажыццяўляе праграмы ліквідацыі непісьменнасці, тэхнічнай дапамогі, «Навука, тэхналогія і грамадства», «Чалавек і біясфера» і іншыя мерапрыемствы.

У 1990-я гг. — пачатку XXI ст. галоўная ўвага ЮНЕСКА у межах праграмы «Адукацыя» была накіравана на забеспячэнне непарыўнай адукацыі, ці адукацыі праз усё жыццё. Перад ВНУ краін-удзельніц пастаўлена задача ператварэння іх у цэнтры непарыўнай адукацыі,

даступныя для ўсіх на пастаяннай аснове. Супрацоўніцтва ЮНЕСКА і Беларусі ў галіне адукацыі было накіравана на садзейнічанне рэфармаванню ў краіне сістэм сярэдняй і вышэйшай адукацыі. Гэта ажыццяўлялася шляхам выкарыстання новых адукацыйных тэхналогій, распрацоўкі сучасных падручнікаў і дапаможнікаў, перадачы ў сумеснае карыстанне ведаў, стварэння кафедраў ЮНЕСКА, удзелу ў міжнароднай норматворчай дзейнасці. Арганізацыя прафінансавала стварэнне ў Беларусі некалькіх кафедраў ЮНЕСКА: кафедры па правах чалавека і дэмакратыі ў БДУ, кафедры па культуры міру і дэмакратыі ў Рэспубліканскім інстытуце вышэйшай школы пры БДУ, кафедры радыеэкалогіі ў Міжнародным радыеэкалагічным каледжы імя А. Сахарава, кафедры ЮНЕСКА па рэсурсазахаванні і аднаўляемых крыніцах энергіі ў Беларускім нацыянальным тэхнічным універсітэце, а таксама выдзеліла сродкі на стварэнне міжуніверсітэцкай камп'ютэрнай сеткі і цэнтра для распрацоўкі новай метадалогіі прафесійна-тэхнічнай адукацыі.

У галіне навукі Рэспубліка Беларусь актыўна працуе па праграме «Чалавек і біясфера», якая накіравана на захаванне біяразнастайнасці. Краіна ўдзельнічае ў Сусветнай сетцы біясферных запаведнікаў, куды ўключаны Бярэзінскі запаведнік і Нацыянальны парк «Белавежская пушча». Беларусь удзельнічала ў распрацоўцы і рэалізацыі Сусветнай праграмы па рэсурсазберажэнні і аднаўляемых крыніцах энергіі. У 1999 г. падпісана пагадненне паміж НАН Беларусі і ЮНЕСКА, якое прадугледжвае ўзаемную падтрымку даследчых, вучэбных, інфармацыйных, навуковых абменаў і праграм, развіццё сумесных праектаў, арганізацыю семінараў, выставаў і іншых навуковых мерапрыемстваў, супрацоўніцтва ў галіне фізікі, матэматыкі, інфарматыкі, сувязі, машынабудавання, аднаўляемай энергіі і новых тэхналогій, хіміі, геалогіі, біялогіі і біятэхналогіі, сацыяльных навук і культурнай спадчыны.

У галіне культуры Беларусь удзельнічае з 1989 г. у выкананні Канвенцыі ЮНЕСКА аб ахове культурнай і прыроднай спадчыны, якая прынята ў 1972 г., і працы Фонда сусветнай культурнай і прыроднай спадчыны. У «Спіс сусветнай спадчыны», куды ўвайшлі 550 выдатных помнікаў культуры ў 112 краінах, ад Беларусі ўключаны Белавежская пушча і Мірскі замак. Беларусь удзельнічала ў праекце «Памяць міру», мэтай якога з'яўляецца захаванне, папулярызацыя і перанос на электронныя носьбіты дакументальнай культурнай спадчыны, з наступным уключэннем матэрыялаў у сусветны рэгістр. У галіне камунікацыі і інфарматыкі з дапамогай ЮНЕСКА рэалізаваны праекты па стварэнні электроннага каталога і каталога

CD-ROM для Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, адзінай камп'ютэрнай сеткі ў межах НАН Беларусі. У 1993-1997 гг. Рэспубліка Беларусь з'яўлялася членам міжурадавага савета міжнароднай праграмы ЮНЕСКА па інфарматыцы, што дазволіла прыцягнуць увагу арганізацыі да праблем, звязаных з укараненнем інфармацыйных тэхналогій у адукацыі, падключэннем да міжнародных сетак. Па праграме «ЮНЕСКА—Чарнобыль», якая выконвалася ў 1987-1997 гг., атрымана фінансавая і тэхнічная дапамога на суму звыш 2 млн дол. ЗША, у тым ліку ўведзены ў дзейнасць тры цэнтры сацыяльна-псіхалагічнай рэабілітацыі для асоб, якія пацярпелі ад аварыі, і перасяленцаў. ЮНЕСКА была першай міжнароднай арганізацыяй, якая пачала аказваць Беларусі дапамогу па пераадоленні наступстваў аварыі на Чарнобыльскай АЭС. У 1991 г. заснавана Беларуская асацыяцыя клубаў ЮНЕСКА.

Беларусь далучылася да наступных канвенцый ЮНЕСКА: Канвенцыі аб абароне культурных каштоўнасцей у выпадку ўзброенага канфлікту і Выканаўчага рэгламенту да яе (прыняты ў 1954 г., ратыфікаваны БССР у 1957 г.), Канвенцыі аб міжнародным абмене выданнямі і Канвенцыі аб абмене паміж дзяржавамі афіцыйнымі выданнямі і ўрадавымі дакументамі (прыняты ў 1958 г., ратыфікаваны ў 1962 г.), Канвенцыі аб барацьбе з дыскрымінацыяй у галіне адукацыі (прынята ў 1960 г., ратыфікавана ў 1962 г.), Канвенцыі аб прызнанні вучэбных курсаў, дыпломаў аб вышэйшай адукацыі і вучэбных ступеней у дзяржавах рэгіёна Еўропы (прынята ў 1979 г., ратыфікавана ў 1982 г.), Канвенцыі аб мерах, накіраваных на забарону і папярэджанне незаконнага вывазу, увозу і перадачы права маёмасці на культурныя каштоўнасці (прынята ў 1970 г., ратыфікавана ў 1988 г.), Канвенцыі аб ахове сусветнай культурнай і прыроднай спадчыны (прынята ў 1972 г., ратыфікавана ў 1988 г.), Сусветнай канвенцыі аб аўтарскім праве (прынята ў 1952 г., ратыфікавана ў 1994 г.), Канвенцыі ЮНЕСКА/Савета Еўропы аб прызнанні кваліфікацый, якія адносяцца да вышэйшай адукацыі ў Еўрапейскім рэгіёне (прынята ў 1997 г., падпісана Рэспублікай Беларусь у 2002 г.), Другога пратакола да Гаагскай канвенцыі аб абароне культурных каштоўнасцей у выпадку ўзброенага канфлікту (прыняты ў 1999 г., падпісаны ў 1999 г.), Канвенцыі аб водна-балотных угоддзях, якія маюць міжнароднае значэнне галоўным чынам у якасці месцазнаходжання вадаплаўных птушак (Рамсарская канвенцыя) (прынята ў 1971 г., правапераемнасць у 1999 г.).

Рэспубліка Беларусь выбіралася ў Выканаўчы савет ЮНЕСКА на 1989-1993 гг. і 1999-2003 гг. У снежні 1991 г. адбыўся першы

афіцыйны візіт Генеральнага дырэктара ЮНЕСКА Федэрыка Маёра ў Беларусь, у ходзе якога падпісаны Пратакол-мемарандум аб супрацоўніцтве паміж урадам Рэспублікі Беларусь і ЮНЕСКА. У верасні 1998 г. адбыўся другі візіт Генеральнага дырэктара ЮНЕСКА Ф. Маёра ў Беларусь, у ходзе якога падпісаны Мемарандум аб супрацоўніцтве паміж Рэспублікай Беларусь і ЮНЕСКА. У ліпені 2002 г. адбыўся візіт у Беларусь Генеральнага дырэктара ЮНЕСКА К. Мацууры. Ён сустрэўся з Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь А. Лукашэнкам, абмеркаваў пытанні супрацоўніцтва з ЮНЕСКА з удзелам міністраў замежных спраў, культуры, адукацыі, інфармацыі, прыродных рэсурсаў і навакольнага асяроддзя, спорту і турызму, прыняў удзел у адкрыцці Цэнтра інфармацыі і дакументацыі ЮНЕСКА і іншых міжнародных арганізацый пры Нацыянальнай бібліятэцы Рэспублікі Беларусь. Па выніках візіту быў падпісаны Мемарандум аб супрацоўніцтве паміж беларускім урадам і ЮНЕСКА. ЮНЕСКА з'яўляецца важным і аўтарытэтным міжнародным форумам для прапаганды дасягненняў беларускай навукі, культуры, адукацыі, а таксама для выкарыстання міжнароднага інтэлектуальнага, навукова-тэхналагічнага і культурнага вопыту ў справе духоўнага і культурнага ўзбагачэння беларускага грамадства.

## ЗМЕСТ

Вучэбнае выданне

Снапкоўскі Уладзімір Еўдакімавіч

ЗНЕШНЯЯ ПАЛІТЫКА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
КУРС ЛЕКЦЫЙ

Тэхнічны рэдактар Г. М. Раманчук Карэктары Н. І. Мірончык, Н. П. Ракіцкая Камп'ютэрная вёрстка С. М. Ягоравай
Адказны за выпуск Т. М. Турчыняк
Падпісана да друку 10.11.2005. Фармат 60x84/16. Папера афсетная. Гарнітура SchoolBook. Друк афсетны. Ум. друк. арк. 10,7. Ул.-выд. арк. 10,61. Тыраж 200 экз. Зак. 832
Беларускі дзяржаўны універсітэт. Ліцэнзія па ажыццяўленне выдавецкай дзейнасці № 02330/0056804 ад 02.03.2004. 220050, Мінск, праспект Незалежнасці, 4.
Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка. Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Выдавецкі цэнтр Беларускага дзяржаўнага універсітэта».
Ліцэнзія на ажыццяўленне паліграфічнай дзейнасці № 02330/0056850 ад 30.04.2004. 220030, Мінск, вул. Чырвонаармейская, 6.